# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае
свайго мінулага,
не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 1-2 (105 - 106) СТУДЗЕНЬ - ЧЭРВЕНЬ 2024 г.

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае
свайго мінулага,
не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

**№ 1-2 (105-106)** **СТУДЗЕНЬ - ЧЭРВЕНЬ** **2024 г.**

## У НУМАРЫ:



**На першай старонцы вокладкі:** *Лідскі замак, від з паўночна-ўсходняга боку. Паводле невядомага аўтара XIX ст.*

? *

**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або E-mail: kajety@list.ru**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**

**Выдаецца ў адпаведнасці з п. 7.4 артыкула 13 ЗАКОНА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ “Аб сродках масавай інфармацыі” ад 17 ліпеня 2008 г. № 427-3**

Выдавец:
**Прыватнае ўнітарнае прадпрыемства “Пружмень”**

Рэдактар:
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**231293, г. Ліда, вул. Лётная, 7 а.**
**АДРАС САЙТА:**
**http// nslowa.by**

**Наклад 150 асобнікаў**
**15,5 друк. аркушаў**

**Часопіс падпісаны да друку 30.06.2024 г.**

**Часопіс надрукаваны 24.08.2024 г. у ПВП “ЛітАРы”: 230025, г. Гроднаа, вул. К. Маркса, 11, пам. 1/2.**

**Замова № 28/14.**

ISSN 2218 – 1792






# Дзень роднай мовы і 17-я Агульнацыянальная дыктоўка на Лідчыне Рэкордная па колькасці ўдзельнікаў

Міжнародны дзень роднай мовы, міжнародны дзень матчынай мовы - адмысловы дзень, абвешчаны 25 гадоў таму назад на 30-й сесіі ЮНЕСКА па прапанове Бангладэш (1999). Мае на мэце заахвочванне моўнай разнастайнасці і шматмоўнай адукацыі, а таксама спрыянне ўсведамленню моўных і культурных традыцый, якія грунтуюцца на ўзаемаразуменні, цярпімасці і дыялогу. Дзень святкавання - 21 лютага быў абраны таму, што ў гэты дзень у 1952 годзе загінулі пяць студэнтаў, якія змагаліся за наданне бенгальскай мове статусу дзяржаўнай у тагачасным Пакістане, усходняя частка якога пазней стала незалежнай дзяржавай Бангладэш.



***Шахід-Мінар, ці Манумент пакутнікам у Бангладэш, усталяваны як помнік ахвярам 21 лютага 1952 года падчас маніфестацыі руху за статус бенгальскай мовы***

Свята было заснавана рашэннем 30 й сесіі Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА ў лістападзе 1999 года і адзначаецца з 2000 года. ЮНЕСКА мае намер стварыць сістэму адсочвання стану моў, якія знаходзяцца пад пагрозай знікнення, і садзейнічаць выпраўленню становішча. Паводле ацэнак ЮНЕСКА палова з 6 тысяч моў свету знаходзіцца пад пагрозай знікнення. Генеральная Асамблея ААН падтрымала рашэнне пра абвяшчэнне Міжнароднага дня роднай мовы і заклікала дзяржаў-членаў ААН і Сакратарыят ААН садзейнічаць абароне і захаванню ўсіх моў народаў свету.

Да Міжнароднага дня роднай мовы ў Беларусі праводзіцца шмат розны імпрэзаў і мерапрыемстваў пад рознымі назвамі. У Менску ў дзяржаўных установах пісалі Рэспубліканскую дыктоўку. Рэспубліканскую дыктоўку дыктавалі на канале “Культура” Беларускага радыё 21 лютага ў 13.00.




На Гарадзеншчыне мерапрыемствы да Міжнароднага дня роднай мовы, як звычайна, падтрыманы Гарадзенскім аблвыканкамам. Яны пачалі разгортвацца яшчэ з 16 лютага і працягваліся да 2 сакавіка.

У першых шэрагах Лідскі раён.

Шанаванне роднай мовы распачалі ў філіяле "Лідская гарадская бібліятэка № 2" 16 лютага з мэтай знаёмства з роднай мовай на аснове твораў беларускіх класікаў і сучасных пісьменнікаў. Для ўдзельнікаў клуба "Буслік" прайшоў літаратурны конкурс вершаў "Да роднай мовы крок зрабі". Навучэнцы адказна падрыхтаваліся да мерапрыемства, паказалі сваё майстэрства, арыгінальнасць і эмацыянальнасць у час дэкламавання твораў на роднай мове. А лепшыя з іх былі ўзнагароджаны дыпломамі.



У гэты ж дзень у філіял "Лідская гарадская бібліятэка № 2" завіталі выхаванцы старэйшай групы ДУА "Дзіцячы сад № 22 г. Ліды" на пазнавальную гадзіну "З мовай змалку сябрам будзь!". Падчас пазнавальнай гадзіны, яны спраўна перакладалі словы на родную мову, адказвалі на пытанні, а падтрымліваць цікавасць да беларускай мовы дапамагалі беларускія казкі, загадкі, гульні.



17 лютага першымі пісалі дыктоўку чытачы Мінойтаўскай бібліятэкі. Пісалі ўрывак з "Глыбокай плыні" Івана Шамякіна 10 чалавек. Чытала дыктоўку Марыя Арцёмаўна Бойка.



Па выніках дыктоўкі ўдзельнікі атрымалі падарункі ад ПП "Пружмень".

Аздобілі дыктоўку акцёры Народнага тэатра "Бераг" Мінойтаўскага КДЦ. Сутнасць прадстаўлення: як вясковая маці навяртае да беларускай мовы гарадскую дачку.



Напрыканцы адбылася лінгвістычная віктарына пра тонкасці беларускай мовы, якую прафесійна правяла загадчык бібліятэкі Марыя Міхайлаўна Халявінская.



У Доме Валянціна Таўлая Лідскага гістарычна-мастацкага музея ўжо не першы год збіраюцца прыхільнікі і майстры паэтычнага слова, а таксама тыя, хто падтрымлівае і шануе роднае слова. Тут, у доме паэта закладзена традыцыя прымаць удзел у напісанні беларускай дыктоўкі ў рамках Міжнароднага дня роднай мовы. Менавіта, той мовы, якую адстойваў Валянцін Таўлай яшчэ ў юнацкія гады, якой прысвяціў усё сваё кароткае жыццё і пранёс у сабе запавет - быць беларусам на сваёй роднай зямлі.



На гэты раз напярэдадні Міжнароднага дня роднай мовы, 18 лютага ў доме паэта сабраліся супрацоўнікі з Лідскага замка і ўдзельнікі музейна-асветніцкага праекта Лідскага гістарычна-мастацкага музея "Гістарычная гасцёўня "Памяць за сабою пакліч"".

Для іх быў зачытаны тэкст "Выратавалі мост" аўтара З. Стасюлевіча. Гэты твор пра замініраванне гітлераўцамі горада Ліда, але ж гэтым задумам не наканалося ажыццявіцца. Дзякуючы паспяховым дзеянням савецкіх салдатаў былі размініраваны вуліцы і ўратаваны чыгуначны мост цераз раку Нёман.

Тэкст чытаў навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея Алесь Хітрун. Трэба зазначыць, што ўдзельнікі ў напісанні дыктоўкі сябе

праявілі актыўна, справіліся выдатна. І ў гэтым не павінна быць сумневу. Супрацоўнікі Лідскага гістарычна-мастацкага музея і прадстаўнікі з праекта пастаянна сябе праяўляюць з найлепшага, станоўчага боку.

У выніку першае месца было падзелена паміж Букоўскай Таццянай, Каладзяжнай Анастасіяй, Няфёдавай Надзеяй, Драздовай Святланай. Другое занялі Ліпніцкая Таццяна, Малахава Зінаіда, Казыра Тарэса. Трэцяе месца было падзелена паміж Гакоўскай Жаннай і Грачушным Яўгенам.

18 лютага прайшла 17-я Агульнанацыянальная дыктоўка ў 3-м бібліятэчным філіяле г. Ліды. Па вельмі аб'ектыўных прычынах дыктоўку тут пісалі ўсяго тры чалавекі. Урывак з "Векапомных дзён" МІхася Лынькова чытала загадчык філіяла Алена Янаўна Папковіч.



У наступныя дні да напісання 17-й Агульнанацыянальнай дыктоўкі далучыліся ўсе бібліятэчныя інстытуцыі раёна.

Напярэдадні Дня роднай мовы ў філіяле "Бярозаўская гарадская бібліятэка" былі праведзены гучныя чытанні "Гучы, роднае слова", удзел ў якіх прымалі наведвальнікі аддзяленне дзённага прыбывання інвалідаў г. Бярозаўкі. Напачатку бібліятэкар пазнаёміла прысутных з гісторыяй беларускай мовы і з шляхамі яе станаўлення. Пасля прысутныя чыталі беларускія вершы,



успомнілі і растлумачылі беларускія прыказкі і прымаўкі, адгадвалі беларускія загадкі-жарты. Скончылася мерапрыемства словамі З. Бядулі: "Шануй сваю мову, шануй свае песні, свае казкі, звычаі і ўсё роднае - гэта



спадчына дзядоў і вялікі нацыянальны скарб".

21 лютага ў Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы дыктоўку пісалі ў рамках акцыі “Мова родная мая, ганаруся табой я”.



Да пачатку мерапрыемства былі разгорнуты выставы новых кніжных паступленняў на беларускай мове і кніг мясцовых аўтараў.

Пра новыя паступленні распавяла бібліёграф бібліятэкі Галіна Курбыка.

Саму дыктоўку, тэкст “Выратавалі мост” чытала намеснік дырэктра бібліятэкі Алена Быстрыцкая.



У напісанні дыктоўкі прынялі ўдзел бібліятэкары, чытачы, тутэйшыя краязнаўцы. Традыцыя дыктовак у гэтай бібліятэцы бярэ пачатак з 2-й і ні разу не перарывалася.

У Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы 21 лютага ладзілася таксама паэтычная хвілінка "Гучанне слоў жывых". На мерапрыемстве прысутнічалі паэты, пісьменнікі і аматары пісьменства Лідчыны. Гэтая сустрэча стала нагодай яшчэ раз задумацца пра лёс той, адзінай, якую завём матчынай, яшчэ раз узгадаць гістарычны шлях нашай мовы, паслухаць вершы.

У той жа дзень у Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы напісалі дыктоўку сябры літаб'яднання "Суквецце" пры "Лідскай газеце". Тэкст з кнігі Уладзіміра Карпава "Далёкія зарніцы" чытаў паэт і празаік, навуковы супрацоўнік аб'екта "Дом Таўлая" Алесь Хітрун.



"Люблю цябе, зямлі бацькоўскай слова" - пад такой назвай 21 лютага ў філіяле "Лідская гарадская бібліятэка № 1" прайшоў урок беларусазнаўства. Хлопчыкі і дзяўчынкі ДУА "Дзіцячы сад № 7 г. Ліды" слухалі вершы на беларускай мове, адгадвалі загадкі, расказвалі прыказкі і прымаўкі, удзельнічалі ў віктарынах, здзейснілі падарожжа ў гісторыю Міжнароднага дня роднай мовы. Асаблівую ўвагу наведвальнікаў бібліятэкары звярнулі на кніжную выставу "З легендаў і казак… ты выткана, родная мова!", якая раскрыла юным чытачам асаблівасці беларускай мовы і яе паходжанне. Менавіта ў мове захавана гісторыя нашага народа, моц і прыгажосць народнага слова.




Таксама на мерапрыемства быў запрошаны госць працаўнік Лідскага чыгуначнага дэпо паэт Лідчыны Кастусь Якубчык, ён чытаў дзеткам вершы і загадваў загадкі, якія сам напісаў, дзеткі былі задаволеныя. На прыканцы госць паведаміў дзеткам, як трэба паводзіць сябе ля чыгуначнага шляху, потым раздаў каляровыя буклецікі з правіламі паводзінаў.



У філіяле "Лідская гарадская бібліятэка № 3" прайшла гадзіна роднай мовы "Слова да слова - будзе мова". На мерапрыемстве ішла размова пра гісторыю ўзнікнення Міжнароднага дня роднай мовы і аб неабходнасці захавання беларускай мовы. Для дзяцей была праведзена гульня, дзе яны паказалі добрыя веды: пісалі дыктоўку, разгадвалі загадкі і рэбусы, падбіралі розным прадметам беларускія назвы. Мерапрыемства дало магчымасць кожнаму ўдзельніку папоўніць слоўнікавы запас новымі словамі і выразамі.



Тым жа днём у філіяле "Лідская гарадская бібліятэка № 4" адбыўся турнір знаўцаў роднай мовы "Знаёмая мова, чароўны радок!" сумесна з аддзяленнем сацыяльнай рэабілітацыі, абілітацыі інвалідаў ДУ "ЛРТЦСАН" у рамках сацыяльнага праекта "Свет адзін на ўсіх". З цікавасцю прысутныя слухалі гісторыю заснавання Міжнароднага дня роднай мовы, удзельнічалі ў перакладзе слоў, адказвалі на пытанні віктарыны "Знатакі роднай мовы", дэкламавалі прыгожыя беларускія вершы, зачытваючы ўрыўкі з твораў беларускай

літаратурнай спадчыны. Да мерапрыемства была падрыхтавана кніжная выстава "Рускай мове дай разгрузку: размаўляй па-беларуску".

Літаратурная гасцёўня "Любім і ведаем родную мову" прайшла ў філіяле "Лідская гарадская бібліятэка № 6". На свята роднай мовы завіталі людзі розных прафесій і ўзросту, шмат было людзей, якія скончылі школу сорак і больш гадоў таму. Для прысутных у гэтым годзе была прапанавана дыктоўка - урывак з рамана "Векапомныя дні". Пасля напісання дыктоўкі ўдзельнікі выразілі жаданне пачытаць вершы на роднай мове. Для прысутных быў арганізаваны стол з гарбатай з беларускіх траў і з салодкімі пачастункамі.

Супрацоўнікі філіяла "Лідская гарадская дзіцячая бібліятэка" падрыхтавалі літаратурна-пазнавальную скарбонку "Сябруй з роднай мовай!", удзельнікамі якой сталі дзеці з прышкольных лагераў ДУА "Сярэдняя школа №5 г. Ліды" і ДУА "Сярэдняя школа №15 г. Ліды". Дзяцей чакала чарадзейная скарбонка з заданнямі "Дапоўні беларускім словам", "Загадкі", "Перакладчыкі". Дзеці пазнаёміліся з беларускімі казкамі, даведаліся пра тое, якімі яны бываюць, паслухалі аўдыё-казку "Як курачка пеўніка ратавала". Свае пачуцці да роднай мовы, дзеці паказалі ў гульні "Якая мая мова".

Бібліятэкар філіяла "Інтэграваная бібліятэка агр. Дворышча" была запрошана для правядзення дыктоўкі для вучняў 9 класа ДУА "Дварышчанская сярэдняя школа" ў Міжнародны дзень роднай мовы. Тэкстам для напісання быў абраны ўрывак з твора В. Быкава "Знак бяды" і быў прымеркаваны да 80-годдзя з дня вызвалення Рэспублікі Беларусь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

З мэтай абуджэння цікавасці да беларускай мовы і літаратуры, выхавання пачуцця гонару за родную мову і паважлівых адносін да яе ў філіяле "Інтэграваная бібліятэка агр. Крупава" прайшла гадзіна роднай мовы "У родным слове - цэлы свет". Разам з бібліятэкарам школьнікі ўзгадалі паходжанне роднай мовы і паразважалі аб яе выкарыстанні ў сучаснасці, пазнаёміліся з лепшымі творамі класікаў і сучасных аўтараў беларускай літаратуры, успомнілі беларускія прыказкі і прымаўкі, загадкі і жарты. А таксама пачыталі вершы на роднай мове.

Гэты дзень у нашай краіне - свята, якое нагадвае кожнаму з нас, што без роднай мовы немагчыма адчуваць сябе паўнавартасным грамадзянінам, часткай свайго народа. У гэты дзень у філіяле "Інтэграваная бібліятэка агр. Гуды" прайшла гадзіна роднай мовы "Мы чытаем па-беларуску". На мерапрыемстве прысутныя

зачытвалі ўрыўкі з твораў беларускіх аўтараў на роднай мове, пісалі дыктоўку, тэкстам для якой быў абраны ўрывак з твора Івана Шамякіна "Глыбокая плынь". Напрыканцы сустрэчы прысутныя прыйшлі да высновы, што мова - наш найдаражэйшы скарб, які мы павінны не толькі зберагчы для нашых нашчадкаў, але і памножыць.



З 19-га лютага стартавалі мерапрыемствы да Міжнароднага дня роднай мовы ў сістэме адукацыі Лідскага раёна.

У гэты дзень пачалі пісаць дыктоўкі ў Лідскім каледжы. Сёлета Купалаўскую дыктоўку ў Лідскім каледжы пісалі 310 навучэнцаў 1-га і 3-га курсаў.

Пісалі дыктоўку і выкладчыкі:
Ліпская С.А.
Кульбіцкая К.С.
Кушава Л.М.
Калпінская Н.С.

21 лютага тут прайшло свята мовы.





У межах святкавання Міжнароднага дня роднай мовы для вучняў, педагагічных работнікаў і іншых супрацоўнікаў 21 лютага 2024 года ў Лідскім дзяржаўным політэхнічным каледжы прайшла Гарадзенская абласная дыктоўка, пісалі тэкст з "Векапомных дзён" Міхася Лынькова.





Другая палова дня была аддадзена пад мастацкую частку. Са сцэны актавай залы гучлі беларускія песні, быў прадстаўлены дыспут паміж Францішкам Скарыном і Міколам Гусоўскім, былі паказаны фрагменты з твораў беларускіх пісьменнікаў К. Крапівы, Я. Купалы.

Адбылася “Сустрэча з пісьменнікам”, на якую быў запрошаны паэт Станіслаў Суднік.



Дзень роднай мовы ў політэхнічным каледжы - ужо добрая, сталая традыцыя.

У рамках Тыдня беларускай мовы і літаратуры навучэнцы Лідскага музычнага каледжа ўдзельнічалі ў мерапрыемствах, прысвечаных Міжнароднаму дню роднай мовы




Чыталі творы Аркадзя Куляшова, разгадвалі QR-квэсты "Скарбонка роднай мовы" (у гэтым годзе адзначаецца 110 гадоў з дня нараджэння пісьменніка), знаёміліся з цікавымі фактамі з біяграфіі Васіля Быкава (у гэтым годзе адзначаецца 100 гадоў з дня нараджэння пісьменніка). Навучэнцы гуртка "Спадчына" наведалі Домік Таўлая і пазнаёміліся з навуковым супрацоўнікам Алесем Хітруном, які даследуе творчасць заходнебеларускага паэта Валянціна Таўлая.

Навучэнцы напісалі дыктоўку, прысвечаную Міжнароднаму дню роднай мовы. Пісалі тэкст “Выратавалі мост”.



Літаратурная гасцёўня "Які ж гэта цуд - мова твая" прайшла ў інтэрнаце Лідскага тэхналагічнага каледжа. Падчас мерапрыемства навучэнцы яшчэ раз



упэўніліся, што вершы, песні, крылатыя выразы і проста словы на беларускай мове гучаць меладычна і ласкава.

Мерапрыемства было падрыхтавана да Дня роднай мовы.

Ва ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі на Лідчыне традыцыйна асноўная ўвага была ўдзелена напісанню беларускіх дыктовак. Ва ўсіх відах дыктовак (17-я Агульнанацыянвальная, Гарадзенская абласная і Рэспубліканская) у Лідскім раёне прынялі ўдзел 11779 чалавек.






***Дыктоўка ў лідскай СШ № 17***

У рамках Міжнароднага дня роднай мовы ў лідскіх школах выступілі сябры лідскага літаб’яднання “Суквецце”.

Лідскія пісьменнікі - частыя госці ў вучняў 11 школы г. Ліды. Прадметныя тыдні, юбілеі, урачыстыя падзеі…

Нагодай для чарговай сустрэчы на гэты раз стаў Дзень роднай мовы. А хто як не сапраўдны пісьменнік данясе да падлеткаў прыгажосць роднага слова? І назва літаратурнай гасцёўні "Таткава мова, матулін напеў…" сапраўды адпавядала нагодзе сустрэчы.

Словы выбраны не выпадкова, гэта радкі з верша лідскай паэтэсы Ганны Рэлікоўскай, якая і завітала ў госці да вучняў. Юныя аматары паэзіі пачулі неверагодна прыгожыя вершы на роднай мове ў выкананні аўтара і змаглі ацаніць шматграннасць творчасці Ганны Леанардаўны. З заміраннем сэрца, здавалася, некато-





рыя падлеткі слухалі паэтычныя шэдэўры, якія былі прысвечаныя роднай мове, малой радзіме, любай матулі, роднай дачцэ, каханню. Прыйшліся да спадобы юнакам ды дзяўчатам і жартоўныя вершы, амаль гумарэскі, на сучасныя сюжэты, якія непасрэдна маюць адносіны да моладзі.

21 лютага, у Міжнародны дзень роднай мовы, вучні ДУА "Геранёнская сярэдняя школа" наведалі Лідскі гістарычна-мастацкі музей. Інтэрактыўная гадзіна "Агністае крыжаванне" была не толькі вясёлай забавай для навучэнцаў 1 і 2 класа, а і экскурсам у гісторыю новых слоў, традыцый нашых продкаў.





Запрашаем усіх у свой вольны час далучацца да вытокаў роднай мовы, спадчыны нашых землякоў у атмасферна-этнаграфічнай гасцёўні "Час. Традыцыі. Вобразы".

*Дык чаруй жа людзей паміж моваў другіх*
*І гучы вечна, ярка і нова,*
*Мова продкаў маіх і нашчадкаў маіх -*
*Беларуская родная мова!*

***Алесь Ставер.***

Міжнародны дзень роднай мовы - адзін з важных для Дома Валянціна Таўлая Лідскага гістарычна-мастацкага музея. Тут пастаянна гучыць роднае слова, тут калегі вядуць размову паміж сабою на роднай беларускай мове, тут экскурсіі праводзяцца таксама на матчынай мове. Адказ на пытанне: "Чаму такая тут завядзёнка?" -





зусім просты. У будынку, што па сучасным адрасе: Замкавая,7 жыў беларускі паэт Валянцін Таўлай. Нагадаем, што ў мемарыяльным пакоі Валянціна Таўлая знайшлі сваё месца эпісталярная спадчына паэта, фотаздымкі, дакументы, якімі падзяліліся калегі з іншых музеяў, архіваў і бібліятэк Беларусі, у якіх захоўваецца фонд паэта.

Сёння, як і па назве выстаўкі "У дом твой сцежка прывяла сама…", наведаліся вучні з СШ №13. І менавіта, у Міжнародны дзень роднай мовы. А як жа! Вучні адразу акунуліся ў беларускую прастору. Навуковы супрацоўнік музея Алесь Хітрун зачытаў уласныя вершы, прысвечаныя роднай мове. Згадалі класікаў беларускай літаратуры, кнігі якіх, нават і прыжыццёвыя, экспануюцца ў доме паэта. Даведаліся пра шлях у



творчасць Валянціна Таўлая, які пачаўся з горада Ліда яшчэ з 7-гадовага ўзросту. Вучням стала вядома, што беларуская мова і Валянцін Таўлай - гэта адзінае цэлае. Менавіта на абарону роднай мовы паэт ужо з юнацкіх гадоў вёў за сабою народ з мэтай, каб усе жыхары беларускай зямлі зваліся беларусамі, за што быў пакараны, пазбаўлены волі.

З задавальненнем юныя наведвальнікі пазнаёміліся з выстаўкай "А пачнём мы казку так…". Яны пачулі з вуснаў ужо нязменных герояў - казачніцы бабулі Нюсі і расказчыка дзядзькі Алеся беларускія народныя казкі, пазнаёміліся з арыгінальнымі музейнымі прадметамі з таго ці іншага казачнага сюжэту.

*Завітайце і Вы ў Дом паэта!*
*Тут шчырае "Дзякуй!"*
*Вам скажуць за гэта!*

Міжнародны дзень роднай мовы шырока адзначаўся ў палацах і дамах культуры Лідскага раёна.

Супрацоўнікі Палаца культуры горада Ліды далучыліся 21 лютага да святкавання Дня роднай мовы. З самай раніцы наведвальнікаў установы сустракалі прывітаннямі на беларускай мове.

На працягу ўсяго дня ў Палацы культуры праходзіў цэлы шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных святу.




Да дня роднай мовы была прымеркавана гульнявая праграмма "Хвілінка роднай мовы". Маленькія гледачы актыўна адказвалі на пытанні вядоўцаў, а



таксама з асаблівай цікавасцю сачылі за прыгодамі герояў спектакля "Як казкі пераблыталіся" ўзорнага тэатра "Какос".

Родная мова, цудоўная мова!
Ты нашых думак - уток і аснова!

Гэтыя радкі Уладзіміра Дубоўкі сталі рэфрэнам літаратурна-музычнай праграммы "Родная мова - у марах, у песнях, у снах".





У рамках мерапрыемства прагучалі творы лідскіх паэтаў - удзельнікаў аматарскага аб'яднання "Муз-Альянс": Людмілы Краснадубскай Кастуся Якубчыка, Тарэсы Смольскай, Ірыны Маркевіч, Станіславы Бела-



галовай і інш., прайшла інтэрактыўная гульня "Пагуляем у роднае слова", адбылося выступленне народнага хору ветэранаў "Майскія зоры".



Танцавальна-пазнавальная забава "Танцуем па-даўнейшаму" завяршыла шэраг мерапрыемстваў Палаца культуры горада Ліды, прымеркаваных да Міжнароднага дня роднай мовы.





З нагоды Міжнароднага Дня роднай мовы ў сельскіх філіялах Лідскага раённага цэнтра культуры і народнай творчасці правялі дыктоўкі.

Работнікі філіялаў пісалі тэксты на беларускай мове. Праводзіліся віктарыны і адукацыйныя квэсты на веданне і валоданне роднай мовай.









А на базе Бердаўскай базавай школы Лідскага раёна працаўнікі Бердаўскага культурна-досугавага цэнтра правялі інтэлектуальна-пазнавальную праграму "Роднымі словамі, дзівоснымі фарбамі - пра Беларусь".








У выніку Лідчына ўстанавіла ўласны рэкорд. **У 17-й Агульнанацыянальнай дыктоўцы прынялі ўдзел каля 12500 лідзян** і многія тысячы наведалі іншыя мерапрыемствы да Дня роднай мовы.

***Паводле СМІ.***

# XI Лідскія чытанні

## "80 мірных гадоў. Лідчына ад вызвалення да сённяшняга дня"

***18 красавіка 2024 года ў Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы прайшла навукова-практычная канферэнцыя "XI Лідскія чытанні" на тэму "80 мірных гадоў. Лідчына ад вызвалення да сённяшняга дня".***

У кожнага горада, як і ў кожнага чалавека, свой лёс, свая біяграфія, свая гісторыя.

Ліда - горад са шматвяковай гісторыяй. Разам з помнікамі даўніны ў пасляваенны час аднавілася жыццё жыхароў і эканамічны стан горада. Сучаснае аблічча горад набыў у другой палове XX ст., былі пабудаваны новыя заводы: аўтарамонтны (цяпер ААТ "Лідааграпраммаш"), лакафарбавы, аптычны і іншыя прамысловыя прадпрыемствы, новыя жылыя масівы з адміністрацыйнымі, гандлёвымі і жылымі будынкамі, дабраўпарадка-ваныя вуліцы, скверы, устаноўлены помнікі.




Навукова-практычная канферэнцыя "XI Лідскія чытанні: 80 мірных гадоў. Лідчына ад вызвалення да сённяшняга дня" прадэманстравала станаўленне розных сфер жыцця жыхароў Ліды і раёна ў пасляваенны перыяд і па сённяшні дзень. Стараннямі многіх пакаленняў Ліда стала прыгожым і самабытным горадам. Яна ўяўляе цікавасць для навукоўцаў, эканамістаў, палітыкаў як гістарычным мінулым, так і багатай сучаснасцю.

З прывітальным словам выступіла Вайцюкевіч Наталля Міхайлаўна, намеснік загадчыка аддзела культуры Лідскага райвыканкама і намеснік дырэктара Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы Быстрыцкая Алена Адамаўна. На канферэнцыю былі запрошаны прадстаўнікі ўстаноў і прадпрыемстваў Лідчыны.





Удзельнікі канферэнцыі - педагогі і навучэнцы дзяржаўных устаноў адукацыі г. Ліды, прадстаўнікі мясцовых прадпрыемстваў, краязнаўцы, навуковыя супрацоўнікі ДУ "Лідскі гістарычна-мастацкі музей" і "Занальны дзяржаўны архіў у г. Лідзе", супрацоўнікі і чытачы публічных бібліятэк. Дакладчыкі асвятлілі розныя бакі жыццядзейнасці Гарадзеншчыны і Лідчыны за апошнія 80 гадоў: Свірко Святлана Генадзьеўна, дырэктар установы "Занальны дзяржаўны архіў у г. Лідзе" прадэманстравала дакументальны фільм "Да 80-годдзя вызвалення г. Гродна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў", які быў падрыхтаваны Беларускім дзяржаўным архівам кінафотафонадакументаў.



Салаўёў Расціслаў Юр'евіч, дабрачынны Лідскай акругі Лідскай епархіі Беларускай Праваслаўнай Царквы Маскоўскага Патрыярхата, настаяцель храма Святога Вялікапакутніка Георгія Перамаганосца г. Ліды, кандыдат багаслоўя, протаіерэй падрабязна раскрыў тэму свайго даклада "Праваслаўныя прыходы Лідскага дабрачыння ў перыяд за 1945-1991 гады". Па заканчэнні выступу Расціслаў Юр'евіч падараваў Лідскай раённай бібліятэцы імя Я. Купалы выданне "Сия есть победа победившая мир, вера наша: Православие на Лидчине в XIII - начале XXI века" са словамі дабраславення і шчырымі пажаданнямі.





Аб жыццёвым досведзе, вайсковай службе і сувязі з Лідчынай расказаў Панчанка Іван Сямёнавіч, старшыня камісіі па сацыяльна-бытавых пытаннях і медыцынскім абслугоўванні ветэранаў Лідскага раённага Савета ветэранаў.



Мікалайчык Любоў Яўгенаўна, бібліятэкар в/ч 19764, у сваім дакладзе "Лідскі аэрадром: ад вайны да нашых дзён" расказала прысутным гісторыю станаўлення і развіцця мясцовага аэрадрома за апошнія некалькі дзесяцігоддзяў. Яе калега, Чапля Данута Францаўна, бібліятэкар в\ч 1234, сканцэнтравала свой выступ "На пярэднім рубяжы" на гістарычных асаблівасцях і сучасным стане пагранічных войск на Лідчыне.







Якубчык Канстанцін Іосіфавіч, слесар па рамонце рухомых саставаў зборачнага цэха УП "Ба-ранавіцкае аддзяленне Беларускай чыгункі" Лакаматыўнага дэпо Ліда, у сваім дакладзе "Крок у бяссмерце: героі Лідскага падполля" разам з прысутнымі перанёсся ў ваенныя і пасляваенныя часы. Выступ дакладчыка суправаджаўся відэафільмам.




Для гасцей навукова-практычнай канферэнцыі было прадэманстравана відэа "Я з вогненай вёскі Леснікі" Някрасава Віктара Аляксандравіча, кіроўцы пагрузчыка УП "Баранавіцкае аддзяленне Беларускай чыгункі" Лакаматыўнага дэпо Ліда. Віктар Аляксандравіч удзельнічаў са сваім прэзентацыйным фільмам у конкурсе відэаролікаў "Я з вогненай вёскі…", прысвечаным 80-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, які быў арганізаваны па ініцыятыве Берасцейскай транспартнай пракуратуры, дзе па выніках анлайн-галасавання ўвайшоў у тройку лідараў і нават перамог у адной з намінацый.

XI Лідскія чытанні сабралі ў сценах Лідскай раённай бібліятэкі прадстаўнікоў розных сфер дзейнасці. За "эканамічную" складавую навукова-практычнай канфе-рэнцыі адказвалі супрацоўнікі вядучых прадпрыемстваў г. Ліды.

Пекар Аляксандр Іванавіч, спецыяліст аддзела маркетынгу ААТ "Лідскія харчовыя канцэнтраты", яскрава і эмацыйна выступіў з дакладам "Гісторыя ЛІДКАН - гісторыя поспеху", дзе не толькі расказаў пра гісторыю і сучасны стан прадпрыемства, а і прадэманстраваў рарытэтную прадукцыю, выпуск якой ладзіўся ў пасляваенныя гады.




""Лідскае піва": з гісторыі развіцця прадпрыемства ў пасляваенны перыяд" - пад такой назвай прагучаў выступ Чарняк Веранікі Яўгенаўны (экскурсавод ААТ "Лідскае піва"). Даклад суправаджаўся цікавымі гістарычнымі звесткамі, фотаздымкамі, фактамі. Новай стала для аўдыторыі гісторыя аб



тым, што ў ваенны час будынак завода быў адзіным, які не крануў вораг, у той час, калі навокал увесь горад быў у руінах.

Не менш цікавымі і пазнавальнымі сталі даклад "Лідскаму музею - 65 гадоў" намесніка дырэктара па навукова-даследчай дзейнасці ДУ "Лідскі гістарычна-мастацкі музей" Хацяновіч Наталлі Аляксандраўны і выступ "Лідскі каледж: ад вытокаў - да сучаснасці" Казлоўскай Юліі Ігараўны, студэнткі Лідскага каледжа Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, у якім ішла гаворка пра гісторыю навучальнай установы і яе выпускнікоў, якія праславілі Лідчыну ў розных галінах.





Суднік Станіслаў Вацлававіч (рэдактар часопіса "Лідскі Летапісец", краязнавец) таксама звярнуўся да гісторыі Лідскага краю ў сваім выступленні "Адміністрацыйнае дзяленне Лідчыны пасля 1944 года", а Анашкевіч Наталля Мікалаеўна (выкладчык рускай мовы і літаратуры ДУА "Сярэдняя школа № 11 г. Ліды", кіраўнік метадычнага аб'яднання па духоўна-маральным выхаванні) прысвяціла свой даклад краязнаўцу, грамадскаму дзеячу Лідчыны Віктару Іванавічу Кудлу.






Супрацоўнікі ДУК "Лідская раённая бібліятэка імя Я. Купалы" (бібліятэкар Чайко Тарэса Валяр'янаўна і галоўны бібліёграф Курбыка Галіна Раманаўна) сканцэнтравалі ўвагу ўдзельнікаў навукова-практычнай канферэнцыі на гісторыі бібліятэк і правялі агляд лепшых выданняў пра г. Ліду другой паловы XX - пач. XXI стст.



Да ўвагі ўдзельнікаў і гасцей навукова-практычнай канферэнцыі была падрыхтавана кніжная выстава "Лідчына ўчора, сёння і заўтра". Па выніках канферэнцыі супрацоўнікамі Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы будзе выдадзены друкаваны зборнік дакладаў "XI Лідскія чытанні. 80 мірных гадоў. Лідчына ад вызвалення да сённяшняга дня". Папаўненне краязнаўчай скарбонкі стане здабыткам спецыялістаў-гісторыкаў і многіх чытачоў розных пакаленняў.





***Кацярына Сандакова,***
*бібліятэкар аддзела бібліятэчнага маркетынгу ДУК "Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы".*

# Кроніка Ліды

Валянціна Генрыкаўна Сільвановіч, майстар аддзела рамёстваў і традыцыйнай культуры ДУ "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці", стала пераможцай штогадовага абласнога конкурсу імя А.І. Дубко за "Творчыя дасягненні ў сферы культуры і мастацтва" ў намінацыі "Народны майстар года"!

У намінацыі "Журналіст года" прэмія ўручана Капцэвіч Вользе, начальніку аддзела аператыўнай інфармацыі ДУ "ЛідаМедыяКампанія".



***Валянціна Сільвановіч***



«Гродзенская праўда» падвяла вынікі конкурсу на лепшую ёлку вобласці. Першае месца чытачы аддалі ёлцы г. Ліды.

8 студзеня ў Лідзе ветэран Вялікай Айчыннай вайны Мікалай Васільевіч Мычко адзначыў аж соты свой дзень нараджэння! Павіншаваць яго з двойчы залатым юбілеем прыйшлі прадстаўнікі ўлады і грамадскасці.





Па выніках ацэнкі дзейнасці гарадскіх і раённых аддзелаў па надзвычайных сітуацыях вобласці Лідскі райаддзел МНС заняў першае месца. Начальнік абласнога кіравання МНС Зміцер Лакіза ўзнагародзіў лепшае падраздзяленне Гарадзеншчыны па выніках 2023 года, уручыў вымпел і сертыфікаты на паляпшэнне матэрыяльна-тэхнічнай базы.





Узорны ансамбль танца "Забавушка" з перамогай вярнуўся з Рэспубліканскага фэсту мастацтваў "PRO100fest".

Лаўрэат II ступені - танец "Вясёлыя прачкі" (настаўнік Бабарына І.В.).

Лаўрэат II ступені - танец "Качачка лугавая" (настаўнік Качарская П.А.).

Бабарына Ірына Віталеўна і Качарская Паліна Аляксандраўна ўзнагароджаны Падзякай за падрыхтоўку да фэсту!




На сустрэчы літаратурнага аб'яднання "Суквецце" пры "Лідскай газеце" 24 студзеня ў Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы прайшла прэзентацыя кнігі Аляксандра Іосіфавіча Мацулевіча "Бронзавы Гедымін: лідскія рыфмаваныя мініяцюры". На вечар памяці паэта і журналіста прыйшлі сваякі, сябры, пісьменнікі і паэты, усе тыя, хто яго добра ведаў і шанаваў. Успаміналі таленавітага журналіста яго калегі: Кацярына Серафіновіч, Станіслаў Суднік, Алена Несцерава, Ганна Гайдукевіч, Уладзімір Каспяровіч.








25 лютага адбыліся выбары дэпутатаў Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь 8-га склікання і дэпутатаў мясцовых саветаў 29 склікання.

У выніку выбараў дэпутатам Палаты Прадстаўнікоў па Лідскай выбарчай акрузе № 55 абрана **Кацярына Адамаўна Серафіновіч.** Старшынёй Лідскага раённага савета дэпутатаў засталася **Інэса Генадзеўна Белуш.**

Жыхарка в. Бердаўка Лідскага раёна Інэса Парфенчык прайшла ў суперфінал другога сезону шоў талентаў "Фактар.ВУ 60+". Яна заваявала сімпатыю чальцоў журы яшчэ падчас тэлекастынгу, а ў паўфінале даказала, што годная выходзіць на вялікую сцэну, за што і атрымала шмат кампліментаў ад чальцоў журы.

Разынкай выступу было і тое, што спадарыня Інэса з Бердаўкі выканала песню на бездакорнай французскай мове, а Саладуха пачуў у голасе спявачкі нават ноткі, характэрныя для Мірэй Мацьє.







Папа Рымскі Францішак прызначыў ксяндза Уладзіміра Гуляя біскупам-каад'ютарам Гарадзенскай дыяцэзіі. Такое рашэнне 5 красавіка 2024 года апублікавалі ў Ватыкане. 48-гадовы святар з 2003 года служыў пробашчам парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе (Фара), а цяпер стаў дапаможным біскупам найбольш масавай дыяцэзіі ў краіне.

У суботу 25 траўня ў катэдральнай базыліцы святога Францішка Ксаверыя ў Гародні адбылося біскупскае пасвячэнне біскупа каад'ютара Гарадзенскай дыяцэзіі Уладзіміра Гуляя.

У пачатку траўня званне "Чалавек года Гарадзеншчыны" за 2023 год прысвоена начальніку ўчастка аздабляльных работ ААТ "Будаўніча-мантажны трэст № 19" Алене Жодзік і аздабляльніку выдзіманых вырабаў са шкла і крышталю ААТ "Шклозавод "Нёман" Валерыю Багінскаму. Годнае месца на абласной Дошцы пашаны таксама занялі ДУ "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці" і ПУП "Столе".




***Вольга Троцкая, дырэктар ДУ "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці"***




У траўні ў Лідзе пасля рэканструкцыі адкрылі філіял абласной вучэльні алімпійскага рэзерву.




15 траўня на паседжанні Беларускай рэспубліканскай навукова-метадычнай рады па пытаннях гістарычна-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь нададзены статус гістарычна-культурнай каштоўнасці элементу "Традыцыі свята "Тры Каралі" на Гарадзеншчыне".

Абарону дадзенага элементу прадставілі спецыялісты Лідскага раённага цэнтра культуры і народнай творчасці.










23 траўня 2024 года Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы адчыніла свае дзверы для гасцей абласнога семінара "Бібліятэка: жывём у фармаце сённяшняга дня", удзельнікамі якога сталі супрацоўнікі аддзелаў маркетынгу і сацыякультурнай дзейнасці бібліятэчных сістэм Гарадзеншчыны.

Асобным фрагментам семінара стала прадстаўленне “Вітальні Купалы”, абсталяванай у фае чытальнай залы раённай бібліятэкі. Цэнтральнае месца тут займае бюст Янкі Купалы (скульптпр Яўген Лукашэвіч з Бярозаўкі). Важным элементам з’яўляецца вышыванае пано, на якім Галіна Курбыка, галоўны бібліёграф бібліятэкі, вышыла верш Янкі Купалы “А хто там ідзе?”. Сярод іншых элементаў варта назваць кнігу “Беларускі арнамент” з дарчым аўтографам Уладзіславы Францаўны Луцэвіч.




У чэрвені выйшла 14-я кніга Леаніда Лаўрэша “Як горад Ліда ўвайшоў у ХХ стагоддзе. Пошта, чыгунка, кіно, электрычнасць і першыя аўтамабілі”, 150 с.

У кнізе, грунтуючыся на рознай інфармацыі: працах гісторыкаў, мемуарах лідзян і архіўных матэрыялах, расказваецца пра з'яўленне і развіццё ў горадзе Ліда пошты, чыгункі (у тым ліку ёсць інфармацыя і пра вузкакалейкі), кіно, электрычнасці і аўтамабіляў. Усе гэтыя інстытуцыі, акрамя пошты, з'явіліся ў канцы XIX- пачатку XX стагоддзя і стымулявалі развіццё горада (асабліва чыгунка) і ў свой час зрабілі яго горадам XX стагоддзя.





"Васілёк у жыце Беларусі" - пад такой назвай у Доме Валянціна Таўлая Лідскага гістарычна-мастацкага музея адкрылася часовая выстаўка, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава. У Доме-музеі 19 чэрвеня, у дзень нараджэння класіка беларускай літаратуры сабраліся лідскія творцы.

Пра творчасць народнага пісьменніка Беларусі, пра грамадскую дзейнасць, пра магчымыя сустрэчы з ім, пра тое, як сёння з пашанай увекавечваецца дзяржавай яго імя, побач з іншымі, распавёў і лідскі краязнавец, галоўны рэдактар часопіса "Лідскі летапісец" Станіслаў Суднік.

У рамках рэспубліканскага конкурсу "Лекар года - 2023" прайшло ўзнагароджанне лепшых медыкаў Беларусі.

Конкурс "Лекар года" праводзіцца штогод, дзе пераможцаў адзначаюць у розных намінацыях.

У намінацыі "Лекар-тэрапеўт" атрымала перамогу **Лідзія Казлова**, лекар-тэрапеўт, загадчык тэрапеўтычнага аддзялення Лідскай ЦРБ.



# Інфармацыя пра вынікі сацыяльна-эканамічнага развіцця Лідскага раёна ў 2023 годзе

**1. Рэальны сектар эканомікі**

**1.1. Прамысловы комплекс**

На долю раёна прыпадае 10,4 % прамысловай вытворчасці вобласці. Аснову прамысловага комплексу ўтвараюць 26 арганізацый

У раёне павялічыўся выпуск найважнейшых відаў прамысловай прадукцыі (таварны выпуск): ангідрыду фталевага - на 13,2%, абсталявання пад'ёмна-транспартнага, пагрузачнага ці разгрузачнага - у 2,4 раза, барон дыскавых - у 1,8 раза, касілак, жатак навясных і прычапных - на 25,4%, бульбакапалак - на 21,0%, абсталявання складскога для захоўвання сельскагаспадарчай прадукцыі - у 2,0 разы, прычэпаў - у 3,7 раза, радыятараў цэнтральнага ацяпленняу без электрычнага нагрэву - на 4,5 %, радыятараў электрычных вадканапоўненых - у 1,5 раза, паслуг па ліцці чыгуну - на 11,7 %, посуду шклянога - на 13,4 %, вокнаў, дзвярэй зашклёных і іх каробак, драўляных - на 6,6 %, дзвярэй не зашклёных, іх каробак і парогаў, драўляных - на 41,9%, абутку з верхам з тэкстыльных матэрыялаў - на 12,4%, абутку вытворчага - на 36,1%, мяса сельскагаспадарчай птушкі парнае - на 10,0%, тлушчаў жывёльных іншых - у 1,5 раза, дадаткаў кармавых для с/г жывёл - на 8,5%, малака апрацаванага, вадкага - на 11,5 %, малака сухога тлустасцю не больш за 1,5% - на 24,7%, тлустасцю больш 1,5% - на 2,7%, масла сметанковага - на 26,0 %, мукі дробнага памолу пшанічнай ці пшанічнаржаной - на 25,2 %, вотруб'я - на 43,5 %, супаў і булёнаў - на 7,3 %, піва - на 7,3 %, вады мінеральнай і газаванай непадсалоджанай і неараматызаванай - на 23,8%, піва безалкагольнага - на 41,6 %, напояў безалкагольных іншых - на 25,0 % і іншага.

**1.2. Сельская гаспадарка**

Доля раёна ў агульным аб'ёме валавай прадукцыі сельскай гаспадаркі вобласці - 4,6 %.

За студзень-снежань 2023 г. выраблена валавай прадукцыі сельскай гаспадаркі на суму 202,6 млн. рублёў.

Сярод сельскагаспадарчых прадпрыемстваў найбольшы паказчык па вытворчасці валавай прадукцыі ў разліку на 100 га сельгасдобраў атрыманы ў філіяле "Дзітва" ААТ "Лідахлебапрадукт".

Удзельная вага сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак і іншых юрыдычных асоб у вытворчасці валавай прадукцыі сельскай гаспадаркі раёна склала 17,5 %.

Вытворчасць малака склала 64,9 тыс. тон. Найбольшы рост забяспечаны КСУП "Пескаўцы", КСУП "Ваверка-Агра", ЛРСУП "Мажэйкава".

У 2023 годзе значна палепшыліся паказчыкі па захаванасці жывёлы і ўзнаўленні статка.

**1.3. Будаўніцтва**

На долю раёна прыпадае 10,3 % аб'ёмаў будаўніча-мантажных работ вобласці.

Аб'ём будаўніча-мантажных работ за студзень-снежань 2023 г. склаў 221,6 млн. рублёў.

Працягвалася будаўніцтва шматкватэрных жылых дамоў у мікрараёне "Поўнач" у г. Лідзе, шматкватэрнага жылога дома ў квартале жылой забудовы па вул. Ленінская ў г. Лідзе, індывідуальных жылых дамоў у мікрараёнах "Чэхаўцы", "Ёдкі", "Маладзёжны" і "Астроўля", будынка Лідскага РАУС і рэканструкцыі аўтамабільнай дарогі М-11, аўтамабільнага моста цераз раку "Нёман", чыгуначнага перазда па вул. Чырвонаармейскай. Завершаны рэканструкцыя ГУ "Першамайская сярэдняя школа" і будаўніцтва дзіцячага сядуясляў на 190 месцаў у мікрараёне "Поўнач".

Будаўнічым комплексам раёна выканана падрадных работ на суму 213,0 млн. рублёў.

Палепшылі жыллёвыя ўмовы 136 шматдзетных сем'яў.

**1.4. Гандаль**

Доля раёна ў агульным аб'ёме рознічнага тавараабароту Гарадзенскай вобласці складае 13,8 %.

Аб'ём рознічнага тавараабароту гандлю

праз усе каналы рэалізацыі ў цэлым па раёне за студзень-снежань 2023 г. у фактычных цэнах склаў 1027,3 млн. рублёў.

У структуры таваразвароту арганізацый гандлю раёна пераважаюць харчовыя тавары (52,1%).

Па стане на 01.01.2024 г. колькасць розничных гандлёвых аб'ектаў склала ў Лідскім раёне 1889 адз. Прырост гандлёвых аб'ектаў за студзень-снежань 2023 г. склаў 15 адз. За кошт новага будаўніцтва адкрыты 23 гандлёвыя аб'екты, у тым ліку крамы буйных гандлёвых сетак "Марка", "Выспа чысціні і смаку", "Святлафор", "ZARINA", "Befree", "Gloria Jeans", "Askona".

**2. Малое прадпрымальніцтва**

За студзень-снежань 2023 г. зарэгістраваны 73 юрыдычныя асобы, у тым ліку 66 мікра-, малых і сярэдніх прадпрыемстваў, 5 арганізацый з удзелам замежнага капіталу і 320 індывідуальных прадпрымальнікаў.

**3. Развіццё сацыяльнай сферы**

**Адукацыя**

У 2023 годзе навучэнцамі ўстаноў адукацыі заваяваны 72 дыпломы пераможцаў 3-га этапу і 20 дыпламоў пераможцаў заключнага этапу рэспубліканскай алімпіяды па навучальных прадметах.

У 2023 годзе 83 навучэнцы ўзнагароджаны залатым (срэбным) медалём, у 2022 годзе - 80. Па выніках цэнтралізаванага тэставання атрымана 13 стобальных сертыфікатаў, у 2022 годзе - 7.

За 2023 год у аздараўленчых лагерах аздароўлена 9621 дзіця.

Сацыяльныя стандарты ў сферы адукацыі выконваюцца.

**Ахова здароўя**

Усе дзяржаўныя сацыяльныя стандарты ў вобласці аховы здароўя выкананы ў поўным аб'ёме.

**Культура**

Клубнымі ўстановамі культуры праведзена 3126 мерапрыемстваў, якія наведала прыкладна 160947 чалавек.

**Спорт і турызм**

Развіццё фізічнай культуры і спорту ў Лідскім раёне ажыццяўляецца ў адпаведнасці з Каляндарным планам раённых спартовых і спартова-масавых мерапрыемстваў, удзелам зборных каманд раёна ў абласных, рэспубліканскіх і міжнародных спаборніцтвах.

У Лідскім раёне забяспечанасць фізкультурна-спартовымі збудаваннямі на 1000 жыхароў складае 2,97 адзінак.

За студзень-снежань 2023 г. праведзена 209 спартова-масавых мерапрыемстваў, у якіх прынялі ўдзел 14550 чалавек.

Выканалі нарматывы: майстра спорту - 7 чалавек, кандыдата ў майстра спорту - 18 чалавек, 1 разраду - 66 чалавек. Прызавыя месцы занялі: на міжнародных спаборніцтвах - 6 чалавек, рэспубліканскіх - 129 чалавек, абласных - 665 чалавек.

У спіскавым складзе нацыянальных і зборных каманд Рэспублікі Беларусь па відах спорту знаходзіцца 49 чалавек.

Развіццё турызму ў Лідскім раёне ажыццяўляецца ў адпаведнасці з мэтамі і задачамі Дзяржаўнай праграмы "Беларусь гасцінная" на 2021-2025 гады.

За 2023 год Лідскі раён прыняў 120000 турыстаў, з іх 14000 замежных грамадзян. Па сродках размяшчэння рэгіён наведалі 38304 турысты, з іх 8770 замежных грамадзян.

Экскурсіі для турыстаў прапануюць ААТ "Шклозавод "Нёман", ААТ "Лідскае піва" (Музей лідскага бровара), ААТ "Лідахлебапрадукт", ААТ "Лідахарчканцэнтраты", ААТ "Торфабрыкетны завод Дзітва", ГЛГУ "Лідскі лясгас" (дэндра-парк "Гарні") і Цэнтр Бяспекі МНС пры Лідскім РАНС.

Да станоўчых вынікаў развіцця раёна адносяцца: павелічэнне тэмпу росту намінальнай сярэднямесячнай заработнай платы; рост сукупных паступлленняў прыбыткаў у бюджэт раёна; павелічэнне тэмпу росту аб'ёмаў прамысловай вытворчасці ў фактычных цэнах; нарошчванне вытворчасці прадукцыі сельскай гаспадаркі; устойлівая дынаміка ўводу жылля ў эксплуатацыю; абясцэненне дадатнага сальда знешняга гандлю таварамі і паслугамі.

# Лідскія юбіляры

## 110-я ўгодкі з дня нараджэння Валянціна Таўлая

У Лідзе шырока адзначылі 110-годдзе з дня нараджэння заходнебеларускага паэта і рэвалюцыйнага дзеяча Валянціна Таўлая.

**Падрыхтоўка**



Вайсковыя могілкі ў Менску. Тут спачывае Паэт. Месца, дзе ёсць магчымасць пакланіцца нацыянальнаму дзеячу, патрыёту, беларусу. І пакласці кветкі... 5 лютага магілу Валянціна Таўлая наведаў навуковы супрацоўнік Дома Таўлая ў Лідзе Алесь Хітрун.




У плане падрыхтоўкі аа 110-х угодкаў з дня нараджэння Валянціна Таўлая ў Лідзе пад тытулам "Аб'ект "Дом Таўлая" Лідскага гістарычна-мастацкага музея" выйшаў зборнік "Мелодыі памяці". Укладальнік – навуковы супрацоўнік "Дома Таўлая" Алесь Хітрун. Рэдактар - Станіслаў Суднік. У зборніку на 116 старонках змешчаны сем песень кампазітара Леаніда Шурмана на словы Валянціна Таўлая і адна песня на словы Максіма Танка, прысвечаная Валянціну Таўлаю. Змешчаны вершы Валянціна Таўлая, напісаныя ў Лідзе, падборка прысвячэнняў Валянціну Таўлаю з розных часоў і іншыя матэрыялы. Наклад зборніка 120 ас.

Яшчэ ў савецкі час Леанід Барысавіч Шурман спрычыніўся напісаць музыку на вершы беларускага паэта Валянціна Таўлая. Дзесьці тры гады назад у Алеся Хітруна пачалася перапіска з кампазітарам, гутаркі па тэлефоне. Леанід Барысавіч даслаў рукапісы гэтых нотаў. Як ажывіць іх? - паўставала пытанне. Нават была задума арганізаваць сустрэчу... Дарэчы, кампазітар часта прыязджаў у Ліду на фестываль-конкурс "Ільвёнак", у якім быў у складзе журы. Усё ж напрыканцы 2022 года ад Леаніда Барысавіча быў дасланы канчатковы камп'ютарны набор гэтых нотаў. Іх, між іншым, планавалася выдаць хаця бы якім саматужным выданнем.

Аднак, напрыканцы студзеня 2023 года маэстра не стала... Памяць пра сябе ён пакінуў...

Праз год зборнік выйшаў... На гадавіну па смерці





музыканта і на юбілей беларускага паэта Валянціна Таўлая...

5 лютага Алесю Хітруну ўдалося сустрэцца ў кватэры з жонкай-удавой музыканта Ірынай Аляксееўнай. Тут нараджаліся музычныя творы! Бясспрэчна, Алесь перадаў і падпісаў ёй зборнік.

Няхай гучыць мелодыя ў звонкіх вершах Валянціна Таўлая. У памяць ужо абодвух аўтараў...

Лідскі хлебазавод выпусціў да 110-годдзя з дня нараджэння Валянціна Таўлая партыю юбілейных пернікаў.




Хоць еш, хоць глядзі, хоць у калекцыю кладзі.

На Лідскай мэблевай фабрыцы (цяпер “Івацэвічдрэў”) былі прыведзены ў ідэальны стан падвалы. Перад вайной і ў час вайны - гэта турма “На Сыракомлі”. Там і сядзеў арыштаваны немцамі Валянцін Таўлай, чакаючы адпраўкі ў Асвенцым.

Лідскі завод харчканцэнтратаў, які знаходзіцца на вуліцы В. Таўлая аказаў Лідскаму музею спонсарскую дапамогу.

Сам музей выпусціў шэраг рэкламных матэрыялаў і абнавіў экспазіцыю ў Доме Таўлая.











**Юбілей**

8 лютага 2024 года ў Доме Валянціна Таўлая Лідскага гістарычна-мастацкага музея ўрачыста адзначылі 110 год з дня нараджэння беларускага паэта Валянціна Таўлая.

Ліду ў юбілейны дзень наведалі:

з Установы "Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва" загадчык аддзела навуковага апісання дакументаў асабістага паходжання Шаталава Вольга Фёдараўна, вядучы архівіст аддзела інфармацыі, публікацыі і выкарыстання дакументаў Мізон Наталля Аляксандраўна;

з Установы "Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры" намеснік дырэктара па навуковай рабоце Кузняцова Алеся Аляксандраўна; загадчык навукова-асветніцкага аддзела Кароткіна Валянціна Сяргееўна; навуковы супрацоўнік навукова-асветніцкага аддзела Доўнар Аляксандра Уладзіміраўна;

з Установы "Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы" дырэктар Глінская Ганна Васільеўна;

з Установы "Беларускі дзяржаўны архіў кінафотафонадакументаў" намеснік загадчыка аддзела выкарыстання інфармацыі Гарэлік Міхаіл Уладзіміравіч;

з Дзяржаўнай установы "Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі" загадчык аддзела кнігазнаўства Цэнтра даследаванняў старадрукаў і рукапісаў Стэфановіч Аляксандр Віктаравіч.

Госці і прыхільнікі творчасці паэта пазнаёміліся з экспазіцыямі і выстаўкамі ў Лідскім гістарычна-мастацкім музеі, наведалі галоўную пярліну горада Лідскі замак. Затым быў арганізаваны аўтобусны маршрут па мясцінах Валянціна Таўлая "сТАЎЛенне". Удзельнікі мерапрыемства пазнаёміліся з вуліцамі горада (і з асноўнай па маршруце - вуліцай Таўлая), па якіх хадзіў Валянцін Таўлай, даведаліся дзе размяшчаліся тыя гістарычныя будынкі (рэдакцыя газеты "Уперад", кінатэатры "Эра", "Эдысон", гарадская бібліятэка імя Янкі Купалы і інш. ), звязаныя з лёсам паэта-юбіляра. Кропкай прыпынку стаў сучасны будынак рэдакцыі "Лідскай газеты", на якім змешчана памятная дошка ў гонар калегі-газетчыка Таўлая.



Цікавым і эмацыйна-напружаным аб'ектам стала мэблевая фабрыка ААТ "Івацэвічдрэў" (некалькі год назад тут размяшчалася менавіта Лідская мэблевая фабрыка). Падчас вайны на яе тэрыторыі была фашысцкая турма, у якую 23 верасня 1943 года была кінута сям'я Таўлаяў. Да гэтага часу пад адным з будынкаў захаваліся падвалы з кратамі, турэмныя камеры з аўтэнтычнымі дзвярамі і інш.



Асноўным месцам правядзення мерапрыемства па ўшанаванні памяці паэта стаў дом, у якім пражываў В. Таўлай.

Тут ад імя гарадскіх уладаў гасцей прывітала старшыня Лідскага райсавета Інэса Генадзеўна Белуш.



Для гасцей быў арганізаваны інсцэніраваны аповед "У Таўлая пабываем - жыцця дарогі мы згадаем".



Пасля інсцэніроўкі ўдзельнікі ўрачыстасці пазнаёміліся з выстаўкай "У дом твой сцежка прывяла сама...", на якой прадстаўлены матэрыялы музеяў, архіваў, бібліятэк Беларусі, у якіх за-



хоўваецца эпістальярная спадчына Валянціна Таўлая. Капійныя частка гэтых матэрыялаў была даслана для арганізацыі сумеснай юбілейнай выстаўкі.

Разам з тым была прадстаўлена інтэрактыўная замалёўка "Абед у Таўлая" па матывах успамінаў беларускага літаратуразнаўца Уладзіміра Калесніка, дзе паспрабавалі смачны суп, падобны на той, якім частавала жонка паэта Лідзія Казлоўская Я. Брыля і У. Калесніка. А на другое і трэцяе, як і па ўспамінах адбылася прэзентацыя зборніка "Мелодыі памяці", на старонках якога знайшлі месца ноты кампазітара Леаніда Шурмана на вершы Валянціна Таўлая, вершы паэта, напісаныя ў Лідзе, а таксама прысвячэнні яму ад мінулых і сучасных паэтаў, адзін з варыянтаў інсцэніраванага аповеду і інш.





Разам з тым быў арганізаваны прагляд дакументальнага фільма "Валянцін Таўлай" аўтара сцэнарыя Вячаслава Адамчыка і Музы Заслонавай з фондаў Беларускага дзяржаўнага архіва кінафотафонадакументаў, нечаканым момантам стаў відэазварот да прысутных і



супрацоўнікаў музея ад сястры паэта Ніны Паўлаўны Таўлай-Радзюкевіч. Гучалі вершы ад лідскіх паэтаў, якія змясцілі ў зборніку свае прысвячэнні В. Таўлаю. І вядома, слова было дадзена калегам - супрацоўнікам вядучых літаратурных дзяржаўных музеяў і архіваў Беларусі (Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы, Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, музея гісторыі беларускай літаратуры, цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Беларускага дзяржаўнага архіва кінафотафона-дакументаў).

Гасцямі імпрэзы былі сваячніцы з роду Дарашкевічаў (па лініі мачыхі В. Таўлая) Ірына Пятроўна Ганчарова, Ірына Мікалаеўна Клышко, якая з гэтай жа лініі і хрышчаная сястрой паэта - Нінай Таўлай, а таксама Алена Дзмітрыеўна і Анастасія Ланская.



Выступалі лідскія літаратары Тарэза Чаславаўна Смольская, Людміла Іванаўна Русь.

Гасцям былі ўручаны сімвалічныя падарункі, сярод якіх і пернік з партрэтам паэта-юбіляра ад Лідскай хлебапякарні. Ад гасцей-калег супрацоўнікі Дома Валянціна Таўлая атрымалі таксама шэраг друкаванай прадукцыі.

Мерапрыемства прайшло на высокім узроўні з насычанай праграмай. Такім чынам, масты сяброўства з калегамі яшчэ больш умацаваліся, і наперадзе чакае яшчэ шмат цікавых праектаў, сустрэч.

2024 год для супрацоўнікаў Дома Валянціна Таўлая юбілейны. У наступным годзе паэту - 111 год з дня нараджэння. Таксама прыгожая дата. І да яе таксама пастараюцца падрыхтавацца супрацоўнікі Дома-музея.

***Паводле СМІ.***

# Літаратурная гасцёўня "Шляхамі Валянціна Таўлая"

8 лютага бібліятэкары Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы ладзілі літаратурную гасцёўню "Шляхамі Валянціна Таўлая", прысвечаную 110-годдзю з дня нараджэння беларускага паэта












Валянціна Таўлая. У госці былі запрошаны студэнты Лідскага каледжа.

Вядоўца пазнаёмілі прысутных з біяграфіяй, жыццём і творчасцю гэтага выдатнага паэта, крытыка, перакладчыка, публіцыста, грамадска-палітычнага дзеяча, удзельніка нацыянальна-вызвольнага руху ў Заходняй Беларусі, члена Саюза пісьменнікаў СССР. У час мерапрыемства дэманстраваліся фотаздымкі, зачытваліся яго ўспаміны аб сваім жыцці, а таксама водгукі яго сяброў. Гучалі вершы паэта і песні, якія створаны на яго словы. Была аформлена кніжная выстава "Пра вялікіх і знакамітых: Людзі. Лёс. Час".

***Паводле СМІ.***

*Сяргей Чыгрын*

# Валянцін Таўлай "звольнены за непадпарадкаванне школьнай дысцыпліне"

Беларускі паэт, грамадска-культурны і палітычны дзеяч Валянцін Таўлай (1914-1947) пражыў усяго 33 гады. Кароткае і няпростае яго жыццё было звязана з Баранавічамі, Слонімшчынай, Вільняй, Лідай, Навагрудкам і Менскам. У гэты таўлаеўскі спіс гарадоў змог бы патрапіць і Клецк, куды, пасля адлічэння за камуністычную дзейнасць з Віленскай беларускай гімназіі, паступалі многія гімназісты-актывісты.

У 1927 годзе Валянцін Таўлай паступае ў 4-ты клас Віленскай беларускай гімназіі. Там ён знаёміцца з многімі гімназістамі, у тым ліку і з земляком Якубам Міско (1911-1981), які вучыўся ўжо ў 6-ым класе. Якуб Міско далучыў Валянціна да камсамольскай дзейнасці, і вясной 1928 года юнак са Слонімшчыны ўступае ў шэрагі падпольнага камсамолу Заходняй Беларусі, пачынае друкаваць свае творы і прымае ўдзел у розных забастоўках гімназіі. Ён разам са сваімі сябрамі-камсамольцамі ўдзельнічае ў забастоўцы з патрабаваннем вярнуць 28 выключаных з гімназіі вучняў, байкатуе лекцыі Янкі Станкевіча, піша лістоўкі.



***Валянцін Таўлай напярэдадні арышту за ўдзел у забастоўцы вучняў у Віленскай беларускай гімназіі, 1929 г.***

У пошуках звестак пра Клецкую беларускую гімназію адшукаў у Віленскім цэнтральным гістарычным архіве (LCVA) некалькі дакументаў, звязаных з лёсам юнага Валянціна Таўлая. Гэтыя дакументы ў 1929 годзе трапілі ў Клецкую беларускую гімназію, куды пасля Вільні планаваў паступаць Валянцін. Але ён не з'явіўся ў Клецкую гімназію, таму што ў траўні 1929 года Таўлай выбіраецца сакратарам Азярніцкага падрайкама камсамолу Слонімскага павета, арганізоўвае розныя мітынгі. А ў канцы жніўня 1929 года юнака арыштоўваюць за ўдзел у канферэнцыі Слонімскага акруговага камітэта камсамолу, прысвечанага Міжнароднаму юначаму дню. Вясковых хлопцаў выдаў нейкі правакатар Мароз. І праз пэўны час Валянцін Таўлай быў прыгавораны Гарадзенскім акруговым судом да 6 месяцаў турмы без заліку папярэдняга зняволення. Таму паехаць у Клецк працягваць вучобу не выпала.

Сярод дакументаў Клецкай беларускай гіназіі, якія захоўваюцца ў LCVA, збярагліся ведамасць (выпіска) аб паспяховасці Валянціна Таўлая для Клецкай беларускай гімназіі, пасведчанне, сертыфікат, сертыфікат аб прышчэпцы воспы і просьба бацькі Валянціна Таўлая ў дырэкцыю Клецкай беларускай гімназіі *(Ф.207, Воп.1, Спр.32)*. Гэтыя дакументы напісаны па-польску і па-беларуску.

Вось такія, не вельмі добрыя адзнакі, меў Валянцін Таўлай пасля заканчэнне 4 класа Віленскай беларускай гіназіі:

Закон Божы - 3
Беларуская мова - 3
Польская мова - 4
Нямецкая мова - 3
Матэматыка - 4
Прырода - 3
Геаграфія - 3
Фізіка - 3.



Таўлай Валянцін
26 студзеня 1914 г.

З гэтымі адзнакамі ў вучобе Валянціна Таўлая ўсё ж залічылі ў 5 клас Клецкай беларускай гімназіі. Дырэктар гімназіі Рыгор Якубёнак напісаў на выпісцы: *"Залічыць у V клас. 29. 06. 1929 г. Клецк."*.

Адным з галоўных дакументаў, які захоўваецца ў архіве, з'яўляецца Пасведчанне:

*"Гэтым сведчыць, што Таўлай Валянцін, які паступіў у II клас Віленскай беларускай гімназіі дня 1 верасня 1926 года вучыўся да IV класа ўключна, з якога на падставе пастановы Педагагічнай Рады ад 27 лютага 1929 г. (Пратакол № 21) быў звольнены за непадпарадкаванне школьнай дысцыпліне.*

*Дырэктар - Р. Астроўскі,*

*Сакратар - У. Лукашэвіч".*



62

ПАСЬВЕДЧАНЬНЕ.

Гэтым сьведчыцца, што Таўлай Валянцін які паступіў у II кл. Віленскае Беларускае Гімназіі дня 1 верасня 1926 г. вучыўся да IV кл. уключна, з якой на падставе пастановы Педагагічнае Рады ад 27 лютага 1929 г./Пратакол № 21/быў звольнены за непадпарадкаваньне школьнай дысцыпліне.

Дырэктар /-/ Р.Астроўскі

Сакратар /-/ У.Лукашэвіч

Цікавым дакументам з'яўляецца і просьба бацькі Валянціна Таўлая Паўла Дзям'янавіча Таўлая ў дырэкцыю Клецкай беларускай гімназіі. Вось яе змест:

*"У дырэкцыю Клецкай беларускай гімназіі ад Паўла Таўлая ж. в. Рудаўка Міжэвіцкай вол., Слонімскага пав.*

*Просьба.*

*Гэтым маю гонар прасіць паважаную Дырэкцыю дапусціць майго сына Валянціна да экзаменаў за IV клясу. Дакументы будуць прадстаўлены пры паступленні у КБГ.*

*З пашанай П.Таўлай. В.Рудаўка 31/V-1929 г.".*



У Дырэкцыю Клецкай Беларускай Гімназіі

Ад Паўла Таўлая ж. в. Рудаўка, Міжэвіцкай вол. Слонімскага пав.

Просьба.

Гэтым маю гонар прасіць паважаную Дырэкцыю дапусціць майго сына Валянціна да экзаменаў за IV-ю клясу. Дакументы будуць прадстаўлены пры паступленні у К.Б.Г.

З пашанай П. Таўлай

в. Рудаўка 31/V 1929 г.

Два архіўныя сертыфікаты на польскай мове сведчаць пра тое, што Валянцін Таўлай вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі і быў прышчэплены ад воспы. Вось іх тэкст у перакладзе на беларускую мову.

*"Штамп Віленскай беларускай гімназіі*

*Сертыфікат*

*Пацвярджаем, што Таўлай Валянцін, сын Паўла і Марыі (?), нарадзіўся 26 студзеня 1914 г. у г. Баранавічы, пастаянна пражывае ў в. Рудаўка Міжэвіцкай гміны Слонімскага павета, цяпер вучань чацвёртага класа Віленскай беларускай гімназіі і часова пражывае ў Вільні па вул. Святой Ганны, 23.*

*Уласнаручны подпіс Валянціна Таўлая зацверджаны подпісамі і пячаткай.*

*Круглая пячатка Віленскай беларускай гімназіі (на трох мовах)*

*Дырэктар Ф. Стацкевіч.*

*Сакратар В. Лукашэвіч."*



63

ZAŚWIADCZENIE.

№ 603

pisz...... podpis...Walenty Tawłaj...

GIMNASIUM ALBORUTHENICUM VILNENSE

Sekretarz

*"Сертыфікат аб прышчэпцы ад воспы*

*Пацвярджаю, што Валянцін Таўлай, народжаны ў 1915 годзе, які пражывае ў вёсцы Рудаўка Слонімскага павета, дня 5 ліпеня 1927 года падлягаў паўторнай вакцынацыі супраць воспы са станоўчым вынікам.*

*Павятовы лекар (неразборлівы подпіс).*

*Круглая пячатка з надпісам: "Слонімскае староства * Павятовы лекар".*

---

*Дадзены сертыфікат павінен захоўвацца пастаянна."*



ŚWIADECTWO SZCZEPIENIA OSPY. 64

Zaświadczam, że Walenty Tawłaj, urodzony w 1915 r. zamieszkały we wsi Rudawka powiatu Słonimskiego w dniu 5 VII 1927 r. podlegał ~~pierwotnemu~~ powtórnemu szczepieniu przeciwko ospie, z wynikiem: dodatnim, ujemnym.

Lekarz powiatowy

Świadectwo niniejsze winno być przechowane stale.

З гэтых новых архіўных дакументаў добра бачна, што Валянцін Таўлай быў не падобны на іншых сваіх равеснікаў. Ён ішоў сваёй дарогай, дарогай пошукаў, барацьбы і трывог. Яму было ўсё пад сілу: і творчасць, і арышты, і турэмныя муры. Вось толькі здароўя не хапіла, каб усё перажыць і пажыць спакойна і ціха.

*Леанід Лаўрэш*

# Тэадор Нарбут: жыццяпіс без прэтэнзіі на паўнату

***Да 240-годдзя з дня смерці гісторыка***



Гісторыя сям'і Нарбутаў сыходзіць каранямі ў вельмі далёкія часы. Нарбуты былі набілітаваны ў 1413 г. у Гародлі. Сярод прадстаўнікоў гэтага роду мы сустракаем вайскоўцаў, палітыкаў, пісьменнікаў і гісторыкаў.

У Лідскім павеце Нарбуты жылі яшчэ ў XVII ст., тут яны валодалі маёнткамі: Шаўры, Андрушаўцы, Янаўшчына, Карбаўцы, Стары Двор, Варонічы, Радзівонішкі, Сукурчы, Нарбутушкі, Балкупы і фальваркамі: Вершулішкі, Пігоша, Шчуркішкі, Білаты, Былінішкі, Ляўкішкі і інш. Радніліся са шляхецкімі родамі Наневічаў, Рылаў, Жабаў, Марачэўскіх, Барташэвічаў, Сабанскіх, Грудзінскіх і інш.

Вось некаторыя з найбольш вядомых Нарбутаў:

**- Даніэль Казімір Нарбут** (?1738 - 1807) сын Казіміра, вучыўся ў Рыме, ксёндз, абат парадыскі, прафесар піярскага калегіюма, прафесар Collegium Nobilium у Вільні. Член Адукацыйнай камісіі. Аўтар першага ў нас падручніка логікі (Вільня, 1769 г.). Сакратар канцлера ВКЛ князя Міхала Чартарыскага. За заслугі перад Бацькаўшчынай і навукай атрымаў у 1793 г. ад караля Станіслава Аўгуста ордэн св. Станіслава. У вольны час пісаў вершы. У канцы жыцця вярнуўся на Лідчыну, дзе жыў у маёнтку Радзівонішкі свайго брата Дамініка, тут і памёр 17 сакавіка 1807 г. і пахаваны ў Радзівонішскай грэка-каталіцкай царкве, якой ужо даўно няма[1].



*Даніэль Казімір Нарбут*

**- Тадэвуш Нарбут**, падкаморы лідскі, дэпутат Вальнага сойма 1776 г., які не падпісаў ратыфікацыю першага падзелу і за гэта быў пераследаваны. Яго сын Войцех Нарбут, падкаморы караля Станіслава Аўгуста, дэпутат Вялікага сойма, удзельнічаў ва ўсталяванні Канстытуцыі 3 Мая. Дочкі Тадэвуша Нарбута, славутыя Аляксандра, Канстанцыя - так званыя "пулаўкі", выхоўваліся і атрымалі адукацыю пры двары княгіні Ізабэлы Чартарыйскай з Флемінгаў (1745-1835) у Пулавах[2].

**- Юстын Нарбут** (?1776 - 1845) сын Юзафа, палкоўнік войска ВКЛ, гісторык. Адным з першых напісаў кнігі па гісторыі ВКЛ, жыў і памёр у маёнтку Юршышкі на Лідчыне. Яго дачка - пісьменніца Каміла Юрэвіч з Нарбутаў[3] і сястра - вядомая авантурыстка і мецэнатка Юлія Шышкова з Нарбутаў[4].

**- Ян Антон Нарбут**, сын Казіміра і Мар'яны з Навіцкіх. Быў братам Дамініка і Казіміра Нарбутаў (піяра). У 1778 г. стаў паслом у сойм і быў абраны ў Скарбовую Камісію ВКЛ. У 1785 г. стаў стольнікам Лідскага павета і займаў гэтую пасаду да 1794 г. У траўні 1797 г. абраны на пасаду маршалка шляхты Лідскага павета і займаў пасаду да 1798 г. Быў жанаты з Кларай Плятэр, меў дачку Казіміру, жонку вядомага капітана польскіх войскаў Юзафа Гружэўскага.

**- Аляксандр Остык Нарбут** (?1763 - 1833), - лідскі маршалак[5].

**- Вінцэнт Нарбут** (?1812 - 1883), гісторык і палеограф славянскіх моў, шматгадовы супрацоўнік

[1] Гл: Стасевіч-Ясюкова Ірэна. Казімір Нарбут. Варшава - Ліда, 2004.

[2] Гл: Лаўрэш Леанід. Аляксандра Нарбут - акадэмік Берлінскай акадэміі навук // АСОБА і ЧАС. Беларускі біяграфічны альманах. Выпуск 4. 2011. Мінск. С. 6-16.

[3] Гл: Лаўрэш Леанід. Юстын Нарбут // Наша слова.pdf № 43 (95), 25 кастрычніка 2023.

[4] Гл: Лаўрэш Леанід. Юлія Шышкова з лідскіх Нарбутаў // Маладосць. 2019. № 6. С. 114-122.

[5] Гл: Лаўрэш Леанід. Маршалкі Лідскага павета // Лідскі Летапісец. 2020. № 2 (90). С. 13-19.

Архіва гістарычных дакументаў Трыбунала ВКЛ у Вільні[6].

Асаблівае месца сярод прадстаўнікоў роду Нарбутаў займае наш славуты **Тэадор Нарбут**. У 1854 г. гісторык, публіцыст і выдавец Адам Кіркор пісаў: *"Усе адукаваныя краіны Еўропы ганарацца сваімі гістарыёграфамі, і ў кожнай з краін вельмі мала ёсць асоб, працы якіх сталі гонарам сваёй краіны. Аддаючы належную пашану мінулым і сучасным працаўнікам на гістарычнай ніве, шчыра прызнаемся, што ў нашай літаратуры мы можам ганарыцца толькі двума асобамі, заслугай якіх з'яўляецца стварэнне вялікіх і маштабных прац, у якіх выкладаецца гісторыя нашай краіны. Гэта Адам Нарушэвіч*[7] *і Тэадор Нарбут. Але першы меў шчодрую падтрымку караля Станіслава Аўгуста, багацце матэрыялаў і такога здольнага і працавітага памочніка як Альбертрандзі*[8]*, пры гэтым, ён, пачаўшы пісаць гісторыю, зрабіў толькі палову працы, пасля чаго старасць спыніла яго пяро. Тэадор Нарбут сам распачаў і сам закончыў (скажам гэта смела) сваю вялікую справу. Сваімі намаганнямі і сваім коштам, праз археалагічныя раскопкі і пошукі ў далёкіх архівах ён стварыў гісторыю ВКЛ і праклаў дарогу для яе даследчыкаў у будучыні. І нават сёння, калі яго галава ўжо пасівела, ён з маладой энергіяй заканчвае і ўдасканальвае розныя часткі сваёй манументальнай працы. Сапраўдны творца літоўскай гісторыі, ён усім сваім жыццём паказаў, што можа зрабіць адзін чалавек з рашучым і нязломным характарам. Дзевяць тамоў ягонай гісторыі даюць яму безумоўнае права на славу і вядомасць. Ён шчаслівы, бо пры сваім жыцці ўбачыў плён сваёй працы і адчуў пашану землякоў. Вывеў ліцвінаў з цёмнай, нязведанай пячоры і прайшоў з імі ад паганскай калыскі да хрысціянкай Рэчы Паспалітай. Шмат гадоў ён прысвяціў карпатлівай працы па зборы матэрыялаў нашай таямнічай мінуўшчыны, перш чым з гэтага амаль што нікім не кранутага хаосу, выкрышталізавалася гарманічнае цэлае - гісторыя роднай зямлі, якую ён, як самы каштоўны скарб, падараваў сваім суайчыннікам"* [9].

Пра Тэадора Нарбута і яго сям'ю я пісаў і раней[10], гэты ж артыкул будзе грунтавацца на перапісцы доктара Аніцэта Рэніера з нашым славутым гісторыкам, інфармацыі Уладзіслава Сыракомлі пра яго калекцыю, архіў яго дачкі Тэадоры Манчунскай[11], успамінах Камілы Юрэвіч з Нарбутаў[12] і г. д. Сканы нявыкарыстаных да гэтага часу ў беларускай гістарыяграфіі вельмі карысных тэкстаў Манчунскай і Юрэвіч, аплаціў мой сын, за што яму вялікі дзякуй.

Архіў Тэадоры Манчунскай складаецца са 142 сканаў здвоеных старонак, якія на жаль, не з'яўляюцца паслядоўным тэкстам яе ўспамінаў. Галоўным зместам архіва з'яўляюцца вершы яе бацькі, розныя яго ненадрукаваныя ў прэсе артыкулы, метэаралагічныя заўвагі, а таксама ўрыўкавыя ўспаміны самой Манчунскай пра яе сям'ю (гэта частка амаль што цалкам выкарыстоўваецца ў гэтым артыкуле) і раней не надрукаваны тэкст самога Тэадора пра яго род, гэты тэкст цалкам прыводзіцца ў дадатках да артыкула.

Успаміны Камілы Юрэвіч з Нарбутаў, падобна, напісаны як артыкул для перыёдыкі, у ім шмат агульнавядомай інфармацыі, але, тым не менш, яе тэкст карысны асабістым поглядам аўтаркі і асобнымі крэскамі пра далёкага сваяка, якім быў для яе Тэадор Нарбут.

Шмат новай і цікавай інфармацыі дае нам аналіз шматгадовай перапіскі з доктарам Аніцэтам Рэніерам, з якім Тэадор Нарбут моцна сябраваў. Пераклад перапіскі пойдзе ў наступным нумары.

### Першая частка жыцця Тэадора Нарбута, служба ў войску

Тэадор Нарбут нарадзіўся 8 лістапада 1784 года ў сядзібе Шаўры Лідскага павета, быў сынам Яўхіма і Ізабэлы з Наневічаў. Выхоўваўся ў Лідскай піярскай

[6] Malewski Czeslaw. Rody i herby szlacheckie na Litwie (X) // Nasza Gazeta. 1 (490).

[7] Адам Тадэвуш Станіслаў Нарушэвіч (1733, Лагішын, Пінскі павет - 1796, Янаў-Падляшскі) - філолаг, гісторык, перакладчык, паэт і празаік.

[8] Ян Альбертрандзі (1731-1808) - гісторык, публіцыст. Нарадзіўся ў Варшаве. Працаваў у езуіцкіх калегіюмах у Пултуску, Плоцку, Нясвіжы, Вільні. Меў шэраг царкоўных пасад, з 1796 г. - біскуп зенапалітанскі. Збіраў крыніцы па гісторыі Рэчы Паспалітай у архівах і бібліятэках Рыма, а таксама Швецыі, куды яны былі вывезены, галоўным чынам, пад час шведскіх войнаў. Пакінуў вялікую навуковую спадчыну ў сферы гісторыі і нумізматыкі. Адзін з заснавальнікаў і кіраўнікоў Таварыства аматараў навук.

[9] Jan ze Sliwina [Kirkor A. H.]. [Wszystkie oswiecone kraje Europy…] // Gazeta Warszawska. 1854. №. 42. S. 4.

[10] Гл: Лаўрэш Леанід. Тэадор Нарбут - папулярызатар найноўшых дасягненняў прыродазнаўства // Лідскі Летапісец. 2014. № 4 (68). С. 12-13; Лаўрэш Леанід. Людвік Нарбут // АСОБА І ЧАС. Беларускі біяграфічны альманах. Выпуск 6. Мінск, 2015. С. 74-105; Лаўрэш Леанід. Тэадор Нарбут у падзеях 1812 года // Наша Слова. № 14 (1425), 3 красавіка 2019; Лаўрэш Леанід. Новае пра Тэадора Нарбута і яго сям'ю // Лідскі Летапісец. 2021. № 3-4(95-96). С. 52-59., і інш.

[11] [MONCZUNSKA Z NARBUTTOW, Teodora]. Zapiski corki s. p. Teodora Narbutta z papierow, [apie 1880 m.] Lietuvos valstybes istorijos archyvas (LVIA), f. 1135, ap. 11, b. 19, lap. 1r-137v. Далей - ДГАЛ (Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы). Ф. 1135. Воп. 11. Спр. 19.

[12] [JUREWICZOWA Z NARBUTTOW, Kamilla]. Wspomnienie o Dziejopisie Litwy Teodorze Narbucie, 1875 m. ap. 11, b. 4, lap. 103r-105v. Далей - ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 11. Спр. 4.

школе, а ў 1799 г. паступіў на матэматычна-інжынерны факультэт Віленскага ўніверсітэта, які скончыў у 1803 г.[13]

Нарбут вучыўся ў Лідзе і потым неаднаразова бываў тут. Тэадора Манчунская запісала цікавы эпізод з юнацтва яе бацькі ў Лідзе: *"Ліда запомнілася яму як наша павятовае мястэчка - ён казаў, што там чытаць не ўмеюць, хоць гэты горад і займаў сваё месца ў гісторыі нашай сям'і, бо там стаіць касцёл фундацыі Нарбутаў*[14]*, калі бацька быў малады, ён прыходзіў у госці да ксяндза-апата Нарбута*[15]*. Ксёндз любіў паразмаўляць, а людзі шмат казалі пра яго грошы [...].*

*Засталіся ў маёй памяці гісторыі якую бацька апавядаў пра Ліду: "Пасля смерці ксяндза-апата, казалі, што ён недзе закапаў бочкі з золатам, і таму яго маладыя пляменнікі, між імі і я, шукалі бочкі па схованках". Тэадор спыніўся на думцы, што скарб можа быць схаваны ў склепе пад касцёлам. Таму быў парушаны апошні прытулак памерлых, і адзін з нябожчыкаў, пругкі і лёгкі, скочыў Тэадору на грудзі. "У мяне перахапіла дух", - казаў бацька, але потым, агледзеўшыся, ён зразумеў, што "высахшы як трэска нябожчык, вельмі лёгкі і цвёрды, паўстаў перад мной як струна, калі я наступіў на яго стапу". Аказалася, што тутэйшае паветра і сухая зямля ўтрымлівае ўсе целы нябожчыкаў у падобным стане. Пасля гэтага здарэння пошукі закончыліся - золата не знайшлі, ... але страху нацярпеліся. Дух апата вартаваў сваё золата і не жадаў, каб нехта са сваякоў яго знайшоў. Расказы пра духаў былі любімай тэмай"* [16].

Адам Кіркор падае наступную кароткую біяграфічную даведку: *"Тэадор Остык Нарбут герба Трубы, нарадзіўся 8 лістапада 1784 г. у спадчынным маёнтку Шаўры Лідскага павета. У 1799 г. паступіў у Галоўную літоўскую школу* (г. з., універсітэт - *Л. Л.*), *дзе пад кіраўніцтвам Гуцэвіча і (Міхала) Шульца вывучаў матэматычныя навукі, цывільную і вайсковую архітэктуру. У 1803 г. ён накіраваўся ў Пецярбург і там пачаў сваю вайсковую кар'еру ў якасці інжынера. Некаторы час ён выкладаў у 2-гім кадэцкім корпусе, у 1807 г. атрымаў багнетную рану пад Астраленкай і пад Тыльзітам рану ў левую руку з ружжа. Падчас вайны ў Фінляндыі ў 1808 г. пад г. Або* (зараз, г. Турку ў Фінляндыі. - *Л. Л.*) *Нарбут атрымаў цяжкую траўму галавы, якая прывяла да страты слыху. Потым служыў у эскадры ў бухце балтыйскага порта і, калі яна была заблакаваная, для яе абароны будаваў артылерыйскія батарэі на востраве Руген. У 1810 і 1811 гг. займаўся праектаваннем Бабруйскай фартэцы, месцазнаходжанне якой указаў першым. Гідратэхнічныя працы аслабілі яго здароўе і цалкам пазбавілі слыху, які так ніколі больш і не вярнуўся. Перад вайной з Напалеонам (1812 г.) Нарбут пакінуў вайсковую службу і вярнуўся ў родны дом"* [17].

Дадам некалькі радкоў. Калі Нарбут стаў выкладчыкам у 2-гім кадэцкім корпусе, ён адначасова паглыбляў сваё майстэрства пад непасрэднай апекай ваеннага інжынера Аўрэ. Гэты знакаміты выкладчык звяртаў сваю ўвагу на асабліва адораных і накіроўваў іх на ваеннае будаўніцтва. Нарбута цікавілі фартыфікацыі, ён вывучаў іх гісторыю і спосаб канструявання вайсковых аб'ектаў, галоўным чынам фартыфікацый. Потым Тэадор перайшоў на працу ў інжынерны дэпартамент Вайсковага міністэрства і быў прызначаны да службы ў дырэктара генерала Сухтлене. У 1804 г. ён быў уключаны ў камісію, якая працавала пад кіраўніцтвам прускага гідратэхніка Я. А. Эйтэльвейна над праектам рэгуляцыі Нёмана на ўсім яго працягу, які тады быў граніцай з Прусіяй. У адным з тамоў сваёй знакамітай працы ён так успамінае гэтую справу: *"Я сам, выконваючы абавязкі інжынера па гідраўлічных працах на рацэ Нёман, у выніку падпісанай Найвышэйшай канвенцыі паміж Расіяй і Прусіяй у 1804 годзе на чале з Камісіяй абедзвюх дзяржаў, якую узначальваў знакаміты гідраўлік Я. А. Эйтэльвейн, меў магчымасць пазнаць мясцовасці гэтай вялікай ракі ад вытоку да вусця і маю сёння пад рукой неабходныя мне матэрыялы"*. Нарбут, несучы сваю службу на працягу двух гадоў, вызначыўся старраннасцю і шматлікімі тэхнічнымі прапановамі. Яму было прысвоена званне падпаручніка[18].

Да важнага ў жыцці гісторыка 1812 г. вернемся пазней, а зараз я падам некалькі эпізодаў з біяграфіі нашага земляка, якія па памяці запісала яго дачка Тэадора Манчунская: *"Думка пра смерць і вечнасць уласціва маладому веку […]. Мой бацька расказваў, як пры будаўніцтве Бабруйскай фартэцы ён адчуў Божую волю. У балотах бацька прамачыў ногі і захварэў на гарачку ў бязлюднай мясцовасці, дзе не было лекара. Хвароба стала небяспечнай, яна скруціла яго так, што ён ужо не падаваў нават і прыкмет жыцця, і толькі думка яго была свабоднай і яна вяла яго да Бога - ён думаў пра вечнасць, бачыў ужо яе мяжу і з цікавасцю*

[13] Polski Slownik Biograficzny.Wroclaw-Warszawa-Krakow-Gdansk, 1977. T. XXII. S. 537.; Бломберг Мар'яна Магдалена. Тэадор Матэвуш Нарбут (Остык-Нарбут) з лідскай зямлі гісторык Літвы, інжынер і даследчык старажытнасці, а таксама бацька герояў-паўстанцаў. Варшава - Ліда, 2011. С. 46.

[14] Маецца на ўвазе касцёл кармелітаў.

[15] Даніэль Казімір Нарбут (?1738 - 1807) з 1783 па 1801 г. быў лідскім дэканам і пробашчам, у 1801 г. гэтую пасаду заняў кс. Вінцэнты Нарбут. Бацька Даніэля Казіміра Нарбута - Казімір Нарбут быў прадзедам Тэдора Нарбута, а дзед Ігнацый - родным братам Даніэля Казіміра Нарбута, такім чынам Тэадор - яго ўнучаты пляменнік.

[16] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 11. Спр. 19.Арк. 22 - 23.

[17] Jan ze Sliwina [Kirkor A. H.]. [Wszystkie oswiecone kraje Europy…].

[18] Бломберг Мар'яна Магдалена. Тэадор Матэвуш Нарбут (Остык-Нарбут) з лідскай зямлі гісторык Літвы, інжынер і даследчык старажытнасці, а таксама бацька герояў-паўстанцаў. С. 46-47.

*чакаў хвіліны, калі на тым боку магілы ён паўстане перад міласэрным - ужо чуў ваенную музыку на сваім пахаванні, і дух кружыў каля яго - падчас гэтых важных дум пра вечнасць прыехаў суседні поп*[19] *і адпеў яго перад смерцю.*

*Святар не ведаў, да якой рэлігіі належыць Нарбут, бо той ужо не мог размаўляць і разважаць, а яго жаўнеры гэтага таксама не ведалі. Поп адпеў хворага і быў спакойны за яго душу, напісаў ён толькі вялікімі літарамі на шыльдзе крэйдай: "ПАМРЭ". Але хворы гэтага ўжо бачыць не мог.*

*Пасля гэтага, жаўнеры якія заставаліся ў халоднай хаце, прыкрылі яго тонкай тканінай, і Нарбут зноў пачаў адчуваць вечнасць. Рукі яму склалі крыжам, а ногі скруцілі паміж сабой. Аднак ён хутка пачуў падарожны званочак і ачнуўся - але мог толькі круціць галавой. Своечасова прыехаў палкавы доктар, выкліканы верным слугой Нарбута, каб адагрэць і адхукаць хворага, чым і ўратаваў прыгаворанага ад смерці.*

*Бацька любіў апавядаць пра гэтыя хвіліны, вера ў несмяротнасць душы, якую ён меў, змяніла тады яго аблічча, бо здавалася, што ў гэты момант яго душа сваімі вачамі бачыла свой шляхетны, спакойны, апошні прытулак.*

*Пасля гэткага дрэннага лячэння, ён цалкам страціў здароўе, да таго ж сказалася кантузія ўзімку пад Або ў 1808 г. ад гарматнай кулі (шрапнелі), калі толькі праз 24 гадзіны пасля ранення яго паклалі на воз, высланы гарохам і разам з іншымі раненымі вывезлі з поля бітвы. На возе Нарбут адчуў вялікае жаданне з'есці гарох, стручкі якога ляжалі пад ім. "Гэты павінен выжыць", - сказаў шведскі афіцэр. - "Бо есць гарох". Шведская мова падалася яму здалёк падобнай да тых моў, якія ён ведаў. Пасля лёгкай гарачкі, ён паздаравеў і вольна хадзіў па горадзе. Праз нейкі час яго памянялі на палонных, але пасля гэтай раны ён атрымаў цяжкі галаўны боль і амаль што страціў слых. На пачатку меў далікатнае вуха - найменшы шэлест падаваўся яму стрэлам, але такі стан, падобна, трымаўся толькі два гады, ажно да вышэй апісанага здарэння на Бабруйскіх балотах. Планы Бабруйскай фартэцы ён потым перадаў французкаму маршалу Басано, герою, пра якога бацька не мог забыць да канца свайго жыцця. Напалеон меў такую харызму, што ўсе, хто яму служыў, заставаліся вернымі яму да смерці*[20]*.*

*Любіў Бабруйск [фартэцу] як сваё тварэнне, і адзін са знаёмых нам афіцэраў, доктар Сабаткоўскі, у 1862 г. пісаў да сястры: "Раскажу шаноўнаму дзеду, пану Тэадору Н., што ў Бабруйску мы пілі за яго здароўе""* [21].

Падчас даследавання мясцовасці, якая магла быць прыдатная для размяшчэння Бабруйскіх умацаванняў, Тэадор Нарбут, займаючыся інжынернай працай, заўважыў у раскапанай зямлі невядомыя яму прадметы і зразумеў, што яны паходзяць з даўніх часоў. Адначасова ён звярнуў увагу на курганы і занатаваў у адным са сваіх першых артыкулаў: *"...паміж рэкамі Друць і Беразіна, на левым беразе Дняпра ад Магілёва да ракі Сож і да Рагачова звярнуў увагу на курганы"*. Пасля выхаду ў адстаўку ён вярнуўся ў свае ўладанні ў Шаўрах і прысвяціў сябе даследаванням мінуўшчыны роднага краю, хаваючыся ад французаў. Па іншай версіі біяграфіі Нарбута, у 1812 г. ён разам з царскім дваром Аляксандра I прыехаў у Вільню і, хаваючыся ў знаёмых, дачакаўся адступлення царскіх войскаў і пасля гэтага далучыўся да Напалеона. Згадванне яго дачкой французскага маршала Басано, пацвярджае гэтую версію біяграфіі, згодна з ёй Нарбут не хаваўся ў адстаўцы ад французаў, а ў 1812 г. выступіў за аднаўленне ВКЛ на баку Напалеона[22], пра што пісала і яго дачка: *"Пра сваё жыццё ў 1812 г. ён расказваў мне з запалам. Праз шмат гадоў ён з дрыжачымі вуснамі апавядаў, што заўсёды тады меў надзею на лепшую будучыню"* [23].

Раней я ўжо згадваў гэтую таямніцу ў біяграфіі нашага гісторыка[24].

Трэба сказаць, што за сваю вайсковую службу Тэадор Нарбут меў шэраг узнагарод, стаў кавалерам ордэна св. Уладзіміра 4 ступені, кавалерам ордэна св. Ганны 4 ступені і за будаўніцтва цвердзі ў Бабруйску ў 1809 г. кавалерам ордэна св. Ганны 2-й ступені.

Пікантнамі рысамі жыцця маладога Нарбута ёсць яго ўдзел у дзейнасці таварыстваў шубраўцаў[25] і масонаў - у Літоўскім нацыянальным музеі захоўваецца аздобленая масонскай сімволікай шклянка з выгравіраваным надпісам "Тэадор Нарбут" і годам - 1817.

**Жыццё ў маёнтку Шаўры**

Маёнтак Шаўры ў 1844 г. меў 77 прыгонных сялян, браты Нарбуты (Тэадор, Адольф і Ксаверый - сыны Яўхіма) валодалі ім разам[26]. Маёнтку належалі 860 дзесяцін зямлі з трыма сялянскімі вёскамі.

Усе мастацкія і навуковыя творы Т. Нарбута былі напісаны ў Шаўрах - у тым ліку і яго знакамітая праца

[19] Верагодна, гэта быў грэка-каталіцкі святар.

[20] У самыя цяжкія моманты 1814 г. Напалеону здрадзілі нават самыя блізкія да яго маршалы.

[21] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 11. Спр. 19. Арк. 17 адв. - 19 адв.

[22] Бломберг Мар'яна Магдалена. Тэадор Матэвуш Нарбут (Остык-Нарбут) з лідскай зямлі гісторык Літвы, інжынер і даследчык старажытнасці, а таксама бацька герояў-паўстанцаў. С. 48.

[23] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 11. Спр. 19. Арк. 113.

[24] Гл: Лаўрэш Леанід. Тэадор Нарбут у падзеях 1812 года // Наша слова. № 14 (1425), 3 красавіка 2019.

[25] Шубраўцы - сябры літаратурна-грамадскага таварыства ліберальна-асветніцкага кірунку, якое існавала ў Вільні ў 1817-1822 гг.

[26] Malewski Czesslaw. Wykaz alfabetyczny z 1844 r. majatkow pow. Lidzkiego // Ziemia lidzka. 2004. № 2(60).



***Сядзіба Нарбутаў на малюнку Напалеона Орды, 1877 г.***

"Dzieje narodu litewskiego" ("Гісторыя літоўскага народа", т. 1-9, Вільня, 1835-1841). Сядзіба стала творчай лабараторыяй і месцам працы гісторыка, у ёй месцілася бібліятэка, калекцыі і збор старажытных рукапісаў. З акна свайго кабінета Тэадор бачыў Радуньскі замак, які штодзень натхняў яго на творчую працу[27].

У Шаўрах Нарбут абмяркоўваў самыя розныя пытанні - ад эканамічных да пытанняў вырошчвання льну і канопляў, тут ён перакладаў Гарацыя, Мігеля дэ Сервантэса і Жан-Жака Русо. Тут пісалася самабытная паэзія гаспадара сядзібы. Адсюль вялося вялікае навуковая ліставанне.

Шаўры Тэадора Нарбута, як і Юршышкі Юстына Нарбута і Яшуны Міхала Балінскага - у той час былі асаблівымі, знакавымі месцамі для інтэлектуальнай часткі нашага грамадства. Гэтыя вельмі спецыфічныя маёнткі каля Ліды з'яўляліся эксклюзіўнымі інтэлектуальнымі астраўкамі, дзе жылі "абшарнікі-творцы".

Для абшарнікаў-творцаў значным быў факт валодання сядзібай, зямлёй, клопат пра ўраджай і сялян - усё гэта, разам з навуковымі заняткамі, ствarала іх непаўторны быт. Бо беззямельныя частка шляхты, якая пераважна асела ў гарадах і з часам стала прафесійнай інтэлігенцыяй, была зусім іншай сацыяльнай групай. Вядома, што нашу гісторыю пісалі таксама сапраўдныя прафесіяналы - прафесары Віленскага ўніверсітэта. Але ў нашым выпадку Тэадор Нарбут як і яго сваяк Юстын і больш далёкі сусед Міхал Балінскі, з'яўляліся аднachaсова творцамі і высакароднымі абшарнікамі, яны сумяшчалі першае і другое, такіх асоб было не шмат.

Уладары "творчых" маёнткаў жылі па пэўнай схеме, якую можна ахарактарызаваць як "жыццё па Гарацыю". У той час паўсюдна ідэалізавалі гэтага рымскага паэта і кіраваліся яго думкамі - не толькі чыталі і перакладалі яго творы, але і пераймалі жыццёвы шлях Гарацыя, бо абшарнікі-творцы, як калісьці і сам Гарацый у сваім знакамітым маёнтку на рацэ Тыбур (што каля цяперашняга Цівалі), таксама жылі ў маёнтках. У сваёй сядзібе рымскі паэт атрымліваў асалоду ад адасобленага жыцця і адчуваў сапраўднае чалавечае шчасце. Творчасць заўсёды займала важнае месца і ў жыцці вышэйзгаданых абшарнікаў, але іх ніколі не адпускалі і гаспадарчыя праблемы. Часам, як і Гарацый, гаспадары маёнткаў скардзіліся на адзіноту, але калі ім даводзілася пакідаць свой дом, яны вельмі хутка сумавалі па ім. Бо толькі ўласная сядзіба была тым месцам, куды творца заўсёды хацеў вярнуцца, толькі свая сядзіба заўсёды была сапраўдным прытулкам шляхціца. Як і Гарацый у маёнтку на Тыбуры, уладальнікі гэтых сядзібаў пастаянна сачылі за тым, што адбываецца па-за межамі іх асабістай прасторы. Іх сядзібы была месцам, дзе фізічнае жыццё спалучалася з творчасцю, месцам, дзе творца ствараў для сябе аазіс духоўнага супакою і мог жыць па дэвізе Гарацыя - *"Carpe diem..."* (*"Трымай дзень"*, ці цалкам: "*Carpe diem quam minimum credula postero" - "Карыстайся (кожным) днём і як мага менш спадзявайся на наступны"*, *лац.*).

Для абшарнікаў-творцаў важным было і вучэнне Гарацыя аб "разумнай любові" да радзімы. Бо рымскі паэт вучыў творцаў, як жыць у складанай палітычнай сітуацыі. Гэтым можна патлумачыць "сіндром Гарацыя" - г. зн. проста ашаламляльную колькасць перакладаў творчасці рымскага паэта менавіта пасля паўстання 1830-1831 гг., калі папулярнасць Гарацыя дасягнула свайго апагею[28]. У крытычныя моманты жыцця краіны гэты рымскі паэт заўсёды станавіўся самым чытаным і трактаваным аўтарам. Пераклаў і выдаў кнігу сваіх перакладаў Гарацыя і наш Тэадор Нарбут[29].

Трэба сказаць яшчэ некалькі слоў пра партрэты Тэадора Нарбута, якія адлюстроўваюць яго асобу падчас жыцця ў Шаўрах.

Адам Кіркор у 1854 г. пісаў: *"З радасцю паведамляю, што партрэт гэтага заслужанага ветэрана нашай гісторыі неўзабаве будзе выдадзены ў Варшаве, у вялікім зборніку сп. Фаянса. Вялікія заслугі Нарбута, яго вялікая праца і адданасць навуцы яшчэ больш прываблiваюць нас да яго незвычайнай сціпласці, адсутн-*

[27] Narbutt Teodor. Dzieje starozytne narodu litewskiego. T. II. Wilno, 1837. S. 383-384.

[28] Reda Grizkaite. Dvaras kaip "archyvas": bajorija ir Lietuvos istorijos tyrimai (XIX a. 4-7 d.) // Metai. 2016. № 10. Vilnius. P. 134-135.

[29] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 11. Спр. 4. Арк. 105.




**Максіміліян Фаянс (1827-1890). Тэадор Нарбут**



**Ю. Азямблоўскі. Партрэт Тэадора Нарбута**

*асці фанабэрыі і чароўнай прастаты"* [30]. Класічным партрэт Тэадора Нарбута, пра які паведамляў Кіркор, выканаў вядомы мастак Максіміліян Фаянс (1827-1890). Першы раз яго надрукавалі ў 1857 г. у альбоме "Вобразы Польшчы" ("Wizerunki polskie")[31]. Літаграфія зроблена паводле фотаздымка, дзеля якога гісторык двойчы спецыяльна ездзіў у Вільню да мастака-дагератыпіста. Двойчы таму, што першая фатаграфія здалася варшаўскаму выдаўцу "недакладнай". Але ў выніку атрымаўся хрэстаматыйны і самы вядомы партрэт Тэадора Нарбута.

Таксама добра вядомы партрэт нашага гісторыка зроблены Юзафам Азямблоўскім паводле малюнка Адольфа Піварскага (1817-1870). Азямблоўскі з'яўляўся сталым ілюстратарам твораў Нарбута. Гэтая літаграфія з'явілася каля 1840-1841 г. па ініцыятыве Антонія Марціноўскага, выдаўца шматтомніка Нарбута "Гісторыя літоўскага народа", калі ішла падрыхтоўка да друку дзясятага, апошняга, тома твора, які так і не выйшаў. Партрэт павінен быў быць размешчаны ў кнізе побач з біяграфіяй аўтара.

Абодва партрэты пацвярджаюць апісанне гісторыка зробленае сваячкай і суседкай Камілай Юрэвіч з Нарбутаў: *"Меў і знешнасць ліцвіна: светлы бландзін з вялікімі блакітнымі вачыма і лагодным выразам твару. Ад прыроды меў моцнае цела і спадзяваўся дажыць да 100 гадоў"* [32].

Партрэт Нарбута, зроблены незадоўга да яго смерці, здаецца, добра адлюстроўвае ўнутраны сусвет старога і мудрага чалавека.



**Позні партрэт Тэадора Нарбута**

[30] Jan ze Sliwina [Kirkor A. H.]. [Wszystkie oswiecone kraje Europy…].

[31] Wizerunki polskie, rysowal z natury i litografowal M. Fajans. Warszawa, nakladem autora, w Drukarni rzadowej przy Kom. Rzad. Sprawiedliwosci, 1857. S. 10.

[32] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 11. Спр. 4. Арк. 105.

**Вільня і дарога ў Вільню**

Запрашаючы да сябе свайго сябра Аніцэта Рэніера, гісторык пісаў: *"Прыязджай, шаноўны пан Аніцэці, прыязджай да мяне. Даехаць зручна, па добрай дарозе, па якой мае фурманкі возяць прадукты, таму - сам у адной, рэчы ў другой і трэцяй - у яе можна паставіць куфар з усім неабходным. Пісар, які будзе з фурманкамі, атрымае ад мяне неабходны загад. Калі зараз не можаш, дык праз некалькі тыдняў мае фурманкі зноў павязуць прадукты [у Вільню]"* [33].

Тэадор стала дасылаў фурманкі з прадуктамі сваёй гаспадаркі на продаж у Вільню. Канешне ж, для яго гэта было больш выгадна, чым прадаваць іх цераз перакупшчыка, у гэтым сэнсе маёнтак Шаўры меў добрае становішча. Пра продаж тавараў у Лідзе Тэадор нават і не згадвае, што цалкам зразумела - Ліда была далей, чым Вільня і мела значна больш слабы рынак. Але нашы дарогі з-за сваёй якасці не злучалі людзей, а наадварот, разлучалі іх. *"Пасля доўгага бездарожжа, прыйшоў час, калі можна выслаць некалькі фурманак ў Вільню, каб купіць неабходнае"* [34], - пісаў гісторык 21 студзеня 1843 г., калі дарогі ўжо скаваў мароз. І праз 10 месяцаў таго ж года: *"Высылаю па ўжо трошкі замерзлай зямлі фурманку з жытам у Вільню і, каб не страціць аказіі, пішу гэты ліст"* [35].

Калі я наведаў Шаўры, падумалася - якое ж гэта добрае месца, як блізка да Вільні, дзе жылі яго сябры і аднадумцы - пэўна Нарбут вельмі часта наведваў гэты горад. Аднак, у рэальнасці ўсё было не так. *"Не магу выбрацца ў Вільню, заўсёды нешта перашкаджае. Але калі я ў Вільні, дык цяжка вярнуцца дахаты, а ў мяне дома немагчыма без гаспадара"* [36], - пісаў гісторык 19 студзеня 1842 г.

У жніўні 1844 г. Нарбут паведамляў свайму сябру Аніцэту Рэніеру: *"Пра варшаўскі павадак знойдзеш у газеце. У нас на працягу 5 дзён перад нядзеляй быў страшны лівень, якога раней не бачылі, ён таксама і ў нас выклікаў патоп. Дарога на Вільню была затоплена, паштовым трактам мог праехаць толькі вершнік. У Віленскім Зарэччы здарылася жудаснае: млыны, дамы з дзецьмі пайшлі з вадой у Вілію. У Паўлава Кабылінскага*[37] *рэчка Мерачанка знесла мураваны бровар, пры гэтым быў страчаны і медны кацёл, які важыў 700 фунтаў. Ніхто ў нас не памятае такога павадка"* [38], - паведамляе Тэадор сябру чуткі з усяго краю.

**Паўсядзённы быт Нарбута ў вёсцы**

Гісторык звяртаўся да свайго сябра-доктара Рэніера таксама і з гаспадарчымі праблемамі: *"Ці знойдзецца для мяне садоўнік? Папярэдняму плаціў 20 рублёў срэбрам і жытло, нежанатаму даў бы 25 рублёў срэбрам у год. Зрабі такі запыт, каб праз некалькі тыдняў я мог ведаць, ці знойдзецца садоўнік. Парнік яшчэ не заклаў. Меў садоўніка з Гародні, але яго збаламуцілі"*[39].

10 траўня 1840 г. Нарбут паведамляе сябру-доктару Рэніеру, што ў яго вёсцы шмат хворых, ён чакае сябра ў госці і просіць прывезці лекі, асабліва ад ліхаманкі і гарачкі. Пра сябе паведамляе, што *"цалкам здаровы, жаўтуха пасля тваіх рэцэптаў прайшла. Калі ласка, купі тэрмометр, бо мой разбіўся. Трэба купіць звычайны, пасаджаны на простую бляху, галоўнае каб ён быў дакладны і меў надзейную шкалу. Мой чалавек возьме грошы ад Марціноўскага, каб выканаць некаторыя даручэнні"* [40]. Згаданы Марціноўскі - Антоні Марціноўскі, у свой час рэдактар "Дзённіка Віленскага" і "Кур'ера Літоўскага", уладальнік друкарні, выдавец шматтомніка Нарбута "Гісторыя літоўскага народа".

У першай палове XIX ст. усё насельніцтва нашага краю пакутавала ад смяротных эпідэмій, Тэадор Нарбут, зрабіў наступную занатоўку: *"У часы максімуму эпідэміі халеры, над левым берагам Дзітвы, у вёсцы Моўчадзь, жыў чалавек, які хаваў усіх памёршых, даглядаў хворых, але сам не заразіўся. Адвечны піяк, ён пры тым меў надзвычай здаровы страўнік. Мой падданы Ян Шымкевіч, ва ўзросце 40 гадоў, з'ядаў дзве лоевыя свечкі з хлебам як хлеб з маслам, фунт вэнджанай кілбасы і ўсё гэта яго страўнік пераварваў. Мяне нават могуць абвінаваціць у цвярджэнні, што страўнік чалавека можа працаваць, як страўнік звера. У адным лазарэце для хворых, медычны вучань Ленартовіч, расказаў мне, што ў 1831 г. у Вільні, калі захворвалі на халеру нават вартаўнікі і жаўнеры, якія тут прыслужвалі, ён у сваім аддзеле даваў сваім людзям па некалькі грам хініну, і ніхто з іх не захварэў, хоць іх было ў гэтым лазарэце да 20 чалавек"* [41].

2 кастрычніка 1840 г. Тэадор перадае падзяку доктару за адрамантаваны гадзіннік, *"чалавек які перадасць табе гэты ліст, Іцак Карантовер, верне табе 3 рублі за рамонт"* [42]. Падумалася, што ў той час вызначыць дакладны час, каб наставіць гадзіннік можна было толькі астранамічнымі сродкамі. Падчас побыту ў

[33] Kronika Rodzinna. 1888. № 9, 1 maja. S. 262-266.

[34] Kronika Rodzinna. 1888. № 11, 1 czerwca. S. 328-335.

[35] Там жа.

[36] Kronika Rodzinna. 1888. № 10, 15 maja. S. 294-300.

[37] Пра Паўлава, гл: Пра Паўлава, гл: Jerzy Hoppen. Rzeczpospolita Pawlowska // Slowo. 1938. № 334.; Хопен Ежы. Рэспубліка ў Паўлаве // Наша слова.pdf . № 4 (108), 24 студзеня 2024.

[38] Kronika Rodzinna. 1888. № 13, 1 lipca. S. 393-398.

[39] Kronika Rodzinna. 1888. № 9, 1 maja. S. 262-266.

[40] Там жа.

[41] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 11. Спр. 19.Арк. 123 - 123 адв.

[42] Kronika Rodzinna. 1888. № 9, 1 maja. S. 262-266.

Вільні, кішэнны гадзіннік можна было выставіць па вежавым гадзінніку, які ў свой чарод карэктаваўся віленскай абсерваторыяй. Але кішэнны гадзіннік - не хранометр, ён хутка назапашвае памылку. Цікава будзе адзначыць, што ўжо пасля смерці Тэадора Нарбута, калі дырэктарам віленскай абсерваторыі стаў Пётр Смыслоў, ён распачаў рэстаўрацыю адной з веж абсерваторыі і прадугледзеў на ёй месца для вежавага гадзінніка. Стары механічны гадзіннік дэмантавалі і перадалі ў падарунак віленскаму Свята-Духаваму брацтву. Паводле задумы Смыслова на вежы абсерваторыі ўсталявалі электрычны гадзіннікавы механізм фірмы "Рычы" з шатландскага Эдынбурга, які злучылі з астранамічным гадзіннікам абсерваторыі сістэмы Шэлтана, і такім чынам была гарантавана абсалютная дакладнасць адліку часу. Вялікі цыферблат вежавага гадзінніка асвятляўся 12 газавымі ражкамі, па гэтым гадзінніку можна было спраўджваць час удзень і ўночы, што гараджане і госці горада рабілі з відавочным задавальненнем. У той жа час у Вільні прыжылася традыцыя - адзначаць поўдзень па мясцовым часе стрэламі з гарматы. Батарэю абсталявалі на Замкавай гары на пляцоўцы перад замкам Гедыміна. Каб з Замкавай гары разгледзець стрэлкі на вежавым гадзінніку абсерваторыі, астраномы выдалі ў карыстанне артылерыстам стары тэлескоп. Сігнальшчык з Замкавай гары назіраў у тэлескоп за цыферблатам і ў момант, калі стрэлкі гадзінніка паказвалі 12, даваў адмашку артылерыстам, і гук халастога стрэлу разносіўся па ўсім горадзе[43].

Думаю, што інжынер Нарбут, чалавек з добрай матэматычнай адукацыяй, валодаў дастаткова нескладанымі метадамі вызначэння дакладнага часу па сонцы і мог сам карэктаваць свае гадзіннікі. Тым больш, што з успамінаў яго дачкі я з задавальненнем даведаўся, што Тэадор па-сапраўднаму цікавіўся астраноміяй і нават меў невялікі тэлескоп: *"Ужо ў старым узросце, бацька, узброены падзорнай трубой, вечарам сядзеў на ганку і глядзеў на зоркі. Яго белая, доўгая барада і цёмны шлафрок рабілі яго падобным на нейкага астролага з малюнка"* [44].

У лісце ад 2 кастрычніка 1840 г., Тэадор Нарбут паведамляў, што ўчора быў першы дзень без дажджу - *"тры тыдні стаялі халады, і ішоў дождж, на нізінах небывалая паводка, пасеянае збожжа не расце, а запозненыя снапы гніюць. Няма ні восеньскай гародніны, ні насення кветак"*, - і далей: *"Раз ты так ласкава ставішся да мяне, я прашу знайсці час і паглядзець мэблю, якая прадаецца па аб'яве ў дадатку да "Кур'ера". Хачу купіць з дзесятак крэслаў, вялікую парадную канапу і дзве маленькія канапы ці шэзлонгі ў гасцёўню, два столікі, каб паставіць перад імі, і, можа, яшчэ што-небудзь такое. Каб даведацца пра кошт і дамовіцца, а можа і заплаціць - перш за ўсё за крэслы і канапу, пан Марціноўскі будзе ласкавы даць вам грошы ці гарантаваць аплату"* [45]. Праз два тыдні гаспадар маёнтка Шаўры тлумачыць: *"Мэбля мне патрэбная, аднак у віленскіх сталяроў яна занадта дарагая, я ўжо знайшоў сталяра і вясной змагу яго наняць. Аднак было б добра купіць мэблю на танным аўкцыёне, але прашу купіць яе толькі, калі будзе па-сапраўднаму танна. Адну канапу ці сафу, з тузін лёгкіх крэсел, маленькі, нізкі камод чырвонага дрэва, два шэзлонгі і больш нічога"* [46], - як бачым, гісторык заўсёды быў гатовы эканоміць на бытавых рэчах, да якіх, здаецца, ставіўся абыякава.

Гаспадар Шаўроў імкнуўся ўдасканальваць сваю гаспадарку, 20 кастрычніка 1840 г. ён пісаў: *"На сваёй гаспадарцы я зрабіў дзіўнае назіранне, што белыя цукровыя буракі (ці шлёнскія), на маёй зямлі ў Шаўрах пастаянна незвычайна добра родзяць. Ужо некалькі гадоў, як быццам на пробу, сею іх і штогод атрымліваю добры ўраджай. Напрыклад, у гэтым годзе яны нідзе не ўрадзілі, а ў маім нізкім агародзе, у вельмі вільготнае лета, сабралі 5 бочак з паловы гарнца насення, але, па-праўдзе, буракі былі малыя. Раскажы свайму брату пра гэта. Ці можна мне з ім паразмаўляць самому, можа мы закладзём якую цукровую вытворчасць?* [...] *Ты казаў мне, што твой брат ведае, як мураваць прамысловыя будынкі, напрыклад ёмістасць для бровара. Папрасі яго, каб даслаў мне інфармацыю з малюнкамі пяром ад рукі пра тое, як вымураваць дужую ёмістасць. Добра было б зрабіць гэта за тыдзень. Бо, буду мураваць, а маразы ўжо блізка"*, і дадае: *"Не паверыш, якую шкоду нарабілі нам дажджы. Лугі пазаліваныя, сена няма, гародніна, авёс, гарох, грэчку - з поля гнілымі звозілі. Бульбы мала сабралі. Будзе голад у нашых сялян. Трэба запасацца хлебам, прадаваць няма чаго"* [47].

Думка пры выраб цукру не пакідае інжынера Нарбута, і 27 кастрычніка 1840 г. ён зноў нагадвае сябру: *"Памятай, што трэба пагаварыць з тваім братам, у якога я хацеў бы папрасіць парады, нават дапамогі і супрацоўніцтва ў справе пабудовы цукровай фабрыкі, якую патрабуе мой добры ўраджай буракоў. Я такі чалавек, які калі нешта задумаў, дык распачынаю справу развэжліва, а калі яна пачынае атрымлівацца, актыўна бяруся і заканчваю. Зараз гэта фабрыка ў маёй галаве, і я хачу знайсці знаўцу гэтай справы. На бяду з табой і тваім братам мы не жывём у адным горадзе, але спадзяюся, што справа атрымаецца"*, - у тым жа лісце ён перадае прывітанні сябру сваёй сям'і і распавядае пра цікаўнасць старэйшага сына Людвіка да біялогіі: *"Калі гэта пішу, прыйшла маленькая*

[43] Лаўрэш Леанід. "І зорнае неба над галавой…": Нарысы з гісторыі астраноміію Мінск, 2013. С. 109.
[44] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 11. Спр. 19. Арк. 82.
[45] Kronika Rodzinna. 1888. № 9, 1 maja. S. 262-266.
[46] Там жа.
[47] Там жа.

*Ёгалька*[48]*, а потым Крысціна*[49] *спытала, ці пішу я зараз пану доктару? Адказваю: "Так", - "Тады вельмі прашу яму кланяцца і дзякаваць, што ўзяў Эдварда пад сваю апеку і робіць яму дабро". Ёгалька таксама робіць рэверанс і просіць кланяцца. Людвісь усё памятае і скардзіцца, што матылі памерлі. Меў тры прыгожыя вусені, з якіх ён расціў матылёў, але 2 уцяклі са шклянкі, трэці ператварыўся не ў матыля, а ў ляльку, і ён бядуе, што яна непрыгожая і мёртвая. Сказаў яму, што ўвесну з яе будзе матыль, але ён не верыць, што з мёртвага можа паўстаць жывая істота"* [50].

Дачка Тэдора Манчунская пісала, што з-за недахопу сродкаў многія планы яе бацькі, пацярпелі крах, хоць вёска, якую ён атрымаў у спадкі і ўласная праца, дазваляла жыць без даўгоў. Нарбут значна палепшыў гаспадарку, значна павысіў даходы, але грошай усяроўна не хапала, каб рэалізаваць планы гаспадара: *"Маці казала мне, што ў маладосці бацька любіў на раніцы зрывацца з ложка, каб пешкам ішоў аглядаць сад, праверыць, як скасілі луг, ці не пашкодзіў хтось прышчэпленую грушу. Потым праз поле ці луг вяртаўся і сядаў за малы драўляны столік, а вакол яго, на падлозе, ляжалі паперы і кнігі, ён пісаў, бо не меў другога стала і шафы. Пры падзеле з братам успадкаваў ён руіны і пусткі, але хацеў мець менавіта гэтую, а не іншую вёску. Бо карыстаўся тут блізкасцю Вільні да Шаўроў (яшчаркі па-летувіску), вёскі, якая была яго калыскай.*

*З-за сядзячай працы рабіў перапынкі - рэзаў на камяні, лежачы ў ложку перакладаў Дон Кіхота, смяяўся сам з сабой ці падчас чытання кніжак.*

*Не раз думала пра тое, як бацька мог з усім спраўляцца? Меў дастатак і дабрабыт. У мае часы ў нас ужо нічога не бракавала, меліся гаспадарчыя запасы, было быдла, коні, было ўсё неабходнае. […] Бог абараняў працу майго бацькі, бо на працягу ўсяго яго жыцця не было ні перуна, ні граду - усе буры пачаліся толькі, калі бацька мусіў пакінуць свой дом, каб памерці, маці выслалі, аднаго брата забілі, другога саслалі ў Сібір, а я жыву ў Францыі. Пасля смерці бацькі пярун спаліў стайню, якая стаяла ў самай сярэдзіне, а зямлю вакол двара аддалі сялянам"* [51].

На пачатку 1841 г. Нарбут пісаў сябру-доктару: *"Святы мы правялі дома. На двары доўгія завеі і буры, і ўсё бліжэй голад, таму не хочацца гучных забаў. Дзякуючы Богу, яшчэ маю трошкі здароўя"* [52]. Праз тры тыдні: *"Падобна, што гэтай зімой у Вільні не буду, бо, па-першае: гаспадарка, па-другое: пахаванне брата*[53] *і сямейная жалоба, - усё гэта перашкаджае, да таго ж і грошай мала, бо нічога з прадуктаў не прадаў"* [54].

Слова "голад" неаднаразова гучыць у перапісцы Нарбута, і ён думае, як ўратаваць сялян. У той час у Еўропе шырока абмяркоўваліся рэцэпты так званага "румфордскага супа", напрыклад, у 22-й главе першага тома "Капіталу" Карла Маркса знаходзім: *"Пяць фунтаў ячменю, пяць фунтаў кукурузы, на 3 пенсы селядцоў, на 1 пенс (1 пенс = 1/240 фунта стэрлінгаў) солі, на 1 пенс воцату, на 2 пенсы перцу і зеляніны, разам на суму 20 ³/₄ пенса атрымліваецца суп на 64 чалавекі"*. Маркс прыводзіць гэты рэцэпт як прыклад таго, якімі спосабамі прагныя капіталісты імкнуцца танней пракарміць сваіх працоўных, і называе імя аўтара: *"Гэта адзін амерыканкі гаварун, які атрымаў баронскі тытул - янкі Бенджамін Томпсан, ён жа граф Румфорд"*. Наш Тэадор Нарбут таксама зацікавіўся гэтым супам: *"Нашы сяляне ўжо пакутуюць ад голаду. Я вырашыў паспрабаваць прыгатаваць румфордскі суп і, перабіраючы кнігі, знайшоў цэлы трактат пра гэты дабрачынны суп. Перакладаю ... для Вільні: здаецца за 2 грошы кожны чалавек можна добра пад'есці. Хачу надрукаваць пра гэта брашуру і, каб лепш ведаць цэны ў Вільні, пасылаю запіску, у якую, калі ласка, у канцылярыі ратушы выпішы цэны і дашлі мне, а я хутка дашлю рукапіс"* [55], - пісаў гісторык 15 лютага 1845 г. Праз некалькі тыдняў ён паведаміў свайму сябру пра вынік прыгатавання супу: *"Пра суп для сялян. Пробы былі паспяховымі, але я яшчэ не дапісаў рукапіс пра гэтую міласэрную справу. Зраблю кароткае апісанне і аддам у газеты. Цяжка нават уявіць, покуль сам не ўбачыш, колькі можа даць гэтае вынаходніцтва Румфорда!"* [56].

Наступныя фрагменты з лістоў Тэадора Нарбута можна нават не каментаваць, той хто з большага ведае грамадскія настроі і праблемы таго часу, хто на сабе адчуў наша заходнебеларускае надвор'е - заўсёдную шэрую восень, той зразумее пачуцці глухога і таму засяроджанага на сябе чалавека. Багатая перапіска гаспадара Шаўроў паказвае, што нават для яго - якім бы адукаваным ён ні быў, як бы добра ні ведаў законы прыроды, як бы ён ні цікавіўся гаспадарчымі навінкамі - сумяшчаць творчасць і гаспадарку было вельмі цяжка. Голад, падаткі і рэкруты. Смерць родных і сусе-

[48] Дачка гісторыка Яна.

[49] Жонка гісторыка.

[50] Kronika Rodzinna. 1888. № 9, 1 maja. S. 262-266.

[51] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 11. Спр. 19. Арк. 79 адв - 83.

[52] Kronika Rodzinna. 1888. № 10, 15 maja. S. 294-300.

[53] Здаецца, я больш нідзе не бачыў інфармацыі, што брат Тэадора - Ксаверый Нарбут, які нарадзіўся ў 1787 г., памёр на пачатку 1841 г.

[54] Kronika Rodzinna. 1888. № 10, 15 maja. S. 294-300.

[55] Kronika Rodzinna. 1888. № 13, 1 lipca. S. 393-398.

[56] Там жа.

дзяў, безграшоўе, пажары, пастаянная барацьба з прыродай - сядзібу, размешчаную ў нізіннай, бязлеснай мясцовасці, знясільвалі, калі не засуха, дык моцныя дажджы. А гэта значыла толькі адно - што хлеба не будзе.

6 снежня 1842 г.: *"Парушыўся ў нас сезонны клімат гэтак жа, як і людскія норавы. Ні зімы, ні восені - восенню зіма, а зімой - ні тое, ні сёе. Можа з-за дэфармацыі прыроды ідзе і маральная дэфармацыя. Няма сёння ў нас нічога добрага. Падаткі, утрыманне магазінаў* (дзяржаўных складоў з харчаваннем - *Л. Л.*) *і выплаты ў скарб перавысілі 4 рублі срэбрам з сялянскай душы, гандаль паралізаваны, упадак Вільні, пажары, голад і беднасць, народ хварэе, памірае, і калі так пойдзе і далей, дык і адсутнасць навукі для моладзі будзе мець свой уплыў на маральнасць і асвету. О, бедная Літва! Да чаго ты прыйдзеш!"* [57].

20 снежня 1842 г.: *"Выправіў у Вільню трохі збожжа, бо цалкам бракуе грошай, якія патрэбны для гаспадаркі. З новага года мы разам з Наваградскім паветам будзем належаць да Віленскай губерні. … Падаткі і корчмы бязмерна спустошылі кішэню, а яшчэ да гэтага аддаць рэкрута каштуе да 15 чырвоных злотых за кожнага"* [58]. Насамрэч, сталася трошкі не так - Наваградскі павет з Гарадзенскай перайшоў у Менскую губерню, а Лідскі - у Віленскую.

21 красавіка 1843 г.: *"Выберуся на кірмаш у Вільню, як толькі мая кішэня будзе добра адчуваць сябе, бо сёння яна занадта лёгкая. Вазьму з сабой яшчэ экземпляры "Гісторыі…", якія ў мяне засталіся, можа прадам"* [59].

23 ліпеня 1844 г.: *"Ідзе дождж дык дождж! Калі гэта не пачатак патопу, дык пачатак голаду і мору. Але так не паўсюдна: кажуць, што на поўдзень ад нас, за Нёманам, надвор'е добрае і ўраджай нядрэнны"* [60].

4 сакавіка 1845 г.: *"Запусты прайшлі так добра, як толькі магчыма ў нашым стане"* [61].

29 верасня 1845 г.: *"Сумнай для мяне навіной стала смерць с. п. Юстына Нарбута*[62]*, бо стары меў моцнае здароўе і хуткая дапамога добрага лекара магла б яго ўратаваць. Шляхетная Каміла 2 верасня пісала мне, што яе бацька вось ужо 10 дзён як хворы, яна хацела ведаць, ці не гасцюеш ты ў мяне ў Шаўрах, і я парадзіў ёй паслаць па цябе ў Вільню. Развітаўся з нябожчыкам 14 верасня"* [63].

Калі-нікалі Нарбута ахопліваў сапраўдны адчай, 20 студзеня 1846 г. ён піша: *"О, Божа! Як тут глуха на вёсцы! Каб не кніжкі і адвечныя справы Боскія і людскія, згінуў бы ад нудоты ў гэтыя вартыя жалю часы"* [64].

Думаю, што Тэадор Нарбут, як і кожная творчая асоба, калі адчуваў, для чаго ён жыве, разумеў, што павінен зрабіць, што ніхто акрамя яго гэтага не зробіць, што ён павінен зрабіць тое, для чаго прыйшоў на гэты свет, павінен выканаць свае жыццёвае прызначэнне. Падобнае разуменне ўласціва творчым асобам і дапамагае ім жыць.

28 студзеня 1845 г. Тэадор Нарбут пісаў сябру: *"… як толькі выврашу хатнія справы, хачу быць у Вільні. Мне даручылі працу начарціць план фасада і г. д. касцёла, які маюць будаваць у Эйшышках. А таксама зрабіць разлік матэрыялаў, работнікаў і коштаў. Таму, нягледзячы на ўзрост, давялося ўзяць у рукі цыркуль і пэндзаль. Удалося прыдумаць прыгожую форму для Панскай святыні, гатовыя ўжо малюнкі даслаў кс.-біскупу Каліноўскаму, а падлікі толькі ўчора закончыў. Паедуць яны ў Пецярбург"* [65]. Вядома, што мураваны касцёл Ушэсця Хрыста ў 1847-1852 гг. з адасобленай ад яго званіцай, вышынёй у 40 м, быў пабудаваны па праекце Тэадора Нарбута.

Зразумела, што Тэадор Нарбут працаваў не ўвесь час, з перапіскі можна даведацца і пра яго адпачынак. У архіве яго дачкі ёсць верш Нарбута пра казіно ў Лідзе, напісаны ў 1823 г., дзе ён без сумнення бываў на кантрактах ці з іншай нагоды[66]. Рускі афіцэр Андрэй Розен апісаў адпачынак у гэтай лідскай установе ў 1821 г.: *"У Лідзе ў святочныя і нядзельныя дні арганізоўваліся забавы* […]. *Для павелічэння танцавальнай залы разабралі сцяну і злучылі два сумежныя пакоі. У выніку, у сярэдзіне залы ўтварылася невялікая ўпадзіна, і мы, танцуючы вальс, уздымаліся ўверх і ўніз, але гэта не перашкаджала танцам і весялосці пад музыку яўрэйскага аркестра і пры святле сальных свечак. Як заўжды танцы скончыліся на світанку…"* [67].

Верагодна, у той час ужо немалады і глухі гісторык не надта цікавіўся танцамі, але Тэадора Манчунская падае ў сваім рукапісу яго вершаваны тэкст на матыў паланэза[68], які Нарбут танчыў сам і любіў больш за ўсе іншыя танцы: *"Любімай музыкай майго цалкам пазбаўленага слыху таты быў паланэз. З-за слыху ён цалкам перастаў чуць музыку, хоць раней сам граў на*

[57] Kronika Rodzinna. 1888. № 11, 1 czerwca. S. 328-335.

[58] Там жа.

[59] Там жа.

[60] Kronika Rodzinna. 1888. № 12. 15 czerwca. S. 356-359.

[61] Kronika Rodzinna. 1888. № 13, 1 lipca. S. 393-398.

[62] Пра Юстына Нарбута, гл: Лаўрэш Леанід. Юстын Нарбут // Наша слова.pdf № 43 (95), 25 кастрычніка 2023.

[63] Kronika Rodzinna. 1888. № 13, 1 lipca. S. 393-398.

[64] Kronika Rodzinna. 1888. № 14, 15 lipca. S. 425-430.

[65] Kronika Rodzinna. 1888. № 13, 1 lipca. S. 393-398.

[66] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 11. Спр. 19. Арк. 23 адв.

[67] Успаміны пра Лідчыну на пачатку XIX ст. // Лідскі Летапісец. 2020. № 2(90). С. 72.

[68] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 11. Спр. 19. Арк. 21.

*скрыпцы. У яго памяці засталіся толькі такты паланэза, і ён часта яго спяваў, пры гэтым пытаўся ў нас, ці не фальшывіць? Паказваў нам, як раней танчылі, як раней здымалі шапку перад дамай, прыкленчваючы пры гэтым і абапіраючыся на карабелю*[69]*, і ні адны імяніны ў нас ці збор гасцей не абыходзіліся без таго, каб наш бацька не загадваў граць паланэз. Ён не чуў музыку, але вёў даму ў першай пары праз усе пакоі і ў апошнім паварочваў"* [70].

Тэадор Нарбут усё жыццё пісаў вершы, частку з якіх пакінула ў сваім архіве яго дачка Тэадора Манчунская, але пісаў "для сябе" і не лічыўся добрым паэтам, яго дачка ўспамінала: *"Мой бацька нарадзіўся яшчэ пры падзелах, а яго лютня нарадзілася ў 1798 г. ва ўзросце 14 гадоў, хоць яе і немагчыма параўнаць з лютняй Адама [Міцкевіча] …"* [71], - верагодна свой першы верш Нарбут напісаў у 14 гадоў.

Для гісторыка, як і для іншых асоб, перапынкамі ў бытавой нудзе былі розныя здарэнні, пра якія ён таксама пісаў свайму сябру. 30 жніўня 1842 г. Нарбут паведаміў доктару пра дзіўную падзею, якая раней адбылася ў Лідскім павеце: *"Жыхар Лідскага павета Якімовіч узяў у арэнду па-францішканскі кляштар і жыве там ў келлі гвардыяна. Ён хацеў перарабіць спальню і за старой абіўкай знайшоў лацінамоўны рукапіс, напісаны вельмі старым почыркам, у якім меўся рэцэпт нейкага таямнічага спірту. Можа гэта быў рэцэпт алхіміка Твардоўскага ці Парацэльса? Захацеў паспрабаваць. Самым цяжкім было знайсці дзяўчыну. Знайшоў, наладаваў апарат, на які ў пэўнай позе села дзяўчына з нейкімі зёлкамі ў руках і з вянцом з зёлак і пёраў птушкі савы на галаве. Справа адбывалася ў поўнач. Тым часам апарат нагрэўся, колбы і рэторты ўзарваліся і разарвалі дзяўчыну на кавалкі. Сам Якімовіч атрымаў апёкі, ад якіх памёр, кляштар ледзь уратавалі. Гэта адбылося ў Лідскім павеце, у ліпені, у кляштары Шайбакполе"* [72]. Інфармацыю пра падзеі ў Шайбакполі гісторык прасіў перадаць аптэкару Савіцкаму.

Пра гэты выпадак, Нарбут напісаў у сваёй кнізе[73]. Са спасылкай на Нарбута, паведамляў пра яго і Міхал Шымялевіч: *"Ён (Якімовіч) пасля закрыцця кляштара францысканцаў у Шайбакполі Лідскага павета атрымаў у валоданне ад скарбу фальварак з сялянамі і гаспадарскія пабудовы былога кляштара, дзе і жыў. Падобна, што рамантуючы будынкі, ён знайшоў на кляштарным паддашшы, заваленыя рознай непатрэбнай мэбляй старыя паперы і стосы друкаваных кніг. Кнігі і паперы былі ўжо збуцвелыя і паедзеныя мышамі. З гэтых крыніц і быў напісаны біяграфічны нарыс біскупа. Таксама быў там збор рэцэптаў і сакрэтаў алхімічных, але гаспадар мне іх не паказваў. Згодна з нейкім рэцэптам, (Якімовіч) хацеў зрабіць нейкі бальзам. Для гэтага, як патрабаваў рэцэпт, ён знайшоў цнатлівую дзяўчыну ва ўзросце 18 гадоў. Уважліва вывучыўшы паперы, алхімік развёў агонь у пустых склепах пад былым касцёлам, пры гэтым агні прыставіў флягу ці шкляную колбу, а сам разам з дзяўчынай раздзеліся дагала і пільнавалі начынне колбы, якое складалася з гаручых матэрыялаў. Хутка колба лопнула, адбыўся моцны выбух агню, ад чаго сам алхімік і дзяўчына атрымалі апёкі, ад якіх хутка памерлі. Гэта было ў 1837 г. Якімовіч у гэты час меў 35 ці 37 гадоў узросту"* [74].

З ліста ад 30 жніўня 1842 г. даведваемся пра падзеі, якія ў той час абмяркоўвала ўся Літва: *"У нас расказваюць пра празарліўцу пані Грасыльду, некаторыя ездзілі і казалі пра цуды. Што пра яе ў вас кажуць?"*[75].

Да гэтай тэмы Нарбут зноў вяртаецца праз паўтара года, вось фрагмент з ліста ад 7 снежня 1843 г.: *"У вясковым грамадстве ідуць размовы пра празарліўцу Грасыльду Наркевіч, якую заможны Эйсмант прывёз у свой маёнтак пад Гародню і заняўся яе справамі. І з таго часу адбываецца цуд за цудам. Але падумай і скажы сваім разумным калегам-лекарам, што і раней былі празарліўцы, хоць нікому і не сніўся жывы магнетызм* (гіпноз - *Л. Л.*)*. Паглядзіце толькі запісаны і надрукаваны ў Нясецкага ("Гербаж Польскі" Т. IX. С. 162-170.) вынятак з жыцця Зоф'і Тамінскай з Тыліцкіх (памерла ў Торуні 8 лістапада 1633 г.). Калі выключыць перабольшванні, наведванні д'ябла, вядзьмарства і дзіўнае бачанне сітуацыі яе біёграфам езуітам Бжэхвам, дык усяроўна яна будзе сапраўднай празарліўцай, якая з'явілася нам і сёння. Рэч вартая ўвагі. І добра было б знайсці кніжачку Бжэхвы, тытул кніжкі ёсць у Нясецкага, і яна мусіць быць недзе ў бібліятэцы якога з віленскіх кляштараў. Вось, каб хто пашукаў! Бо Нясецкі перадаў толькі змест, а можа і сам нешта прыдумаў"* [76], - як бачым Нарбут дастаткова сур'ёзна ставіўся да "празарліўцы" і пры яго эрудыцыі, ведаў падобных, знаных у гісторыі, асоб.

Аднак артыкул у "Гарадзенскай губернскай газеце" ад 16 сакавіка 1844 г. у раздзеле ўрадавых абвестак, паставіў кропку на лёсе гэтай "празарліўцы": *"З некаторага часу сярод жыхароў Віленскай і Гарадзенскай губерняў, дзякуючы незвычайнай эфектыўнасці лячэння*

[69] Карабеля - крывая шабля, прыналежнасць параднага ўбору шляхціца, насілася на поясе пры жупане або кунтушы.

[70] Там жа. Арк. 21 адв.

[71] Там жа. Арк. 10.

[72] Kronika Rodzinna. 1888. № 11, 1 czerwca. S. 328-335.

[73] Гл: Pomniejsze Pisma historyczne. Wilno, 1856. S. 165-170.

[74] Цыт. па: Шымялевіч Міхал. Збор твораў. укл. Л. Лаўрэш. Гродна, 2019. С. 126.

[75] Kronika Rodzinna. 1888. № 11, 1 czerwca. S. 328-335.

[76] Kronika Rodzinna. 1888. № 12. 15 czerwca. S. 356-359.

*хвароб, якое на кожны маладзік рабілася падчас магнетычнага сну, стала вядома імя празарлівай шляхцянкі з Ашмянскага павета Віленскай губерні Грасыльды Наркевіч. Яна некаторы час жыла ў Гарадзенскай губерні ў мястэчку Воўпа. Найвышэйшым загадам з Пецярбурга быў прысланы адукаваны медык і пасля яго самых старанных назіранняў і доследаў, а таксама сумесных назіранняў разам з мясцовымі лекарамі на працягу двух маладзікоў, было выяўлена, што шляхцянка Наркевічова, якая перыядычна пакутавала нярвовай хваробай, не валодае ніякімі ўласцівасцямі празарліўцы і што прычынай распаўсюджвання чутак пра яе цуды была з аднаго боку народная схільнасць верыць ва ўсё звышнатуральнае, а з другога зацікаўленасць мужа гэтай жанчыны, які зарабляў грошы на наведвальніках. У выніку некалькіх незвычайных, але лёгкавытлумачальных выпадкаў з ёй і пайшлі пагалоскі пра цуды. Таму мясцовая ўлада, каб не дапусціць распаўсюду неабгрунтаваных чутак, выдала пастанову, якая забараніла збор цікаўных у Наркевічовай падчас яе нервовых прыступаў"* [77].

Тым не менш пры канцы 1846 г. ён зноў пытаецца ў доктара Рэніера: *"У нас кажуць, што ў кашарах, былым касцёле св. Ігнація, адбыліся нейкія цуды, якія вядомы ўсёй Вільні. Ці чуў пра іх? Пабожныя спевы, езуіцкая ютрань і г. д."* [78].

**Дзеці Нарбутаў**

Падобна, дзеці гісторыка не праяўлялі асаблівай цікавасці да гісторыі. Напрыклад, старэйшы сын Людвік Нарбут маляваў карты і перапісваў старыя дакументы толькі па загадзе бацькі, а цікаўнасць да старых кніг у малодшага сына Станіслава Нарбута (1853-1926) з’явілася толькі тады, калі яго бацька даўно ўжо памёр[79].

З ліста ад 3 жніўня 1845 г. даведваемся, што Тэадор Нарбут з 24 па 29 ліпеня быў у Вільні, *"памясцілі Людвіся і Алеся ў п. Рачковіча, настаўніка ланкасцерскай школы. Для дзяўчат прымаем гувернантку, ужо дамовіліся ў Вільні з паннай Хоўвальд"* [80].

Людвісь - знакаміты сын Тэадора Людвік Нарбут. Алесь - сын Алозій-Аляксандр, 1835 г. н. афіцэр арміі, удзельнік абароны Севастопаля, захаваліся яго лісты з хадайніцтвам за бацьку і маці і адказ Мураўёва-вешальніка. У 1864 г. ён выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-капітана. Далейшы лёс яго невядомы.

З жонкай Крысцінай з Садоўскіх (Krystyna z Sadowskich Narbuttowa, 1803-1899) Тэадор Нарбут меў ажно адзінаццаць дзяцей, трое з якіх памерлі ў раннім



***Людвік Нарбут***

дзяцінстве. Цікавая і нават сенсацыйная для тых часоў дэталь - адносіны Нарбута з Крысцінай былі афіцыйна ўзаконены толькі ў 1840 г. праз шлюб у Нацкім касцёле. У гэты час у сям'і падрастала ўжо пяцёра дзяцей (першынец Людвік нарадзіўся ў 1832 г. і да шлюбу бацькоў рос як Садоўскі)[81]. Тэадора Манчунская запісала аповед свайго бацькі, з якога бачна, што гісторык меў добрае пачуццё гумару: *"Нехта з гараджан ішоў каля руін Лідскага замка і пачуў адтуль галосную гаворку, а вядома было, што там часта чуліся галасы д'яблаў. Спалоханы гараджанін упаў пад мур - аказалася, што на гэты раз чутна была не размова д'яблаў, але з замка даносіўся скрыгат зубоўны, плач і лямант - новапрыбыўшы і цалкам няшчасны д'ябал, тлумачыў іншым прычыну свайго плачу: "Марачэўскі спавядаўся, а Нарбут ажаніўся", - вось чаму д'яблы скавыталі хорам. Марачэўскі быў хлусам і бязбожнікам, а пан Тэадор ажаніўся толькі, калі меў ужо 5 дзяцей. І страціўшы такіх грэшнікаў, д'яблы ўпалі ў роспач"* [82].

Заўважу, што Тэадор Нарбут хоць і любіў пагаварыць пра духаў, але быў вернікам і больш за ўсе іншыя святы, *"шанаваў і вельмі любіў дзень св. Казіміра, у гэты дзень, ён адзначаў і свята роду Ягайлавічаў.*

[77] Цыт. па: Gazeta Codzienna. 1844, № 125.
[78] Kronika Rodzinna. 1888. № 14, 15 lipca. S. 425-430.
[79] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 11. Спр. 19. Арк. 77 адв.
[80] Kronika Rodzinna. 1888. № 13, 1 lipca. S. 393-398.
[81] Reda Griskaite. Teodoras Narbutas, arba Apie tai, "kaip nereikia rasyti istorijos" // Lietuvos istorijos metrastis 2014 metai 2 / Lietuvos istorijos institutas. Vilnius: Lietuvos istorijos instituto leidykla, 2015. [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: https://www.zurnalasmetai.lt/?p=15588. Дата доступу: 01.02.2024.
[82] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 11. Спр. 19. Арк. 23 - 23 адв.

*Звычайна ў гэта свята над палямі ўжо бачылі жаўрука. Бацька купляў для нас абразкі гэтага святога бо ў яго сэрцы жыла любоў да св. Казіміра. Кожны год у гэты дзень я мусіла чытаць яму ў голас жыццяпіс і казанні, напісаныя кс. Скаргам. Потым я была моцна ўражана, што гэтага святога не вельмі добра ведаюць ва ўсім каталіцкім свеце"* [83]. Што не дзіва, бо св. Казімір - патрон гістарычнай Літвы, ён вельмі шануецца ў нас і мала вядомы ў астатнім свеце. У сучаснай летувіскай гістарыяграфіі Ягайла не ёсць вялікі герой, такой асобай з'яўляецца яго стрыечны брат Вітаўт. Таму, з аднаго боку, святкаванне Нарбутам дня роду Ягайлавічаў з'яўляецца цікавай адзнакай, але з другога боку, нацыянальны пантэон летувісаў у той час яшчэ не склаўся.

Пэўна, Тэадор і Крысціна Нарбуты ўзялі шлюб да кастрычніка 1840 г., бо з ліста ад 27 кастрычніка 1840 г., даведваемся пра новую ахмістрыню Шаўроў, якую завуць Юстынай (зразумела, што гаспадыняй дома раней была Крысціна): *"Я нідзе не быў. Пасля гэтых дажджоў заняты фабрыкамі. Вечарам з серады на чацвер у мяне быў прыпадак. З боку сада, злодзей выбіў шыбу і ўлез у пакой. Ён скраў са стала падсвечнікі, бо думаў, што яны срэбныя, насамрэч яны толькі маюць пакрыццё. Юстына пачула шум, падумала, што кот разбіў шкло, загадала падаць агонь, і кот на двух нагах, але без хваста ўцёк праз тую ж дзюрку, у якую ўлез. Не магу зразумець, адкуль узяўся такі смяльчак. Бо такога ў нашых краях ніколі раней не было"* [84]. Для смелай ахмістрыні і для гувернёра сваіх дзяцей, Нарбут купляў не танныя ў той час кнігі, гэтак 20 снежня 1842 г. ён прасіў доктара купіць для яе малітоўнік "Залаты алтарык" у прыгожай вокладцы[85], а 7 снежня 1843 г. даслаў цэлы спіс (рэестрык) кніг, якія жадаў мець "наш гувернёр" [86], які займаўся выхаваннем дзяцей гісторыка.

Вядома што гувернёрам у сям'і Нарбутаў быў паэт і этнограф Уладзіслаў Абакановіч. Са сваіх маладых гадоў ён быў сябрам Уладзіслава Сыракомлі (Людвіка Кандратовіча), любіў дзяцей і таму з ахвотай браўся за іх навучанне. Быў настаўнікам у сям'і Тэадора Нарбута ў Шаўрах, потым пераехаў у блізкую да Шаўроў Начу і навучаў маладога Вандаліна Шукевіча. Абакановіч сабраў вялікую колькасць этнаграфічных матэрыялаў, нейкую частку з якіх потым надрукаваў Шукевіч. Вось што ён пісаў пра гэтую важную для гісторыі Лідчыны постаць: *"Не трэба даказваць, наколькі важна для даследчыка развіцця культуры вывучэнне такіх праяў духу, як народныя вераванні, павер'і і забабоны. [...] Гэты матэрыял, у значанай ступені, належыць сёння ўжо нябожчыку Уладзіславу Абакановічу, некалі сябру Сыракомлі і таксама паэту, чые ўдалыя вершыкі, падпісаныя псеўданімам "Вл. з Заціша" былі вядомыя 30 гадоў таму чытачам розных часопісаў ("Opiekuna Domowego", "Przyjaciela Dzieci", "Tygodnika Mod" і інш.). Ён паходзіў са шляхты Троцкага павета, усей моцай сваёй душы любіў наш народ, у свой час быў разбуджаны Тышкевічымі, Кіркорам, Нарбутам (пад уплывам якога ён некаторы час знаходзіўся) і іншымі. Ён цікавіўся краёвымі справамі, што падказала яму неабходнасць збору вуснай народнай творчасці, якую ён і сам памятаў з дзяцінства і якую чуў падчас сваіх блуканняў па свеце.*

*Тут варта адзначыць, што не толькі сялянскія вёскі і засценкі дробнай шляхты забяспечвалі с. п. Абакановіча матэрыялам для яго збору - у сярэдзіне XIX ст. нават дворыкі і двары вышэйшай часткі землеўладальнікаў былі так жа прасякнутыя атмасферай забабонаў і павер'яў, як і ў часы палення ведзьмаў. І нават сёння не адна дачка шляхціца таксама прасякнута як верай у св. Андрэя, гэтак і верай у забабоны, і на вяселлі ў сяброўкі яна цягне вугал дывана, як і звычайная сялянка Кася, а шляхціц верыць у "злое вока", як і яго сусед, селянін Юрка.*

*Дзякуючы менавіта гэтаму, с. п. Абакановіч сабраў вялікую колькасць народных забабонаў выключна ў Віленскай губерні, і, калі б яго зборы захаваліся ў цэласнасці, яны былі б вялікім укладам у вывучэнне фалькларыстыкі. На жаль, у апошнія гады свайго жыцця ён перастаў цаніць тое, што калісьці было надзвычай дарагім для яго, і палічыўшы свой збор некаштоўным, шмат што з яго спаліў. Засталіся толькі рэшткі, якія трапілі ў мае рукі пасля смерці гаспадара.*

*Гэтыя рэшткі, якія складаюцца з павер'яў, забабонаў, вядзьмарстваў, варажбы і г. д., некалі здабытых с. п. Абакановічам сярод розных класаў нашага краю ...* [былі надрукаваны]." [87].

Дадам, што гувернёр дзяцей Нарбута і настаўнік Вандаліна Шукевіча Уладзіслаў Абакановіч, навучаў дзяцей граматыцы і каліграфіі, пісаў для іх вершыкі, якія вучылі дзяцей патрыятызму і дапамагалі разумець самыя цяжкія праблемы гісторыі, вучыў дзяцей любіць і разумець сапраўдную літаратуру.

Абакановіч застаўся ў Начы як сябар і амаль што член сям'і Шукевіча. Займаўся тут агародніцтвам, тут жа памёр і быў пахаваны. Таму, неабходна заўважыць, што ўсе этнаграфічныя матэрыялы Абакановіча належаць Лідскаму павету (які ў той час знаходзіўся ў Віленскай губерні) і нашаму беларускаму народу[88].

Трэба адзначыць, што дачка Вандаліна Шукевіча, збіральніца беларускага фальклёру Ванда-Аліна

[83] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 11. Спр. 19. Арк. 127 адв. - 128.

[84] Kronika Rodzinna. 1888. № 9, 1 maja. S. 262-266.

[85] Kronika Rodzinna. 1888. № 11, 1 czerwca. S. 328-335.

[86] Kronika Rodzinna. 1888. № 12. 15 czerwca. S. 356-359.

[87] Szukiewicz W. Wierzenia i praktyki ludowe w gub. Wilenskiej // Wisla. T. XVII. Z. 3. Warszawa. 1903. S. 265-280. Wisla. T. XVII. Z. 4. Warszawa. 1903. S. 432-435.

(28.11.1885 - 1911) выйшла замуж за ўнука гісторыка Тэадора Нарбута - таксама Тэадора Нарбута[89] (1881 г.н., сын Баляслава).

Вось такія асобы гуртаваліся вакол нашага гісторыка Тэадора Нарбута.

Не магу не заўважыць, што замілаванне нашай гісторыяй, ад Тэадора і Юстына Нарбутаў, сімвалічна, перайшло да яго суседа Вандаліна Шукевіча, той перадаў гэтую святую паходню пакаленню, якое групавалася вакол выдання "Лідская Зямля" (самым выбітным сярод іх быў Міхал Шымялевіч[90] - лідскі радны ад Таварыства беларускай школы) і ад іх, праз выбітных краязнаўцаў, рэдактара "Лідскай газеты" Аляксандра Жалкоўскага і майго школьнага настаўніка Анатоля Куляша, перайшла да нашага пакалення. Гэтак, на працягу больш за 200 гадоў, трымаецца непарыўная сувязь пакаленняў даследчыкаў гісторыі Лідчыны і будзе трымацца далей.

Ва ўспамінах дачкі Нарбута маюцца некалькі цікавых эпізодаў з жыцця сям'і ў Шаўрах: *"Бацька не любіў палявання, не дазваляў лавіць рыбу ў ставе і рацэ, якія яму належалі, таксама не было вольным выцінаць дрэвы ў гаях, а тым больш у садзе.*

*Ёсць адна важкая дэталь дзяцінства, якая добра захавалася ў маёй памяці. Людвік, як звычайна, з дзяцінства будаваў умацаванні і гуляў у вайну. Маладыя браты, мая сястра і я былі жаўнерамі, а пляц для ўмацаванняў знаходзіўся ў садзе. Мы пашыхтаваліся і хутка павінна была пачацца бітва. Я не выказвала вялікай адвагі, але як больш старэйшая па ўзросце была пастаўлена на муры з саломы - сам Людвік паставіў мяне за валы фартэцы.*

*Вал быў вышэй за мяне на галаву, і трэба было стаяць на падстаўцы. Каб яе зрабіць, Людвік ссек сякеркай галінку бярозы. У гэты момант бацька ішоў праз алею і ўбачыў гэта. У гневе ён закрычаў на Людвіка: "Ты не мой сын", - і пакрыўджаны пайшоў да сябе. Людвік плакаў за дрэвам, а яго жаўнеры стаялі ў роспачы. Усе не смелі прасіць у бацькі прабачэння, і толькі я, заахвочаная маці, без страху пайшла ў яго пакой. Я ўбачыла яго лагодны твар, добрую ўсмешку і папрасіла прабачыць віну Людвіка.*

*"Прывядзі яго сюды", - сказаў бацька мне. Я стала паслом добрай навіны, але Людвік доўга не мог паверыць у такое шчасце і потым заўсёды памятаў пра гэтае здарэнне.*

*Яшчэ адна камічная прыгода адбылася, калі я ўжо была паненкай. Франусь з чарэшні кідаў мне ягады, ён заўважыў бацьку, які ішоў у сад і сканфузіўся, бо на галінцы дрэва быў у ботах (гэта нішчыла дрэва), брат пахіснуўся і галінка зламалася. Тады ён крадучыся злез на зямлю і ўцёк. А я паспяшала спаткаць бацьку і накіраваць яго шлях у іншую частку саду. Бацька схамянуўся бы ад зламанай Франусем галінкі, і ён - ужо вялікі хлопец - меў бы цяжкія хвіліны.*

*Бо сыноў бацька трымаў грозна і сурова. Пасля вяртання з Каўказа, Людвік не мог выехаць з дому без згоды бацькі, а мусіў працаваць, маляваць карты і*




***Тэадора Маньчунская з Нарбутаў (Тося)***

[88] Магдалена Бломберг Мар'яна. Вандалін Шукевіч. Сын лідскай зямлі даследчык і грамадскі дзеяч (1852-1919). Варшава - Ліда, 2010. С. 52.

[89] Там жа. С. 55.

[90] Гл: Шымялевіч Міхал. Збор твораў / укл. Л. Лаўрэш. - Гродна: ТАА "ЮрСаПрынт", 2019.; Лаўрэш Леанід. Пра Міхала Шымялевіча: Крэскі да біяграфіі найлепшага гісторыка горада Ліды // АСОБА І ЧАС. Беларускі біяграфічны альманах. Выпуск 6. Мінск, 2015. С. 133-165.; Лаўрэш Леанід. Міхал Шымялевіч. Крэскі да біяграфіі найлепшага гісторыка горада Ліды // Лідскі летапісец. 2016. № 1 (73). С. 45-58. ; Лаўрэш Леанід. Новае пра лепшага лідскага гісторыка XX ст. Міхала Шымялевіча // Лідскі Летапісец. 2021. № 1 (93). С. 15-17.

*абавязкова перапісваць [тэксты]. Ніхто з братоў не смеў усміхацца пры бацьку, а ні тым болей паліць тытунь ці ўзяць каня. Дочкі, і асабліва я, мелі іншыя прывілеі. Мы маглі вольна сядзець пры ім, ён браў нас на рукі і цалаваў, мы часам асмельваліся гладзіць яго бараду ці цалаваць у твар. Прывучаў нас да працы, яму спадабалася, калі мы рабілі малыя ватнія падушачкі для іголак і інш., такія малыя падарункі ахвотна прымаў ад нас і збіраў іх калекцыю. Яго заўсёдны добры гумар і сістэмнае стаўленне рабіла нас пэўнымі ў тым, што бацька нас любіць і зычыць нас дабра, але ён не цярпеў нашыя капрызы і фантазіі"* [91].

Адзначу, што ўсе бацькі заўсёды строга ставяцца да сваіх сыноў, бо інтуітыўна жадаюць, каб з іх выраслі нераспешчаныя мужчыны, і наадварот, любяць і песцяць сваіх дачок. Пра такое стаўленне да сваіх дзяцей, можна прачытаць у розных успамінах, напрыклад, з ўспамінаў Алены з Іваноўскіх даведваемся, што сыны гаспадара маёнтка Лебёдка ў Лідскім павеце, запомнілі свайго бацьку Леанарда Іваноўскага (будучага тайнага дарадцу) негаваркім і строгім, ён любіў і песціў толькі сваю дачку Алену (у замустве Скіндар), а да сыноў ставіўся сурова, і яны яго нават баяліся[92]. Другім па ўзросце сынам ў сям'і Іваноўскіх быў знакаміты Вацлаў.

Улюбёным месцам адпачынку дзяцей Тэадора Нарбута была крыніца недалёка ад маёнткавага дома: *"Крыніца! Прадмет вялікіх намаганняў майго бацькі, бо з яе чэрпалі самую здаровую ваду для піцця і для гарбаты. Да яе вяла выбрукаваная сцежка паміж вольхамі, якія здалёк рабілі ўражанне быццам бы дубовага гаю. Гэта прыгожая альшына ў маёй маладосці стварала непраходны і небяспечны зялёны гушчар, у якім было шмат малінаў і парэчкаў. Раскоша для дзяцей! Якая гэта была радасць, калі каму-небудзь з нас давяралі татаў кубак, каб зачэрпнуць і прынесці яму крынічнай вады - гэта заўсёды было сапраўднай узнагародай за нашы поспехі ў навуках ці, часцей, у працы. Калі я апускала кубак на дно крыніцы, дык была такая шчаслівая, што мяне нават не вабіла ідылія навокал. Крыніца была агароджана плотам, сплеценым з галля, ад завеі і лісця, яна была празрыстая, як люстэрка. Вузенькі раўчук цёк з яе да бліжэйшай рачулкі-свавольніцы.*

*Улетку на Купалу, вечарам мы ўбачылі страшную непрыемнасць - камяні ў крыніцы, і браты мусілі яе ачышчаць. Людвік звыкла кіраваў гэтымі работамі. Нашы вольхі былі слізкімі, і таму ручнікі і сукенкі хутка пафарбаваліся ў зялёны колер.*

*Мы тут бавілі час, маглі купацца, і рэха далёка разносіла нашы спевы, далей, чым цякла наша рачулка. За 200 крокаў ад дома раслі лілеі і нават бэз. Любімыя вольхі і крыніца!"* [93].

Згадвае Тэадора Манчунская пра крыніцу і ў часы паўстання 1863 г.: *"У час паўстання, ці зоркі мне падказалі, ці знаёмыя гукі пачула маё вуха, я знайшла тут брата Баляслава. Жаўнераў, якія яго шукалі, гэтае месца з вольхамі не зацікавіла, бо з боку выглядала, як балота. Яны бегалі навокал і шукалі слядоў на вытаптанай сцежцы, а каля крыніцы спакойна сядзеў Болюсь, ён непакоіўся толькі за нас.*



***Станіслаў Нарбут, малодшы сын Тэадора Нарбута***

*Не раз я паіла там паўстанца і яго каня, за што мяне назвалі Рэбекай ці добрай самарыцянкай. Неяк мая сяброўка, не ведаючы пра крыніцу, выпадкова дайшла да яе і ўсхвалявалася, бо ўбачыла нечаканае відовішча. З таго часу яна ўсё зразумела і пачала добра мне дапамагаць. Адзін раз мы панеслі два збанкі - адзін з ежай, а другі пусты, нібы па ваду, на выпадак жаўнераў. Але не знайшлі нашых згаладалых ні каля крыніцы, ні каля ракі і таму больш асцярожна пайшлі далей. Ідзём, як быццам па матылі ці ў ягады. Ідзём і прыслухоўваемся. Мой малодшы брат Баляслаў ужо нейкі час назіраў за намі, і, убачыўшы ва ўсім гэтым нешта камічнае, засмяяўся і закрычаў па-маскоўску: "Что вы делаеце?" Мы адразу схавалі збаны ў лесе і праз некалькі хвілін выйшлі з пустымі рукамі. Не дзіва, што мне немагчыма забыць гэтае месца, бо хутка, у наступныя дні, Людвік павёў паўстанцаў на слаўны бой.*

*Я выратавалася праз уцёкі, і перад маімі вачамі часта паўстае тая хвіля, яна прыходзіць, яна не адпу-*

---

[91] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 11. Спр. 19. Арк. 76 - 77 адв.
[92] Лаўрэш Леанід. Алена Іваноўская // Маладосць. 2019. № 8. С. 20.
[93] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 11. Спр. 19. Арк. 70 адв - 71 адв.

*скае мяне і нават ў ва сне я ніколі не вагаючыся, выскокваю ў сад і бягу да крыніцы. Потым я заўсёды буду жыць паміж чужых людзей"* [94].

**Тэадор Нарбут - прыхільнік "арганічнай працы"**

Звяртаюць на сябе наступныя радкі Тэадора Нарбута з ліста да доктара Рэніера: *"Я хацеў далучыцца да выдавецтва Пшаздзецкага і Грабоўскага, але мае мецэнаты - тыя, хто дае мне матэрыялы, на гэта не згодны. Яны толькі жадаюць, каб Літва была асобнай, бо палякі мелі ці маюць звычку ўзвышацца над намі, ліцвінамі, і нібыта прымяншаюць значнасць большай часткі нашых тэкстаў"* [95]. Як бачым, Нарбут меў уплывовых мецэнатаў, мэты якіх не зусім супадалі з мэтамі іншых, знаёмых яму, асоб. Варшаўскае выданне, у якім была надрукаваная перапіска Нарбута з Рэніерам, пракаментавала думку гісторыка наступнымі словамі: *"Крыніцы да польскай гісторыі" (Zrzodla do dziejow polskich...), якія выдавалі Пшаздзецкі і Грабоўскі, а кіраваў Мікалай Маліноўскі, наогул, не заслугоўваюць такіх ацэнак. Верагодна, "мецэнаты" нават не бачылі выданне, супраць якога выступалі"* [96]. Але, усё ж пакінем за Нарбутам і яго атачэннем права на асабістае меркаванне, тым больш, што аналагічная думка выказваецца гісторыкам яшчэ ў адным лісце да доктара Рэніера: *"Праз пасланца я атрымаў ліст з літаратурнымі заўвагамі, якія знаходжу справядлівымі, хоць і крыху перабольшанымі. Наша літаратура заўсёды знаходзілася ў дрэнным стане і сама сабе рабіла перашкоды для аднаўлення нават у цудоўныя часы Жыгімонта Аўгуста. Сёння, разам з упадкам народа, не дзіва, што, нягледзячы на намаганні адпаведна настроеных людзей, ёй цяжка стаць на ногі. Мае думкі цалкам у мінулым, і, можа, таму я не бачу добрай будучыні, але, можа, я і пішу глупства.*

*Польскія гісторыкі і даследчыкі заўсёды нас, ліцвінаў, прыніжалі і прыніжаюць, нават сёння, апісваючы нашых герояў, Крашэўскі*[97] *перайначвае імёны: з Міндоўга зрабіў Міндаўса - так у нас сабак называюць. Яго дзецям ён дае нейкія неверагодныя імёны і нерыфмаванымі, дрэннымі вершамі, расказвае пра істоты, якія нікому ў нашым краі нават і не сніліся. Дык вось таму, з-за гэтых і падобных прычын, трэба збіраць помнікі літоўскага духу і паказваць, што мы іх шмат маем і яны лепшыя за польскія"* [98].

Вядома, што Тэадор Нарбут быў прыхільнікам так званай "арганічнай працы". Ідэі "арганічнай працы" былі распрацаваны польскімі пазітывістамі ў XIX ст. Пад "арганічнай працай" мелася на ўвазе сацыяльная, навуковая, асветніцкая і мастацкая дзейнасць, якая магла складацца з самадапамогі, спрыяння эканамічнаму развіццю краю і развіццю простых людзей, стварэнню бібліятэк, шматлікіх перыядычных выданняў і навуковаасветніцкіх таварыстваў. Творцы павінны былі пісаць кнігі, карціны ці музыку, а не займацца падпольнай палітычнай дзейнасцю. У выніку, менавіта такая праца павінна была прывесці да мірных і станоўчых зменаў у грамадстве [99].

Прыкладна пра гэта пісаў Тэадор Нарбут у прадмове да ІІ-га тома сваёй "Гісторыі ...": *"З нараджэння ліцвін, з маладосці жаўнер, выхаваны на прынцыпах любві да цноты, праўды і гонару, але здароўе, аслабленае калецтвам, набытым у прафесіі, не дазваляе служыць манарху ні ў полі, ні за сталом дзяржаўнай службы. Колькі прычын я знаходжу, каб узяцца за працу! Колькі надзей, якія суцяшаюць душу, нараджаюцца ў маім розуме! Калі я адчуваю недахоп здольнасцяў і жадання завяршыць свой праект і выканаць свой план, ці калі я адчуваю патрэбу ў страшэннай колькасці матэрыялаў, тады я спадзяюся пераадолець усе перашкоды праз гарачае жаданне быць карысным для грамадства і глыбока ўкаранёнае ў глыбіні маёй душы пачуццё абавязку"* [100].

Стварэнне праграмы і ідэалогіі "арганічнай працы" ўзяла на сябе, сярод іншых, група пісьменнікаў і палітыкаў, якая гуртавалася вакол Генрыка Ржавускага[101]. Натхнёны ім з'езд кансерватыўнай шляхты адбыўся ў чэрвені 1841 г. ў г. Чуднава (Украіна), дзе былі закладзены асновы кансерватыўнай праграмы, галоўным тэарэтыкам якой быў сам Ржавускі. Гэта была праграма замірэння з Расіяй як апорай кансерватыўнага, феадальнага ладу і рашучая барацьба з *"бунтамі, пагромамі, святатацтвамі і рабункамі"*. Група выступала за захаванне прыгону і адмовы ад памкненняў да палітычнай незалежнасці[102].

Пасля паўстання 1831 г., калі Вільня страціла свае асяродкі вышэйшай адукацыі і па колькасці надрукаваных выданняў з другога месца пасля Варшавы, адышла на 4-е (наперад яе выйшлі Кракаў і Львоў), лідары думак

[94] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 11. Спр. 19. Арк. 71 адв. - 73 адв.

[95] Kronika Rodzinna. 1888. № 14, 15 lipca. S. 425-430.

[96] Там жа.

[97] Юзаф Ігнацы Крашэўскі (1812-1887), нарадзіўся ў Варшаве. Пісьменнік, гісторык і фальклорыст, рэдактар, выдавец, публіцыст. Лічыцца адным з найвялікшых польскіх пісьменнікаў.

[98] Kronika Rodzinna. 1888. № 12. 15 czerwca. S. 356-359.

[99] Пра "Арганічную працу" гл: Fajnhauz Dawid. Ruch konspiracyjny na Litwie i Bialorusi, 1846-1848. Warszawa, 1965. S. 41-79.

[100] Narbutt Teodor. Dzieje starozytne narodu litewskiego. T. II. Wilno, 1837. S. IV.

[101] Генрык Жавускі (1791-Украіна), пісьменнік, публіцыст, палітык і масон. Адзін з найбольш вядомых прадстаўнікоў кансерватыўнай думкі 1830-50-х гг. у Беларусі, Літве і Польшчы.

[102] Fajnhauz Dawid. Ruch konspiracyjny na Litwie i Bialorusi, 1846-1848. S. 43.

нашага краю таксама пачалі схіляцца да так званай "арганічнай парцы", і падпольная дзейнасць патроху страчвала сваю папулярнасць. Ад канспіратыўнай працы адмовіўся калега Адама Міцкевіча па ўніверсітэце Антон Адынец і адзін з кіраўнікоў філарэтаў Мікалай Маліноўскі, які ў свой час адбываў тэрмін у вязніцы[103].

Гісторык, археограф і выдавец гістарычных крыніц Маліноўскі граў вялікую ролю ў інтэлектуальным жыцці Вільні, вакол яго гуртаваліся былы прафесар права Юзаф Ярашэвіч, гісторыкі Адам Ёхер, Міхаіл Балінскі і Тэадор Нарбут[104]. У сваіх успамінах Маліноўскі пісаў: *"Пры Міркавічу*[105] *ў Вільні было спакойна, канфіскацыі і перасълед пераканалі віленскую публіку, што эмісары* (падпольных таварыстваў - *Л. Л.*) *самі гінуць і іншых губяць, таму яна і не належала да ніякіх таварыстваў. Кожнае … паўстанне, кожная наша параза былі жнівом для расійскіх чыноўнікаў"* [106]. Падобных жа думак прытрымліваліся Ігнацый Крашэўскі, Адам Кіркор, Тэадор Нарбут[107] і Яўстах Тышкевіч[108]. Аднак і прыхільнікам "арганічнай працы" часта даводзілася патаемна рэалізоўваць свае планы.

І тым не менш дзеці Тэадора Нарбута атрымалі звычайнае для шляхты таго часу, выхаванне ў патрыятычным духу, пра што пісала яго дачка Тэадора Манчунская: *"Памятаю яшчэ адзін выпадак з нашага дзяцінства. Муштравалі жаўнераў, якія стаялі ў нашай вёсцы. Недалёка ад нашага саду стаялі афіцэры, абапёршыся плячамі на частакол. Мы з братамі Францішкам і Баляславам хутка падбеглі да частаколу з другога боку, так каб нас пачулі, і пачалі нястройнымі дзіцячымі галасамі спяваць "Мазурку Дамброўскага". Спадары афіцэры можа нават і не звярнулі на нас увагі, але нам здавалася, што мы мусім загінуць з-за гэтага гераічнага чыну і што на нас нападзе цэлы эскадрон. Потым мы дамовіліся чакаць жаўнераў у іншым месцы і хутка тое ж самае прапелі ў кустах агрэсту. […] Неяк, памятаю, ў бацькоўскім доме, я ўбачыла жаўнера, які краў у гародзе гародніну. Такая агіда мяне ахінула, што я паклікала братоў Францішка і Баляслава, і мы разам прагналі яго з гарода - ён уцёк ад нас!"* [109].

Акрамя літаратурнай ці навуковай творчасці, часткай "арганічнай працы" магла быць руплівасць у справе захавання нашай гістарычнай спадчыны. Працытую вялікі фрагмент успамінаў рэктара лідскай піярскай павятовай вучэльні Язафата пра ратаванне Нарбутам Лідскага замка: *"На шчасце замак у вачах урада займеў каштоўнасць, і таму мае з яго боку абарону ад знішчэння рукамі людзей. Указам цара ... распачата справа аб разбурэнні Лідскага замка ў 1840 г. Пан лідскі гараднічы, падпалкоўнік Стугін вырашыў вымураваць масток цераз рэчку Каменку і пачаў рабіць яго з камянёў, якія валяліся каля дарогі пры замку. Аднак да муроў не дакрануўся. Тым не менш пачаліся размовы, і па павеце распаўсюдзілася навіна, што гараднічы разбірае замак. Хутка гэтая навіна дайшла на Нарбута, гістарыёграфа Літвы. У нашай мясцовасці ён быў руплівым абаронцам замкавых парэшткаў, пра разбурэнне замка ён данёс губернскаму ўпаўнаважанаму, і той распачаў следства. Гараднічы даводзіў, што яго недарэчна абвінавацілі, але пасля далучэння Лідскага павета ... да Віленскай губерні, з Вільні было загадана: "Привести в первобытное состояние". Гараднічы ў рапарце справядліва адказаў, што гэтага зрабіць немагчыма, бо для гэтага, трэба пабудаваць новы замак. Аднак у новым указе было напісана: "Привести … в первобытное состояние. А за неисполнение записать Городничего в черную книгу".*

*Гараднічаму нічога не заставалася як пачаць працы па прывядзенні замка ў першасны стан. Калі ж Стугін распачаў працу, яго ж канцылярыст Яраслаў Ёлец, каб не было клопату, падаў наступную параду: адрапартаваць, што загад ужо выкананы і замак "приведен в первобытное состояние". Гэтак і зрабілі - гараднічаму справа ўдалася, бо на гэтым усё скончылася, і ўказаў больш не было"* [110].

**Хатняя бібліятэка і кабінет Тэадора Нарбута**

Па словах дачкі Нарбута Тэадоры Манчунскай, якая ў сваю чаргу абапіралася на ўспаміны яе маці, калі гісторык толькі пачаў жыць у старым маёнткавым доме (*"у спадчыну яму засталіся руіны і запусценне"*), ён на пачатку доўга пісаў за сціплым малым драўляным ста-лом, а вакол яго, на падлозе, ляжалі паперы і кнігі: *"Не было ў яго ні вялікага стала, ні шафаў"* [111]. Такім быў першы "кабінет" даследчыка.

Потым, у сціпла абстаўленым сядзібным доме ў Шаўрах самай прыгожай мэбляй была кніжная шафа ў

[103] Fajnhauz Dawid. Ruch konspiracyjny na Litwie i Bialorusi, 1846-1848. S. 59, 41.

[104] Маліноўскі Мікалай. Кніга ўспамінаў. Мінск, 2014. С. 59.

[105] Міркавіч Фёдар Якаўлевіч (1789-1866), расійскі ваенны і дзяржаўны дзеяч. У 1840-1850 гг. быў віленскім ваенным генерал-губернатарам.

[106] Маліноўскі Мікалай. Кніга ўспамінаў. С. 121.

[107] Fajnhauz Dawid. Ruch konspiracyjny na Litwie i Bialorusi, 1846-1848. S. 45, 47, 59.

[108] Лаўрэш Леанід. Яўстах Тышкевіч, яго калекцыя і яго музей // Наша слова.pdf № 49 (101), 6 снежня 2023.; № 50 (102), 13 снежня 2023.

[109] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 11. Спр. 19. Арк. 113 - 114 адв.

[110] Wspomnienie domku Pijarow Lidzkich. Napisal ks. Jozafat Wojszwillo, ostatni rektor Pijarow lidzkich // Biblioteka Zakladu Narodowego im. Ossolinskich we Wroclawiu., sygn.3667/III. S. 21-22.

[111] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 11. Спр. 19. Арк. 83 адв.

кабінеце гісторыка. У складзеным 2 жніўня 1863 г. чыноўнікамі з Вільні інвентары сядзібы, побач з пафарбаваным у чорны колер пісьмовым сталом з бярозы, на якім былі напісаны ўсе тэксты Нарбута, пазначана і: *"бібліятэка ў шафе з адной вялікай шкляной дзверцай і дзвюма меншымі і яшчэ адной меншай шафай наверсе"*. Але ў складзеным у 1864-1865 гг. каталозе гэтай бібліятэкі пазначаны тры шафы: *"Кнігі захоўваюцца ў трох шафах і часткова ў верхняй шафе"*. У інвентарным апісанні бібліятэкі, калі яна ўжо была вывезена ў Вільню, зробленым 28 лістапада 1865 г., падрабязна апісаны не толькі пісьмовы стол (*"Просты драўляны стол на чатырох ножках з трыма шуфлядамі"*), але і кніжная шафа коштам 30 руб: *"Вялікая кніжная шафа: даўжыня 5 ½ аршына, вышыня 5 аршынаў* (аршын роўны 0,7112 м - *Л. Л.*), *большая пасярэдзіне - на 1 ½ аршына. Ясень, са шклянымі дзвярыма. У гэтай шафе захоўвалася бібліятэка Нарбута - усяго 840 экземпляраў розных кніг* [112], *якія па пастанове ўрада былі вывезены з маёнтка"*. Такім чынам кнігазбор Нарбута захоўваўся ў шафе са шклянымі дзверцамі, якая складалася з трох частак, наверсе шафы стаяла антрэсоль таксама са шклянымі дзверцамі. Вядома, што, часцей за ўсё кнігі расстаўляліся на паліцах у два рады але ў антрэсолях яны стаялі ў тры, а ў левай і правай частцы шафы - нават у сем радоў[113]. З-за такой складанай канструкцыі шафаў, якая, пэўна, склалася гістарычна, Каміла Юрэвіч з Нарбутаў пісала пра некалькі кніжных шаф у доме гісторыка[114].

Тэадор Нарбут нават пасяліў у сваім маёнтку Нача пераплётчыка кніг і, калі той выканаў работу ў бібліятэцы гісторыка, пачаў шукаць яму іншую працу: *"Змілуйся, дашлі кнігі ў пераплёт, бо пераплётчык каля 200 тамоў ужо аправіў і не будзе мець што рабіць далей. … Калі маеш пераплесці якія кнігі, дык мой пераплётчык зграбна працуе. Бярэ 20 грошаў за кнігу, я плачу 8, бо даю яму разам з жонкай жытло"* [115].

Цікава, што ў бібліятэцы Нарбута меліся 4 кнігі на летувіскай мове (сярод іх кніга яго сябра Даўконта). Пра свой узровень ведання летувіскай мовы Тэадор Нарбут пісаў у 1839 г. у лісце да Я. Памарнацкага: *"... праўду кажучы, я мала змог навучыцца* (летувіскай мове - *Л. Л.*), *хоць я нарадзіўся і жыву ў вёсцы, дзе ёсць працавітыя летувісы, якія размаўляюць на гэтай мове"* [116].

Але для нас асаблівую каштоўнасць мае цікаўнасць гісторыка да зборніка "Сялянскія песні з-над Нёмна і Дзвіны" ("Piosnki wiesniacze znad Niemna i Dzwiny"), які склаў Ян Чачот[117]. Вядома, што Чачот сабраў каля тысячы аўтэнтычных беларускіх народных песень і выдаў іх у шасці зборніках "Сялянскія песні…" у перакладзе на польскую мову, восьмую частку песняў ён апублікаваў у беларускім арыгінале. У сваёй прадмове да "Сялянскіх песень з-над Нёмана і Дзвіны" 1846 г. Чачот змясціў нарыс граматычных асаблівасцей беларускай мовы і ўпершыню паставіў пытанне аб прынцыпах будучага "крывіцкага" правапісу[118].

Вядома, што для сваёй працы Тэадор Нарбут карыстаўся рознымі кнігазборамі нашага краю, напрыклад, ва ўступе да 2-га тома сваіх "Дзеяў ..." ён пісаў: *"Нягледзячы на значныя намаганні, працу і выдаткі, я не змог бы завяршыць сваю задуму, ці, быў бы вымушаны шукаць дапамогі ў бібліятэках сталіц розных краін, калі б мяне не падтрымалі мае суграмадзяне, якія прыхільна паставіліся да маёй працы. Бібліятэка ў Шчорсах, праз яе шаноўнага гаспадара, падтрымала маю працу шматлікімі рэдкім творамі, за што я павінен выказаць ёй вялікую падзяку"* [119]. З гэтага фрагмента бачна, што Нарбут працаваў у знакамітай бібліятэцы ў Шчорсах.

Вядома, што наш гісторык таксама карыстаўся бібліятэкамі Вандаліна Пуслоўскага (Мерачоўшчына Слонімскага павета) і Адама Жагеля (Радзюны, Вількамірскі павет)[120].

Тэадор Нарбут быў заўзятым і руплівым бібліяфілам, і ён заўсёды заахвочваў сваіх знаёмых да чытання, да пакупкі кніжак ці пазычаў ім свае кнігі: *"Хай чытаюць"*. *"Ён усімі спосабамі імкнуўся разбудзіць лянівых і навучыць іх чытаць"* [121].

Тэадора Манчунская пісала: *"Вестка пра тое, што мой бацька збірае кнігі, разышлася так шырока, што фурман нашай суседкі, які сам не ўмеў чытаць, калі быў у Вільні, за пару злотых купіў у яўрэя французскую кнігу спадарыні Сафіі Катэн* (Sophie Cottin у дзявоцтве Risteau, 1770-1807 - *Л. Л.*) *і як падарунак, прынёс майму бацьку: "Нарбут - такі пабожны пан, у яго столькі кніжак, дык я падумаў, няхай бы меў і гэ-*

[112] Іншыя даследчыкі пісалі пра, прыкладна 600 кніг, але пэўна, меліся на ўвазе толькі навуковыя кнігі. Гл: Kowkiel L. Prywatne ksiegozbiory na Grodzienszczyznie w pierwszej polowie XIX wieku. Krakow 2005. S. 178.

[113] Reda Grizkaite. Teodoro Narbuto intelektiniai zaidimai: Siauriai kaip lietuvisku senienu muziejus // Knygotyra. 2020. T. 75. P. 285-286., 303.

[114] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 11. Спр. 4. Арк. 105.

[115] Kronika Rodzinna. 1888. № 10, 15 maja. S. 294-300.

[116] Reda Grizkaite. Teodoro Narbuto intelektiniai zaidimai: Siauriai kaip lietuvisku senienu muziejus. P. 292.

[117] Там жа. P. 299.

[118] Гісторыя беларускай літаратуры XI-XIX стагоддзяў у двух тамах. Т. 2. Мінск, 2007. С. 192.; Крамко Іван. Спадчына Яна Чачота як выток беларускага мовазнаўства // Беларусіка-Albaruthenica. Кн. 10. Мінск, 1998. С. 55.

[119] Narbutt Teodor. Dzieje starozytne narodu litewskiego. T. 2. Wilno, 1837. S. IV.

[20] Reda Grizkaitt. Teodoro Narbuto intelektiniai zaidimai: Siauriai kaip lietuvisku senienu muziejus. P. 311.

[121] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 11. Спр. 19. Арк. 95 адв.

*тую. Мне, каталіку, грэх было не купіць яе ў яўрэя!".*

*Памятаю, як узрадаваўся бацька такому падарунку, як ён загадаў падаць старку і выпіў з фурманам па кілішку, як ён быў крануты да слёз. Усё гэта здалося мне тады даволі дзіўным"* [122]. І далей: *"Віленскія яўрэі, як толькі ён [Тэадор Нарбут] з'яўляўся ў Вільні, весела прыносілі яму стосы кніг і трымалі дзверы кватэры ў аблозе. Бацька загадваў іх пускаць, пагладжваў ім бароды, ляпаў па плячах, купляў кнігі, заахвочваў і ўзнагароджваў. Гэтак працягвалася, пакуль мая маці, стаміўшыся ад назойлівасці купцоў, загадала іх больш не пускаць.*

*Памятаю, я атрымала ад бацькі ў падарунак скрынку са срэбнымі дзесяткамі і купіла яму ў падарунак кнігу Крашэўскага. Бацька быў не вельмі рады выбару кнігі гэтага аўтара. І я ледзь не плакала. Але ён загадаў аддаць кнігу назад яўрэю і памяняць яе на Мальчэўскага* (магчыма, паэт Антоні Мальчэўскі - Л.Л.), *кнігу якога разрэзаў і чытаў са мной у Вільні"*[123].

Пасля смерці гісторыка маёнтак яго сям'і, падпаў пад секвестр, а кнігі былі перавезены ў Вільню і складзены ў адным з касцёлаў у чаканні арганізацыі Віленскай Публічнай бібліятэкі. Яна адчынілася толькі праз тры гады, а тым часам кніжны збор Тэадора Нарбута раскрадаўся. Пазней нейкая частка кніг Нарбута і сапраўды патрапіла ў Віленскую Публічную бібліятэку. А зараз яго кнігі рассеяны па зборах Вільні, Кракава і, магчыма, Львова[124].

На шчасце, захаваліся рукапісныя бібліяграфічныя апісанні бібліятэкі, зробленыя самім Тэадорам Нарбутам, якія даюць уяўленне пра яго бібліятэку. Напрыклад, у складзеным ім спісе сваёй бібліятэкі, ён, як прафесійны бібліёграф змест перыёдыка "Дзённік Віленскі" згрупаваў у пяць раздзелаў: "Навука і мастацтва" ("Umiejetnosci i sztuki"), "Прыкладныя навукі " ("Nauki stosowane"), "Мастацкая літаратура" ("Literatura Nadobna"), "Гісторыя і літаратура" ("Historya i Literatura") і "Навіны навукі" ("Nowiny Naukowe"). Гэтыя раздзелы ў сваю чаргу падзяляліся на больш дробныя, напрыклад, першы меў наступныя падраздзелы: "Выхаванне моладзі" ("Wychowanie mlodzi"), "Філасофія" ("Filosofia"), "Навука" ("Umiejetnosci"), "Рэлігія" ("Religija"), "Астраномія" ("Astronomija"), "Сельская гаспадарка" ("Gospodarstwo wiejskie"), "Матэматыка" ("Matematyka"), "Фізіка" ("Fizyka"), "Хімія" ("Chemija"), "Метэаралогія" ("Meteorologija"), "Заалогія" ("Zoologija"), "Батаніка" ("Botanika"), "Мінералогія" ("Mineralogija"), "Геалогія" ("Geognozija"), "Оптыка і жывапіс" ("Optyka i malarstwo"), "Гідраўліка" ("Hydrawlika"), "Геадэзія" ("Geodezija"), "Адкрыцці і вынаходніцтва" ("Odkrycia i wynalazki") і "Fizyologija roslinna" ("Фізіялогія раслін")[125].

Трэба заўважыць, што для інтэлектуальнай часткі тагачаснага грамадства наяўнасць вялікай бібліятэкі і шыкоўнага пісьменнага стала была справай прэстыжу. Добрая хатняя бібліятэка з'яўлялася прэстыжнай неабходнасцю для яе гаспадара, гэтак было яшчэ і ў маім пакаленні. З маладосці ў мяне засталася зараз добра ўжо прарэджаная бібліятэка, якая налічвае сёння больш чым 1000 тамоў, але практычна ўсе кнігі для мяне ўжо замяніў кампутар. Я і сёння маю піетэт да папяровай кнігі, але каб не магчымасць доступу праз інтэрнэт да неверагодных у часы маёй маладосці кніжных скарбаў, не шмат бы я змог напісаць. І, ужо неаднаразова, на жаль, мне даводзілася бачыць знаёмыя з дзяцінства кнігі хатніх бібліятэк бацькоў маіх сяброў на сметніках, пасля смерці і продажу кватэры. Балючае відовішча ...

**Пошукі Нарбутам навуковых кніг**

У тым ліку і праз перапіску з Рэніерам, Тэадор Нарбут увесь час шукаў і заказваў сябе новыя кнігі: *"Трэба выпісаць "Вільню"* [126] *Крашэўскага"* [127], - піша ён 2 кастрычніка 1840 г. і праз 3 тыдні ў наступным лісце дадае: *"Мне патрэбна Барбара з Радзівілаў Балінскага*[128], *том ІІ."* [129]. Ужо 24 лістапада 1840 г. паведамляе, што атрымаў "Барбару" [130] і просіць, калі гэта магчыма, *"даведацца, ці ёсць у святара Баброўскага*[131] *выданне Міхалона Літвіна*[132], *экземпляр які ён купіў у Рыме пасля нейкага кардынала? Пра гэта мне казаў Анацэвіч*[133]. *Калі гэта так, дык якім чынам можна атрымаць доступ да гэтай кнігі, ці хоць атрымаць яе*

[122] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 11. Спр. 19. Арк. 95 адв. - 96.

[123] Там жа. Арк. 96 - 96 адв.

[124] Полехаў Сяргей Бацька беларускіх гісторыкаў. Тодар Нарбут // Лідскі летапісец. 2009. №3-4(47-48). С. 32.

[125] Reda Grizkaite. Teodoro Narbuto intelektiniai zaidimai: Siauriai kaip lietuvisku senienu muziejus// Knygotyra. 2020. T. 75. P. 296.

[126] Kraszewski Jozef Ignacy. Wilno od poczatkow jego do roku 1750. T. 1-4. Wilno, 1838-1842.

[127] Kronika Rodzinna. 1888. № 9, 1 maja. S. 262-266.

[128] Balinski Michal. Pamiatniki o krolowej Barbarze, zonie Zygmunta Augusta. Warszawa, T. 2. 1840.

[129] Kronika Rodzinna. 1888. № 9, 1 maja. S. 262-266.

[130] Kronika Rodzinna. 1888. № 10, 15 maja. S. 294-300.

[131] Грэка-каталіцкі святар і прафесар Міхал Баброўскі. Гл. пра яго: Лаўрэш Леанід. Выбітныя манахі-базіліяне часоў ліквідацыі ўніі // Biuletyn Historii Pogranicza. 2015. № 15. С. 65-89.

[132] Міхалон Літвін (лац.: Michalon Lituanus, магчымае сапраўднае імя Венцлаў Мікалаевіч або Міхайла Цішкевіч) - аўтар трактату "Пра норавы татар, літвінаў і маскавітаў" (De moribus tartarorum, lituanorum et moscorum), які быў напісаны перад 1550, а выйшаў у свет у 1615 г. Міхалон Літвін абгрунтоўваў паходжанне літоўскай арыстакратыі ад Юлія Цэзара, які, быццам, захапіў Літву і зрабіў яе правінцыяй Рыма (т. з. "Легенда аб Палемоне").

*бібліяграфічны вопіс? Баброўскі жыве ў Шарашова. Я знайшоў у сябе рэдкі сшытак "Тыгодніка Віленскага" за 1804 г."* [134]. 30 лістапада 1840 г. гісторык просіць свайго сябра, калі той не палянуецца марозам зайсці ў кнігарню, спытаць, ці маюць яны кнігу Лелявеля[135] "Апошнія гады панавання Жыгімонта І" [136]. *"Гэтую маленькую кніжку Завадскі[137] абяцаў мне прывезці з Варшавы"* [138], і 5 лютага 1842 г.: *"Я хацеў бы мець "Хроніку Віганда", выдадзеную ў Познані, пра якую ты мне паведаміў, па-польску і па-латыні. … Быў бы рады мець І, ІХ і Х тамы Нясецкага[139] "* [140]. І падобныя просьбы і запыты маюцца амаль што ва ўсіх лістах Нарбута да Рэніера.

Аніцэт Рэніер перадаваў свайму сябру спісы (ці каталогі) кніг, якія ён мог бы даслаць гісторыку. У красавіку 1842 г. Нарбут адказаў доктару: *"Я вам вельмі ўдзячны і вельмі абавязаны за дасыланне звестак пра важныя і архіпатрэбныя кнігі. Кнігі трэба купіць. Дасылаю каталог дзе "+" пазначаны кнігі, якія абавязкова трэба купіць, "5" пазначаны не вельмі патрэбныя мне кнігі, але калі будуць грошы, іх можна набыць, тыя, перад якімі стаіць значок, можна купіць, калі яны танныя і хопіць касы. Тыя, нумар якіх перакрэслены, непатрэбныя. Не маю запасу грошай, бо пазычыў і на св. Юрыя чакаю, што вернуць. Таксама маю і вялікія расходы. Дасылаю асігнацыю ў 25 рублёў, астатнія з касы ці на абмен на экземпляр нашай "Гісторыі …". [...]*

*Вярнуўшыся з Вільні, дастаў рукапіс хронікі, напісанай нямецкім вершам у 1293 г., больш поўнай за друкаваную, якую меў раней. Там знайшоў біч на Даніловіча[141], аўтара завуць Дзітлеб фон Алнпеке, ён быў крыжацкім трубадурам[142]. Даслана з Дэрпту. У гэтых фаліянтах сяджу дзень і ноч, адкрываю рэчы, якія не ведаў раней. Я гэтыя рэчы ведаў у скароце, але зараз, перачытаўшы і ўчытаўшыся, убачыў шмат новага, нават тое, чаго раней за мяне не ўбачыў Фойгт[143] [...].*

*З Пецярбурга мне піша кнігар Шуберт, прапануе купіць новую вялікую гістарычную кнігу Фойгта з папярэдняй аплатай ў 155 рублёў!"* [144].

У траўні 1842 г. Нарбут піша сябру: *"Дзякуй за тое, што купіў і даслаў мне кнігі пра с. п. біскупа Клангевіча[145]. Патрэбны мне яшчэ Нясецкі і "Вільня" Крашэўскага, гэта ёсць у Завадскага. А таксама трэба карціна Дмахоўскага[146].*

*Патрэбна мне і "Гісторыя польскай літаратуры" Вішнеўскага[147], пра якую пісаў да Завадскага, вазьму яе ў крэдыт на рахунак. Каб можна было яшчэ і лісты Жыгімонта ў Завадскага дастаць! Не магу плаціць гатоўкай, але аддам яму сваімі кнігамі"* [148]. Як мы ўбачым ніжэй, кнігі самога Нарбута таксама былі вельмі не таннымі, але яны карысталіся попытам, і ён

---

133 Выдатны беларускі гісторык 1-й паловы XIX ст., прафесар Віленскага ўніверсітэта Ігнат Анацэвіч быў вядомым сучаснікам пад псеўданімам Жэгота з Малой Бераставіцы. Гл.: Габрусевіч С. А., Марозава С. В. Прафесар Ігнат Анацэвіч. Жыццё. Спадчына. Гродна, 2005.

134 Kronika Rodzinna. 1888. № 10, 15 maja. S. 294-300.

135 Яўхім Лялевель (1786-1861) - знаны гісторык і грамадскі дзеяч.

136 "Ostatnie lata panowania Zygmunta Starego i poczatek panowania Zygmunta Augusta wyciag z rekopismu Historji Polskiej Joachima Lelewela" (1821).

137 Юзаф Завадскі - віленскі друкар і выдавец.

138 Kronika Rodzinna. 1888. № 10, 15 maja. S. 294-300.

139 Каспар Нясецкі (1682-1744), аўтар грунтоўнай шматтомнай працы па генеалогіі.

140 Kronika Rodzinna. 1888. № 10, 15 maja. S. 294-300.

141 Ігнат Даніловіч (1787-1843). Нарадзіўся ў в. Вялікія Грынявічы, цяпер Бельскі павет, Польшча, гісторык права і археограф, прафесар. Адзін з першых даследчыкаў летапісных і заканадаўчых помнікаў ВКЛ. З сям'і беларускага ўніяцкага святара. Скончыў Віленскі ўніверсітэт (1812 г.), дзе ў 1814-1824 гг. выкладаў права. Пасля "справы філаматаў" звольнены з працы, пакінуў Вільню, яму забаронена жыць на тэрыторыі беларуска-літоўскіх губерняў. У 1825-1829 гг. прафесар Харкаўскага ўніверсітэта, у 1830-1835 гг. працаваў у Санкт-Пецярбургу ў камісіі М. М. Сяпранскага па падрыхтоўцы збору мясцовых законаў для заходніх губерняў. У 1835-1842 гг. выкладаў права ў Кіеўскім Імператарскім універсітэце св. Уладзіміра і Маскоўскім універсітэтах.

142 Маецца на ўвазе "Лівонская старэйшая рыфмаваная хроніка" - наратыўная хроніка лівонскага паходжання, напісаная каля 1290 г. на сярэдненямецкім дыялекце і складаецца з 12017 вершаваных радкоў. Доўгі час на падставе пазнейшага допісу на адным з рукапісаў хронікі аўтарства памылкова прыпісвалі Дзітлебу фон Альнпеке. гл: Краўцэвіч А. Стварэнне Вялікага княства Літоўскага. Жэшаў, 2000. С. 11, 12.

143 Іаганес Фохт (1786-1863) - нямецкі гісторык, прафесар у Кёнігсбергу, "бацька" прускай гістарыяграфіі.

144 Kronika Rodzinna. 1888. № 10, 15 maja. S. 294-300.

145 Андрэй Клангевіч (1767-1841), прафесар універсітэта, а потым віленскі і берасцейскі біскуп.

146 Вінцэнт Дмахоўскі (1807-1862) - мастак, вучань Яна Рустэма і Казіміра Ельскага, удзельнік паўстання 1831 г. Уладальнік маёнтка Нагародавічы (у той час Лідскі павет). Пра яго гл: Лаўрэш Леанід. Гісторыя вёскі і маёнтка Нагародавічы // Дзятлава і Дзятлаўскі край: гісторыка-культурная і археалагічная спадчына: зб. навук. арт. / Нац. акад, навук Беларусі, ін-т гісторыі. Мінск, 2023. С. 107-117.

147 Wiszniewski Michal. Pomniki historyi i literatury polskiey. T. 1-3. (1835).

148 Kronika Rodzinna. 1888. № 11, 1 czerwca. S. 328-335.

часта хацеў атрымаць у сваю бібліятэку кнігі іншых аўтараў за кошт сваіх кніг. Гэта бачна і з наступнага ліста: *"Пра сябе скажу, што я па сваім фізічным стане ні здаровы, ні хворы. Парадкую свае кнігі і маю пераплётчыка. Прашу цябе падзейнічаць на Завадскага, каб трэці том "Гісторыі літаратуры" Вішнеўскага мне прыслаў зараз, хай бярэ за гэта два экземпляры маёй "Гісторыі …" на замену, каб мне з ім разлічыцца. А можа даў бы мне "Бібліятэку Варшаўскую" за пазамінулы, мінулы і гэты год. … Ці няма яшчэ з Ляйпцыга IX-га тома Нясецкага, маю з другога па восьмы"* [149].

Нарбут неаднаразова выказваў падзяку Рэніеру за дасланыя яму кнігі, газеты, брашуры і іншыя крыніцы *"для маёй працы"*, том за томам збіраў усяго Каспара Нясецкага, Міхала Вішнеўскага[150] і Юзафа Ярашэвіча[151]. *"За Нясецкага прымі падзяку, не мала мяне ён уцешыў, бо пад літарай "Z" я прачытаў артыкул (раней не заўважаны), які пацвярджае мае даследаванні і думкі пра Літву"* [152], - пісаў Нарбут 26 лістапада 1845 г. А 11 лютага 1846 г. паведаміў: *"Рахунак складзены акуратна, але не памятаю, калі я браў 3-ці том "Вобразаў Літвы" Ярашэвіча, куды б яго мог падзець, калі б атрымаў? Адзін экземпляр у маім зборы, другі даслаў сп. Даўконту наўзамен на "Хроніку Валынскую", а трэцяга не было"* [153].

6 лістапада 1843 г. Нарбут пісаў: *"З Пецярбурга спадзяюся атрымаць шмат матэрыялаў ад Анацэвіча. Зараз атрымаў ліст ад брата, ён вязе іх да мяне, але яшчэ покуль бавіцца ў Беларусі"* [154].

Свайго стрыечнага брата, Фрэдэрыка-Вінцэнта Нарбута (1787 г. н., калежскі архіварыус, у 1816 г. лідскі межавы суддзя, у 1832 г. ужо былы суддзя, удавец, уладальнік маёнткаў Нікадэмаў і Варанічы), Тэадор згадвае пры канцы 1846 г.: *"Вярнуўся з Пецярбурга мой брат Фрэдэрык, прывёз лісты, кнігі, копіі рукапісаў з нашай гісторыі і адразу пачаў патрабаваць, каб я пачаў друкаваць дзённікі ці помнікі з нашай гісторыі"* [155].

У студзені 1843 г. Рэніер даслаў сябру вядомую брашуру Пачобута пра Егіпецкі задыяк у Дэндэры, гісторык адказаў: *"Дзякую за яе, хай будзе мне ў памяць пра гэтага заслужанага езуіта"* [156]. Гэтая праца астранома, рэктара Віленскага оніверсітэта Марціна Пачобута мела наступную гісторыю.

На самым пачатку XIX ст. уся адукаваная Еўропа чытала кнігі французскіх егіптолагаў, якія пабылі разам з войскам Напалеона ў Егіпце. Экс-канцлер ВКЛ Храптовіч атрымаў у сваю бібліятэку кнігу егіптолага барона Дамініка Віванда Данона і даслаў Пачобуту копію малюнка са знакамі задыяка. Пачобут, як прафесійны астраном, з вялікай цікавасцю вывучыў найстаражытнейшы задыяк і размяшчэнне зорак задыякальных сузор'яў. У ліпені ў друкарні ўніверсітэта была выдадзена ягоная кніга пра старажытны егіпецкі задыяк. Увосень гэтая кніга выйшла на французскай мове, а потым - на нямецкай[157]. Аналізуючы рух кропкі летняга сонцастаяння віленскі астраном вылічыў узрост помніка - 583 г. да н. э. Гэта было вельмі істотна, бо ў той час пашырылася меркаванне пра даўнасць егіпецкіх знаходак у дзесяткі тысяч гадоў, і менавіта астранамічнае датаванне нашага ўплывовага вучонага дазволіла часткова вырашыць вельмі важнае для гістарычнай навукі пытанне[158].

Цікава, што астраном і рэктар Віленскага ўніверсітэта Пачобут у свой час падараваў дзеду Тэадора Ігнацыю Нарбуту (~1730-пасля 1772) драўляны сонечны гадзіннік[159].

Вядома, што інжынер Тэадор Нарбут вельмі цікавіўся прыродазнаўчымі навукамі і папулярызаваў прыродазнаўчыя веды ў тагачаснай прэсе[160].

Цікавіўся Нарбут і геалогіяй на стыку з палеанталогіяй. На пачатку 1858 г. на пасяджэнні Археаграфічнай камісіі, яе старшыня граф Яўстах Тышкевіч, паведаміў прысутным, што *"наш знакаміты член Тэадор Нарбут паведаміў Камісіі, што ў Лідскім павеце, у Нацкай парафіі, у маёнтку Старанішкі (ляжыць паміж Начай і Аранамі), уладальнікам якога з'яўляецца доктар медыцыны Юзаф Юндзіл, у 1856 г. пры капанні студні, на значнай глыбіні натрапілі на пласт, які па словах Нарбута, складаўся з закамянелых рыб рознага памеру і па віду гэтай субстанцыі, падобны на торф. Наш гісторык … пераканаўся, што гэтую субстанцыю можна з карысцю ўжываць у якасці паліва".*

---

[149] Kronika Rodzinna. 1888. № 11, 1 czerwca. S. 328-335.

[150] Kronika Rodzinna. 1888. № 11, 1 czerwca. S. 328-335.

[151] Kronika Rodzinna. 1888. № 13, 1 lipca. S. 393-398.

[152] Там жа.

[153] Kronika Rodzinna. 1888. № 14, 15 lipca. S. 425-430.

[154] Kronika Rodzinna. 1888. № 11, 1 czerwca. S. 328-335.

[155] Kronika Rodzinna. 1888. № 14, 15 lipca. S. 425-430.

[156] Там жа.

[157] Гл: O dawnosci zodijaku Egipskego w Denderach. Wilno. 1803.; Recherches sur le zodiaque de Denderah. Wilno. 1805.; Sur l'antiquite du zodiaque de Denderah. Wilno. 1805.

[158] Лаўрэш Леанід. "І зорнае неба над галавой…": Нарысы з гісторыі астраноміі. Мінск, 2013. С. 69-70.

[159] Reda Grizkaite. Teodoro Narbuto intelektiniai zaidimai: Siauriai kaip lietuvisku senienu muziejus// Knygotyra. 2020. T. 75. P. 269.

[160] Гл: Лаўрэш Леанід. Тэадар Нарбут - папулярызатар найноўшых дасягненняў прыродазнаўства // Лідскі Летапісец. 2014. № 4 (68). С. 12-13.

Хімічны аналіз, выкананы ў Вільні членамі Камісіі паказаў, што знойдзеная субстанцыя з'яўляецца нечым сярэднім паміж вуглём і лігнітам і можа быць палівам сярэдняй якасці, але не можа выкарыстоўвацца як сыравіна для вырабу асвятляльнага газу[161].

У архіве Манчунскай маецца аўтэнтычная занатоўка самога Нарбута пра гэтую знаходку: *"У Лідскім павеце ў Нацкай парафіі, у маёнтку Белюнцы Юзафа Юндзіла, доктара медыцыны, маецца фальварак Старанішкі. Да Вільні 13 міль, да Эйшышак 2 мілі, знаходзіцца паміж Начай і Аранамі.*

*Гісторыя адкрыцця. Фальварак Старанішкі не меў вады ў студнях. Вада была з рэчкі Начанкі, ад якой фальварак знаходзіўся далёка. Яго сучасны ўладальнік Юндзіл захацеў выкапаць студню, нават глыбока выкапаўшы, вады не знайшоў, але знайшоў выкапні рознай прыроды, у тым ліку, і закамянелых рыб. Гэта было 2 гады таму. На няшчасце, капальнікі панішчылі экземпляры большага памеру, і я выпадкова атрымаў два меншыя, калі Юндзіл быў у мяне, расказваў пра свае знаходкі і паказаў гэтыя закамянеласці. … Юндзіл апавядаў мне, што там жа ён знайшоў і паліва, я паспяшаўся зрабіць пробу і напісаў у архе-алагічную камісію"* [162].

**Тэадор Нарбут - збіральнік перыядычных выданняў**

24 лістапада 1840 г. Тэадор Нарбут піша доктару Рэніеру: *"Я вельмі ўдзячны любаму пану Аніцэту за дапамогу ў вырашэнні маіх невялікіх праблем. [...] Трэба пагандлявацца з Марціноўскім аб "Дзённіку ...", я пісаў яму, каб больш за 3 рублі на год за падпіску не браў. Атрымаў 20 тамоў "Паментніка Варш."* [163] *Дмахоўскага, але для мяне тут малое жніво. Непараўнальна з ім мне патрэбны "Паментнік Львоўскі"* [164] *за 1817 г. усе, да IX тома"* [165].

У той час газеты і часопісы былі галоўным і адзіным сродкам інфармацыі. Таму для культурнага чалавека было абсалютна неабходна выпісваць газеты. Але падпіска каштавала вельмі многа, таму, напрыклад, нямецкую "Газету Аўгсбургскую" на 1841 г. Тэадор Нарбут выпісаў разам са сваім родным братам Ксаверыем[166]. Дадам, што гэтая газета карысталася вялікай павагай і чыталася ва ўсёй Еўропе.

19 студзеня 1842 г. гісторык паведамляў сябру, што ён яшчэ не атрымаў новых газет[167], а 5 лютага таго ж года, пісаў, што *""Тыгоднік Пецярбургскі"* [168] *не выпісаў, бо і так маю шмат расходаў пры малых даходах - 50 вольных рублёў срэбрам цяжка знайсці"* [169]. 50 рублёў срэбрам - у тыя часы немалыя грошы, але "Тыгоднік" у той год ён усё ж чытаў, бо ў снежні 1842 г. падзяліўся з доктарам Рэніерам сваім меркаваннем: *"… маладыя псеўдалітаратары, якія самі сябе такімі лічаць, як і свае творы літаратурай, якой да іх ніколі не было, а іх папярэднікі для нашай літаратуры нічога не варты. Чытаю "Тыгоднік Пецярбургскі", і ажно валасы на галаве паўстаюць"* [170], - здаецца гэта звычайнае стаўленне ўжо не маладога літаратара да маладых калег, з чыім меркаваннем ён не можа пагадзіцца. Не дзіва - меркаванні Нарбута па гісторыі ВКЛ (асабліва ранняй) часта былі вельмі спецыфічнымі.

З ліста ад 28 студзеня 1845 г. даведваемся, якім чынам Нарбут чытаў нятанны "Тыгоднік Пецярбургскі": *"Дзякуй за "Тыгоднік", але ўмовы цяжкія - трэба толькі за тое, каб чытаць, заплаціць 6 рублёў у год, калі за 3 ці 2 рублі можна атрымаць магчымасць чытаць іх раз у квартал. Таму, я выпісваюся з суполкі, бо часы зараз цяжкія. Раней плаціў 8 рублёў, але за гэтыя грошы меў экземпляр, які ўжо нікому не быў павінен перадаваць і які ніхто не хацеў памяняць на нейкі іншы"* [171]. Можна не сумнявацца, што менавіта доктар Аніцэт Рэніер, як гаспадар тайнай бібліятэкі, арганізаваў гэтыя суполкі чытачоў газет, калі за 2 ці 3 рублі ў год можна было прачытаць газету і перадаць яе наступнаму чытачу, але, здаецца, гісторык прызвычаіўся плаціць 8 рублёў, каб чытаць газету апошнім і пакідаць экземпляр у сваёй бібліятэцы.

Нарбут мог чытаць вялікую колькасць газет толькі маючы калектыўную падпіску, магчымасць якой яму прадстаўляў доктар Рэніер, 12 лістапада 1845 г. ён пісаў доктару: *"Адсылаю газеты і прашу падпісаць мяне як і раней, ад слушных складак я не адмаўляюся"* [172]. Тым не менш, верагодна, паміж сябрамі ўсё ж узнікла непаразуменне, бо 26 лістапада 1845 г. незадаволены Тэадор

[161] Tygodnik Petersburski : gazeta urzadowa Krolestwa Polskiego. 1858, № 4. S. 32.

[162] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 11. Спр. 19. Арк. 128 адв. - 131 адв.

[163] Pamietnik Warszawski - штомесячны навукова-літаратурны часопіс, які выдаваўся ў Варшаве ў 1815-1823 гг.

[164] Pamietnik Lwowski - штомесячны навукова-літаратурны часопіс, выдаваўся ў 1816-19 гг. у Львове..

[165] Kronika Rodzinna. 1888. № 10, 15 maja. S. 294-300.

[166] Kronika Rodzinna. 1888. № 10, 15 maja. S. 294-300.

[167] Там жа.

[168] Tygodnik Petersburski - палітычна-літаратурнае выданне, якое выходзіла ў Санкт-Пецярбургу ў 1830-1858 гг. пад рэдакцыяй Юзафа Працлаўскага і Францішка Малеўскага. Выданне доўгі час было адзіным перыядычным выданнем, вакол якога гуртаваліся літаратурныя і навуковыя колы нашага края.

[169] Kronika Rodzinna. 1888. № 10, 15 maja. S. 294-300.

[170] Kronika Rodzinna. 1888. № 11, 1 czerwca. S. 328-335.

[171] Kronika Rodzinna. 1888. № 13, 1 lipca. S. 393-398.

[172] Там жа.

Нарбут пісаў: *"Дасланыя табой газеты, адсылаю назад. Чаму ты так хвалюешся пра грошы? Я ніколі і нікога не падмануў на грошы і не быў камусьці вінен. Памятай, што я маю твой ліст, у якім ты дэкларуеш мне магчымасць паўгода чытаць "Тыгоднік" без ніякіх прэтэнзій на грошы, на другое паўгоддзе такіх абяцанак не маю і таму пастаў гэтую суму на мой рахунак"*[173].

Нарбут чакаў газеты як глыток свежага паветра, напрыклад, 12 жніўня 1844 г. ён пісаў: *"Я наўмысна пасылаў у Вільню па газеты і атрымаўшы іх, спяшаюся напісаць вам гэты ліст"* [174].

Перыёдыкі яму былі патрэбны не толькі, каб ведаць, што робіцца ў свеце, але і як крыніца навуковай інфармацыі. Напрыклад, у тым жа 1845 г. ён прасіў даслаць яму "Бібліятэку Варшаўскую", бо ў гэтым часопісе быў надрукаваны артыкул Д. Шульца[175] пра яцвягаў, *"якія мне патрэбны, бо дадае новае святло нашай гісторыі"* [176].

Прэса таго часу ў асноўным друкавала сухую інфармацыю разам з сур'ёзнымі, у тым ліку, і навуковымі, артыкуламі. Таму Тэадор Нарбут і збіраў у сваю бібліятэку старыя газеты. З ліста ад 5 лютага 1842 г. даведваемся, што ён мае ўсе нумары "Дзённіка Віленскага"[177], *"акрамя нумароў за май і чэрвень 1820 г., студзень, люты, сакавік, красавік і май 1823 г. Калі ёсць танныя нумары 1823 г., гатовы набыць"* [178]. А 20 снежня 1842 г. ён паведаміў Аніцэту Рэніеру, што варшаўскага *""Дамашняга музея" бракуе першага тома за 1838 г."* [179]. Вядома, што Тэадор Нарбут з асаблівым запалам збіраў гэтае выданне.

У красавіку 1842 г. гісторык просіць купіць яму VI-ты том "Атэніўма" ("Athenaeum. Pismo Poswiecone Historii, Literaturze, Sztukom, Krytyce itd."), часопіс, які ў той час выдаваў у Вільні Юзаф Крашэўскі, *"бо мушу туды напісаць заўвагі на Даніловіча. Гэтыя паны шкодзяць усёй нашай беднай Літве, самі не будучы ліцвінамі. Што піша Крашэўскі, тое з ветрам уляціць, але Даніловіч - гэта іншае, трэба яму адказаць прыгожа і моцна"* [180]. Невядома, чаму Нарбут не лічыў прафесара Ігната Даніловіча ліцвінам, магчыма, не ведаў, адкуль ён паходзіць, але, як бачым, прызнаваў за ім вялікую навуковую вагу. У канцы 1842 г. Нарбут просіць парады ў Рэніера: *"Я яшчэ нічога не выпісаў з газет на наступны год, парадзь, што выпісаць, бо сам буду выпісваць нешта таннае. Ці зноў "Тыгоднік" ці "Кур'ер Літоўскі", ах … памыліўся, "Кур'ер Віленскі""* [181].

Вядома, што ў 1840-1850 гг. Тэадор Нарбут быў ініцыятарам і ўдзельнікам стварэння і будаўніцтва аздараўленчых установаў у Друскеніках, таксама яго заслугай з'яўляецца ўзнікненні лекарскага асяродка ў гэтым мястэчку[182]. Для папулярызацыі курорта, у 1844 - 1846 гг. у Гародні, выдаваўся літаратурна-гістарычны і медыцынскі часопіс ліберальна-асветніцкага кірунку "Ундзіна Друскеніцкіх крыніц" ("Ondyna Druskienickich srodel"). Гэта быў другі па часе часопіс на тэрыторыі Беларусі пасля "Полацкага штомесячніка" ("Miesiecznik Polocki"), які выдавала Полацкая езуіцкая акадэмія ў 1818-1820 гг. Назва часопіса паходзіла ад імя духа вады Ундзіны. Нарбут шчыльна супрацоўнічаў з гэтым выданнем.

15 лютага 1845 г. гісторык паведаміў свайму сябру: *"Атрымаў экземпляр "Ундзіны""* [183], 11 ліпеня таго ж года ён піша: *"Паведамляю, што атрымаў тры нумары "Ундзіны". Прапанаваў іх розным суседзям, але ніхто з іх не пажадаў купіць"* [184].

3 жніўня 1845 г.: *"Пра "Ундзіну". […] мне даслалі 2 нумары - ні з Гародні ні з Друскенікаў па пошце нельга перасылаць кніжкі, бо гэта памежныя гарады* (з-за рэвалюцыі ў Еўропе па загадзе цара Мікалая І - *Л. Л.*). *Дасылаю мой артыкул і паэзію Браніслава Нарбута, перадай пану выдаўцу. З дасланых 3-х экземпляраў, 2 ужо размеркаваў, але грошай не атрымаў - адзін заплаціць, а другі абяцае купіць у калабарацыі са мной"* [185]. Як бачым, пакупка газет у складчыну, была тады звычайнай справай. У гэтым пісьме цікавым з'яўляеццка згадванне Браніслава Нарбута - верагодна, гэта вядомы мемуарыст Браніслаў Мірон Нарбут (нарадзіўся 07.09.1822 г. у маёнтку Гулькоўшчына, што недалёка ад Сабакінцаў, сучаснае Першамайскае Шчучынскага р-на).

---

[173] Kronika Rodzinna. 1888. № 13, 1 lipca. S. 393-398.

[174] Там жа.

[175] Дамінік Шульц (1797-1860), былы выкладчык філасофіі і гістарычных навук Віленскага ўніверсітэта.

[176] Kronika Rodzinna. 1888. № 13, 1 lipca. S. 393-398.

[177] Dziennik Wilenski - літаратурна-мастацкі і навукова-папулярны часопіс. Выходзіў у 1805-1806 і з 1815 па 1830 на польскай мове ў Вільні.

[178] Kronika Rodzinna. 1888. № 10, 15 maja. S. 294-300.

[179] Kronika Rodzinna. 1888. № 11, 1 czerwca. S. 328-335.

[180] Kronika Rodzinna. 1888. № 10, 15 maja. S. 294-300.

[181] Kronika Rodzinna. 1888. № 11, 1 czerwca. S. 328-335.

[182] Бломберг Мар'яна Магдалена. Тэадор Матэвуш Нарбут (Остык-Нарбут) з лідскай зямлі, гісторык Літвы, інжынер і даследчык старажытнасці, а таксама бацька герояў-паўстанцаў. С. 49, 68.

[183] Kronika Rodzinna. 1888. № 13, 1 lipca. S. 393-398.

[184] Там жа.

[185] Там жа.



***Браніслаў Мірон Нарбут***

Да выдання "Ундзіны" я яшчэ вярнуся ніжэй.

**Тэадор Нарбут - збіральнік рукапісаў**

Тэадор Нарбут пісаў доктару Рэніеру: *"З ліста з Пецярбурга, напісанага 23 лютага, даведаўся пра смерць Нацэвіча* (Анацэвіча) *18 лютага а 10-й гадзіне* (1845 г. - *Л. Л.*) *ў клінічным шпіталі. Хто ведае, куды пайшлі яго рукапісы? Дзякуючы злосці Марціноўскага, з якім Вінцэнты*[186] *сяброе, адкрылася ўся інтрыга. Зараз яны мне пішуць, што Анацэвіч яшчэ пры жыцці прадаў па падпісцы свае кнігі і рукапісы, якія хацеў пакінуць мне за пэўныя грошы. Але калі да яго дайшлі віленскія плёткі, ён, відаць, расчараваўся ўва мне і пайшоў на гэты крок. Каб пацвердзіць свае байкі, яны наўмысна затрымалі публікацыю "Хронікі"* [Быхаўца]. *Калі я даведаўся пра гэта, дык напісаў Анацэвічу і Даўконту, але было ўжо позна, бо Анацэвіч ужо не мог сам прачытаць майго ліста, а калі яму прачыталі, дык узрадаваўся і шкадаваў, што паспяшаўся паверыць. Так зніклі набыткі гэтага чалавека. Ці ж гэта справядліва?"* [187].

Гісторык і пісьменнік Сымон Даўконт (1799-1864) працаваў у Пецярбургу канцылярыстам Сената і памочнікам метрыканта Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага. Ён быў аўтарам першай гісторыі Літвы на летувіскай мове. Перапіска Сымона Даўконта з Тэадорам Нарбутам, якая датычаць апошніх гадоў жыцця прафесара Анацэвіча, утрымлівае шэраг цікавых падрабязнасцяў з жыцця прафесара і менавіта Даўконт у 1845 г. паведаміў Нарбуту пра смерць Анацэвіча. З перапіскі Даўконта з Нарбутам бачна, што калекцыя прафесара Анацэвіча *"перайшла ў рукі тых, хто даваў болей"* і матэрыялы калекцыі вывозілі за мяжу. Частку каштоўных дакументаў і кніг прафесар яшчэ пры жыцці параздаваў знаёмым і вучоным, якіх нават асабіста не ведаў. Важна тое, што прафесар Анацэвіч, як і Нарбут, працаваў над гісторыяй Літвы. На думку Даўконта, Анацэвіч быў вучоным, *"які іншых заахвочваў, а сам мала рабіў"*. Напрыклад ён абяцаў, што ў 1844 г. апіша панаванне Гедыміна, але свайго абяцання не выканаў[188].

Як мы ўбачым ніжэй, Нарбут спасылаўся на нябожчыка прафесара Анацэвіча як на крыніцу сваіх фальшаванняў і вельмі цікавіўся лёсам яго рукапісаў. Магчыма таму ў лісце без даты (канец 1846 - ці пачатак 1847 г.) ён паведамляе, што ўсё ж атрымаў ад прафесара нейкую пасылку: *"Па справах я быў у Вільні і хацеў бачыць доктара Чарноўскага, які вярнуўся з Пецярбурга і меў да мяне пасылку ад А'Нацэвіча, але не сустрэў яго. Хацеў бы ведаць, ці ёсць ён зараз у Вільні, ці можа ён даслаць мне гэтую пасылку, бо інакш давядзецца ехаць у Вільню"* [189].

Цікавіўся ён лёсам рукапісаў і калекцый іншых гісторыкаў і аматараў гісторыі.

5 лютага 1842 г. Нарбут пісаў: *"Кажуць, што прэлат Гразмані*[190] *памёр. Пакінуў ён старажытныя рэчы, для мяне там цікавыя толькі каменныя молаты* (каменныя сякеры - *Л. Л.*) *- два ці тры, астатняе не цікава. Можа ведаеш Далецкага, гэта мой кузэн і ўнук нябожчыка, сын яго пляменніцы, трэба яго папрасіць пра молаты. Ёсць і яго пляменнік Яўстах Гразмані*[191],

[186] Верагодна, Вінцэнт Нарбут (?1812 - 1883), гісторык і палеограф славянскіх моў, шматгадовы супрацоўнік Архіва гістарычных дакументаў Трыбунала ВКЛ у Вільні.

[187] Kronika Rodzinna. 1888. № 13, 1 lipca. S. 393-398.

[188] Габрусевіч С. А., Марозава С. В. Прафесар Ігнат Анацэвіч. Жыццё. Спадчына. Гродна, 2005. С. 98, 99, 119, 144.

[189] Kronika Rodzinna. 1888. № 14, 15 lipca. S. 425-430.

[190] Юзаф Гразмані (Jozef Grozmani, 1762-1843), прэлат Віленскага кафедральнага сабора.

[191] Яўстах Гразмані, сын Вінцэнта, роднага брата прэлата Гразмані (1805 - ?1856). Каля 1817 г. вучыўся ў Шчучынскай піярская школе, потым служыў у Ніжагародскім драгунскім палку. Выйшаў у адстаўку паручнікам. Валодаў маёнткам Лаўчылавічы.

*мой знаёмец з Лідскага павета, але не ведаю, каму гэтыя рэчы запісаны тастамантам"* [192]. 6 снежня 1842 г.: *"Кажуць, што памёр прэлат Гразмані. Трэба пільнаваць, бо гэты стары меў шмат гістарычных каштоўных рэчаў для нашага музея"* [193].

Юзаф Крашэўскі пісаў: *"Прэлат Гразмані, адзін з сучасных калекцыянераў, меў навуковую калекцыю, якая складалася з розных рэчаў, змешаных у прыгожым беспарадку. Мелася ў яго і некалькі ахвярных каменных молатаў, але не ведаючы ні іх ранейшага прызначэння, ні іх гістарычнай каштоўнасці, ён, з задаволенай усмешкай, якая казала пра яго душэўны спакой, паказваў усім, як ён дасціпна даў новае жыццё гэтай рэчы, калі ўставіў у адтуліны свечку і зрабіў з яго падсвечнік"*[194]. Дадам, што калекцыянер і прэлат Юзаф Гразмані быў сынам палкоўніка Юзафа Адальберта Гразмані (1718-1794?) герба "Корвін" і родным дзядзькам яшчэ аднаго гісторыка Юстына Нарбута (дальняга сваяка Тэадора і бацькі пісьменніцы Камілы Юрэвіч з Нарбутаў). Род Гразмані паходзіў з Італіі[195]. На Лідчыне, з канца XVIII ст. Гразмані валодалі маёнткам Лаўчылавічы (знаходзіўся каля сучаснай вёскі Рылаўцы), часткай маёнтка Ішчална, маёнткам Місевічы і фальваркам Лебяда[196]. Вядома, што будучы прэлат нарадзіўся ў 1762 г. у Мазовіі, у 1771-1779 гг. вучыўся ў рыцарскай школе, дзе вывучаў ваенную архітэктуру, а ў 1780 г. працаваў на фабрыцы зброі ў Казеніцах[197].

Нарбут для сваіх спраў шукаў адрас прафесара Ігната Даніловіча: *"Ці даведваўся [...] пра адрас Даніловіча? Кажуць мне, што ён пайшоў у адстаўку з маскоўскага ўніверсітэта і жыве ў Кіеве ці ў вёсцы каля Кіева. Мае шмат розных дыпламатычных актаў і розных рукапісаў, у тым ліку і па літоўскай гісторыі"*[198].

12 ліпеня 1843 г. Даніловіч памёр, 23 студзеня 1843 г. Нарбут пісаў Рэніеру: *"Як шкода Даніловіча! Ён сабраў шмат рукапісаў, сярод якіх павінна быць многа важных для гісторыі Літвы, зараз, хто ведае, куды гэта ўсё можа знікнуць? Праўду я пісаў раней, што нейкі незайздросны лёс перашкаджае развіццю ў нас гістарычных даследаванняў. Абыякавасць, эгаізм ці выпадкі, якіх немагчыма прадбачыць - праблемы, праблемы"* [199]. А 6 лістапада 1843 г., атрымаўшы нейкую інфармацыю, дадае: *"Даніловіч памёр у Графэнбергу* (зараз Есенік, Паўночная Маравія - *Л. Л.*)*"* [200].

Вялікую калекцыю ў удавы Даніловіча набыў Яўстах граф Тышкевіч, яе апрацаваў вучоны сакратар Музея старажытнасцяў у Вільні Маўрысі Круповіч, пасля чаго было выдадзена вялікае двухтомнае выданне "Скарбец дыпламатаў …" (Вільня, 1860-1862).

Думаю ў гэты месцы можна расказаць пра стасункі Тэадора Нарбута з другім знакамітым абшарнікам-творцам Яўстахам Тышкевічам[201]. У нумары ад 11 красавіка (30 сакавіка па старым стылі) 1843 г. "Тыгодніка Пецярбургскага" Тэадор Нарбут надрукаваў станоўчую рэцэнзію на толькі што надрукаваную кнігу Тышкевіча[202]: *"Гэта пачатак Нацыянальнага музея, матэрыялы да якога збіраліся на працягу васьмі гадоў. Апісанне помнікаў, знойдзеных у магілах або знойдзеных выпадкова, напісана дакладна, выразна і добрым пяром. Гравюры якасна адлюстроўваюць рэчы, якія інакш трэба было б апісваць словамі. Добры прыклад, карыснага ўнёску, высакародны занятак. Аўтар дэманструе неабходнасць культывавання навукі археалогіі ..."* [203]. 9 траўня (27 красавіка) у той жа газеце на кнігу Тышкевіча друкуецца і добрая рэцэнзія Юзафа Крашэўскага, у якой станоўча згадваецца і Тэадор Нарбут[204].

Пэўна, рэцэнзія спадабалася Тышкевічу, і 14 лютага 1843 г. Нарбут пісаў сябру: *"Пішу табе, бо Марціноўскі з аказіяй пераслаў мне ліст ад гр. Яўстаха Тышкевіча, да якога прыкладзены экземпляр яго кнігі па археалогіі з вялікімі камплімeнтамі да мяне як да гісторыка Літвы"* [205].

Праз тры тыдні праз Рэніера Нарбут прапануе Тышкевічу сумесны выдавецкі праект: *"Калі ты знаёмы з Яўстахам Тышкевічам, паразмаўляй з ім пра мой*

[192] Kronika Rodzinna. 1888. № 10, 15 maja. S. 294-300.

[193] Kronika Rodzinna. 1888. № 11, 1 czerwca. S. 328-335.

[194] Цыт. па: Konstanty hr. Tyszkiewicz. Wilija i jej brzegi. Pod wzgledem hydrograficznym,historycznym, archeologicznym i etnograficznym. S. 17.

[195] Polski Slownik Biograficzny.Wroclaw-Warszawa-Krakow-Gdansk, 1977. T. XXII. S. 533.

[196] Malewski Czeslaw. Rodziny szlacheckie na Litwie w XIX wieku. Powiaty lidzki, oszmianski i wilenski. Warszawa, 2016. S. 78.

[197] Polski Slownik Biograficzny.Wroclaw-Warszawa-Krakow-Gdansk, 1977. T. XXII. S. 533.

[198] Kronika Rodzinna. 1888. № 11, 1 czerwca. S. 328-335.

[199] Там жа.

[200] Там жа.

[201] Пра Яўстаха Тышкевіча гл: Лаўрэш Леанід. Яўстах Тышкевіч, яго калекцыя і яго музей // Наша слова.pdf № 49 (101), 6 снежня 2023.; № 50 (102), 13 снежня 2023.

[202] Tyszkiewicz E. Rzut oka na zrodla archeologii krajowej, czyli opisanie niektorych zabytkow starozytnosci odkrytych w zachodnich guberniach Cesarstwa Rosyjskiego. Wilno, 1842.

[203] Tygodnik Petersburski: gazeta urzadowa Krolestwa Polskiego.1843, № 25. S. 156.

[204] Tygodnik Petersburski : gazeta urzadowa Krolestwa Polskiego. 1843. № 32. S. 203-204.

[205] Kronika Rodzinna. 1888. № 11, 1 czerwca. S. 328-335.

*збор старажытнасцяў і пра маю гатоўнасць падаць яго апісанне і гравюры. Але мне цяжка гэта зрабіць за свой кошт, і таму, калі Завадскі не захоча, трэба знайсці нейкія сродкі. Можа, пан граф багаты і захоча быць шчодрым. Буду рады пачуць любыя навіны"* [206]. А 6 лістапада 1843 г. паведамляе, што *"Яўстах Тышкевіч вярнуўся са Швецыі і Даніі і ўжо напісаў мне"* [207].

Два знаныя гісторыкі знаходзіліся ў сталай перапісцы: *"Яўстах Тышкевіч 3 ліпеня (1845 г.) напісаў да мяне з Барысава, што хацеў быць у Вільні і ў Шаўрах, але паедзе ў Украіну для закупаў збожжа на хлеб для сялян"* [208]. 11 лютага 1846 г. паведамляе доктару, што *"атрымаў ліст ад графа Яўст. Тышкевіча. Піша, што ў Кіеве набыў 8 вялікіх тэчак з рукапісамі, якія засталіся пасля Ігната Даніловіча, рукапісы, як быццам, датычаць гісторыі Літвы. Ён збірае гістарычныя рэчы і хоча ў сэрцы Літвы - горадзе Гедыміна - адчыніць музей. Мае быць у Вільні сам на кантрактах і хоча купіць дом для музея. Склаў нават статут музея. Я ўсе свае гістарычныя зборы перадам у яго музей. Калі гэты выдатны праект будзе мець вынікі - ён стане прыкладам патрыятызму"* [209]. Як бачым Тышкевіч дзяліўся з Нарбутам сваімі планамі і меў ад яго падтрымку. Гэты музей адчыніўся праз 10 гадоў у Вільні ў па-езуіцкіх мурах.

Вядома, што на працягу многіх гадоў Нарбут збіраў копіі гістарычных дакументаў і пры пасярэдніцтве гісторыкаў Фойгта і Наперскага атрымліваў матэрыялы з архіваў Кёнігсберга і Рыгі.

У лісце да Рэніера 1846 г. без даты, Нарбут паведамляе пра тое, якой можа быць зацікаўленасць да сваёй гісторыі з боку грамадства: *"Кажуць, што ў Рыме ёсць важныя акты і матэрыялы па гісторыі Літвы, але дзе ўзяць сродкі на гэта? Жыхары Інфлянтаў пачалі складаць унёскі і 40000 - трэцюю частку неабходнай сумы - ужо сабралі. Мы нават не думаем пра гэта"*, - і далей ён паведамляе пра вельмі цікавы і назаўсёды страчаны рукапіс: *"Вучоныя кажуць мне, што трэба шукаць рукапісы літоўскага гербоўніка, напісаныя Дварэцкім, былым карэктарам Завадскага, які ўтрымлівае 9 000 літоўскіх радоў. Бабровіч з Ляйпцыга прасіў гэты матэрыял, але не атрымаў яго з-за падбухторвання нябожчыка Завадскага і з-за абяцання надрукаваць яго ў Вільні. Калі не надрукавалі ў Вільні, хацеў надрукаваць рукапіс за мяжой. Памёр невядома дзе, і разам з ім прапаў рукапіс. Адам Завадскі ці Ёхер могуць распавесці лепш. Трэба ўважліва прасачыць спадкаемцаў Дварэцкага.*

*30 гадоў таму Юльян Нямцэвіч*[210] *узяў з архіва Радзівілаў 24 тамы рукапісаў, якія тычыліся Літвы, і невядома, куды яны зніклі. Ты жывеш у вялікім свеце і можа нешта пачуеш пра гэта"* [211].

Цікавай з'яўляецца праца Нарбута па дапаўненні генеалагічных прац Каяловіча і Нясецкага, якую мы маем магчымасць часткова прасачыць па перапісцы нашага гісторыка з доктарам Рэніерам.

У лісце без даты з канца 1846 ці пачатку 1847 г. гісторык з задавальненнем паведамляе сябру: *"Мае зборы рукапісаў значна папоўніліся, маю гербоўнік Каяловіча, напісаны для Літвы - вялікі рукапіс з малюнкамі, ін-фоліо. Маю з Літоўскіх Метрык ледзь не ўсё, што я мог толькі жадаць - старанна перапісаны том ін-фоліо і іншыя дробныя рэчы"* [212].

У 1853 г. "Газета Варшаўская" больш падрабязна распавяла пра рукапіс Каяловіча і дапаўненні да яго, зробленыя нашым гісторыкам, які *"купляў за свае грошы архіўныя дакументы і хронікі. Яго апошнімі працамі ёсць дапаўненне гербоўніка Каспара Нясецкага з папраўленага рукапісу Войцеха Віюка-Каяловіча і "Невялікія гістарычныя творы". Рукапісы гэтых прац захоўваюцца ў сп. Кіркора, які спяшаецца іх выдаць.*

*Каспар Нясецкі меў пад рукой першы рукапіс Каяловіча і цалкам яго выкарыстаў, таму Нарбут вырашыў дапоўніць яго толькі тым, што Нясецкі не мог ведаць, бо інфармацыя знаходзіцца ў другім рукапісе, папраўленым і дапоўненым самім аўтарам як найменей на 700 артыкулаў"* [213]. Вядома, што Каспар Нясецкі склаў гербоўнік "Карона польская" (тт. 1-4, 1728-1743), які ў XIX ст. быў перавыдадзены Я. Н. Баброўскім пад назвай "Польскі гербоўнік" (тт. 1-10, 1839-1845) з дапаўненнямі А. Нарушэвіча, І. Красіцкага, І. Лелявеля, а таксама са звесткамі з іншых крыніц. Як бачым, і Нарбут працаваў над працягам гэтага гербоўніка.

Кіркор далей пісаў: *"Праца Нарбута мае за мэту дадаць да гербоўніка Нясецкага 11-ты том, які будзе складацца з жыццяпісу Каяловіча, а таксама дапаўнення, напісанага ў алфавітным парадку, 6 табліц з гербамі і некалькімі генеалагічнымі табліцамі галоўных літоўскіх радоў, а таксама з розных артыкулаў Каяловіча.*

*Рукапіс Войцеха Каяловіча зараз знаходзіцца ў сп. Нарбута, ён напісаны на паштовай паперы вялікага фармату добрым почыркам (хоць і не без граматычных памылак) і мае 105 аркушаў. Гербы намаля-*

[206] Kronika Rodzinna. 1888. № 11, 1 czerwca. S. 328-335.

[207] Там жа.

[208] Kronika Rodzinna. 1888. № 13, 1 lipca. S. 393-398.

[209] Kronika Rodzinna. 1888. № 14, 15 lipca. S. 425-430.

[210] Юльян Урсын Нямцэвіч (1757-1841), нарадзіўся ў вёсцы Скокі, Брэсцкага павета, пісьменнік, палітычны дзеяч, гісторык.

[211] Kronika Rodzinna. 1888. № 14, 15 lipca. S. 425-430.

[212] Там жа.

[213] Gazeta Warszawska. 1853. №. 251. S. 4.

*ваныя ўмелай рукой пяром без размалёўкі. Некаторыя артыкулы, пазначаныя §§, належаць да больш позняга варыянту твора. …*

*Гісторыю самога рукапісу сп. Нарбут падае наступным чынам: пасля смерці Каяловіча, засталіся 2 уласнаручныя экземпляры аўтара, адзін з іх езуіты падаравалі куяўскаму біскупу Андрэю Залускаму, і гэты экземпляр сёння знаходзіцца ў Імператарскай бібліятэцы ў Пецярбургу, гэты рукапіс неразборлівы, са скарачэннямі і падобна, не поўны. Другі, цалкам перапісаны ў 1658 г., пасля скасавання закона езуітаў дастаўся віленскаму біскупу Масальскаму, з'яўляецца поўным і ўжо папраўленым, як быццам, гатовым для друку. З яго знята копія для Сапежынскай бібліятэкі ў Вільні, з гэтай копіі нехта зрабіў яшчэ адну копію. У 1744 г., невядомая рука, пэўна, з экземпляра езуіцкай бібліятэкі зрабіла копію, гэта бачна з надпісу над тытулам па-латыні. З яе Сымонам Даўконтам была знята копія і перададзена нашаму гісторыку"* [214].

У архіве Тэадоры Манчунскай захавалася частка гэтай генеалагічнай працы Нарбута, датычная яго роду. Я вывучыў і пераклаў гэты тэкст, і амаль што праз 200 гадоў пасля яго напісання, упершыню, ён друкуецца ў дадатку да гэтага артыкула.

Дадам, што ў інтэрнэце нядаўна з'явіліся сканы рукапісу "Гербоўнік Каяловіча" Нарбута.

**Артыкулы Тэадора Нарбута ў перыёдыках**

Адам Ганорый Кіркор, рэдактар "Тэкі Віленскай" і "Кур'ера Віленскага", заўсёды імкнуўся рабіць карысныя для нашага краю справы. У 1843 г. пры ўдзеле Ю. Крашэўскага і М. Грабоўскага ён выдаў зборнік "Радэгаст" ("Radegast", - бог вайны), а потым, у 1845-1846 гг., зборнік у трох кнігах "Помнікі ўмыслове" ("Pamietniki umyslowe"). 6 лістапада 1843 г. Нарбут пісаў Рэніеру: *"Да ліста пану Кіркору прыкладаю пакет, дай Божа, каб "Радэгаст" меў поспех! Буду для яго дасылаць цікавыя рэчы"* [215]. 28 студзеня 1845 г.: *"За "Помнікі ўмысловы" Кіркора вялікі дзякуй, пасылаю трошкі матэрыялаў, якія могуць зацікавіць чытача. Такое выданне вартае падтрымкі"* [216].

Шмат пісаў наш гісторык у Друскеніцкую "Ундзіну", адным з заснавальнікаў якой ён быў і меў вялікую перапіску з супрацоўнікам часопіса Данілецкім, 15 лютага 1845 г. Тэадор Нарбут паведаміў *"дарагому сябру Аніцэту"*: *"Ва "Ундзіну" даслаў артыкул - "Трошкі з гісторыі Друскенікаў". Па пошце атрымаў ліст з Гародні ад сп. Данілецкага. Ён піша, што гарадзенскі губернатар Васькоў хоча мець мае матэрыялы ў нейкай газеце "Гродзенскія губернскія ведамасці" і да ліста прыкладае копію надпісу на мармуровым нагробку, знойдзеным там у адным з садоў. Не маю часу адказаць і па руску я не ўмею. У "Помнікі ўмысловы" даслаў артыкул: "Нарыс жыцця дабраславёнага Віта""* [217].

Цікава, як Тэадор Нарбут служыў афіцэрам у рускім войску і не ведаў мову? Думаю, што ў дадзеным выпадку гэта была толькі адгаворка. Але звернем увагу на тое, што гарадзенскі губернатар Рыгор Допельмайер шукаў аўтараў для "Гродзенскіх губернскіх ведамасцей" - урадавай газеты, якая выдавалася з 1838 па 1915 г. Выданне "Губернскіх ведамасцяў" у кожнай губерні ў свой час было ўведзена царскім указам па ўсёй краіне.

Аляксандр Герцэн, які ў ссылцы з 1838 г. сам быў рэдактарам неафіцыйнай часткі "Уладзімірскіх губернскіх ведамасцей", у 2-й частцы сваіх вельмі цікавых успамінаў "Былое і думы", пісаў: *""Губернскія ведамасці" былі ўведзены ў 1837 годзе. Арыгінальная думка прывучаць да галоснасці краіну маўчання і нематы, прыйшла ў галаву міністру ўнутраных спраў Блудаву. [...] У нас урад, пагарджаючы ўсякай пісьменнасцю, мае вялікія дамаганні да літаратуры; і ў той час, як у Англіі, напрыклад, зусім няма казённых часопісаў, у нас кожнае міністэрства выдае свой, акадэмія і ўніверсітэты - свае. У нас ёсць часопісы горныя і саляныя, французскія і нямецкія, марскія і сухапутныя. Усё гэта выдаецца на казённы кошт, падрады артыкулаў выконваюцца ў міністэрствах так, як падрады на дровы і свечкі; недахопу ў агульных справаздачах, выдуманых лічбах і фантастычных высновах не бывае. Узяўшы ўсе манаполіі, урад узяў і манаполію балбатні, ён загадаў усім маўчаць і сам пачаў гаварыць без перапынку. Працягваючы гэтую сістэму, Блудаў загадаў, каб кожнае губернская ўправа выдавала свае "Ведамасці" і каб кожная "Ведамасць" мела сваю неафіцыйную частку для артыкулаў гістарычных, літаратурных і інш. Сказана - зроблена, і вось пяцьдзесят губернскіх управаў ірвуць сабе валасы над неафіцыйнай часткай. Святары з семінарыстаў, дактары медыцыны, настаўнікі гімназіі, усе тыя, якіх падазраюць у тым, што яны людзі адукаваныя і нават могуць правільна ўжываць літару "яць", прымушаюцца да справы. Яны думаюць, перачытваюць "Бібліятэку для чытання" і "Айчынныя запіскі", баяцца, а потым бяруцца і, нарэшце, пішуць артыкулы"*[218].

Нягледзячы на "няведання мовы", Тэадор Нарбут надрукаваў у "Гарадзенскіх губернскіх ведамасцях" гістарычны нарыс, прысвечаны гісторыі Ліды[219]. Вядома, што ён першым напісаў кароткую гісторыю

---

[214] Gazeta Warszawska. 1853. №. 251. S. 5.

[215] Kronika Rodzinna. 1888. № 11, 1 czerwca. S. 328-335.

[216] Kronika Rodzinna. 1888. № 13, 1 lipca. S. 393-398.

[217] Там жа.

[218] Герцен Александр. Собрание сочинений в тридцати томах. Т. 8. Москва, 1956. С. 304-305.

[219] Blombergowa Maria Magdalena. Narbutt (Ostyk-Narbutt) Teodor Mateusz z Ziemi Lidzkiej. Historyk Litwy, inzynier i badacz starozytnosci oraz ojciec bohaterow-powstancow. Warszawa-Lida, 2011. S. 29.

нашага горада, годам заснавання якога лічыў 1180 г. Артыкул у газеце паўтараў артыкул у пятым томе яго "Старажытнай гісторыі літоўскага народа" [220]. На пачатку гэтага важанага для нашага горада тэксту, Тэадор Нарбут паведаміў: *"Большасць дэталяў у гэтым артыкуле ўзята з парафіяльных нататак, сабраных нябожчыкам с. п. Вінцэнты Нарбутам, пробашчам і дэканам Лідскім"* [221]. Дадам, што лідскі дэкан Вінцэнт Нарбут - родны дзядзька Тэадора.

Вернемся да "Ундзіны".

11 ліпеня 1845 г. Нарбут напісаў Рэйнеру: *"Я па пошце атрымаў ліст ад пана Данілецкага, з якога даведаўся, што мае артыкулы для "Ундзіны" дайшлі і ён просіць дасылаць наступныя. У працы маю зараз артыкул "Гістарычная і праўдзівая навіна" з часоў Жыгімонта III, грунтуецца ён на рукапісе, які нядаўна дастаў. Будзе нядрэнны, хоць і кароткі, артыкул, спяшацца не магу з-за хатніх перашкод"* [222]. 16 кастрычніка 1845 г. гісторык зноў даслаў для "Ундзіны" *"значныя матэрыялы"* [223].

Супрацоўніцтва з "Ундзінай" працягвалася, і 6 студзеня 1846 г. наш гісторык паведаміў сябру, што *"пан Вольфганг просіць артыкул пра Лішкаў*[224]*, даслаў мне мае ж матэрыялы, каб я зрабіў з іх гэты артыкул. Напішу яго для "Ундзіны" наступнага года"* [225]. 20 студзеня Тэадор Нарбут ужо пачаў пісаць артыкул пра Лішкаў і знайшоў шмат цікавага па гэтай тэме і *"перш за ўсё агляд месца, план гары і выгляд вежы ў перспектыве - тое, без чаго гэты артыкул не будзе поўным. Але паколькі малюнкі - гэта не для "Ундзіны", было б добра стварыць часопіс па тыпу "Візярункаў"* [226]*. Я маю шмат матэрыялаў па гісторыі Літвы"* [227].

**Кнігі Тэадора Нарбута**

***Выданне шматтомнай "Гісторыі літоўскага народа"***

Працяглы час, паралельна з падрыхтоўкай прац па гісторыі і ў якасці адпачынку, Тэадор Нарбут перакладаў "Дон Кіхота" Мігеля Сервантэса. Пра гэтую сваю працу Нарбут шмат пісаў сябрам, але ў выніку яго пераклад не быў надрукаваны, бо не знайшоўся выдавец. 31 сакавіка 1840 г. гісторык пісаў Рэнієру: *"Дон Кіхота атрымаў, самае новае і лепшае выданне 1837 г., Парыж, французскае. Параўнаў якасць перакладу з іншымі выданнямі, і калі нішто не перашкодзіць, да Зялёных Святаў ці да ліпеня ў мяне палова перакладу будзе гатовая. Сервантэс мяне вельмі забаўляе, бо мае выдатны гумар. Але польскі стары пераклад шукаю з вялікай прагай, мне сказалі, што ў ім дасціпна перакладзены прыказкі і слоўцы непараўнальнага Сервантэса"* [228].

Восенню 1840 г. Нарбут спяшаўся вычытаць карэктуру VIII і IX тома сваёй "Гісторыі ..." і 20 кастрычніка 1840 г. даслаў доктару Рэнієру карэктуру і экземпляр VIII тома[229]. Але 27 кастрычніка ён зноў думкамі вяртаецца да "Дон Кіхота" і нават піша пра меркаваны ганарар за сваю працу, з гэтага ліста мы наогул даведваемся пра ганарары Тэадора Нарбута: *"Наконт "Дон Кіхота", гэта рэч галавакружная, але смешна гучыць на нашай мове [...] ... калі абмяркоўваць ганарар, дык можна казаць пра 600 рублёў срэбрам, ні менш ні больш, і 60 экземпляраў аўтару. За свае кнігі я бяру па 300 рублёў срэбрам ганарару за том, за пераклады палову гэтага, "Дон Кіхот" будзе ў 4 тамах, 30 выдавецкіх аркушаў, вялікім літарамі. Можам зрабіць новае выданне ў Расіі, а калі выдавец не захоча плаціць грошы за гравюры Плюшчава з Пецярбурга, дык Азямблоўскі*[230] *зробіць свае гравюры. Канчатковую карэктуру я б узяў на сябе"* [231].

3 лютага 1840 г. Тэадор Нарбут паведамляў сябру, што піша і чытае мала, бо закончыў апошні том "Гісторыі ..." і перадаў яго ў цэнзуру. Верагодна, гэты апошні, IX-ты том, які выйшаў у 1841 г., ад пачатку меркаваўся як апошні, але потым гісторык пачаў рыхтаваць наступны, X-ты том, які так і не быў надрукаваны.

Пры канцы лістапада 1840 г. Нарбут забраў з выдавецтва рукапіс IX-га тома, бо *"выкапаў новыя матэрыялы - рукапіс нейкага біскупа часоў панавання Жыгімонта Аўгуста - сапраўдны скарб цікавай інфармацыі"* [232].

Удасканальванне IX тома працягвалася, і 14

[220] Narbutt Teodor. Cokolwiek z historyi miasta Lidy // Narbutt T. Dzieje starozytne narodu litewskiego. T. 5. Wilno, 1839. Dodatek I. S. 1.

[221] Narbutt Teodor. Cokolwiek z historyi miasta Lidy // Narbutt T. Dzieje starozytne narodu litewskiego. T. 5. Wilno, 1839. Dodatek I. S. 1.

[222] Kronika Rodzinna. 1888. № 13, 1 lipca. S. 393-398.

[223] Там жа.

[224] Зараз - Лішкява, вёска ў Літве, на левым беразе ракі Нёман. Уваходзіць у склад Алітускага павета.

[225] Kronika Rodzinna. 1888. № 14, 15 lipca. S. 425-430.

[226] Wizerunki i roztrzasania naukowe - часопіс, які ў Вільні выдаваў Юзаф Завадскі ў 1834-1843 гг.

[227] Kronika Rodzinna. 1888. № 14, 15 lipca. S. 425-430.

[228] Kronika Rodzinna. 1888. № 9, 1 maja. S. 262-266.

[229] Там жа.

[230] Юзаф Азямблоўскі (1805-1878), мастак-графік і гравёр.

[231] Kronika Rodzinna. 1888. № 9, 1 maja. S. 262-266.

[232] Kronika Rodzinna. 1888. № 10, 15 maja. S. 294-300.

снежня 1840 г., гісторык напісаў свайму сябру: *"Зараз праўлю апошнюю кнігу "Гісторыі" бо здабываў матэрыялы, якіх раней не мог мець: 1) "Апошнія гады панавання Жыгімонта I" Лелявеля, Варшава, - Завадскі абяцаў дастаць, калі не ён, дык Рубэн ці Глюксберг; 2) "Помнікі гісторыі і літаратуры польскай" Міхала Вішнеўскага, - некалькі тамоў мае Глюксберг. Ты мусіш мне хутка іх выслаць, бо ўвесь IX том затрымліваецца"* [233].

Трэба сказаць, што ў 1841 г., калі былі ўжо надрукаваны дзевяць тамоў "Гісторыі..." віленскі біскуп Андрэй Бенедыкт Клангевіч звярнуўся з цыркулярам да духавенства сваёй дыяцэзіі ў якім настойліва рэкамендаваў набываць творы Тэадора Нарбута. І не толькі набываць, але і *"чытаць, і думаць аб гэтым, і расказваць людзям, для якіх святары з'яўляюцца праваднікамі ў іх хрысціянскім жыцці: што было раней у гэтым кутку зямлі, дзе мы цяпер жывём, хто і якімі намаганнямі садзіў той вінаграднік Хрыста і перадаў яго нам ужо добра апрацаваным, як найкаштоўнейшую ўласнасць"*[234]. Гэты зварот, першага віленскага біскупа сялянскага паходжання, моцна ўзрушыў гісторыка. Дадам, што біскуп Клангевіч таксама купіў усе дзевяць тамоў для сябе асабіста[235].

Як я ўжо пісаў вышэй, рыхтаваўся ў друк і X-ты том "Гісторыі …".

5 лютага 1842 г. Тэадор Нарбут піша сябру: *"З Марціноўскім канцоў няма, абяцае і абяцае, і абяцанкамі ўсё заканчваецца. Прапаную яму, каб пакінуў мяне ў спакоі, і я тады сам паспрабую надрукаваць X-ты том у іншай друкарні, спаслаўшыся на павелічэнне аб'ёму кнігі і таму непад'ёмны для выдаўца кошт"* [236], - відавочна, Тэадор не мог аднабакова скасаваць дамову з выдаўцом Марціноўскім, які цягнуў справы з выданнем X-га тома, і спадзяваўся, што той зробіць гэта сам.

З ліста ад 23 студзеня 1843 г. Тэадор Нарбут піша, што X-ты том павінен стаць даведнікам для ўсёй працы: *"У маёй працы зараз малы перапынак. Закончыў індэкс рукапісных матэрыялаў якія былі выкарыстаны ў "Гісторыі …". Каля 2000 рукапісаў, пра кожны - змест, дата, інфармацыя пра арыгінал і копію"* [237].

Верагодна, менавіта пра X-ты том ідзе гаворка ў лісце ад 27 снежня 1843 г.: *"Тое, што ў Марціноўскага не выйшла, гэта з-за прагнасці. Ён надрукаваў больш за тысячу экземпляраў і хоча прадаваць кнігі па кошце больш за 20 рублёў за экземпляр. А калі б 1000 кніг прадаў бы па 15 рублёў, няўжо яму было б мала? Прадаў бы, пэўна гадоў за 6"* [238]. 12 жніўня 1844 г. гісторык у роспачы паведамляе сябру-доктару: *"Мяне моцна лаюць за тое, што не выдаў X-ты том "Гісторыі ...", а Марціноўскі заўсёды, як Марціноўскі, ён - маруда, які сам сябе губіць, а на мяне звальвае"*[239] .

Выдавец Нарбута Марціноўскі зацягваў справу але, падобна, ён прапаноўваў Тэадору дадаць у X-ты том рэчы, якія патрабавалі больш часу і дадатковых выдаткаў: *"Жадаюць, каб я выдаў карту старажытнай Літвы ў дадатак да матэрыялаў, якія маю. Мне патрэбны маршруты тэўтонскіх нападаў у XIV ст., мне трэба атрымаць іх у Фойгта з Кёнігсберга. На гэта трэба шмат часу і грошай, але з Божай дапамогай, можа, і атрымаецца. Археалагічная камісія хоча выдаць 8 тамоў Догеля. Гербоўнік Нясецкага аўстрыйскі імператар зацвердзіў і прыняў за ўзор. Перапіска з Завадскім цяжкая, ён ніколі не спяшаецца адказаць, бо малады і шмат бавіцца. Марціноўскі напісаў, што друкуецца X-ты том"* [240].

У канцы 1846 ці на пачатку 1847 г. Тэадор Нарбут пісаў доктару Рэніеру: *"Марціноўскі нічога не плаціць, не выдае X-ты том і яшчэ лае мяне за продаж маіх аўтарскіх экземпляраў"*. Вядома, што кнігі нашага гісторыка карысталіся папулярнасцю і гандляры жадалі гандляваць яго "Гісторыяй …": *"Яўрэі мяне атакавалі ў Вільні "за Нарбута" (як яны завуць маю гісторыю) і давалі па 15 рублёў срэбрам за экземпляр, але я не меў іх з сабой. Маю яшчэ ў доме шэсць ці болей экземпляраў"* [241].

X-ты том так і не быў надрукаваны. Адам Кіркор потым пісаў: *"Нарбут напісаў і дзесяты том сваёй гісторыі, які павінен быў стаць указальнікам да ўсяго шматтомніка. Ён падрыхтаваў рэестр архіваў, пераглядзеў літоўскую міфалогію і працягвае ўдасканальваць, дапаўняць і рэдагаваць тамы сваёй працы ў надзеі яшчэ раз надрукаваць сваё палепшанае выданне"* [242]. Але палепшанае выданне не ўбачыла свету.

У абарону такога паважанага чалавека як Антоні Марціноўскі, трэба сказаць, што ён не толькі друкаваў кнігі Нарбута, але быў яшчэ і іх рэкламным агентам. Захаваўся выдатны прыклад гэтай рэкламы - так званая справаздача аб творчасці Нарбута, напісаная выдаўцом, калі ён надрукаваў ужо восем тамоў. Як сведчыць гэты рэкламны тэкст, Марціноўскі быў не простым гандляром, якому важна прадаць свой тавар, але чалавекам, які выдатна разумеў значэнне "Гісторыі .." Нарбута. Выдавец захапляўся асобай гісторыка, які нават пасля

[233] Kronika Rodzinna. 1888. № 10, 15 maja. S. 294-300.
[234] Reda Grizkaite. Teodoras Narbutas, arba Apie tai, "kaip nereikia rasyti istorijos".
[235] Narbutt Teodor. Dzieje starozytne narodu litewskiego. T. IX. Wilno, 1841. S. V.
[236] Kronika Rodzinna. 1888. № 10, 15 maja. S. 294-300.
[237] Kronika Rodzinna. 1888. № 11, 1 czerwca. S. 328-335.
[238] Kronika Rodzinna. 1888. № 12. 15 czerwca. S. 356-359.
[239] Kronika Rodzinna. 1888. № 13, 1 lipca. S. 393-398.
[240] Kronika Rodzinna. 1888. № 14, 15 lipca. S. 425-430.
[241] Там жа.

таго, як столькі зрабіў і страціў сваё здароўе, *"не лічыў, што ў дастатковай меры аддаў свой доўг грамадству"*. Таму славуты віленскі выдавец (які, дарэчы, і сам быў літаратарам) называў творчасць Нарбута *"падарункам грамадству"* і казаў, што ўпершыню літоўская гісторыя, нарэшце, зведзена *"ў адно цэлае і ўпарадкавана"*, такая праца здзіўляе ўжо адным сваім размахам. Марціноўскі развважаў так: *"Чакаючы, калі з'явіцца непрадузятае меркаванне навуковага мудраца, можна з поўным правам, ... з упэўненасцю сказаць: такую працу чакалі вякамі, і яна будзе жыць у вяках ... пакуль у сучаснікаў будзе патрэба ведаць гісторыю, а ў іх нашчадкам будзе патрэба ў навуцы. Творы Нарбута будуць аб'ектам навуковых дыскусій, яны будуць неабходныя грамадзянам усіх саслоўяў, будуць скарбам і крыніцай матэрыялаў для гісторыка, зборам захаваўшыхся ад знішчэння помнікаў і сведчанняў, а для жыхароў Літвы, для любога яе кутка, будуць неабходнасцю, будуць стымулам, які прымушае задумацца пра апісаныя там падзеі ... і салодкім напамінам аб былой славе"* [243].

Усё ж трэба дадаткова сказаць некалькі словаў пра выдаўца і публіцыста, знаўцу нашай гісторыі Антонія Марціноўскага (1781-1855). Ён нарадзіўся ў Радашковічах у сям'і ўніяцкага святара Яна Марціноўскага. Скончыў Менскую гімназію, а ў канцы 1807 г. і Віленскі ўніверсітэт. Быў адным з арганізатараў Віленскага друкарскага таварыства і літаратурна-грамадскага аб'яднання шубраўцаў. Рэдагаваў часопіс шубраўцаў "Навіны з бруку" ("Wiadomosci brukowe"). З 1818 да канца 1839 г. Марціноўскі друкаваў і рэдагаваў газету "Кур'ер Літоўскі" ("Kurier Litowski"), якая з 1831 г. стала афіцыйнай і з 1840 г. змяніла назву на "Кур'ер Віленскі" ("Kurier Wilenski"). У 1818-1830 г. Марціноўскі рэдагаваў і друкаваў "Дзённік Віленскі" ("Dziennik Wilenski"). У 1807 г. адчыніў прыватную друкарню, якая надрукавала звыш 400 назваў кніг у розных галінах ведаў, у тым ліку "Статут ВКЛ" (1819 г.), працы прафесара Ігната Даніловіча, Тэадора Нарбута і г. д.

Як і кожны аўтар, Тэадор Нарбут з цікаўнасцю і хваляваннем чакаў рэцэнзій на свае творы, вось, напрыклад, фрагмент ліста ад 14 лютага 1843 г.: *"Чакаю, каб прачытаць, што Жавускі напісаў пра маю "Гісторыю …". Крашэўскага падбухторваў Тэафіл Глюксберг, які зайздросціў Марціноўскаму. Бо твор які крытыкуецца, траціць рэнтабельнасць, а пахвала паляпшае справу выдаўца. Гэтыя паны мала клапоцяцца пра аўтара, справу і праўду. Яны маюць надзею на сваю эфемерную славу, зарабляюць грошы, і ім гэтага дастаткова"* [244].

У прадмове да IX тома сваёй "Гісторыі ...", аўтар, між іншым, піша, што матэрыял для ўсёй гэтай працы ён пачаў збіраць яшчэ трыццаць гадоў таму: *"Не цяжкімі для мяне былі б трыццаць гадоў нягод і высілкаў па зборы матэрыялаў і пошуках крыніц і нават не жаль было б моцна аслабленага здароўя, калі б я толькі ведаў, што я спраўджу свой намер"* [245], - ён мог дазволіць сабе напісаць гэтыя словы ў прадмове да IX тома, бо мара жыцця амаль што спраўдзілася. З гэтых слоў, дарэчы, вынікае, што ўжо недзе каля 1808 г., афіцэр рускай арміі Нарбут выношваў думку напісаць гісторыю свайго краю. З гэтага моманту, апанаваны адной вялікай думкай, ён ахвяраваў увесь свой вольны час, сваю маёмасць і свой спакой, каб спраўдзіць мэту свайго жыцця.

Пра асабістае крэда гісторыка Тэадор Нарбут напісаў наступнае: *"У нашай гісторыі так мала фактаў і так шмат фактаў у агульнай гісторыі, што яна зацяняе нашу гісторыю і дамінуе над ёй. Нарушэвіч не пісаў пра народ, а падаваў толькі войны і дзеі ўрадаў. Лелявель, жадаючы гэта паправіць, робіць другую памылку, бо штукуе сваімі домысламі і параўнаннямі з гісторыяй іншых дзяржаў і не пакідае месца фактам. Я імкнуся трымацца сярэдняй лініі, выкладаю факты і пакідаю магчымасць самаму чытачу дамысліць тое, чаго няма ў крыніцах. Узорам мне быў Юм*[246]*, не ведаю нават, як так сталася"* [247].

За напісанне шматтомнай "Гісторыі літоўскага народа" Тэадор Нарбут атрымаў ад цара Мікалая I памятны сыгнет[248].

6 студзеня 1846 г. Нарбут паведаміў сябру аб сваёй новай кнізе: *"Марціноўскі ўзяў у мяне скарочаную да аднаго тома "Гісторыю літоўскага народа", каб надрукаваць, праз цэнзуру кніга яшчэ не прайшла, падобна што ён туды яе і не аддаваў"* [249]. У 1847 г. гэтую кнігу, "Дзеі народа літоўскага сабраныя ў скароце" ("Dzieje narodu litewskiego w krotkosci zebrane"), надрукаваў выдавец Рубэн Рафаловіч.

### *Выданне Хронікі Быхаўца*

"Хроніка Быхаўца" - гэта летапісны звод з ліку беларускіх летапісаў, адзін з агульнадзяржаўных зводаў Вялікага Княства Літоўскага, які быў складзены ў сярэдзіне XVI ст. і дайшоў да нашых часоў у двух спісах -

[242] Jan ze Sliwina [Kirkor A. H.]. [Wszystkie oswiecone kraje Europy…].

[243] Reda Grizkaite. Teodoras Narbutas, arba Apie tai, "kaip nereikia rasyti istorijos".

[244] Kronika Rodzinna. 1888. № 11, 1 czerwca. S. 328-335.

[245] Narbutt Teodor. Dzieje staro?ytne narodu litewskiego. T. IX. Wilno. Nakladem i drukiem A. Marcinowskiego. 1841. S. VIII.

[246] Дэвід Юм (1711-1776) - шатландскі філосаф і асветнік.

[247] Kronika Rodzinna. 1888. № 10, 15 maja. S. 294-300.

[248] Malewski Czeslaw. Rody i herby szlacheckie na Litwie (X) // Nasza Gazeta. 1 (490).

Быхаўца і Вавельскім. Спіс Быхаўца зроблены ў канцы XVII - пачатку XVIII ст., захоўваўся ў маёнтку Магілёўцы шляхціца Аляксандра Быхаўца, які ў 1834 г. пераслаў рукапіс Тэадору Нарбуту.

Працяглы час гэтая хроніка лічылася фальсіфікатам і прыпісвалася Нарбуту, які ўпершыню выдаў яе ў серыі "Помнікі літоўскай гісторыі" (“Pomniki do dziejow Litewskich”, 1846.), пасля чаго рукапіс бясследна знік. Гэта, а таксама рэпутацыя Нарбута, супярэчнасці і анахранізмы ў тэксце, далі падставы для думкі пра фальсіфікацыю. Але з сапраўднасцю хронікі згадзіліся шматлікія беларускія, польскія і расійскія гісторыкі. За некалькі гадоў да Нарбута, урывак з хронікі (фрагмент пра забойства вялікага князя Жыгімонта Кейстутавіча ў 1440 г.) надрукаваў настаўнік Віленскай гімназіі Г. Клімашэўскі, які чытаў рукапіс яшчэ ў маёнтку самога Быхаўца. У 2011 г. у 1-м (вавельскім) аддзеле Нацыянальнага архіва ў Кракаве быў знойдзены ўрывак "Хронікі Быхаўца", перапісаны ў 1570-1580-я гг., што абвяргае магчымасць фальсіфікацыі яго Нарбутам[250].

Улічваючы, што рукапіс хронікі знік бясследна, цікавым з'яўляецца наступны фрагмент з ліста Нарбута доктару Рэніеру ад 23 лютага 1844 г.: *"Дасылаю ў твае дарагія рукі, Аніцэці, сваю найвялікшую каштоўнасць, аўтограф хронікі Быхаўца. Перадай яе пану Вінцэнту Нарбуту, які жыве ў базыльянскім кляштары, ён павінен яе надрукаваць і пасля гэтага вярнуць мне"* [251]. Як бачым, шлях рукапісу бясцэннай хронікі па перапісцы прасочваецца да лютага 1844 г., калі Тэадор Нарбут перадаў яго свайму стрыечнаму, брату, які, пэўна, дажываў свой век у Віленскім базыльянскім кляштары.

23 ліпеня 1844 г. Нарбут пісаў сябру: *"Пра "Хроніку Быхаўца" нічога не чутно. Нарбут [Вінцэнт] не піша"* [252]. Аднак Вінцэнт патрошку пачаў нешта рабіць, і 12 жніўня 1844 г. гісторык паведаміў: *"В. Нарбут піша, што папраўляе ўжо 5-ты аркуш "Хронікі Быхаўца", але гэта страшна марудная і нудная праца"* [253].

Потым пачаліся праблемы з выдаўцоў Рубэнам Рафаловічам[254], з ліста ад 11 ліпеня 1845 г.: *"З Вільні 3 ліпеня паведамілі, што Рубэн яшчэ бавіцца на кантрактах у Менску і што няма канца з "Хронікай". Бог ведае, калі яна будзе гатова"* [255].

16 кастрычніка 1845 г.: *"З Рубэнам прашу неяк ласкава заканчваць, хай ужо выдае "Хроніку" да майго прыезду"* [256].

12 лістапада 1845 г.: *"Кажу, што з Рубэнам няможна давесці справу да канца. Хай будзе, як Бог дае. Зараз я не ў тым стане, каб напісаць новую прадмову, хай будзе ранейшая. Тытул таксама раней ужо напісаў: на першай старонцы, як у рукапісе - агульная назва ўсяго выдання, на другой назвы сшыткаў, з якіх складаецца "Хроніка""* [257].

У лісце ад 26 лістапада 1845 г. заўважны нават нейкі аптымізм: *"За тваё старанне вакол "Хронікі" дзякую тысячу разоў, можа, ужо справа неяк будзе скончана. Можа, ад Рубэна будзе нейкі ганарар, пра сумы я з ім не дамаўляўся і аддаю справу на той суд"*[258].

Надзея на хуткае выданне бачна і ў двух наступных лістах, 6 студзеня 1846 г. гісторык пісаў сябру: *"Усе планы прошлага года выкананы, засталіся праблемы з "Хронікай", яе выданне вельмі зацягнулася, але, можа, і яны закончацца. Я вельмі пакутую з-за гэтай затрымкі, каб ведаў, дык не абяцаў бы многім годным людзям гэтую кнігу. Будзь ласкавы, калі ўсё ж кніга будзе гатова, падлічы з Рубэнам рахункі"* [259], і ў лісце без даты з 1846 ці пачатку 1847 г.: *"На "Хроніку Быхаўца" пасля выхаду першага нумара, можна абвесціць падпіску. Мяне запэўніваюць, што падпісчыкаў з Санкт-Пецярбурга будзе шмат. Пшэслаўскі, рэдактар "Тыгодніка", наш сваяк, не адмовіць у дапамозе. Адным словам, абдумваю гэты праект. Мне самому немагчыма займацца рэдактурай. Апошнія ўмовы я напісаў"*[260].

Кніга выйшла ў 1846 г. На тытульнай старонцы напісана: *"Накладам Рубэна Рафаловіча, віленскага кнігара. У друкарні друкара М. Зымяловіча" (Nakladem Rubena Rafalowicza Ksiegarza Wilenskiego. W drukarni M. Zymelowicza Typografa. 1846.)*. На другой пасля тытульнай старонкі маецца літаграфія віленскай Вострай Брамы.

3 жніўня 1845 г. Нарбут пісаў сябру: *"Азямблоўскі Вострую Браму на камені выразаў фальшыва, я мусіў сам па-новаму намаляваць, добра што з балкона ў доме Касабудскіх, дзе мы жылі, было зручна яе назіраць. Азямблоўскі яшчэ раз, па майму малюнку выразаў яе на камені. Думаў у Яшчалда*[261] *выпрасіць відарысы*

[249] Kronika Rodzinna. 1888. № 14, 15 lipca. S. 425-430.

[250] Міхальчук Г. Новы спіс агульнадзяржаўнага летапісання Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага і яго суадносіны з "Хронікай Быхаўца" // Беларускі гістарычны зборнік. Беласток. 2016. № 45. С. 190-225.

[251] Kronika Rodzinna. 1888. № 12. 15 czerwca. S. 356-359.

[252] Там жа.

[253] Kronika Rodzinna. 1888. № 13, 1 lipca. S. 393-398.

[254] Рубэн Рафаловіч, кнігар, выдаўца некаторых прац Нарбута.

[255] Kronika Rodzinna. 1888. № 13, 1 lipca. S. 393-398.

[256] Там жа.

[257] Там жа.

[258] Там жа.

[259] Kronika Rodzinna. 1888. № 14, 15 lipca. S. 425-430.

[260] Там жа.

[261] Францішак Яшчалд (1808-1873), архітэктар, працаваў на Падляшшы.

*Вільні Смуглевіча*[262]*, каб Азямблоўскі зрабіў іх на камені, але Яшчалд так дрэнна ставіцца да літаграфічнага таленту нашага сябра, што і слухаць пра гэта не жадае"* [263].

Як бачым, Тэадор Нарбут калі-нікалі сам маляваў ілюстрацыі да сваіх кніг. Яго дачка пісала: *"Апавядаў мне тата, што калі здымаў план катэдральнай вежы ў Вільні, дык устанавіў шкло на акне* (верагодна, лупу ў якасці аб'ектыва. - *Л. Л.*) *і ўбачыў, што шкло намалявала яму вежу адваротным чынам* (як і належыць, выява была перавернутая - *Л. Л.*). *[…] Потым ён доўга думаў над магчымасцю захаваць бачанае ім адлюстраванне. Пазнейшае з'яўленне дагератыпаў пацвердзіла яго ідэю. Свае малюнкі ён размалёўваў алейнымі фарбамі*" [264].

Перад самым выхадам з друку "Хронікі Быхаўца", гісторык пісаў свайму сябру Рэніеру, з ліста бачна, што наогул "Помнікі..." задумваліся як альманах: *"Мой ласкаўца Даўконт жадае, каб кожная вокладка нашых "Помнікаў …" была аздоблена літаграфаванай гравюрай з выявай тытульнага фасада Вострай Брамы. … Каб усе ведалі, паведамляю, што артыкулы будуць на лацінскай, нямецкай, польскай, чэшскай і славянскай мовах, у апошнім выпадку - рускімі літарамі, калі-нікалі можа і лацінскімі*[265]. *Рукапісы павінны брацца толькі для друку і адразу вяртацца да мяне. Яшчэ адна заўвага, самая галоўная: паколькі над Брамай ёсць Літоўская Пагоня, дык яна павінна быць выразна бачна на малюнку. Можна было б намаляваць толькі гэтую частку будынка і не зважаць на яго ніз. Гэта значыць паказваць толькі Пагоню з грыфамі пад карнізам і больш нічога. Калі б у мяне быў гэты малюнак, дык у Пецярбургу зрабілі б дрэварыт - нехта з тых, хто гравіруе віньеткі. Патрэбна парада і дапамога ад Азямблоўскага. Зрэшты, хто возьмецца друкаваць, з тым і дамовімся. Мне параілі нейкага пана Дамініка Ходзьку*[266]*, перакладчыка віленскай цывільнай палаты, ён можа дапамагаць мне вычытваць карэктуры, ён паважаны чалавек і руплівым ліцвін"*[267].

І яшчэ пра мяркаванае новае выданне: *"Вярнуўся з Пецярбурга мой брат Фрэдэрык, прывёз лісты, кнігі, копіі рукапісаў па нашай гісторыі і адразу пачаў патрабаваць, каб я пачаў друкаваць дзённікі ці помнікі з нашай гісторыі.*

*Праект такі: выдаваць па 2 - 3 сшыткі ў адзін том, будуць раней ненадрукаваныя яшчэ хронікі, дзённікі, розныя справаздачы і дыпламатычныя акты, якіх у мяне вялікі запас. Я хацеў далучыцца да выдання Пшаздзецкага і Грабоўскага*[268]*, але мае мецэнаты - тыя хто дае мне матэрыялы, на гэта не згодны. Яны толькі жадаюць каб Літва была асобнай, бо палякі мелі ці маюць звычку ўзвышацца над намі, ліцвінамі, і нібыта прымяншаюць значнасць большасці нашых тэкстаў. Хаця я не зусім у гэта веру, я не магу спрачацца з людзьмі, якія дапамагаюць мне ў працы. На жаль, я не магу хутка прыехаць у Вільню з-за дрэннай дарогі, а час ідзе. Таму я вырашыў прасіць тваю параду, што мне рабіць? Мне здаецца, што найперш трэба паразмаўляць з Завадскім. Калі ён не пагодзіцца з умовамі ці адразу адхіліць прапанову, дык тады з Глюксбергам і, нарэшце, з яўрэем. Паколькі выданне будзе разбітае на сшыткі, я б хацеў атрымаць ганарар па 5 рублёў за друкаваны аркуш, а друкар на сваю рызыку павінен атрымаць прыбытак з накладу і мне аддаць толькі 60 экзэмпляраў. Зрэшты, мог бы патрабаваць і меней, але не менш за 3 рублі срэбрам. Канчатковай карэктурай і памылкамі я заняўся б сам, і таму штотыдзень мне трэба было б прысылаць спецыяльнага ганца, якому б рэдактар плаціў па паўрубля. Для першага сшытка першага тома дасылаю "Хроніку Быхаўца", і пасля выхаду першага нумара можна абвесціць падпіску*" [269].

Выданне альманаха не атрымалася, "Хроніка Быхаўца" выйшла асобнай брашурай намаганнямі самога Нарбута. Вядома, што яшчэ ў 1851 г. рукапіс "Хронікі Быхаўца" знаходзіўся ў сядзібным доме ў Шаўрах, і толькі вопіс 1864 г. зафіксаваў яго адсутнасць.

**Кнігі, выдадзеныя Нарбутам у 1850-х гг.**

Адам Кіркор у 1854 г. наступным чынам падсумаваў шматгадовую працу Тэадора Нарбута:

*"Акрамя вялікай колькасці артыкулаў, апублікаваных у розных выданнях […] ён апублікаваў у Вільні наступныя працы:*

*1) Нарыс гісторыі цыганскага народа, 1830.*

*2) Вырошчванне лёну, канопляў і іншых валаконных раслін, па заказу былога Віленскага ўніверсітэта,1833.*

*3) Выбраныя оды і кантаты Жана Батыста Русо, пераклад з фр., 1833.*

*4) Оды Гарацыя, вершам, 1835 г.*

*5) Гісторыю літоўскага народа, 9 тамоў, т.1. выйшаў у 1835 г., а т. 9 - у 1841 г.*

---

[262] Францішак Смуглевіч (1745-1807), мастак, заснавальнік беларускай і літоўскай нацыянальных школ жывапісу.

[263] Kronika Rodzinna. 1888. № 13, 1 lipca. S. 393-398.

[264] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 11. Спр. 19. Арк. 66 адв.

[265] Дачка гісторыка Тэадора Манчунская пісала, што яе бацька ведаў ажно дзевяць моў.

[266] Верагодна, Дамінік Цэзары Ходзька (каля 1800 - 1863) - беларускі фальклярыст, этнограф, літаратар.

[267] Kronika Rodzinna. 1888. № 14, 15 lipca. S. 425-430.

[268] Пшаздзецкі і Грабоўскі выдавалі "Крыніцы да польскай гісторыі" (“Zrzodla do dziejow polskich...”), кіраваў якімі Мікалай Маліноўскі.

[269] Kronika Rodzinna. 1888. № 14, 15 lipca. S. 425-430.

*6) Помнікі літоўскай гісторыі, 1846 г.*

*7) Дзеі народа літоўскага сабраныя ў скароце, 1847 г.*

*8) Невялікія гістарычныя творы. (Pomniejsze Pisma historyczne).*

*9) Гербоўнік Каяловіча.*

*Апошнія дзве кнігі яшчэ знаходзяцца ў рукапісах.*

*Сёння, у цішыні свайго дома, сярод сваёй сям'і, Нарбут не перастае працаваць над статыстыкай і археалогіяй нашага краю і пільна сачыць за рухам нашай літаратуры. Яго вялікая бібліятэка, багатая рэдкімі гістарычнымі творамі, старажытнымі рукапісамі, выпіскамі з літоўскіх спраў з тайнага архіва ў Кёнігсбергу, Інфлянцкага архіва і іншых крыніц. Акрамя таго у ёй ёсць рэдкія калекцыі археалагічных помнікаў, выкапаных з-пад зямлі, у тым ліку і бронзавая статуя бога вайны Каваса разам з іншымі археалагічнымі каштоўнасцямі"* [270].

Пра паганскага бажка Каваса паразмаўляем у наступным раздзеле, а покуль спынімся на "Невялікіх гістарычных творах".

9 сакавіка, 1845 г. гісторык паведамляе доктару Рэніеру, што ён *"падрыхтаваў шмат артыкулаў непасрэдна па гісторыі Вільні: 1) Новае пра жыццё віленскага біскупа Андрэя Васілы, з рукапісаў алькеніцкіх францішканаў. 2) Важныя заўвагі пра касцёл св. Мікалая. 3) Гісторыя касцёла св. Ганны. 4) Пра каменнае надмагілле Альбрыхта Гаштольда. 5) Пра царкву св. Праскевы ці Пятніцкую. 6) Пра студэнцкі бунт у Вільні 1644 г. 7) Пра тапаграфію Вільні - два апошніх з адшуканых рукапісных дзённікаў"* [271].

На гэтым месцы трэба спыніцца.

З ліста бачна, што Нарбут рыхтуе да публікацыі кнігу "Невялікія гістарычныя творы" [272], якая выйшла ў 1856 г. Выход кнігі быў анансаваны ўжо ў канцы 1853 г. у "Газеце Варшаўскай". Газета надрукавала вялікі артыкул пра гэтую кнігу Нарбута, якая павінна была складацца з 24 частак, сярод якіх аўтар артыкула асабліва выдзяляў часткі пра сваволю віленскіх студэнтаў з дзённіка Філона Асінскага і "Дзённік пасольства крыжакоў у 1397 г." ("Дзённік Кібурга"). У газеце пераказваўся змест "Дзённіка…" і паведамлялася, што гэта не тэкст самога дзённіка а толькі яго выклад для невядомай асобы, што рукапіс "Дзённіка Кібурга" Нарбуту перадаў прафесар Анацэвіч, які да таго часу ўжо памёр і таму немагчыма даведацца, адкуль ён здабыў гэты тэкст [273].

У сваім лісце Нарбут паведамляе доктару Рэніеру пра так званы *"Дзённік пасольства ад Прускіх Крыжакоў да вялікага князя літоўскага Вітаўта ў 1347 г. які будзе надрукаваны ў гэтай кнізе"* [274]. Сёння вядома, што гэты дзённік Нарбут сфальшаваў. У ім віленскі касцёл св. Ганны апісаны ў такім выглядзе, які помнік набыў толькі пасля 1500 г.[275], бо вядома, што першасны, драўляны касцёл Святой Ганны быў збудаваны ў XIV ст. Таксама фальшыўкамі з'яўляюцца і апісанне ўмацаванняў сталіцы ВКЛ у сярэдзіне XV ст., і ліст сучасніка пра спальванне ерэтычных кніг у Вільні ў 1581 г., і аповед пра хваляванні студэнтаў-езуітаў у 1644 г.[276]

Цікава, што Нарбут надрукаваў сваю фальшыўку, як быццам, у перакладзе "з арыгінальнага рукапісу", зробленым выкладчыкам былога Віленскага ўніверсітэта, прафесарам Ігнатам Анацэвічам. Як выдавец Нарбут дадаў, што Анацэвіч падараваў яму гэты дзённік *"разам з іншымі матэрыяламі па гісторыі Літвы. З якога архіва ці бібліятэкі ўзяты - не вядома"* [277]. Нарбут і насамрэч быў добра знаёмы з прафесарам Анацэвічам. У перапісцы з Рэйнерам сустракаем, напрыклад, такія словы: *"...гэта мне казаў Анацэвіч"* [278], ён цікавіўся лёсам яго рукапісаў: *"Хто ведае, куды пайшлі яго рукапісы?"* [279] і г. д.

Гісторык Генадзь Сагановіч задаецца пытаннем: *"Чым жа кіраваўся аўтар ... містыфікацыі?"* і прыводзіць меркаванне сваіх папярэднікаў, некаторыя з іх лічылі, што ў фальсіфікацыях Нарбут кіраваўся высакародным памкненнем - ім рухала любоў да сваёй Айчыны, іншыя, што гэта было *"жаданне прыдаць бляску літоўскай гісторыі XIII-XVI ст.ст."* ці зайздрасць славе Юзафа Крашэўскага, ці тое, што Нарбут меў схільнасць да белетрызацыі гісторыі і таму стварэнне і публікаванне фальсіфікатаў з часам *"зрабілася для яго амаль што неабходнасцю"*.

Сагановіч дадае, *"што трэба ўлічваць і так званы "дух часу". На канец XVIII - першую палову XIX ст. прыпаў найбольшы ўздым вырабу гістарычных і літаратурных фальшывак як у краінах Цэнтральна-*

---

[270] Jan ze Sliwina [Kirkor A. H.]. [Wszystkie oswiecone kraje Europy…] // Gazeta Warszawska. 1854. №. 42. S. 4.

[271] Kronika Rodzinna. 1888. № 13, 1 lipca. S. 393-398.

[272] Narbutt Teodor. Pomniejsze pisma historyczne. Wilno, 1856.

[273] Gazeta Warszawska. 1853. №. 262. S. 5-6.

[274] Dziennik poselstwa od Krzyzakow Pruskich do Wielkiego Ksiecia Litewskiego Witolda, w r. 1347 odbytego, przez Konrada, Hrabi Kiburg, Wielkiego Szpitalnika Zakonu, z towarzyszami (niewymienionymi po nazwiskach) // Narbutt T. Pomniejsze pisma historyczne. Wilno, 1856. S. 133-162.

[275] Сагановіч Г. М. Дзённік Конрада Кібурга 1397 г.: вяртанне да фальшыўкі // Беларускі археаграфічны штогоднік. Вып. 5. Мінск, 2004. С. 105.

[276] Tazbir Janusz. Z dziejow falszerstw historycznych w Polsce w pierwszej polowie XIX wieku XIX w. // Przeglad Historyczny. T. LVII. Zesz. 4. 1966. S. 580-598.

[277] Сагановіч Г. М. Дзённік Конрада Кібурга 1397 г.: вяртанне да фальшыўкі. С. 102.

[278] Kronika Rodzinna. 1888. № 10, 15 maja. S. 294-300.

[279] Kronika Rodzinna. 1888. № 13, 1 lipca. S. 393-398

*Усходняй Еўропы, так і ў Расійскай імперыі. Напрыклад, у 1817 г. чэхі В. Ганка і В. Свобада апублікавалі "Краледворскі рукапіс" - славуты твор чэшскага эпасу, які на павер аказаўся таленавітай падробкай. Цалкам верагодна, што, менавіта прыклад чэхаў натхняў на містыфікацыю і віленскіх гісторыкаў"* [280].

Каб зразумець што адчуваў і пра што думаў наш гісторык, цікава будзе прачытаць наступны кавалак тэксту з II-га тому яго "Гісторыі ...": *"З вокнаў майго дома, у якім гэта пішу, я кожны дзень гляджу на цвердзь пад Радунню*[281]*, якая знаходзяцца ад мяне на адлегласці не больш за вярсту па прамой лініі. Яна з'яўляецца для мяне вобразам велічнай, далёкай цвердзі. Гледзячы на гэты рэдкі помнік мінуўшчыны, я кожны дзень адчуваю, як у маім сэрцы ўзнікаюць новыя пачуцці, якія абвастраюць маю цікаўнасць да разумення гісторыі, і з кожным днём я адчуваю ўсё большую немагчымасць дасягнуць гэтага. Чым больш я паглыбляюся ў пазнанне даўніны роднай зямлі, тым далей яна адыходзіць ад мяне ў глыбіню стагоддзяў і імкнецца схавацца ад вачэй маёй душы"*[282].

Нарбут не меў на ўвазе нейкія фізічныя перашкоды для вывучэння мінуўшчыны. Немагчымасць даследаваць гэтую цвердзь (як сімвал нашай гісторыі) - гэта немагчымасць дакрануцца да яе сапраўднага мінулага, немагчымасць цалкам рэканструяваць яго. *"Бо я параўноўваю сябе з хлопчыкам, які, выйшаўшы на бераг мора, якое затапіла руіны некалі магутнага горада, знайшоў рэшткі разбітага мазаічнага малюнка, раскіданага або паглынутага вадой. Прыцягнуты прыгажосцю мастацтва, ён пачаў збіраць дробязь і размяшчаць яе ў ранейшай сіметрыі. Ён зрабіў абрысы і выявіў шмат дэталяў; але ён бачыць, колькі яшчэ не хапае, і ён не ў стане запоўніць пустэчу і таму глядзіць на водную прастору, якая ўсё затапіла. З уздыхам ён спадзяецца на той момант, калі мора выкіне каменьчык з гэтай мазаікі, спадзяецца, спадзяецца і нарэшце сам тоне ў гэтай бездані шматвекавога знішчэння"* [283].

Нарбут адчуваў недахоп тэкстаў, недахоп жывых успамінаў (як гэта адчуваю, напрыклад, і я, вывучаючы значна больш познія часы) якія павінны былі запоўніць гэтую пустку гісторыі, жыва адлюстраваць гістарычныя падзеі, якія ён ужо адчуваў і ў глыбінях сваёй душы прадбачыў, каб такім чынам адрынуць усялякія непаразуменні з калегамі.

Як чалавек, які шмат гадоў вывучае Нарбута і яго сям'ю, заўважу, што Нарбут пісаў яшчэ ў тыя часы, калі факультэты ўніверсітэтаў, якія рыхтавалі гісторыкаў называліся "гісторыка-філалагічнымі" - гісторыя яшчэ не разышлася з філалогіяй, і сам Тэадор называе сябе літаратарам. Нарбут, быў чалавекам, які страціў слых і меў вялікія праблемы ў камунікацыі з іншымі людзьмі, што пакідала яго сам-насам з унутраным жыццём сваёй душы. І пасля дзесяцігоддзяў вывучэння гісторыі роднага краю, у яго душы склаўся вобраз нашай гісторыі, у якім ён быў абсалютна ўпэўнены, але не мог доказна паказаць яго сваім калегам. Можа, ён нават меў і нейкі містычны, рэлігійны вопыт суперажывання і разумення гістарычных шляхоў, які цалкам пераконваў яго ў сваёй праваце, і таму Нарбут мог лічыць, што сваім пяром ён робіць абсалютнае дабро і адчыняе нам невядомыя раней таямніцы гісторыі.

Нарбут быў чалавекам свайго часу - з аднаго боку *"расказы пра духаў былі яго любімай тэмай"* [284], ці: *"З нейкай наіўнай прыемнасцю ён часамі размаўляў пра надпрыродныя рэчы. Калі-нікалі яго думкі блукалі ў краіне духаў, ён дапускаў іх існаванне і стасункі з нашым светам"* [285], з другога боку, падобна на тое, што ён прытрымліваўся ідэй дастаткова вульгарнага матэрыялізму, уласцівых XIX ст.: *"Не раз казаў мне, што ўсё ўжо адкрыта і ўсё напісана. Ён гэта прымаў і скардзіўся на брак сродкаў і неабходных рэчаў, з дапамогай якіх можна зрабіць адкрыццё"* [286], - казаў усё гэта дачцэ. У нечым падобныя погляды, напрыклад, меў і рэктар Віленскага ўніверсітэта Ян Снядэцкі, які вінаваціў самога Канта ў ідэалізме: *"Пасля таго як Бэкан, Лок, Лейбніц, д'Аламбер і іншыя так добра растлумачылі здольнасці і дзеянні душы, Кант падымае з дамавіны нездавальняльнае вучэнне Платонава… мяшае летуценні і дзівацтвы з простым, хоць, зрэшты, недастатковым вучэннем Платона"* [287].

Адукаваныя людзі таго часу былі ўпэўнены, што ўсе законы прыроды ўжо адкрыты і, абапіраючыся на тры законы механікі Ньютана, можна не толькі вылічыць рух планет і зорак але і, калі будзе магчымасць, падлічыць вялікія масівы дадзеных, вылічыць і растлумачыць працу чалавечага мозгу і душы. Магчыма, гэтае дзіўнае злучэнне ўласцівай Нарбуту спецыфічнай рэлігійнасці з матэрыялізмам чалавека, які мае прыродазнаўчую адукацыю і прывяло яго да фальшавання гістарычных крыніц.

Але гэта толькі мае гіпотэзы.

[280] Сагановіч Г. М. Дзённік Конрада Кібурга 1397 г.: вяртанне да фальшыўкі. С. 107-108.

[281] Так званы "Радуньскі замак", гл: Лаўрэш Леанід. Радуньскі замак // Наша Слова № 25 (968), 23 чэрвеня 2010.; Лаўрэш Леанід. Таямнічыя замкі Лідчыны // Маладосць. 2012. №6. С. 97-100.

[282] Narbutt Teodor. Dzieje starozytne narodu litewskiego. T. II. Wilno, 1837. S. 383-384.

[283] Narbutt Teodor. Dzieje starozytne narodu litewskiego. T. VI. Wilno, 1839. S. VI-VII.

[284] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 11. Спр. 19. Арк. 23.

[285] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 11. Спр. 4. Арк. 105.

[286] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 11. Спр. 19. Арк. 82 - 82 адв.

[287] Лаўрэш Леанід. "І зорнае неба над галавой…": Нарысы з гісторыі астраноміію Мінск, 2013. С. 87.

**Калекцыя Тэадора Нарбута**

Найважнейшым месцам у Шаўрах - сапраўднай сядзібе-архіве, яе сэрцам, была бібліятэка і калекцыя старажытнасцяў з нумізматычнымі зборамі і шматлікімі рукапісамі.

З ліста ад 5 лютага 1842 г. даведваемся, што прэлат Гразмані, пра якога я пісаў вышэй, падараваў нашаму гісторыку, як найменей, частку сваёй калекцыі: *"Пішу да Далецкага пра каменныя молаты* (каменныя сякеры - *Л. Л.*), *якія мне [раней] падараваў нябожчык, прэлат Гразмані. Я не забраў іх у прошлым годзе, бо забыў пра іх і ўвесь год больш не быў у Вільні, там яны і засталіся"* [288].

Нарбут добра ведаў тагачасных збіральнікаў гістарычных артэфактаў і ўважліва сачыў за лёсам калекцый пасля смерці гаспадароў: *"У нас кажуць, што генерал Касакоўскі пайшоў у лепшы свет. Пасля яго засталося шмат старых рэчаў. Было б добра атрымаць некаторыя з іх у музей літоўскіх старажытнасцяў"*, - пісаў ён сябру-доктару 20 снежня 1842 г., і праз месяц: *"Прашу памятаць пра дробязі, якія пасля смерці генерала Касакоўскага ёсць магчымасць атрымаць"* [289].

Юзаф Антоні Касакоўскі (1772-1842), заслугоўвае таго, каб трошкі расказаць пра яго. Генерал Юзаф Касакоўскі паходзіў са шляхецкага роду Касакоўскіх герба Слепаўрон. Адукацыю атрымаў у калегіюме каталіцкага манаскага ордэна піяраў у Вільні. У 1792 г. Юзаф Антоні Касакоўскі як харунжы 8-й харугвы 1-й брыгады кавалерыі ВКЛ удзельнічаў у вайне за незалежнасць. Затым у чыне маёра стаў камандзірам 3-й брыгады кавалерыі ВКЛ. Пасля вайны збіраўся прыняць духоўны сан і стаць вікарыем свайго дзядзькі, інфлянцкага біскупа Юзафа Казіміра Касакоўскага, аднак у тым жа 1792 г. ён стаў дарадцам Літоўскай генеральнай канфедэрацыі ў складзе Таргавіцкай канфедэрацыі. У 1794 г. Касакоўскі ўдзельнічаў у паўстанні Касцюшкі і прыняў удзел у абароне Вільні. Пасля задушэння паўстання некалькі гадоў жыў у Парыжы, потым вярнуўся ў Літву, якая ўвайшла ў склад Расіі.

Падчас ваеннай кампаніі 1812 г. ужо брыгадны генерал Касакоўскі, знаходзіўся ў свіце імператара Напалеона як флігель-ад'ютант (акрамя яго, ад мясцовай шляхты флігель-ад'ютантамі былі Яўстах Эразм Сангушка і Людвік Міхал Пац). Удзельнічаў у бітве пад Смаленскам і Барадзіно. З 29 верасня 1812 г. тры дні займаў пасаду губернатара Масквы. Падчас адступлення арміі, прымаў удзел у шэрагу сутычак і бітваў, у тым ліку, і ў бітве на рацэ Бярэзіне.

У 1813 г., застаючыся флігель-ад'ютантам імператара, прыняў удзел у бітвах пад Лютцэнам, Баўцэнам, Дрэзданам, Ляйпцыгам і Ганаў. У 1814 г. з-за хваробы некалькі месяцаў не ўдзельнічаў у ваенных дзеяннях, аднак у красавіку 1814 г. быў адным са сведкаў адрачэння Напалеона Банапарта ад імператарскага трона ў Фантэнбло. У тым жа годзе Юзаф Антоні Касакоўскі атрымаў тытул графа французскай Першай імперыі і стаў рыцарам Мальтыйскага ордэна. Пасля заканчэння ваенных дзеянняў быў амніставаны і вярнуўся на радзіму. Быў вядомы як калекцыянер, у тым ліку і розных рэліквій, звязаных з Напалеонаўскімі войнамі[290].

У "Тыгодніку Пецярбургскім" у 1843 г. сярод іншага, Тэадор Нарбут пісаў: *"У кабінеце нябожчыка генерала Касакоўскага я разглядаў маленькую бронзавую фігурку, якую ён лічыў ідалам літоўскіх паганцаў, бо яна была знойдзена ў яго маёнтку над Віліяй Дольнай. Аднак у яе характары і прыкметах не было нічога, што нагадвала б нейкага знаёмага бажка. Стыль і метал заяўлялі аб яго старажытнасці. Дзе зараз знаходзяцца гэтыя помнікі і якую карысць яны нясуць для археалогіі?"* [291]. У тым жа артыкуле гісторык згадвае страчаныя калекцыі Дыянізія Пашкевіча, які ўсё жыццё збіраў жмудскія старажытнасці, і калекцыянера і маршалка Расіенскага павета графа Юрыя Плятэра.

Праз нейкі час "Тыгоднік Пецярбургскі" друкуе водгук на артыкул Нарбута нейкага Т. Б. з Жытоміра, у якім той апісаў калекцыю генерала Касакоўскага: "... *генерал Касакоўскі памёр. Некалькі гадоў таму, калі быў у Вільні, я зблізіўся з ім. Гэта быў выдатны чалавек. Ён ваяваў па ўсім свеце і ўсюды збіраў усё вартае гісторыі - кабінет у яго быў вельмі цікавы. Там вы бачылі самыя розныя цікавосткі - на розныя густы і схільнасці. Акрамя таго, усё гэта было шыкоўна размешчана ў гасцёўнях, дзе спыняўся і прымаў гасцей сам генерал, - а паколькі ён звычайна жыў у Вільні, дык многія з карысцю маглі ўбачыць гэты кабінеткватэру, у якую адны прыязджалі як сябры генерала, а другія прыходзілі, каб непасрэдна ўбачыць цікавыя рэчы, вартыя іх ўвагі. Генерал з аднолькавай прыязнасцю абводзіў усіх па сваіх пакоях, як старых, так і новых знаёмых, паказваў і тлумачыў ім свае цікавосткі. Я некалькі разоў прасіў генерала скласці спіс рэчаў ягонага кабінета і надрукаваць. Я не ведаю, ці пакінуў ён такі спіс з гістарычнымі і фізічнымі апісаннямі ўсяго, што меў, і пра які я яго прасіў. ... калі ён не зрабіў, гэтага ўжо ніхто не зробіць. Аднак спадчынніку ... варта было б зрабіць хаця б фізічны вопіс гэтых цікавостак і абнародаваць яго"* [292].

Незайздросны лёс у нашым краі мелі калекцыі, незайздросны лёс мела і калекцыя самога Тэадора Нарбута, пра якую якраз і прыйшла чарга падрабязней

[288] Kronika Rodzinna. 1888. № 10, 15 maja. S. 294-300.
[289] Kronika Rodzinna. 1888. № 11, 1 czerwca. S. 328-335.
[290] Polski Slownik Biograficzny. T. XIV. S. 262-263.
[291] Teodor Narbutt. [Jest to zawiazek Muzeum krajowego ...] // Tygodnik Petersburski: gazeta urzadowa Krolewstwa Polskiego.1843. № 25. S. 157.
[292] Tygodnik Petersburski: gazeta urzadowa Krolestwa Polskiego. 1843. № 43. S. 258.

расказаць. Каб зрабіць гэта, мы маем тэкст паэта Уладзіслава Сыракомлі, прысвечаны калекцыі ў Шаўрах, надрукаваны ў 1854 г. у "Газеце Варшаўскай".

*"Пачнём з таго, што абагаўлялі нашы прабацькі і зірнём на камень асаблівай формы, якому па меркаванні Нарбута, пакланяліся, як богу. Яго знайшлі ў маёнтку Шаўры, у капанцы, куды Пяруна кінулі ахрышчаныя паганцы. У імя навукі каменны бог вярнуў сабе "алтар" як помнік гісторыі"*, - пачаў паэт апісанне калекцыі нашага земляка: *"Наступны экспанат - рэшткі чорнага мармуру, якія паходзяць з Інфлянтаў і лічацца кавалкамі надмагілля Міндоўга. Трэба дадаць, што Нарбут адмаўляе магчымасць пахавання Міндоўга ў так званай Навагрудскай гары Міндоўга"*. Думаю, у наш час не мае сэнсу каментаваць аўтэнтычнасць надмагілля Міндоўга.

Як і Яўстах Тышкевіч[293], наш гісторык у сваёй калекцыі меў слязніцы: *"Нарбут мае 5 слязніц (lacrimatoria)[294] з розных курганаў, у адной з іх яшчэ засталіся слёзы, другая - пустая і адчыненая, трэцяя не сферычная, як звычайна, а падобная на бутэльку, чацвёртая зробленая з гліны і вылучаецца асабліва добрай апрацоўкай, але разбітая, пятая і апошняя - маленькая, бурштынавая чаша, знойдзеная ўнутры васковага шара памерам з яблык, яна ляжала ў нагах шкілета малога дзіцяці"*.

Меў Нарбут і артэфакты, якія казалі пра распаўсюджанасць абраду трупапалення ў старыя часы: *"Звычай спальвання парэшткаў асоб, якія мелі ўладу, пакінуў у калекцыі Нарбута два прадметы: першы - кавалак верху урны з попелам, выраблены з абпаленай гліны і знойдзены каля Нёмана ў Друскеніках, другі - ніжняя частка гранітнай урны з попелам, якая некалі была выкапана з зямлі і ляжала пад парогам сялянскай хаты, а зараз умуравана ў слуп брамы саду [у Шаўрах]"*. І далей, пра знаходкі ў могільніках: *"Маецца ў калекцыі і больш за 30 выробленых з рознага матэрыялу пацерак рознай формы і памеру, яны знойдзены ў курганах і з'яўляюцца жаночымі ўпрыгожаннямі.*

*Пра тое, што ў магілах разам з нябожчыкам хавалі і яго любімыя рэчы ці рэчы, якія былі яго занятках, сведчаць знойдзеныя ў курганах два шарыкі з адтулінамі для завострывання брытваў, Нарбут лічыў, што гэтыя рэчы ляжалі ў магілах цырульнікаў. Пяць брытваў і ржавых нажоў, знойдзеных там, здаецца, пацвярджаюць выснову, што нават у тыя старажытныя часы захад аказваў уплыў на Русь і Літву, у якіх адрошчванне барады было традыцыйным і амаль што рэлігійным звычаем"*.

Потым Уладзіслаў Сыракомля пераходзіць да апісання зброі ў калекцыі Тэадора Нарбута: *"Сем каменных тапароў рознага памеру, сярод якіх два разбітыя, і два каменныя долаты - усё гэта знойдзена ў Лідскім павеце.*

*Каменныя шары накшталт тых, якія мы апісалі ў калекцыі Тышкевіча, яшчэ да з'яўлення пораху служылі для скідвання на непрыяцеля з гары. Яны вытачваліся з рознага каменю - больш буйныя з граніту, а дробныя з любога каменю.*

*У калекцыі Нарбута ёсць гарматнае ядро са шведскага мармуру, знойдзенае каля вёскі Кубанцы, напалову трэснуты гранітны шар вялікага калібру, які быў знойдзены пад гістарычным замкам у Лідзе, і яшчэ большы, таксама гранітны, знойдзены пад Замкавай гарой у Вільні"*.

Сыракомля гэтак заканчвае першую частку свайго артыкула: *"Каменная пліта з цвёрдага вапняку з падлогі і кавалак пячной кафлі былі знойдзены ў руінах замка ў Друскеніках, які некалі існаваў на правым беразе ракі Ратнічанкі"* [295].

Дадам, што Нарбут усё жыццё цікавіўся памятнымі камянямі: *"Атрымаў інфармацыю пра знойдзены нядаўна важны камень у Літве, на якім шмат невядомых надпісаў, але сёння ён ляжыць пад снегам, адкладу да вясны мой візіт да гэтага ветэрана нашай краіны. Таксама чуў пра другі камень з невядомымі надпісамі і фігуркамі, хутка чакаю больш падрабязных вестак"*[296], - пісаў ён доктару Рэніеру 12 студзеня 1841 г. Нарбут першым паведаміў пра цікавыя, гістарычныя камяні на Лідчыне, напрыклад пра цікавы камень каля Няцечы (за 7 км на ўсход ад Ліды па левым баку дарогі з Ліды на Ліпнішкі): *"За Лідай, на тэрыторыі Дубровенскага староства, ёсць велічэзная глыба граніту, да 400 кубічных футаў"* [297], пра камень-следавік, які раней ляжаў каля вёскі Мэйры (Лідскі р-н): *"... адзін (камень) у Лідскім павеце, Ваверскай парафіі, у маёнтку Юзафа Шышкі, каля вёскі Мэйры: ступня на камені там выразная і дакладна выбітая. Сяляне ўважаюць яе за ступню Маці Божай і прызвычаіліся да яе ўшанавання"* [298].

Другую частку артыкула паэт пачынае са старажытных помнікаў з металу, са статуі паганскага бажка Каваса: *"Цікавыя рэчы ў гэтым раздзеле пачынаюцца з маленькай бронзавай статуэткі Каваса ў старажытных балтаў. Статуэтка была выарана на полі каля Плацялёў. Сваімі мастацкімі якасцям статуэтка*

---

[293] Гл: Лаўрэш Леанід. Яўстах Тышкевіч, яго калекцыя і яго музей // Наша слова.pdf № 49 (101), 6 снежня 2023. С. 12.

[294] Слязніца (слязнік) - посуд, які ставілі памерламу ў магілу і ў які быццам бы збіраліся слёзы родных, што плачуць па нябожчыку.

[295] Wl. Syrokomla. Listy o zbiorach archeologicznych w Wilnie. Zbior historyka Litwy Teodora Narbutta (w powiecie Lidzkim w majatku Szawrach). Rzeczy ze szkla, glony i kamienia // Gazeta Warszawska. 1854. № 159. S. 4.

[296] Kronika Rodzinna. 1888. № 10, 15 maja. S. 294-300.

[297] Narbutt Teodor. Dzieje starozytne narodu litewskiego. Wilno, 1837. T. II. S. 196.

[298] Narbutt Teodor. Dzieje starozytne narodu litewskiego. Wilno, 1839. T. VIII. Dodatak XI. S. 45.

*ўказвае на яшчэ дзікі стан Літвы. Дэталі вопраткі баства паказваюць узбраенне старажытных балтаў. На галаве баства маецца шлем, які шчыльна ахоплівае лоб, патыліцу і шыю, а звычайны рыцарскі нашыйнік, злучаны са шлемам, бароніць частку грудзей і плячэй. Мяркуецца, што шэраг маленькіх ямачак, якія праходзяць праз шыю і грудзі, сімвалізуюць ланцуг, які насілі ваяры ў той час. Непрапарцыянальна вялікія адтуліны ў шлеме для вушэй могуць сімвалізаваць гэтак неабходную ваяру пільнасць. Жалезны панцыр боства ці, можа, кафтан з тоўстай звярынай скуры, цесны і з нізкім разрэзам, падзелены ад паса на восем частак, дакладна такой формы, якую мы і сёння бачым на гарсэтах сялянак. Ногі баства сагнутыя ў каленях, як быццам ён скача. Акрамя таго, баство не мае абутку і ніжняй часткі адзення. Падстаўкай для статуэткі з'яўляецца васьмігранны слуп, як быццам капітэль ад калоны. У выцягнутых, але зараз зламаных руках, як сімвал сваёй сілы, статуя павінна была трымаць нейкую зброю"* [299].

Сам Тэадор Нарбут пісаў пра Каваса ў першым томе сваёй "Гісторыі ..." наступнае: *"Месяц сакавік літоўцы называюць Кавас, які ў рымлян таксама быў прысвечаны богу Марсу. У летувіскай гаворцы, калі хочуць сказаць пра рыцарскі характар ці выраз твару чалавека, кажуць: "Kawinga Kartu". Слова Кавас на самай справе азначае костка ці вайна. Стрыйкоўскі называе гэтага бога Хаўрырары*[300] *[...].*

*У 1809 г. у Мар'ямпольскім павеце, непадалёк ад левага берага Нёмана, у вёсцы Лакайцы, селянін Кавалеўскі церабіў лес і знайшоў на полі, пад гнілым ствалом некалі вялізнага дуба, розную зброю: гэта былі ржавыя мячы, корды, наканечнікі стрэл, баявыя тапары, цэнтральныя часткі шчытоў, прылбіцы, некалькі рэчаў з медзі і срэбра. У 1813 г. с. п. Даўят, які валодаў у той час фальваркам Лакайцы, расказваў мне пра гэта: "Я атрымаў медную медзяніцу шырынёй у 2,5 цалі і па абводзе ў 11. Выяву гэтай рэчы, якую я зрабіў вельмі старанна, можна ўбачыць на малюнку 1, табліччка 1 (у канцы 1-га тома "Гісторыі ..." - Л. Л.). На ім выбіты ваяўнічыя сімвалы [...].*

*Унізе надпіс па-літоўску: "Kawas. Kawas podek mums", значыць: Kawas, Kawas, дапамажы нам. Гэта было акуцце трубы літоўскага ваяра, якая, напэўна, была зроблена з рога і згніла ў зямлі. Надпіс зроблены*




*русінскімі літарамі [...] Дуб, з-пад ствала якога знойдзена гэтая старадаўняя зброя, быў свя-тым, на ім вешалі зброю, прысвечаную багам [...]"* [301].

Пра статуэтку гэтага ўяўнага бажка Каваса ў сядзібе Нарбута таксама пісалі: Каміла Юрэвіч[302] з Нарбутаў (гл. ніжэй) і Адам Кіркор (гл. вышэй).

Сам Нарбут у 1843 г. пра знаходку статуэткі паведамляў наступнае: *"Найбольш рэдкімі і цікавымі помнікамі з'яўляюцца статуі багоў. Наколькі я ведаю, у Літве іх выяўлена толькі тры: дзве ў Коўні, пра якія я ўжо згадваў у сваім месцы (Dzieje narodu Litews. T. IV. Dodatek XVIII. str. 80-84 .). Трэці бог, Кавас, знойдзены ў Жмудзі ў 1836 г., на ворным полі каля Крож, на хутары Бурачкі і беражліва захоўваецца ў мяне. ... Я бачыў у мінералагічным кабінеце былога Віленскага ўніверсітэта фрагмент бронзавай фігуркі з барадатай галавой і доўгімі, растрапанымі, неахайнымі валасамі, чымсьці вельмі падобным да паганскай бронзы; але вучоныя, поўныя скептыцызму, ... не дазволілі мне аднесці гэты помнік да эпохі паганства, сцвярджаючы, што ... гэта павінен быць аскепак якога-небудзь хрысціянскага святога, зроблены няўмелым майстрам"* [303]. Як бачым, Нарбут шукаў і бачыў паганскіх бажкоў у самых розных аскепках.

Магчыма, менавіта пра гэтую статуэтку ішла гаворка ў лісце ад 11 ліпеня 1845 г.: *"Пан Данілецкі піша, што мае для мяне нейкую бронзавую фігурку, знойдзеную ў зямлі, просіць дазволу даслаць яе ў наш музей"* [304]. Нагадаю, што Данілецкі жыў у Гародні і быў супрацоўнікам часопіса "Ундзіна".

Сучасныя летувіскія навукоўцы вінавацяць Тэадора Нарбута не толькі ў падачы сумнеўных матэрыялаў па літоўскай міфалогіі, але і ў фальсіфікацыях, бо інфармацыя Нарбута не пацвярджаецца іншымі крыніцамі. Сярод спісу бажкоў, якіх ведаў толькі Нарбут, ёсць і бажок Кавас[305] - такі сабе, "два разы" міфалагічны бажок.

Вядучы сучасны летувіскі інтэлектуал Томас

---

[299] Wl. Syrokomla. Listy o zbiorach archeologicznych w Wilnie. Jeszcze zbior historyka Litwy Teodora Narbutta (w powiecie Lidzkim w majatku Szawrach). Rzeczy z metalu // Gazeta Warszawska. 1854. № 169. S. 4.

[300] На сучаснай летувіскай мове ёсць слова "Kauriraris" . Этымалогія слова не ясная. Мацей Стрыйкоўскі згадвае бога як Chaurirari, навукоўцы не згодныя наконт арыгінальнай формы гэтага імя. Уладзімір Тапораў выказаў гіпотэзу, што слова паходзіць ад літоўскага "kaurai" (мех). Іншыя лічыць, што назва паходзіць ад літоўскага "вайна", а яго сапраўднае імя "Karorius" (жаўнер).

[301] Narbutt Teodor. Dzieje starozytne narodu litewskiego. T. I. Wilno, 1835. S. 12-14.

[302] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 11. Спр. 4. Арк. 105.

[303] Teodor Narbutt. [Jest to zawiazek Muzeum krajowego ...] // Tygodnik Petersburski: gazeta urzadowa Krolestwa Polskiego.1843. № 25. S. 157.

[304] Kronika Rodzinna. 1888. № 13, 1 lipca. S. 393-398.

[305] Rimantas Balsys. Lietuviu ir prusu dievai, deives, dvasios: nuo apeigos iki prietaro. Klaipeda, 2006. P. 264.

Венцлава пісаў: *"Вельмі цяжка сказаць, якая была гэтая старая вера. Рамантыкі дзевятнаццатага стагоддзя, не выключаючы і Міцкевіча, гаварылі аб цэлым літоўскім пантэоне і спрабавалі яго ўваскрэсіць па нешматлікіх сведчаннях даўніны. Сярод гэтых рамантыкаў асобна вылучаецца Тэадор Нарбут, які напісаў дзевяцітомную гісторыю Літвы, - першы яе том цалкам прысвечаны міфалогіі. Багі, якіх ён згадвае, амаль дакладна адпавядаюць багам Алімпа, часам Эдды, толькі імёны ў іх іншыя. Нарбут здабыў нават статуэткі багоў і помнікі паганскай летувіскай пісьмовасці, але ўсе яны пазней аказаліся фальшыўкамі"* [306].

Вернемся да калекцыі Нарбута, апісанай Уладзіславам Сыракомлем. У другой частцы артыкула ён зноў звяртаецца да калекцыі зброі і падзяляе яе дзве часткі.

Зброя ВКЛ: *"Сталёвы шлем, знойдзены ў магіле каля Аранаў і нагрудная частка даспехаў, у калекцыі таксама маецца стальны баявы тапор, знойдзены ў могілках пад Друскенікамі і два замкі ад вогнепальнай зброі знойдзеныя на полі ў ваколіцах Трок".*

Іншая зброя належала адвечнаму ворагу - крыжакам, гэта: *"Жалезнае стрэмя асаблівай формы са срэбным узорам, дзве сякеры з выдатнай сталі, дзве шпоры - бронзавая і жалезная, жалезная дзіда, наканечнік кап'я, два бронзавыя гузікі ад рукаятак мячоў і срэбны кручок для мацавання раменьчыкаў ад мяча - усе гэтыя рэчы, якія характарызуюцца ўзроўнем вырабу, якасцю і каштоўнасцю металу, паходзяць з 1385 г., калі Тэўтонскія рыцары, дзвюма калонамі напалі на Літву, але атрымалі адпор у Медніках і Вільні і адступілі. Адна з такіх бітваў адбылася каля вёскі Кубанцы ў Лідскім павеце, адтуль паходзіць вялікая частка знаходак, пра якія ідзе гаворка.*

*Дзве сталёвыя пальчаткі, якія добра захаваліся, знойдзены ў кургане каля возера Омель у Вількамірскім павеце. Парахаўніца з вельмі цвёрдага дрэва з мастацкай разьбой, паходзіць з Тыльзіта. Абедзве рэчы маюць нямецкае паходжанне"* [307].

У лісце да доктара Рэніера 12 студзеня 1841 г. Нарбут таксама паведамляў пра *"цікавую дугу ад стрэмені, страчаную на полі бітвы ў 1386 г., у часы крыжовых паходаў. На тым полі да сёння 50 высокіх курганоў. У тым месцы выарана мноства металічных рэчаў, але покуль мне пра гэта паведамілі, сяляне перакавалі іх на сярпы і нажы"* [308].

Меў Нарбут у калекцыі дэталі вопраткі і ўпрыгожанняў: *"Даволі шмат рэчаў звязаных з жаночым адзенем. Дзве бронзавыя іголкі, абпаленыя на вогнішчы, тры пярсцёнкі рознай формы, наплечныя спражкі ад верхняй вопраткі (фібулы), малыя званочкі для абрамлення нізу сукенкі, рознага кшталту завушніцы, знойдзены на чэрапе бронзавы ланцужок з падвойных кольцаў даўжынёй у два локці - гэта з раскопак жаночых пахаванняў у курганах.*

*Пад гарой Бекеша ў Вільні быў знойдзены карычневы гузік дыяметрам больш за цалю, яшчэ адзін, меншы, з устаўленымі ў яго каштоўнымі камянямі, можа належаць самому Каспару Бекешу"* [309].

22 красавіка 1844 г. гісторык паведаміў сябрудоктару пра цікавую знаходку: *"Маю цяпер гістарычны здабытак са здабыткаў. Гэта зроблены з жалеза скіпетр Гедыміна, пакрыты лістамі карынфскай медзі і ўсыпаны цвікамі з чыстага золата. Зразумелыя толькі Пагоня і герб Калюмны, а вось іншае - "а ні ў зуб". Не разумею, што гэта значыць: і гэта пры мностве літар і малюнкаў. Ён даўжынёй у локаць, таўшчынёй у паўтары цалі. Але мне даслалі толькі копію, наклееную на дрэве і прасілі сказаць, што гэта такое? Можа атрымаю і арыгінал. Але яго існаванне яшчэ з'яўляецца таямніцай. Прывязу гэта, і ты будзеш здзіўлены мастацтвам"* [310].

Праз 10 гадоў Нарбут ўжо не ўпэўнены ў тым, што гэтая рэч - скіпетр. Сыракомля піша: *"Варты ўвагі яшчэ адзін цікавы помнік - гэта копія скіпетра вялікага князя ВКЛ. Арыгінал у ранейшыя часы быў выкапаны з зямлі і потым знаходзіўся ў пана Багаткі ў Гародні. Скіпетр меў даўжыню ў 25 літоўскіх цаляў і, падобна, быў выраблены з дутага жалеза абцягнутага бронзавай бляхай. На яго паверхні меліся бліскучыя залатыя цвікі, якія, верагодна, выконвалі функцыю календара. Але Нарбут не мае свайго меркавання наконт гэтай рэчы"*. Потым, у Віленскім музеі старажытнасцяў Тышкевіча, гэтая рэч была вызначана як рунічны каляндар.

Тэадор Нарбут валодаў вялікай нумізматычнай калекцыяй: *"Калекцыя прадметаў даўніны дапаўняецца нумізматычным зборам.*

*Знойдзены ў Друскеніках медны медаль з арабскім надпісам і лічбамі, вялікую каштоўнасць маюць знойдзеныя ў курганах 12 старажытных манет.*

*Яшчэ больш цікава даведацца пра невялікі бронзавы бюст з багата пазалочаным барэльефам, знойдзены ў абсыпаўшымся беразе Нёмана каля Гародні.*

*З нумізматыкі больш новага часу, маюцца 323 манеты з Польшчы, Расіі, Швецыі, Францыі і розных краін Германіі. А таксама 14 новых медалёў, сярод якіх вылучаецца вялікі медаль Віленскага ўніверсітэта 1828 г. работы вядомага мастака гр. Талстога".*

Меў гісторык і добрую мастацкую калекцыю.

*"Пяройдзем да прадметаў, якія маюць падвой-*

[306] Вянцлова Томас. Вильнюс: Город в Европе. Санкт-Петербург, 2012. С. 41.

[307] Wl. Syrokomla. Listy o zbiorach archeologicznych w Wilnie. Jeszcze zbior historyka Litwy Teodora Narbutta (w powiecie Lidzkim w majatku Szawrach). Rzeczy z metalu. S. 4.

[308] Kronika Rodzinna. 1888. № 10, 15 maja. S. 294-300.

[309] Wl. Syrokomla. Listy o zbiorach archeologicznych w Wilnie. Jeszcze zbior historyka Litwy Teodora Narbutta (w powiecie Lidzkim w majatku Szawrach). Rzeczy z metalu. S. 4

[310] Kronika Rodzinna. 1888. № 12. 15 czerwca. S. 356-359.

*ную, гістарычную і мастацкую, каштоўнасць - пагаворым пра карціны, малюнкі і гравюры, апішам усе цікавыя рэчы з калекцыі Нарбута.*

*Самай старой у гэтай калекцыі з'яўляецца старадаўняя копія партрэта Альгерда, вялікага князя ВКЛ, выкананая невядомым мастаком.*

*Далей ідзе партрэт Марціна Лютара ў натуральную велічыню, ад паловы цела, пэндзля Караля Ферацi.*

*Партрэт князя Тэадора Любамірскага італьянскай школы.*

*Партрэт Юліі Шышковай з Нарбутаў, жонкі былога міністра асветы, пэндзля Марэчла Бачарэлі (1731-1818), які надаў ёй міфалагічную постаць Венеры*[311].

*Партрэт пэндзля Дамеля ксяндза-місіянера, падобна візітатара Похля.*

*Абраз Найсвяцейшай панны з дзіцём, якае спіць, пэндзля Вандэрбурга і іншыя безыменныя партрэты італьянскай школы.*

*З мініяцюр найбольшай увагі заслугоўвае апостал Пётр, каляровая мініяцюра на чвэрць ліста, работа А. М. Вяржбіцкага, 1772 г., якую ўладальнік называе дасканалым творам. Вяржбіцкі - мініяцюрыст і дэкаратар былога тэатра Радзівілаў у Нясвіжы.*

*Партрэт Ганны, жонкі Вітаўта, эмаль на блясе, паходзіць з Беластока ад гетманавай Браніцкай.*

*Каляровы на парцэляне партрэт караля Аўгуста II.*

*Рэдкасцю сёння з'яўляецца відарыс былых езуіцкіх будынкаў у Полацку, выгравіраваны на блясе фарматам у аркуш, паводле малюнка ксяндза-езуіта Гурбера.*

*Фрагмент "Civitatem orbis terrarium" ("Гарады сусвету", лац.) Ежы Браўна і Францішка Гогенберга з відамі гарадоў Вільні і Гародні XVI ст."* [312].

Таксама ў калекцыі гісторыка меліся партрэты лідскага стольніка і лідскага харунжага Юзафа Нарбута і яго жонкі, перакладчыцы Ганны Нарбут з Гразмані. З ліста мастака Яна Матэйкі да сына Тэадора - Баляслава Нарбута (1843-1889), тагачаснага ўладальніка Шаўроў - даведваемся, што ў маёнтку яшчэ ў 1805 г. мелася копія старажытнага алейнага партрэта легендарнага казака Вярнігары.

У справе пра секвестраванне маёнтка Шаўры пазначана дакладная колькасць мастацкіх твораў: *"Карціны і партрэты ў розных рамах (некаторыя пакрытыя шклом) - усяго - 61".*

Трэба дадаць, што і сам Тэадор Нарбут умеў выдатна маляваць, выразаць і нават рэстаўраваць гравюры. У маладосці ён пісаў артыкулы пра мастацтва і ў яго кнігах бачна сапраўднае захапленне мастацтвам. Яго дзевяцітомнік "Гісторыі літоўскага народа" багата ілюстраваны, у ім ажно 30 партрэтаў важных для гісторыі ВКЛ асоб, выявы гістарычных месцаў, малюнкі, якія адлюстроўваюць археалогію, нумізматыку, сфрагістыку, геральдыку, шэсць карт і г. д. Багатыя па тых часах ілюстрацыі мелі і іншыя яго кнігі[313].

Сваю калекцыю Нарбут, напэўна, захоўваў у кабінеце (інакш - у сядзібнай канцылярыі), які адначасова быў і яго бібліятэкай. Але паводле ўспамінаў яго дачкі, шмат прадметаў даўніны захоўвалася таксама і ў яго жылым пакоі: *"Мой бацька … шукаў навокал сябе рэчы для навукі і працы. Мы, дзеці, кожны каменьчык, які знаходзілі ў полі, прыносілі яму ў кабінет і ён ніколі не адпускаў нас без доўгага тлумачэння вартасці гэтай рэчы. Ваколічныя сяляне ведалі яго густ і зацікаўле-насць і таксама ўсё вартае, знойдзенае ў полі, лесе ці ў вадзе, неслі яму. Таму друз, цагліны, карэнні, магільныя пліты і камяні розных кшалтаў, - кучы ўсяго гэтага ляжалі ў яго жылым пакоі, які з гэтай нагоды меў назву салона. З гэтага ж друзу склалася гара ў садзе, якая мела 7 футаў і была падобная на алтар паганскай Літвы. На версе яе расла белая вярба. У маім раннім дзяцінстве я была перакананая, што гэта кабета ў смутку прарасла ў зямлю і таму вельмі баялася, каб не расплакацца ўголас. Маім братам было забаронена рабіць з яе свае дзіцячыя рэчы, і яны былі ўпэўненыя, што вярба можа заенчыць чалавечым голасам. Гэтае дрэва вырасла з галінкі на пальмовую нядзелю"* [314].

Калекцыі і бібліятэка Тэадора Нарбута пасля задушэння паўстання 1863 г. па распараджэнні Мураўёва ў 1865 г. былі вывезены ў Пецярбург[315].

**Замест эпілогу**

Ацэньваючы ролю і працу Тэадора Нарбута пасля яго смерці, Юзаф Крашэўскі пісаў: *"Нікому не зразумелы ў тую эпоху Тэадор Нарбут аднаасобна рыў старыя магілы і адначасова вывучаў сакрэтныя архівы Кёнігсберга. З першых ён здабыў каштоўныя*

[311] У лісце да Рэніера Нарбут піша пра *"арыгінал карціны Бачарэлі, партрэт маладой жанчыны ў выглядзе Венеры. Хацеў бы паказаць яе Азямблоўскаму і параіцца аб рэстаўрацыі яе пашкоджаных частак, неабходна яе пакрыць лакам і г. д. Можа Рыпінскі-старэйшы ўзяўся бы за гэтую працу, хацеў бы, каб гэта была рука майстра, якая не сапсуе карціну знакамітага мастака".* Гл: Kronika Rodzinna. 1888. № 10, 15 maja. S. 294-300.

[312] Wl. Syrokomla. Listy o zbiorach archeologicznych w Wilnie. Zbior historyka Litwy Teodora Narbutta (w powiecie Lidzkim w majatku Szawrach). Rzeczy ze szkla, gliny i kamienia. S. 4.

[313] Reda Griskaite. Teodoro Narbuto intelektiniai zaidimai: Siauriai kaip lietuvisku senienu muziejus// Knygotyra. 2020. T. 75. P. 273, 275, 283, 284.

[314] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 11. Спр. 19. Арк. 66 - 66 адв.

[315] Blombergowa Maria Magdalena. Narbutt (Ostyk-Narbutt) Teodor Mateusz z Ziemi Lidzkiej. Historyk Litwy, inzynier i badacz starozytnosci oraz ojciec bohaterow-powstancow. S. 29, 56.

*рэчы нашай мінуўшчыны, з другіх ён браў сведчанні старажытнай гісторыі і гэтак атрымаў багатыя матэрыялы, з якіх склаў сваю "Гісторыю …" з дзевяці вялікіх тамоў, друкаванне якіх пачалося ў 1835 г. у Вільні, у друкарні А. Марціноўскага"* [316].

Тэадора Нарбута памятаюць і вельмі цэняць ў сучаснай Летуве, там пераклалі і выдалі яго шматтомную працу. Працытую погляд на яго летувіскага гісторыка, якая шмат займалася Нарбутамі: *"Але чаму сталася так, што і ў часы Т. Нарбута, і ў пазнейшыя часы, нават у такія ліберальныя, як нашы, пры згадванні імя гэтага гісторыка на першы план выступалі (і дагэтуль выходзяць) яго заганы і толькі потым - яго праца, а яшчэ радзей - яго гераізм? Адказ, мабыць, быў бы просты - Т. Нарбут быў і застаецца абсалютна невядомым, незразумелым, а яго творчая спадчына дагэтуль належным чынам не вывучаная і ў большасці сваёй проста не прачытаная. А калі і чыталася, то толькі фрагментарна, мэтанакіравана, вышукваючы (і абавязкова знаходзячы) памылкі і хібы, дэталёва разглядаючы асобныя выказванні і факты гісторыка, мала разумеючы кантэкст, не паглыбляючыся ў яго творчую майстэрню, не разумеючы яго творчае асяроддзе, не спрабуючы зразумець інтэнцыі гісторыка, які пісаў на пачатку XIX ст., [...] у вельмі своеасаблівым культурным і палітычным асяроддзі, пісаў упершыню нешта іншае, такое, што тут ніколі не пісалася. Не будзем сёння шукаць у творчасці Т. Нарбута хібы ці мінусы, а адкрыем яшчэ адну старонку рукапісу гэтага гісторыка і, хоць на імгненне, станем побач з самім аўтарам, паспрабуем зразумець пазіцыі Т. Нарбута, як ён сам іх разумеў".* І далей: *"У 1989 годзе ў віленскім касцёле св. Яна (менавіта тут у лістападзе 1864 г. віленцы маглі апошні раз развітацца з аўтарам "Гісторыі..."), [...] на вечары, прысвечаным 205-годдзю з дня нараджэння Т. Нарбута, гісторык Эгідыюс Аляксандравічус выказаў думку, якая глыбока ўрэзалася ў памяць сабраных: "Вы не сумняваецеся, прыйдзе час, калі тое, што мы сёння называем самымі вялікімі "памылкамі" Т. Нарбута, самымі вялікімі "недахопамі" яго творчасці, стане калі-небудзь для нас самай вялікай каштоўнасцю, самай вялікай перавагай яго творчасці. І сапраўды, сёння ўсё больш тых, хто сцвярджае, што менавіта ў творчасці Т. Нарбута, у гэтым класічным прыкладзе "як не трэба пісаць гісторыю", была ўпершыню прадстаўлена трактоўка гісторыі Вялікага Княства Літоўскага з літоўскага ракурсу. Тое, што прапанаванае гэтым гісторыкам бачанне гісторыі Літвы было адхілена, а дакладней - праігнаравана па прычынах, якія сёння мы маглі б назваць ненавуковымі, бо праца супярэчыла не толькі афіцыйнай расійскай трактоўцы гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, але і традыцыйнаму стаўленню польскіх гісторыкаў, якім не падабаўся сепаратызм гэтага гісторыка. І ёсць тыя, хто падкрэслівае асаблівае значэнне твора Нарбута "Гісторыя літоўскага народа" для дзеячаў нацыянальнага руху, якія стварылі нашу нацыю. Іншымі словамі, сёння ўсё больш людзей кажуць, што гісторыю можна пісаць так, як яе пісаў Тэадор Нарбут. Бо ў больш шырокім ракурсе кожны з нас піша сваю гісторыю"* [317].

З першай часткай гэтага тэксту цяжка не пагадзіцца - і сапраўды трэба зразумець, што Тэадор Нарбут быў першым, зразумець час, у якім працаваў, яго атачэнне і псіхалагічны стан. Думку, якую спакваля прапануюць у другой частцы - дабратворнасць яго фальшавання для стварэння нацыі - можна пацвердзіць тэзай беларускага гісторыка Алега Латышонка, які справядліва заўважыў: *"... у першай палове XIX ст. з'яўляюцца творы Т. Нарбута, прасякнутыя літоўскім патрыятызмам. У сённяшні час прынята чамусьці на Беларусі лічыць Нарбута беларускім гісторыкам. Ягоны сучаснік, беларус Даніловіч, не сумняваўся, што Нарбут з'яўляецца […] неславянскім, патрыётам. Зрэшты, памерамі прапагандысцкага фальшавання гісторыі на некарысць беларусаў Нарбут пераўзышоў усіх сваіх папярэднікаў"* [318]. З гэтым цяжка не пагадзіцца, бо і насамрэч, калі не ўсе, дык большасць сваіх фальшаванняў Нарбут рабіў на карысць балцкага элементу ў нашай гісторыі.

Я шмат часу прысвяціў вывучэнню біяграфіі і тэкстаў нашага земляка Тэадора Нарбута і заўсёды цікавіўся ім менавіта як сваім земляком і чалавекам, які таксама, як і я, быў інжынерам і займаўся гісторыяй. Яго відавочная схільнасць да балцкага элементу ў нашай гісторыі магла б здзівіць, калі не ведаць тое, што род Нарбутаў мае балцкае паходжанне і нават вельмі моцная польская ідэнтычнасць Тэадора не перашкаджала яго памяці пра карані свайго роду. Гэта і нарадзіла яго схільнасць да гісторыі ВКЛ. Адзін з першых біёграфаў нашага гісторыка, Юльян Барташэвіч пісаў у 1860 г.: *"Нарбут ёсць костка ад косткі літоўскай, таму яму*

Dnia 26 z. m. zmarł w Wilnie w 81 roku życia, znakomity badacz dziejów starożytnéj Litwy, Teodor Narbutt, ojciec poległych w powstaniu zeszłoroczném dwóch dzielnych i walecznych dowódzców tego nazwiska.

***"Dziennik Poznanski". 1864. 6 grudnia (6 снежня 1864 г.)***

[316] Цыт па: Konstanty hr. Tyszkiewicz. Wilija i jej brzegi. Pod wzgledem hydrograficznym,historycznym, archeologicznym i etnograficznym. Drezno. Drukiem i nakladem J. I. Kraszewskiego. 1871. S. 17.

[317] Reda Griskaite. Teodoras Narbutas, arba Apie tai, "kaip nereikia rasyti istorijos".

[318] Латышонак Алег. Беларуская нацыянальная ідэя // Сьвіцязь. 1994. № 2. С. 34.

*больш пасавала ... пісаць пра Літву. Збіраючы факты з мінуўшчыны, ён будаваў гмах народнай славы, гмах, у якім часта гасцявалі яго продкі - якія калісьці мелі моцны голас у літоўскім сенаце, у святліцах вялікіх князёў"* [319].

Нарбут цікавы як першапраходзец, як зямляк, цікавы шматлікімі фактамі, раскіданымі ў яго кнігах, але не цікавы сваімі фальшыўкамі. Фальшаваць гісторыю нам, беларусам, без патрэбы. Нам патрэбны аб'ектыўныя веды. Мы маем цудоўную і вялікую гісторыю якая патрабуе толькі праўды, праўды пра ролю ў ёй як беларускага, гэтак і балцкага элементаў, іх дынаміку, сімбіёз і г. д., да таго ж ва ўсіх нас беларусах, цячэ як славянская, гэтак і балцкая кроў.

Як пісаў віленскі пісьменнік Юзаф Мацкевіч: *"Толькі праўда з'яўляецца цікавай. Адначасна праўда, як правіла, больш універсальная, багатая і цікавая, чым прыдуманыя замест яе апрацоўкі"* [320]. Лепш і не скажаш.

### *Дадаткі*

**Род Нарбутаў, дадатак да Каяловіча**[321]

**Ад публікатара і перакладчыка:** пра паганскага каплана Лідзейку і яго нашчадкаў Тэадор Нарбут надрукаваў артыкул у зборніку "Pomniejsze pisma historyczne" [322].

**Тэадора Манчункая** (каля 1880 г.): *"Гэта гербоўнік Каяловіча з дапаўненнямі, напісанымі па ўласнай памяці [бацькі] пра некаторыя лідскія сем'і Нарбутаў. З рукапісу гербоўніка Каяловіча падаю толькі кавалак пра ўласную сям'ю Тэадора Нарбута.*

*Гербоўнік Каяловіча я потым пакладу ў бібліятэку Асалінскіх у Львове, як і некаторыя іншыя рукапісы, бо ніхто з самых блізкіх сваякоў не мае зараз небяспечнага сховішча ці сталага месца жыхарства, а я свой падарожны клунак і зараз вязу на лакаматыве"* [323].

**Нарбут**

Ані Каяловіч, ані Нясецкі дакладна не напісалі пра гэтую фамілію, у сваім тэксце я ўжываю іх матэрыялы, а таксама дэкрэт, выдадзены 21 чэрвеня 1811 г. камісіяй па разборы шляхты Гарадзенскай губерні і вырак Сенацкай камісіі па геральдыцы ад 30 кастрычніка 1850 г.

Герб "Тры Трубы" на шлеме, 3 пяры страўса (Herbarz Polski, T. 6. S. 519.; T. 9. S. 104.).

Гэты род у асноўным жыў у Лідскім павеце. Род паходзіў ад Рыгора Осціка (які сам паходзіў ад Лідзейкі). Осцік быў сынам Сырпуця Віршулавіча і ўнукам Лідзейкі, сына князя Нарымунда. Рыгор Осцік на Гарадзельскім сойме прыняў герб "3 Трубы", ён меў 2-х жонак: 1-я жмудзінка невядомага імені, сваячка маці вялікага князя Вітаўта, з якой меў сыноў Бака, Нявера, Радзівіла і Токара[324]. Другая жонка - Хелена[325], меў сына Ганку.

Чорны Токар ці Атакар быў падчашым пры двары вялікага князя ВКЛ і пакінуў трох сыноў: Нарбута, Івашку і Піцака[326].

Нарбут быў пачынальнікам дынастыі і меў хрысціянскае імя Мікалай. Меў 9 сыноў: Дабрагоста, Станіслава, Мікалая, Войцеха (ці Альбрэхта[327]), астатнія імёны невядомыя. Прывілей караля Аляксандра 26 чэрвеня 1498 г. Войцех, сын Мікалая, маршалак Літоўскі, намеснік Пераломскі і Ясвойскі, падобна, першым пасяліўся ў Лідскім павеце, ён каля 1496 г. набыў двор на Лебядзе ў Сенькі і яго братоў. Меў сыноў Войцеха, земскага слонімскага харунжага і Мікалая, мазырскага і крэўскага старасту (у 1551-1556 гг. Падляшскі ваявода). Ён падпісаў дыпломы павета Пяляскага да кароны ў 1543 г. (Vol. legum. T. 1. S. 589.) Пакінуў сына Станіслава.

Земскі слонімскі харунжы Войцех у Лідскім павеце меў Забалаць, якую атрымаў ад караля Жыгімонта I пасля Глінскага. Меў сыноў Станіслава і Пятра.

Станіслаў застаўся беспатомны.

Пётр з жонкай Скуміноўнай пакінуў сыноў Ежы, менскага намесніка, беспатомнага, а таксама Мікалая і Яна.

Ян быў лідскім падкаморым, фундаваў францiш-

[319] Bartoszewicz Julian. Teodor Narbutt // Tygodnik Illustrowany. 1860. № 26. S. 1.

[320] Mackiewicz Jozef. Literatura contra faktologia. Kultura. 1973, №7-8.

[321] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 11. Спр. 19. Арк. 56 адв - 64 адв.

[322] Гл: Narbutt Teodor. Pomniejsze pisma historyczne : szczegolnie do historyi Litwy odnoszace sie (z dziesiecioma rycinami). Wilno, 1856. S. 70-74.

[323] Тэадора Манчунская выканала свае абяцанне, бо сканы гэтага поўнага рукапісу Нарбута ў фармаце PDF з'явіліся ў інтэрнеце: *"Herbarz litewsko-polski Wojciecha Kojalowicza S. J., dopelnienie Herbarza polskiego Kaspra Niesieckiego w lipskiem wydaniu N. N. Bobrowicza, z rekopismu lacinskiego przelozony i drukiem ogloszony przez Teodora Narbutta, tablic herbow litografowanych V"* // https://polona.pl/preview/bb41e5f4-bf15-43ab-8363-5ad78ce20d38

[324] Гл: Нарбут А. Н. Нарбуты Гродзенской губернии. Москва, 1998. С. 4.

[325] Чэшскага паходжання, графіня Хелена дэ Пісэк. Гл. Narbutt Teodor. Pomniejsze pisma historyczne : szczegolnie do historyi Litwy odnoszace sie (z dziesiecioma rycinami). Wilno, 1856. S. 72.

[326] Гл. там жа.

[327] Ці Альберта. Гл: Пятраўскас Рымвідас. Літоўская знаць у канцы XIV-XV ст.: Склад - структура - улада. Смаленск, 2014. С. 275.

канаў у Каўтынянах (тагачасны Расіенскі павет. - *Л. Л.*), пакінуў сына Яна, земскага лідскага пісара, жанатага з Крысцінай Храптавічоўнай.

Мікалай Пятровіч з жонкай Бушчышоўнай меў двух сыноў:

- Адама, падкаморага, а потым войскага лідскага. Ён фундаваў лідскіх кармелітаў.

- Яна Міхала, маршалка Трыбунала ВКЛ, дзедзіча вялікай маёмасці. Ён меў дзвюх жонак, першая Масальская, з якой меў сыноў: Уладзіслава, Аляксандра і Яна Міхала, лідскага земскага суддзю. З другой жонкай, княжной Шуйскай, меў сына Францішка.

Уладзіслаў, лідскі падкаморы, некалькі разоў узначальваў паспалітае рушэнне свайго павета, у тым ліку і пад Алькенікамі ў 1701 г. Разам жонкай, княжной Крысцінай Лукомскай, быў замучаны шведамі ў Хадзілонях. Меў сыноў Казіміра і Яна, гэты апошні быў безпатомны.

Мікалай (сын Аляксандра - *Л. Л.*) меў 4 сыноў: Адама, Юзафа, старасту Кярвяліцкага, Міхала і Пятра.

Сын Юзафа Марцін, член лідскага земскага суда, памёр у 1814 г. Яго сын Ян - падпалкоўнік Тульскага палка, жанаты з Юзэфай з Лісоўскіх.

Сыны Міхала - Ігнацый, Юзаф і Казімір.

Сын Ігнацыя - Караль, жыў у Кобрынскім павеце.

Сын Юзафа - Пётр, віцэ-губернатар Аўгустоўскай губерні.

Сын Казіміра - Бенядыкт, таксама жыў у Каралеўстве.

Аляксандр - сын маршалка Трыбунала Яна Міхала, застаўся безпатомным, служыў у аўстрыйскім войску. Яго другі сын, земскі лідскі суддзя Ян Міхал, валодаў Лаўчылавічамі (?), памёр беспатомным. Францішак - самы малодшы з сыноў маршалка Трыбунала Яна Міхала - пакутаваў на нейкімі прыпадкамі, і таму яго, абцяжаранага калецтвам, браты абдзялілі пры падзеле вялікай бацькоўскай маёмасці. Пакінулі толькі невялікі маёнтак Крупа (Крупава) у Лідскім павеце. Супраць іх волі ён ажаніўся з Міцкевічоўнай Яўгеніяй, памёр у 1694 г., меў 4 сыноў: Яна, Антона, Казіміра (прадзед Тэадора Нарбута. - *Л. Л.*) і лідскага гродскага пісара Міхала (дзед гісторыка Юстына Нарбута. - *Л. Л.*). Сын Міхала - лідскі харунжы Юзаф, консультант стану (konsyliarz stanu - урадовец, які выконвае абавязкі дарадцы), кавалер ордэна св. Станіслава. Яго сын Казімір - шамбелян польскага двара, Юстын - прэзідэнт лідскі гродскі. Сын Казіміра Севярын - капітан тульскага палка. Сын Юстына Рамуальд - капітан жандармерыі, а дачка Каміла - аўтарка надрукаваных кніг.

Другі сын Францішка - Казімір, маршалак Лідскага павета, з жонкай з Навіцкіх, меў 6 сыноў:

- Ігнацыя, земскага лідскага суддзю.

- Фелікса, каплана ў законе базыльянаў.

- Тадэвуша, лідскага падкаморага, кавалера ордэна св. Станіслава, ён разам з жонкай з Вяжэвічаў меў сына Войцеха, які не пакінуў патомства мужчынскага полу, і Касаўскага пробашча Станіслава.

- Казіміра, экс-піяра, абата парадыскага, лідскага пробашча, кавалера ордэна св. Станіслава.

- Антона, лідскага маршалка. У яго з Гейштароўнай былі 4 сыны: Адам, земскі пісар, Антон, вывадовы дэпутат (дэпутат шляхты - *Л. Л.*), Юзаф, гродскі лідскі пісар, Тадэвуш, пасля іх не засталося патомства ва ўнуках.

- Даменіка, лідскага войскага, разам з Касцялкоўскай пакінуў сыноў: Яна і Вінцэнта, якія памерлі безпатомна,

- Юзафа, старасту Трабскага, сын якога Мікалай служыў у міністэрстве асветы. Імёны яго дзяцей ад рускай жонкі невядомыя.

- Ігнацый, меў сына Казіміра, земскага лідскага суддзю, з Евай Лютавінскай (?), удавой па Гейштару, меў 9 сыноў:

1. Яўхіма, прэзідэнта лідскага гродскага суда, з Ізабелай з Наневічаў меў сына Марціна Тэадора Ігнацыя (звычайна Мацей ці Мар'ян - *Л. Л.*), інжынера-капітана ў адстаўцы, кавалера ордэнаў. Ён з Крысцінай Садоўскай герба Любіч, меў 5 сыноў: Людвіка Алойзы, Аляксандра, Францішка, Баляслава і Станіслава, а таксама 3 дачкі: Яганну, Тэадору Пелагею і Амелію.

Адольф, другі брат Тэадора.

Ксаверый, трэці брат, уланскі паручнік польскага войска. Памёр у 1814 г.

2. Каэтана, пінскага крайчага, памёр безпатомна.

3. Вінцэнта, лідскага пробашча, дэкана і Інфлянцкага канона.

4. Караля, лідскага крайчага, з жонкай з Гарваскіх меў дваіх сыноў: Генрыка, падпалкоўніка ў адстаўцы, сын якога Карнелій меў сына Войцеха, загінуў у паўстанні 1863 г. (пад Кавалькамі. - *Л. Л.*) і другога сына Фрэдэрыка, які з быў жанаты з Евай Нарбутоўнай, дачкой Даменіка, меў двух сыноў: Браніслава (Мірона Браніслава, аўтара вядомых ўспамінаў. - *Л. Л.*), жанатага з Марачэўскай, і сына Валяр'яна.

5. Людвіка, дзяцей не меў.

6. Гераніма, дзяцей не меў.

7. Аляксандра, лідскага маршалка, кавалера ордэнаў, з Наневічоўнай меў дзвюх дачок.

8. Аўгустына, памёр нежанаты.

9. Нікадзіма, з Навіцкай меў дачок.

Лідзейка - сын вялікага князя ВКЛ Нарымунда, абароненага Крыва Крывейтам ад смерці, калі князь (?) загадаў выцяць сям'ю.

Даўмунт, брат Нарымунда, быў забіты сваім пляменнікам Лаўрам. Гэты Лідзейка, злажыў з сябе капланскія абавязкі, жаніўся з сястрой вялікага князя ВКЛ Віценя і даў пачатак дому, генеалогію якога я тут выкладаю. Гэты дом праз Остыка, на ўвесь свой род, у Гародлі, прыняў герб "Трубы" ці "Тры Трубы" паляўнічыя, ці рогі, апраўленыя ў золата [...].

**Генеалагічная табліца лепшым чынам паказвае паходжанне Нарбутаў**.


Нарымунд, вялікі князь ВКЛ
|
Лідзейка
|
Віршул (Віршытыла)
|
Сырпуць
|
Рыгор Остык, (ад яго Мікалай Радзівіл, Рак, Токар, Івашка і інш.)

Сыны Токара - Нарбут, Івашка і Піцак (Піцко).

**Успаміны пра гісторыка Літвы Тэадора Нарбута**[328]

***Каміла Юрэвіч з Нарбутаў***

**Ад перакладчыка:** Сваячка і суседка Тэадора Нарбута - Каміла Юрэвіч з Нарбутаў[329], напісала гэтыя, ніколі раней не друкаваныя ўспаміны, недзе ў 1870-я гг. Відочна, што пісала яна іх для перыядычнага выдання, але, верагодна, гэтыя ўспаміны, напісаныя вельмі разборлівым, жаночым почыркам, не былі прыняты да друку. На жаль, замест таго, каб напісаць пра Тэадора Нарбута як добра вядомага ёй чалавека, яна напісала непатрэбную апалагетыку гісторыка і пераказала агульнавядомыя факты з яго біяграфіі. І толькі ў канцы ўспамінаў ёсць каштоўныя бо асабістыя радкі. Трэба адзначыць словы Камілы, пра тэчку з лістамі Тэадора Нарбута. Верагодна, маецца на ўвазе перапіска Тэадора з бацькам Камілы Яўхімам Нарбутам, а потым, пасля смерці яе бацькі, з самой Камілай. На жаль, гэтыя лісты ніколі не друкаваліся і, калі яны недзе і захаваліся, дык, здаецца, яшчэ не знойдзены.

Тэкст замовіў і аплаціў зусім не таннае сканаванне ў архіве, мой любімы сын Вадзім, за што яму вялікі дзякуй ад усіх аматараў гісторыі і проста культурных людзей нашай краіны.

Біяграфія дачкі Юстына Нарбута - Камілы Нарбут у нас яшчэ не даследавалася, але ў суседзяў ужо выйшла кніга пра яе [330].

*"Тэадор Остык Нарбут герба Трубы, аўтар "Дзеяў народу літоўскага" ў 9-ці тамах (1841) і вялікай колькасці іншых гістарычных прац, прыйшоў на свет у 1784 г. у дзедзічным маёнтку*[331] *сваіх продкаў Шаўры, які знаходзіцца ў Лідскім павеце Віленскай губерні. Бацька - старшыня земскага суда Яўхім Нарáóò*[332]*, маці - Ізабела з Наневічаў. Памёр у 1864 г., парэшткі гісторыка спачываюць каля яго парафіяльнага касцёла. Магілу і калыску вялікага гісторыка аддзяляюць толькі некалькі вёрст.*

*Як ліцвінка і крэўная с. п. Нарбута, я наведала не толькі гэтыя два месцы, асвечаная памяццю чалавека, які з большай, чым у яго папярэднікаў, руплівасцю займаўся даследаваннямі гісторыі роднага краю і здабыццём з забытых архіваў імён землякоў, якія вызначыліся некалі сваёй шляхетнасцю, мужнасцю і ахвярнасцю ў справе агульнага дабра для радзімы. Гэта годная і цяжкая праца рабілася дзеля нашага незвычайнага народа, які, нягледзячы на сваю маральную цемру з-за няведання ў XIV ст. па-сапраўднаму святой рэлігіі і цывілізацыі, нягледзячы на няведання германа-крыжацкага вайсковага мастацтва і пісаных законаў, якія мелі немцы і палякі, здолеў сярод дасведчаных суседзяў не толькі ўтрымаць сваю дзяржаву, але і пашырыць яе межы і абараніцца і ад дзікіх татараў, і ад цывілізаваных народаў, якія мелі металічны крыжацкі панцыр, якія, як быццам, збіраліся навярнуць нас у хрысціянскую веру - веру праўды, міласэрнасці і міру, але насамрэч неслі смерць, агонь і рабунак. Як усім вядома, злучэнне ліцвінаў з палякамі не было вынікам перавагі моцы гэтых апошніх, але добрай воляй народаў, накіраванай да пазнання рэлігіі, якую аб'явіў сапраўдны Бог. Таму пасля заснавання Вільні яна была часткова заселена людзьмі, якія прыехалі сюды з цывілізаваных краёў, чым у выніку і зацьміла бляск паганскага Зніча. Немагчыма не прызнаць, што сапраўдная асвета пашырыла і асвятліла думкі ліцвінаў, тая самая сіла духу, якая была выразна бачная яшчэ ў прабацьках, у нашчадках перайшла на поле больш глыбокіх думак і пакінула моцны адбітак у пазнейшым часе - у розных напрамках сур'ёзнай літаратуры, у творах мастакоў (Гуцэвіч, Смуглевіч, Чаховіч) і пісьменнікаў, імёны якіх сталі ў адзін шэраг з самымі слыннымі еўрапейскімі пісьменнікамі (Нарушэвіч, Нямцэвіч, Міцкевіч, Адынец, Кандратовіч).*

*Да гэтага народа адносіўся і Тэадор Нарбут, чалавек, які напісаў яго гісторыю. Пасля таго, як ён на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў апрацоўваў архівы Інфлянтаў, тайны архіў Караляўца і іншыя, пасля раскопак мноства старажытных магіл, пасля адкрыцця вялікай колькасці дагістарычных сядзіб, Нарбут зрабіў працу, за якую да яго ніхто нават не мог і ўзяцца.*

*Звычайным чынам, праца Нарбута атрымала*

[328] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 11. Спр. 4. Арк. 103 - 105адв.

[329] Гл: Лаўрэш Леанід. Юстын Нарбут // Наша слова.pdf № 43 (95), 25 кастрычніка 2023.

[330] Гл: Reda Griskaite. Moteris ir istorija: Kamiles Narbutaites patirtys. Lietuvos istorijos institutas. 2024.

[331] Для Тэадора Нарбута Шаўры былі дзедзічным маёнткам па маці, бацька Тэадора, паручнік літоўскай гвардыі Яўхім Нарбут (?1760-1813) маёнтак Шаўры атрымаў як пасаг за жонку, якая ў сваю чаргу ўспадкавала яго ад свайго дзядзькі Бранеўскага, гл: Нарбут А. Н. Нарбуты Гродненской губернии. Москва, 1998. С. 15.

[332] Інфармацыя пра пасаду старшыні земскага суда не пацвярджаецца сучаснымі даследаваннямі. Гл: Urzadnicy Wielkiego Ksiestwa Litewskiego. Spisy. Pod redakcja Andrzeja Rachuby. Warszawa, 2004. S. 372-375.

*шмат рэцэнзій.*

*Рознае было да яе стаўленне - і станоўчае і адмоўнае. З некаторымі з гэтых, апошніх, цяжка спрачацца. Можа, і слушным былі закіды ў празмерным замілаванні да вусных, часта непраўдападобных паданняў ці ў браку аналізу і крытыкі. Але несправядлівымі былі абвінавачванні ў прыдумванні фактаў таго, чаго не было. Без крытычнага разбору, ён часамі паўтараў тое, што недзе пачуў ці прачытаў, але як чалавек праўдзівы, сам нічога не выдумляў[333]. Знайшліся і такія рэцэнзенты, якія з гэтай нагоды адмаўлялі яму ў званні гісторыка і называлі хранікёрам. Хай будзе так, аднак гэтая Хроніка Нарбута ёсць вялікая і бессмяротная справа, яна сёння і ў будучыні застанецца невычарпальнай крыніцай усіх, хто піша пра Літву. Тыя самыя, якія абвінавачвалі Нарбута ў памылках, чытаюць і часта цытуюць яго працу. Наша павага і ўдзячнасць працаўніку, які з пылу і цвілі ўратаваў каштоўныя краёвыя помнікі і памёр з пяром у руцэ і думкай пра родны край, бо смерць напаткала яго, калі Нарбут правіў сваю Літоўскую міфалогію. […]*

*У сваёй маладосці Тэадор Нарбут служыў у войску інжынерам, а да гэтага некалькі гадоў вывучаў у Віленскім універсітэце курс матэматычных навук, цывільную і вайсковую архітэктуру, якую праз некалькі гадоў сам выкладаў у 2-гім кадэцкім корпусе Пецярбурга[334]. У 1807 г. пад Астраленкай[335] быў паранены багнетам, а пад Тыльшамі[336] атрымаў рану ў руку. Падчас вайны ў Фінляндыі, у 1808 г. пад Аба, быў моцна кантужаны ў галаву, што потым прывяло да поўнай страты слыху. Падчас гэтай вайны, калі эскадра Балтыйскага флоту была закрыта на сваёй базе, для яе абароны ён ставіў батарэі на выспе Боген.*

*Па загадзе ўраду ў 1810-1811 гг. знайшоў месца для пабудовы Бабруйскай фартэцы і ўдасканаліў яе праект. На пачатку 1812 г. пакінуў вайсковую службу і пасяліўся ў сваім маёнтку Шаўры[337], дзе прысвяціў свой час працы гісторыка, выязджаў у Каралявец і іншыя гарады, дзе мог знайсці патрэбныя яму дакументы.*

*Нягледзячы на прыкрае калецтва, наш гісторык любіў жыццё, часта сустракаў у сваім доме гасцей і сам у час адпачынку ад цяжкай працы, наведваў родных і суседзяў. Вольны ад усялякай фанабэрыстасці, з людзьмі ён заўсёды паводзіў сябе далікатна і сціпла. Пісаў ладныя лісты, значная колькасць якіх захоўваецца у маёй тэчцы. Меў добры настрой і нейк ў старым веку ўзяў удзел у свавольстве і забавах сваіх маладых сваякоў. Любіў паэзію, зрабіў шмат даслоўных перакладаў, у якіх, па-праўдзе, не было паэтычнага таленту.*

*Перакладаў оды Гарацыя і іншае, быў знаўцам нашых паэтаў і меў у сваёй бібліятэцы шмат іхніх твораў. З нейкай наіўнай прыемнасцю часамі размаўляў пра надпрыродныя рэчы. Калі-нікалі яго думкі блукалі ў краіне духаў, ён дапускаў іх існаванне і стасункі з нашым светам. Меў сапраўднае сэрца і душу ліцвіна. Меў і знешнасць ліцвіна: светлы бландзін з вялікімі блакітнымі вачыма і лагодным выразам твару. Ад прыроды меў моцнае цела і спадзяваўся дажыць да 100 гадоў, але цяжкія перажыванні пасля смерці некалькіх членаў сям'і аслабілі яго моцны арганізм і паскорылі смерць, якая надышла без папярэдняй цяжкай хваробы. Як добры хрысціянін выконваў усе касцельныя законы і пайшоў з жыцця пасля споведзі і св. сакрамантаў. Размаўляючы са мной, ён некалькі разоў паўтараў, што самая вялікая, матэматычная праўда - гэта існаванне Бога і Яго святой мудрасці.*

*Больш за 10 гадоў таму маёнтак Шаўры меў выгляд мілай, вясковай, добра ўпарадкаванай сядзібы. Тэадор Нарбут - матэматык, добра абазнаны ў фізіцы, трымаў гаспадарку ў добрым стане і лічыўся заможным землеўладальнікам. Зараз гэтае месца мае сумны выгляд знішчэння і пусткі. У прасторным жылым доме, у якім мелася грунтоўная бібліятэка і вялікая калекцыя археалагічных старажытнасцяў, цяпер пануе страшэнная пустэча. Няма ўжо запоўненых кніжных шафаў, няма бронзавага літоўскага бога вайны Каваса, якім так ганарыўся наш гісторык.*

*Знікла і зброя старажытнага літоўскага рыцара разам з фетышам і каменнай багіняй кахання Мілдай. Няма нават слязніцаў - засталася толькі адна вялікая урна ці гліняная попельніца, як сімвал сучаснага стану рэчаў і надмагільны помнік незваротнага мінулага.*



[333] На жаль, Нарбут і насамрэч некаторыя свае чыста літаратурныя творы друкаваў як сапраўдныя гістарычныя хронікі.

[334] 2-гі кадэцкі корпус імя імператара Пятра - ваенная навучальная ўстанова Расійскай імперыі, якая размяшчалася ў Санкт-Пецярбургу.

[335] Астраленка - горад на паўночным усходзе сучаснай Польшчы.

[336] Тыльшы, Тыльзіт, сёння Савецк Калінінградскай вобласці .

[337] Ёсць і іншыя версіі біяграфіі Нарбута ў 1812 г., гл. вышэй.

***Леанід Лаўрэш***

# Лідскія цэрквы горада да пачатку XIX ст.

*У гэтым артыкуле я вырашаў сабраць усё тое, што ўдалося знайсці ў апошнія гады па заяўленай тэме, дадаць гэта да ранейшых матэрыялаў, выправіць непазбежныя ранейшыя памылкі і недахопы.*

Нагадаю, што сёння можна з адноснай упэўненасцю казаць пра існаванне паселішча на тэрыторыі Ліды ўжо ў XII ст., рэшткі якога былі знойдзены ў 1930-х гг.[1] Цікавым і важным для нас з'ўляецца тое, што паселішча было славянскім, а не балцкім, як пра тое пісаў Тэадор Нарбут[2] пры тым, што даціроўка археолагаў адносна добра супадае з датай заснавання нашага горада, якую Нарбут дае як 1180 г.

1180 г. як год заснавання Ліды, зараз (спадзяюся, часова) адрынуты, але другая дата якую даў Нарбут - 1323 г., год заснавання замка, прынята афіцыйна, хоць і вядома, што замак пабудаваны пазней, наўрад ці раней да 1330 г., хаця б таму, што ў 1323 г. Гедымін толькі пачаў рассылаць лісты з запрашэннямі да сябе нямецкіх майстроў.

Па тэме гэтага артыкула важна, што Тэадор Нарбут пісаў - адначасова з пабудовай Лідскага замка, г. зн. пасля 1320-х гг. на яго тэрыторыі з'явілася капліца[3]. Заўважу: безыменная капліца, а не царква.

Тут трэба зрабіць адну заўвагу.

10 кастрычніка 1865 г. падчас асвячэння царквы ў Шчучыне, святар Віленскага Кафедральнага сабора а. Антон Пшчолка, не гісторык, у сваёй прамове зрабіў агляд царкоўнай гісторыі Лідчыны, некаторыя з тэзаў якога, нават у сярэдзіне XIX ст., выглядалі ненавуковай фантастыкай, не мелі ніякага абгрунтавання ў дакументах, і, зразумела, што не атрымалі далейшага развіцця. З прамовы святара, напрыклад, можна даведацца, што Дайнаўскае княства з цэнтрам у сучаснай вёсцы Дайнава пад Лідай было часткай вялікага Валынскага княства, а сама Дайнава - горадам, даведацца пра перанос Гедымінам з Дайнавы ў Ліду сталіцы княства[4], а самым неверагодным, як для мяне, ёсць наступнае: *"У Дайнаве спрадвеку існаваў праваслаўны храм у імя св. Вялікапакутніка і Пераможца Георгія, таму і Гедымін пасля пабудовы мураванага замка ў Лідзе паставіў у ім і праваслаўную царкву ў імя таго ж самага св. Георгія. Адначасова з гэтай царквой у Лідзе існавалі яшчэ тры іншыя ..."* [5].

Не зразумела, адкуль пайшла інфармацыя пра царкву св. Юрыя (Георгія) у замку, калі Тэадор Нарбут піша толькі пра безымянную капліцу[6]: *"Капліца ў замку знаходзілася ад пачатку яго заснавання"* [7]. Як бачым, толькі - капліца, якая, верагодна, магла знаходзіцца ў кутку аднаго з паверхаў замкавай вежы. Адам Кіркор, не ўказваючы сваіх крыніц, верагодна, проста адаптаваў слова *"капліца"* ў нашым замку да рускай мовы і назваў яе *"дамавой царквой"* [8] - г. зн., калі не кутком, дык максімум нейкім пакоем у вежы.

Тым не менш, вось гэта сведчанне Нарбута пра наяўнасць капліцы недзе каля 1323 г. з'яўляцца самім раннім згадваннем сакральнага хрысціянскага аб'екта ў Лідзе. Але і Нарбут, на жаль, не можа лічыцца надзейнай крыніцай, бо на сёння ён вядомы нам як аўтар шэрагу свядомых гістарычных фальсіфікацый на карысць балцкага элемента гістарычнай Літвы. Але, як для мяне, адзіным аргументам на карысць існавання капліцы ў нашым замку з'яўляецца сам факт згадвання яе гісторыкам, бо каб не Нарбут - ніхто б пра яе не ведаў і не пісаў бы.

Дарэчы, Тэадор Нарбут указаў галоўную крыніцу свайго артыкула пра Ліду (які быў першым тэкстам такога кшталту): *"Большасць дэталяў у гэтым артыкуле ўзята з парафіяльных нататак, сабраных нябожчыкам, с. п. кс. Вінцэнтам Нарбутам, пробашчам і дэканам Лідскім"* [9]. Кс. Вінцэнт Нарбут - сваяк Тэадора.

Для мяне невытлумачальным з'ўляецца тое, што сёння нічым не абгрунтаваныя звесткі, узятыя з

---

[1] Лаўрэш Леанід. Лакалізацыя "Ліды Нарбута", першаснага паселішча на тэрыторыі нашага горада (Дапрацаваны даклад з X Лідскіх чытанняў) // Лідскі Летапісец. 2023. № 2 (102). С. 30-35.

[2] Narbutt T. Cokolwiek z historyi miasta Lidy // Narbutt T. Dzieje starozytne narodu litewskiego. T. 5. Wilno, 1839. Dodatek I. S. 1.

[3] Там жа.

[4] Нарбут, без аніякіх спасылак, піша толькі гэта: *"Гэтае месца пасля заваёвы Княствам Дайнаўскім каля 1180 г. - літоўскае паселішча ... Ліда" ("To miejsce, po zawojowaniu Ksiestwa Dejnowskiego, okolo r. 1180, w ktorem lezalo, jest osada litewska; poniewaz Lida").* - гл. Narbutt T. Cokolwiek z historyi miasta Lidy.

[5] ЛЕВ. 1865. № 23. С. 928.

[6] Я і сам у свой час не праверыў інфармацыю і ў адной са сваіх кніг напісаў пра царкву Св. Юрыя ў замку, за што выбачаюся. Гл. Лаўрэш Леанід. Грэка-каталіцкая (уніяцкая) Царква на Лідчыне. Полацк, 2012. С. 8.

[7] Narbutt T. Cokolwiek z historyi miasta Lidy. Dodatek I. S. 1. *"Kaplica na zamku znajdowala sie od poczatku jego zalozenia".*

[8] Киркор Адам Исторически-статистические очерки Виленской губернии на 1852 год. Вильна, 1852. С. 219.

[9] Там жа.

вуснай прамовы святара ў 1865 г., зноў ажылі.

Міхал Шымялевіч пісаў, што каля 1524 г. у горадзе Лідзе маецца яшчэ адна царква[10]. Верагодна, лепшы лідскі гісторык XX ст. меў на ўвазе царкву Прачыстай Багародзіцы, бо дакладна вядома, што лідскі намеснік Юрый Іванавіч Ілініч, каб трымаць даверную яму гаспадарку ў Лідзе ў належным стане, клапаціўся пра сваіх падначаленых незалежна ад канфесійнай прыналежнасці, сацыяльнага статусу і этнічнага паходжання. Менавіта ў 1524 г. ён надаў святару лідскай царквы Прачыстай Багародзіцы Васілю некалькі пустых зямель і агародаў у Лідскім павеце. Трэба меркаваць, што католік Юрый Ілініч кіраваўся тут практычным інтарэсам - рацыянальным выкарыстаннем зямельных пляцаў, бо поп Васіль павінен быў уносіць штогадовую плату на ўтрыманне Лідскага замка[11]. Вядома, што яшчэ ў канцы XVIII ст. у царкоўным архіве захоўваўся фундуш вялікіх князёў ВКЛ 1524 г. на царкоўныя пляцы[12].

**Заўважу: царква Прачыстай Багародзіцы на Зарэччы[13] згадваецца ўжо ў 1524 годзе, а а. Васіль - першы з вядомых нам святароў усходняга абраду**! І адзначу, што пасля замкавай капліцы і ажно да 1524 г., на жаль, няма ніводнай згадкі пра нейкі храм усходняй канфесіі ў Лідзе, ці калі больш дакладна - я не ведаю ніводнай такой згадкі.

Міхал Шымялевіч[14] (са спасылкай на Нарбута[15], а Нарбут у сваю чаргу са спасылкай на Ігната Даніловіча) таксама пісаў, што яшчэ нейкая іншая лідская царква была пабудавана ў 1533 г.

Адзін з лідскіх аматараў гісторыі раней таксама паведамляў нам пра асвячэнне ў 1533 г. царквы ў Лідзе, са спасылкай на Ніканаўскі летапіс: *"Освященіе церкви иже въ Лиде"* [16], - такі радок і насамрэч маецца ў гэтым летапісе. Я адмыслова вывучыў гэты фрагмент у вялікім шматтомным Ніканаўскі летапісе і без праблем знайшоў інфармацыю ва ўказальніку да летапісу, што ў дадзеным выпадку маецца на ўвазе царква ў Палестыне[17].

Але мяне здзівіла супадзенне датаванняў у Нарбута і ў Ніканаўскім летапісе - адзін і той жа 1533 год.

Знайшоў і прачытаў у Даніловіча адпаведны кавалак, на які спасылаецца Нарбут. Беларускі гісторык пачатку XIX ст. Ігнат Даніловіч надрукаваў свой "Летапісец ..." лацінкай. Для гэтага артыкула я перапісаў тэкст сучаснай кірыліцай і трошкі адаптаваў (аўтэнтычная лацінка падаецца ў зносцы): *"У лето 7041 (1533) родился великому князю Василию Ивановичу всея Руси сын, от его великой княгини Елены Глинской*[18]*, и наречен бысть Егорий (освяшчение церкви иже в Лиде), и возрадовался великий государь и прославил Бога"* [19].

У каментары да гэтага тэксту, Даніловіч піша: *"Больш за тры гады Алена была бясплоднай, разам з мужам наведала манастыры і цэрквы, хадзіла ў паломніцтва па цудатворных мясцінах, раздавала міласціну сваёй рукой, і 30 жніўня 1530 года яна нарадзіла свайго першынца Івана ... Неўзабаве нарадзіла другога сына Георгія... Устаўленыя ў дужках словы аб асвячэнні Лідскай царквы сведчаць пра тое, што летапісец жыў у гэтым горадзе, ці пра тое, што словы гэтыя ўстаўлены ў тэкст пазнейшай рукой"* [20]. Заўважу, што гэты *"першынец Іван"* - будучы цар Іван IV Жахлівы.

---

[10] Шымялевіч Міхал. Збор твораў / укл. Л. Лаўрэш. Гродна, 2019. С. 27.

[11] Аляхновіч Р. А., Рыбчонак С. А., Шаланда А. І. Род Ілінічаў у Вялікім Княстве Літоўскім у XV-XVI стст.: радавод, гербы, уладанні. Мір, 2015. С. 80-81.

[12] Юрыдыка - частка горада, якая падпарадкоўвалася феадалу і на жыхароў якой не пашыралася судовая і адміністрацыйная ўлада магістрату.

[13] "Зарэчча" - гэта раён сучаснай вуліцы Калініна і прылеглых да яе вуліц і завулкаў. Паходжанне назвы відавочнае, паселішча "за рэчкай".

[14] Шымялевіч Міхал. Збор твораў. С. 27.

[15] Narbutt T. Cokolwiek z historyi miasta Lidy. Dodatek I. S. 1. (*"1533. Cerkiew ruska w miescie byla poswiecona (Latopisiec Danilowicza: str. 315)."*).

[16] ПСРЛ. Т. 13. Ч. 1. СПб. 1904. С. 66.

[17] ПСРЛ. Т. 14. Ч. 2. Петроград, 1918. С. 213. ("Лида, гор. въ Палестине. XI-251. ХШ(1)-7041, 66.")

[18] Алена Глінская (каля 1508 - 4 красавіка 1538), нарадзілася ў Ласасіну (цяпер у Пружанскі р-н) ці ў Бялавічах (цяпер у Івацэвіцкім р-н). Дачка князя Васіля Львовіча з літоўскага роду Глінскіх і сербскай прынцэсы Ганны Якшыч. Вялікая княгіня маскоўская (1533-1538), жонка вялікага князя Васіля III. Зараз даказана старая версія яе смерці - Алена была атручана баярамі.

[19] Danilowicz Ignacy. Latopisiec Litwy i Kronika Ruska : z rekopisu slawianskiego przepisane, wypisami z wremennika sofiyskiego pomnozone, przypisami i objasnieniami dla czytelnikow polskich potrzebnemi opatrzone. Wilno, 1827. S. 315. *("W lieto 7041 (1533) rodisia welikomu kniaziu Wasilju Iwanowiczu wseja Rusi syn, ot jeho welikie knihini Eleny Hlinskie, i nareczen byst' Ehorij (oswiaszczenie cerkwi ize w Lidie), i wozradowasia welikij hosudar i proslawi Boha").*

[20] Danilowicz Ignacy. Latopisiec Litwy i Kronika Ruska ... S. 316. Зноска № 444. *("... Helena wiecey lat trzech bezplodna, zwiedzala z mezem klasztory i cerkwie, pielgrzymowala do mieysc cudownych, sypala pelne dlonia jalmuzne, nakonicc dnia 30 sierpnia r. 1530 rodzica pierwszego syna Iwana ... Niebawnie wydala na swiat drugiego syna Jerzego, ... Wyrazy w nawiasie wtracone o poswieceniu cerkwi w Lidzie, albo dowodze, ze latopisiec w tem mieszkal miescie,lub ze na brzegu donotowane, poznieysza reka do textu wtracone zostaly").*

Мяне адразу здзівіла амаль што даслоўнае супадзенне тэксту з кнігі Даніловіча з адпаведным тэкстам у знаёмым ужо Ніканаўскім летапісе: "... *родиси великому князю Василію Ивановичю сынъ отъ его великіи киягини Елены Глиньскіе, и нареченъ бысть Георгій, освященіе церкви иже въ Лиде: и възрадовася великій государь и прослави Бога*" [21].

Стала зразумела, што гэтыя летапісы аўтэнтычныя і, верагодна, з'яўляюцца "спіскамі", зробленымі з агульнай крыніцы - абодва яны аднолькава распавядаюць пра адны і тыя ж падзеі і пра Ліду ў Святой зямлі.

Справа ў тым, што, як піша Даніловіч, Алена з Глінскіх рабіла ўсё магчымае, каб мець дзяцей, верагодна, таксама дасылала дары і ў палестынскія манастыры і нарэшце нарадзіла сыноў, з якіх другі быў хворы ад нараджэння Ягор (Георгій, Юрый). Таму палестынская Ліда мела дачыненне да Алены, і манах-летапісец ці жыў у манастыры гэтага горада і ведаў пра сувязь паміж Аленай і Палестынай, ці, што таксама магчыма, у летапісе была зроблена пазнейшая ўстаўка пра Ліду, бо сувязь гэтая была добра вядомая.

Царква ў палестынскай Лідзе згадваецца Ніканаўскім летапісам і другі раз[22], калі справа ідзе пра старажытны Лідскі абраз - святыню першых стагоддзяў хрысціянства. Зараз гэты горад каля Іерусаліма мае назву "Лод" (раней "Лідда"), і гісторыя пра цудатворны нерукатворны Ліддскі абраз Божай Маці (ці Рымскі абраз Прасвятой Багародзіцы) шырока вядома ў хрысціянскім свеце[23].

Галоўнай славутасцю горада Лода (былой Лідды ці Ліды) з'яўляецца меркаваная пахавальня св. Георгія Пераможца, над якой у VI ст. была пастаўлена базіліка. На яе руінах крыжакі пазней пабудавалі царкву, адноўленую пасля шматлікіх разбурэнняў толькі ў 1870 г. Становіцца зразумелым, чаму Алена з Глінскіх свайго другога сына назвала Георгіем (князь Юрый (Георгій) Васільевіч, 1532-1563), бо яна мела надзею на падтрымку гэтага святога, тым больш, што князь нарадзіўся хворым, глуханямым, і Алена Глінская пасля нараджэння свайго другога сына Юрыя мела надзею толькі на яго святога апекуна і, верагодна, працягвала рабіць ахвяраванні ў цэрквы горада Лода (Лідды).

Але ў любым выпадку згаданая ў летапісах царква 1533 г. не мае дачынення да нашага горада, і таму пакінем яе ў спакоі раз і назаўсёды. Нарбут не зразумеў тэкст Даніловіча - Шымялевіч перапісаў у Нарбута - і вось ужо каля 200 гадоў мы ўсе разам падаём недакладную інфармацыю.

Але пойдзем далей.

У другой палове XVI ст., калі на беларускіх землях віравала Рэфармацыя і контррэфармацыя, выношвалася і рэалізоўвалася ідэя царкоўнай уніі, Ліда ўзвысіла свой адміністрацыйны статус, стаўшы ў 1566 г. цэнтрам павета. 17 верасня 1590 г. гораду было нададзена Магдэбургскае права[24], што таксама падкрэслівала яго эканамічную і грамадскую значнасць.

Адам Кіркор піша пра перанос замкавай капліцы ў горад і асвячэнне ў горадзе царквы св. Георгія ў 1553 г.[25] Заўважу, што гэтую інфармацыю Кіркор падае ў папулярнай кніжцы без спасылак, і, здаецца, больш нідзе і ніколі царква ў Лідзе пад такім вызнаннем не згадваецца. Аднак не робім з гэтага ніякіх высноў і ідзём далей.

У пачатку XVII ст. у нашым горадзе згадваюцца дзве праваслаўныя царквы: Прачысценская і св. Спаса[26].

На працягу XVII ст. уніяцкая царква ўсталёўваецца ў Лідзе, і ўжо ў першай палове стагоддзя ў горадзе згадваюцца чатыры грэка-каталіцкія цэрквы: св. Яна, св. Мікалая (каля рынкавай плошчы), св. Спаса (Збаўцы, у горадзе), царква Прачыстай (на Зарэччы)[27], аднак не факт, што ўсе яны існавалі адначасова.

Месцазнаходжанне цэркваў св. Яна і св. Спаса не высветлена. Вядома толькі, што царква св. Спаса знаходзілася недзе бліжэй да цэнтра горада. Улічваючы, што старая Ліда займала зусім маленькую тэрыторыю, сёння меўся б шанец, можа, нават і выпадкова, знайсці падмуркі цэркваў ці, што больш верагодна, чалавечыя парэшткі на каляцаркоўных могілках, якія абавязкова ў той час меліся каля царквы ці касцёла. На дадзены момант, у гістарычнай частцы горада Ліда, дакладна ідэнтыфікаваны чацвёра былых могілак вакол сакральных

[21] ПСРЛ. Т. 13. Ч. 1. СПб. 1904. С. 66.

[22] ПСРЛ. Т. 11. СПб. 1897. С. 251. (*"Ты, о владычице Богородице, свой чюдотворный образъ, его же мнози глаглютъ вторичьная икона, именовавшеся древле же Римлянынн, по началу же Лидская зовома, иже блаженный патріархъ Германъ съ самого вьображенного образа преписати повеле въ Лиде, иконоборьства же ради царя Лва Саврянина въ Риме отпусти ю, на море поставивъ, и тако сама святая икона пріиде въ Римъ единымъ нощеденьствомъ, по летехъ же 130 ..."*).

[23] Вилкова М. В., Заиграйкина С. П. Лиддская (Римская) икона Божией Матери // Православная энциклопедия. Москва 2016. Т. XLI. С. 46-49.

[24] Pyzel K. Kosciol parafialny p.w. Podwyzszenia krzyza sw. w Lidzie // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 95.

[25] Киркор Адам Исторически-статистические очерки Виленской губернии на 1852 год. Вильна, 1852. С. 219. (*"Князь Гедиминъ соорудилъ здесь каменный замокъ, въ которомъ съ самаго основанія находилась домовая церковь, перенесенная въ 1553 г. во вновь построенную среди города во имя Св. Георгія. Самый Замокъ былъ поддерживаемъ до 1794 года, но наружныя стены онаго сохранились и доныне."* )

[26] Баравы Р. Ліда // Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. Т. 2. Мінск, 2006. С. 197.

[27] Rouba N. Przewodnik po Litwie i Bialej Rusi. Wilna, 1909. S. 107-109.

будынкаў - двое былых рыма-каталіцкіх могілак (вакол фарнага і кармеліцкага касцёлаў) і двое грэка-каталіцкіх могілак (вакол былых цэркваў св. Мікалая - св. Міхала і вакол Прачысценскай царквы). І, нягледзячы на бясконцыя раскопкі тэхнічных камунікацый у нашым горадзе, да нашага часу не знойдзена слядоў цэркваў св. Яна і св. Спаса і, што важна, могілак каля іх.

Таму, можна выказаць гіпотэзу, што царква св. Спаса стаяла на месцы цэркваў св. Мікалая - св. Міхала, а св. Яна нейкі нязначны перыяд часу - на месцы Прачысценскай (потым Уваскрэсення Гасподняга) царквы. Вядома, што драўляныя цэрквы часта гарэлі ці прыходзілі ў нягоднасць з-за гніення дрэва і пасля аднаўлення на тым жа самым (ці прыкладна на тым жа самым) месцы, маглі па-іншаму асвячацца. Гэта мы бачым на прыкладзе цэркваў св. Мікалая - св. Міхала (гл. далей). І, дарэчы, для зусім невялікага ў той час горада, дзвюх цэркваў было б цалкам дастаткова.

У купчай, якой афармлены продаж 7 красавіка 1630 г. лідскім месцічам Лаўрынам Паўлавічам Казюковічам сваёй зямлі і хаты Мацея Вайцехавіча і яго жонкі Парасі Фёдараўны, згадваецца Фёдар Грынявецкі, святар храмаў Божых у горадзе Лідзе - у імя Прачыстай і Святога Мікалая (*"Chwiedor Hryniewiecki swieszczennik domu Bozego Przyczystey y swietego Mikolaya w Lidzkiem miescie stojacych"*, - заўважу, што гэты тэкст напісаны беларускай мовай на лацінцы). Пры апісанні межаў пляца ў купчай ясна ўказана месцазнаходжанне Прачысценскай царквы: *"...другім жа канцом да самой вуліцы, якая ідзе з горада Ліды на Дуброўню і Ліпнішкі, ідучы гэтаю вуліцай па дарозе з г. Ліды ад рынка і ад замка да Прачысценскай царквы па правай руцэ"*. З гэтага ўдакладнення бачна, што Прачысценская царква размяшчалася на тым месцы, дзе на пачатку XX ст. знаходзілася *"хатка Каліноўскага на Зарэччы"* [28]. Цяпер - гэта скрыжаванне вуліц Калініна і Стралкоўскага. З дакумента бачна, што адзін святар Фёдар Грынявецкі служыў у двух храмах: св. Мікалая і Прачыстай, таму, магчыма, царква Прачыстай на Зарэччы была філіяльнай.

Вымушаны лічыцца з патрабаваннямі праціўнікаў царкоўнага аб'яднання з ліку шляхты, кароль польскі і вялікі князь літоўскі Уладзіслаў IV у 1633 г. дазволіў *"неўніятам ... адпраўляць набажэнствы без усялякай перашкоды пад пагрозай адказнасці па законах* (за перашкоду - *Л. Л.*)" і сярод іншых беларускіх храмаў перадаў царкву св. Спаса ў Лідзе праваслаўнаму прыходу[29].

Як бачым, у 1633 г. у Лідзе і насамрэч мелася царква св. Спаса.

Мы нічога не ведаем, пра існаванне на пачатку XVII ст. у Лідзе праваслаўнага брацтва, але калі царква была перададзеная, дык верагодна, што такое брацтва было, бо толькі праваслаўныя брацтвы і некаторыя магнаты (у асноўным, з-за чыста палітычных меркаванняў) вялі барацьбу за аднаўленне структуры праваслаўнай царквы. Заўважу, што царкоўныя брацтвы - з'ява абсалютна пратэстанцкая, брацтвы валодалі царквой, трымалі яе ключы, наймалі на працу і звальнялі святароў[30] - барацьба супраць уніі для іх была барацьбой супраць царкоўнай іерархіі, супраць абмежавання сваіх паўнамоцтваў. Таму нядзіва, што праз нейкі час, пасля ўмацавання царкоўных структур, брацтвы зніклі. Але, калі такое брацтва ў Лідзе атрымала царкву, дык цалкам лагічна, што ім была перададзеная царква каля рынка, у цэнтры горада. А Прачысценскую царкву ў прыгарадзе Ліды, на Зарэччы, наведвалі сяляне з навакольных вёсак.

Ужо ў 1644 г. у дакументах згадваецца царква св. Мікалая: *"Лета ад нараджэння Сына Божага 1644, красавіка 8 дня, пан Самуэль Гадэпскі*[31]*, пінскі падстолі з жонкай яго пані Юстынай Крупевічоўнай, мазырскай падкамаранкай і падстолінай пінскай, ... перадалі правы на дом, які мае назву Стэфанаўскі, перад царквой Святога Міколы*[32] *ў горадзе Яго Каралеўскай Мосьці Лідзе, ... суддзі лідскага земскага суда Адаму Аўсянаму"* [33]. Як бачым, гэты дом у той час стаяў паміж вуліцай Віленскай (зараз - Савецкай) і царквой. Можна выказаць здагадку, што царква св. Міколы была пабудаваная на пляцоўцы ранейшай царквы св. Спаса.

Імя аднаго з лідскіх святароў сярэдзіны XVII ст., Філона Круковіча, мы даведваемся з матэрыялаў судовай справы, якая слухалася 18 снежня 1647 г. у Галоўным трыбунале Вялікага Княства Літоўскага ў сувязі са спрэчкай вакол маёнтка Вялікая Крупа. Трыбунал прысудзіў тады Марціну і Івану Палонскім выплаціць Філону Круковічу доўг і пяню ў памеры 618 коп літоўскіх

---

[28] Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок (Исторический очерк) // Виленский календарь. Вильно, 1906. С. 37-57.

[29] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 1. СПб., 1897. С. 227-228.

[30] Гл. Дмитриев М.В. Между Римом и Царьградом. Генезис Брестской церковной унии 1595-1596 гг. Москва. 2003.

[31] Падчас капіявання дакумента, у 1787 г. прозвішча, запісанае ў 1644 г. на старабеларускай мове, перапісалі лацінкай як "Khodepski". Акадэмік Я. Карскі заўважаў, што такае злучэнне літар "Кг" - адзін з прызнакаў старабеларускай мовы, гэтак у старабеларускай мове абазначалася мяккае вымаўленне "г", напрыклад: "Скиркгайло", "буркгмистр" і інш., што з'яўляецца адной з яе асаблівасцяў. - гл. Карский Е. Ф. Что такое древнее западнорусское наречие // Труды Девятого археологического съезда в Вильне. 1893. Т. II. Москва, 1897. С. 62-70.

[32] У тэксце, перапісаным са старабеларускай мовы, менавіта "Міколы".

[33] Vilnius University Library. Ф. 5. Оп. 21. Д. 4280. Wypis z Xieg Kommissyi Boni Ordinis Miasta JKmsci Lidy, 1787 (1644). Арк. 1 адв - 2.

грошаў[34]. На жаль, Філон Крукоўскі ўказаны проста як *"презбитер церкви Лидское"*, без удакладнення, пра якую царкву ідзе гаворка.

Пра стан адноўленых у другой палове XVII ст. лідскіх цэркваў можна даведацца з акта візітацыі 1681 г. У горадзе мелася дзве царквы, адна *"пад вызнаннем св. Мікалая, каля рынку даўнейшага і іншая на прадмесці, на пляцы для цэркваў святлейшай фундацыі Каралёў Ягамосцяў"* [35], на прадмесці - царква Прачыстай. Каралеўскі фундуш загінуў падчас вайны, ці, як напісана ў акце візітацыі, падчас "маскоўшчыны", аб чым пасля вайны зроблены запіс у кнігах Лідскага гродскага суда.

Парахам[36] лідскім і адзіным святаром гэтых дзвюх цэркваў быў Якуб Казлоўскі, прычым пра царкву на Зарэччы напісана, што ў ёй *"ніякага парадку няма і набажэнства бывае не часта"* [37]. Абедзве цэрквы былі драўлянымі і вельмі беднымі, толькі царква св. Мікалая была *"абразамі аздоблена"* [38]. Канешне ж, немагчыма ўявіць царкву ўсходняга абраду без абразоў, і таму можна меркаваць, што ў царкве Прачыстай яны былі зусім нізкай якасці.

З акта бачна, што царква св. Мікалая мела сігнатурку з малым звонам[39] і званіцу з больш вялікім звонам. У актах візітацыі звычайна паведамлялася пра царкоўныя купалы і ўказваліся ўсе жалезныя рэчы ў царкве і парафіяльных пабудовах (завесы, зашчапкі і інш.), бо жалезныя рэчы ў той час мелі вялікі кошт. У нашым выпадку пра купалы ці жалезны рыштунак абедзвюх цэркваў нічога не напісана, таму можна зрабіць выснову, што гэта былі вельмі простыя і танныя пабудовы.

З царквы св. Мікалая была скрадзена дараносіца, а адзіная каштоўная рэч - *"келіх срэбны пазалочаны сучасным святаром закладзены ў Вільні. Загадваем, пад строгай карай, каб быў як найхутчэй выкуплены"*[40], - пісаў візітатар. Наогул, царкоўнага начыння для богаслужэння і святарскага адзення мелася мала, і яно было таннае. Тым не менш царква мела Антыміс Мітрапаліта Календы, прэзентаваны самім мітрапалітам, які яго і асвяціў, а папярэдні святар набыў (Календа памёр у 1674 г.)[41].

Цэрквы мелі неабходны камплект кніг для службы ва ўсходнім абрадзе, але чамусьці ў пераліку царкоўных дакументаў адсутнічаюць спісы парафіян і метрычныя кнігі.

Пры царкве св. Мікалая стаяла *"плябанія - белая хата, коштам самога айца пабудаваная"*, а таксама яшчэ *"хата чорная з сенямі, гумно, хлеў з хросту"* [42]. З боку рынку пры царкве св. Мікалая стаяў шпіталь, што кажа пра тое, што лідскія ўніяцкія цэрквы выконвалі свае сацыяльныя абавязкі.

Акрамя святара пры царкве былі два званары. Абедзве лідскія цэрквы мелі зямлю і двух прыгонных - "агароднікаў", што кажа пра невялікую колькасць царкоўнай зямлі.

У XVI ст. адбыўся масавы пераход былых праваслаўных у пратэстанцтва, прычым, першымі тут былі больш вышэйшыя сацыяльныя пласты - шляхта і гараджане. А контррэфармацыя і вайна сярэдзіны XVII ст. прывяла да масавага пераходу былых пратэстантаў у рыма-католікі, і лідская царква амаль што страціла гарадскіх прыхаджан. Таму дзве лідскія царквы ў горадзе і навакольных вёсках мелі ўсяго 330 вернікаў [43].

"Падымны рэестр Віленскага ваяводства 1690 г." падае, што *"празбітар тамтэйшай царквы"* лідскай меў 1 дым[44].

У 1702 г. і 1710 г. Ліду спалілі шведы. Таму ў 1717 г. Вальны сойм Рэчы Паспалітай зноў вызваліў горад ад падаткаў, а таксама пацвердзіў яго старыя прывілеі.

У другой палове XVIII ст. Ліда інтэнсіўна развіваецца. У 1765-1770 гг. паўстаў новы мураваны касцёл - фарны, пабудаваны замест старога драўлянага. Недзе тады ж на Рынкавай плошчы пабудавалі мураваную ратушу, упрыгожаную порцікам з калонамі. Пры ратушы існавала старадаўняя драўляная пабудова, выкананая ў гатычным стылі.

Лепшы знаўца нашай гісторыі Міхал Шымялевіч пісаў: *"Пад канец XVIII ст. хрысціянскія могілкі горада Ліды знаходзіліся на ўзгорку паміж вуліцамі Гражыны, Вызвалення, Гарыстай. Тут, над старым млынарскім ставам, стаяла драўляная ўніяцкая царква Уваскрэсення Гасподняга, пабудаваная з дрэва разабранага ў 1765 г. парафіяльнага касцёла, пры царкве знаходзіўся шпіталь для ўбогіх, г. зн. прытулак"* [45]. З іншай крыніцы вядома, што ў 1765 г. з дрэва

[34] Акты, издаваемые Виленской комиссией для разбора древних актов. Декреты Главного Литовского трибунала. Т. 15. Вильна, 1888. С. 38-39.

[35] Архіў Жыровіцкай семінарыі. Архіў Лідскага дабрачыння. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 117.

[36] Парах - святар, які мае паўнаважанні стала кіраваць парафіяй (прыходам).

[37] Архіў Жыровіцкай семінарыі. Архіў Лідскага дабрачыння. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 117.

[38] Тамсама.

[39] Сігнатурка (лац.: *signatura* - подпіс, ад лац.: *signo* - *паказваю, пазначаю*) - невялікая вежачка (звычайна са звонам, што таксама завецца сігнатуркай), якая ўзвышалася над прэзбітэрыем.

[40] Архіў Жыровіцкай семінарыі. Архіў Лідскага дабрачыння. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 117.

[41] Тамсама.

[42] Тамсама.

[43] Тамсама.

[44] Metryka litewska : rejestry podymnego Wielkiego Ksiestwa Litewskiego, wojewodztwo wilenskie 1690 r. Warszawa, 1989. S. 211.

[45] Шымялевіч Міхал. Збор твораў. С. 216.

разабранага старога фарнага касцёла ("як кажуць, яшчэ ў добрым стане для сценаў") пабудавалі новую ўніяцкую царкву[46].

У "Вопісе парафій Лідскага дэканата ў 1784 г." запісана, што на Зарэччы існуе *"карчма старасты лідскага, прадмесце і плябанія ўніяцкая (ritus graci uniti)"* [47].

Зразумела, што новая царква Уваскрэсення Гасподняга была пабудавана на пляцоўцы былой Прачысценскай царквы, і на карце канца XVIII ст. бачна, што гэтая царква мела форму падвойнага крыжа.

На гэтым старым, намоленым царкоўным пляцы меліся прыходскія могілкі, жыхарка горада Я. Ярмант пісала ў мемуарах пра сваё жыццё ў 1930-я гг.: *"Наш дом знаходзіўся ніжэй вуліцы Вызвалення* (цяпер Калініна), *калісьці на гэтым месцы былі могілкі, бо ў агародзе знаходзілі чалавечыя косці"* [48].

Лідзянін XIX ст. Нікадзім Сегень, які пабудаваў дом недалёка ад гэтай былой царквы, гэтак апісаў сваё наваколле: *"Сырасць Дзяканкі, відаць, непакоіла Нікадзіма* (тут стаяў ранейшы дом Сегеняў - *Л. Л.*), *бо ён купіў кавалак сухой пясчанай зямлі на так званай "Горцы". Гэтыя землі нядаўна былі далучаны да гарадскога раёна "Зарэчча". Да гэтага, тут, на "Горцы", доўгі час мелася пляцоўка для вывучкі казакоў, якія стаялі ў горадзе.*

*У яшчэ ранейшыя часы на "Горцы" мусілі быць могілкі, бо там (у значнай глыбіні) часта выкопваліся чалавечыя косткі.*

*Набыты Нікадзімам участак зямлі прылягаў да дзвюх яшчэ нядаўна пазначаных вуліц: Мастоўскай (былая дарога на хутар Мастоўшчына[49]) і Гарыстай, якая вяла ад млына да дарогі "на Ліпнішкі"* (зараз перакрыжаванне вуліц Чарнышэўскага і Стралкоўскага - *Л.Л.*). *Ля падножжа замка размяшчаўся вадзяны млын з вялікай сажалкай. Вуглавое размяшчэнне пляца пад дом Нікадзіма было вельмі зручным для будучага падзелу дома паміж дзецьмі, бо дазваляла кожнаму мець добрую будаўнічую пляцоўку з выхадам на вуліцу"*[50].

Знакаміты віленскі гісторык, прафесар Іяхім Лелявель, у 1805 г. вандруючы праз Ліду, занатаваў: *"Ліда - мураваны горад з драўлянымі сценамі* [51]. *Тут ёсць толькі мураваныя касцёлы, з іх піярскі касцёл ужо 6 гадоў як накрыўся дахам і белым пакрыццём*[52]. *Апрача гэтых двух з паловай касцёлаў*[53] *ёсць яшчэ замак з чатырма высокімі сценамі, які сведчаць, што Ліда была горадам літоўскіх князёў і мела здольнасць да абароны. Па рагах замка стаяць разваленыя вежы, з трох бакоў замка цячэ рака Лідзея*[54], *а за замкам - драўляная пустая царква* (Уваскрэсення Гасподняга - *Л. Л.*)" [55].




***Цэнтр горада ў XVIII ст. з уніяцкай царквой. Карта з кнігі Чантурия Ю. В. "Градостроительное искусство Беларуси второй половины XVI - первой половины XIX в.". 3 - фарны касцёл, 4- ратуша, 5 - грэка-каталіцкая царква Міхала Арханёла, 6 -касцёл піяраў, 7 - кармеліцкі касцёл, 8 - сінагога***

У 30-х гадах XIX ст. царкву Уваскрэсення Гасподняга на Зарэччы зруйнавала бура[56]. Але ўжо ў 1816 г. царква знаходзілася ў дрэнным стане, і адміністратару

[46] Pyzel K. Kosciol parafialny p.w. Podwyzszenia krzyza sw. w Lidzie // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. S. 103.

[47] Rybak Andrzej. Dekanat lidzki w 1784 r. swietle opisow parafii. Bialystok, 2004. S.70.

[48] Ярмонт Е. В тени замка Гедимина. Лида, 1995. С. 38.

[49] На ўсходняй ускраіне Зарэчча яшчэ ў першай палове XX-га ст. існаваў невялікі засценак "Мастоўшчына", потым ён пачаў лічыцца фальваркам.

[50] Архіў аўтара.

[51] Гэта метафара Лелявеля кажа пра наяўнасць мураванага замка з касцёламі ў цалкам драўляным горадзе.

[52] Верагодна, маецца на ўвазе белы тынк.

[53] Касцёлы: фарны, кармеліцкі і трэці, недабудаваны, піярскі - адсюль *"два з паловай касцёлы"*.

[54] Насамрэч рэкі Лідзейка і Каменка.

[55] Listy Joachima Lelewela: oddzial pierwszy: listy do rodzenstwa pisane. Poznan, 1878. T. 1. S. 44.

[56] Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок (Исторический очерк) // Виленский календарь. Вильно, 1906. С. 37-57.

царквы Аляксандру Канеўскаму было загадана ў звычайныя дні весці богаслужэнні ў фарным касцёле, а ў нядзелю і па святах у Ольжаўскай капліцы. Пляц напаўразбуранай царквы трэба было абсадзіць дрэвамі і паставіць крыж[57].

Вызначаныя сучасным метадам каардынаты пляцоўкі Прачысценскай - а потым Уваскрэсення Гасподняга - (і, магчыма, раней св. Яна): 53.886184832612535, 25.30730971739487 [58].

У актах візітацый канца XVIII ст. на месцы царквы св. Мікалая знаходзіцца ўжо царква пад тытулам Міхала Арханёла. Пазначана царква і на карце горада, напры-клад, на карце канца XVIII ст, надрукаванай у кнізе В. А. Чантурыі "Градостроительное искусство Беларуси второй половины XVI - первой половины XIX в.", царква пад тытулам Міхала Арханёла стаяла каля кляштара піяраў; насупраць яе, праз Віленскую вуліцу, мелася сінагога[59]. Пры канцы XVIII ст. - на пачатку XIX ст. горад меў два цэнтры, размешчаныя на восі, якой была вуліца Віленская. У адным цэнтры знаходзіўся замак, фарны касцёл, кляштар кармелітаў, у другім - ратуша, сінагога, уніяцкая царква Міхала Арханёла і кляштар піяраў[60].

Царква Міхала Арханёла з'явілася ў выніку аднаўлення і перавысвячэння былой царквы св. Мікалая, бо пры канцы XVIII ст. драўляная царква пад тытулам Міхала Арханёла была ўжо ў дрэнным стане. Царква была пабудавана на падмурку, крытая гонтай, мела фацыяту[61] і купал з жалезным крыжам па-над царквой[62], акрамя вялікага купала, меўся яшчэ і *"другі малы купал з крыжам жалезным"* [63]. На карце канца XVIII ст. бачна, што царква Міхала Арханёла мела форму крыжа.

Тут трэба адзначыць, што купалы ўніяцкіх цэркваў не мелі цыбулепадобнага выгляду, як маскоўскія цэрквы. Пачынаючы з сярэдзіны XVIII ст. нашы цэрквы мелі фігурныя грушападобныя гранёныя купалы, якія зваліся "бані" ці "банькі" [64], у залежнасці ад памераў. Так называецца купальнае пакрыццё паўкруглай формы




***Карта горада 1798 г., зробленая па піярскай карце канца XVIII ст., 1 - царква Міхала Арханёла (раней царква св. Мікалая і, магчыма, св. Спаса); 2 - царква Уваскрэсення Гасподняга - (раней Прачысценская і, магчыма, св. Яна)***

або круглы купал у завяршэнні вежаў ці вярхоў. У адрозненне ад гладкіх купалоў-цыбулін усходніх праваслаўных храмаў, банькі мелі складаны сілуэт і падзел на грані, "банькі" рабілі шмат'яруснымі, на васьміграннных і шасціграннных шыйках, што ствярала кантрасныя светлаценевыя эфекты.

У 1784 г. у царкоўным архіве захоўваўся фундуш вялікіх князёў ВКЛ 1524 г. і фундуш на юрыдыку[65] ў г. Лідзе пад назвай Папоўшчына, падпісаны мітрапалітамі Антонам Сялявам 4 ліпеня 1644 г. і Львом Кішкам 4 ліпеня 1717 г. у маёнтку Рута Навагрудскага павета[66]. У 1784 г. юрыдыку арандаваў яўрэй Ісак Ёселевіч, плацячы штогод 8 злотых 15 грошаў[67]. У 1792 г. юрыдыка пустая, *"падлеглая заняпаду"* [68].

Пры царкве св. Міхала меўся шпіталь і пабудовы плябаніі: хата святара з каморай, пякарня, клецць (амбар), гумно, хлеў. Плябанія *"часткова плотам, а часткова жэрдкай агароджана, з брамай, стараннем двара і святароў пабудаванай"* [69]. Дарэчы, наяўнасць брамы - прыкмета багатай парафіі, таму ў акце візітацыі

[57] Стренковский С. П. і інш. Сия есть вера, победившая мир, вера наша: Православие на Лидчине в XIII - XXI века. Мінск, 2024. С. 41.

[58] Лаўрэш Леанід. Дзе і што археолагам шукаць у Лідзе // Лідскі Летапісец. 2023. № 3 (103). С. 36-41.

[59] Чантурия Ю. В. Градостроительное искусство Беларуси второй половины XVI - первой половины XIX в.: Средневековое наследие, Ренессанс, барокко, классицизм. Минск, 2005. С. 51.

[60] Чантурия Ю. В. Градостроительное искусство Беларуси второй половины XVI - первой половины XIX в.: Средневековое наследие, Ренессанс, барокко, классицизм. Минск, 2005. С. 51.

[61] Фацыята - паддашак, мансарда.

[62] НГАБ. Ф.136. Воп. 1. Спр. 41244. ... Арк. 35.

[63] Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. Ф.634. Воп. 1. Спр. 53. Візіты цэркваў Лідскага і Слонімскага дэканата. 1784 г. Арк. 85.

[64] Назва паходзіць ад лацінскага слова baneum (так зваўся пуката-ўвагнуты посуд, якім карысталіся для абмывання ў тэрмах і купальнях, пазней - у баптыстэрыях пры абрадзе хрышчэння.

[65] Юрыдыка - частка горада, якая падпарадкоўвалася феадалу і на жыхароў якой не пашыралася судовая і адміністрацыйная ўлада магістрату.

[66] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. Арк. 86 адв.

[67] Тамсама. Арк. 96 адв.

[68] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Арк. 36.

[69] Тамсама. Арк. 35 адв.

запі-сана, чым стараннем яна пабудавана. Тут жа каля царк-вы знаходзіліся старажытныя могілкі: *"Пляц, дзе пабу-даваны царква са шпіталем і дзе знаходзяцца могілкі, мае паўтара моргі"* [70].

Пры капітальным рамонце вуліцы Сувальскай (першасная назва - Віленская, зараз - Савецкая) і пракладцы тэлефонных кабеляў да будаванай у той час новай пошты па вуліцы Міцкевіча, у 1937 г. тут знойдзены парэшткі XVIII ст. *"лідскіх месцічаў, якія былі пахаваны на могілках пры ўніяцкай царкве, якая згарэла ў першай палове XVIII ст. ... . Потым праваслаўныя святары прадалі пляц былых могілак каля царквы пад участкі для будаўніцтва, і тут былі пабудаваны дробныя крамы"* [71].

10 кастрычніка 1865 г., падчас асвячэння праваслаўнай царквы ў Шчучыне, святар Віленскага Кафедральнага сабора а. Антон Пшчолка сказаў, што царква Міхала Арханёла была разбурана ў 1818 г., але *"сваё імя, якое народ не забыў, перадала нядаўна ўладжанай праваслаўнай царкве"* [72] (маецца на ўвазе сучасны сабор, перабудаваны з касцёла піяраў і асвечаны як праваслаўны 18 жніўня 1863 г. па старым стылі[73]). У дадзеным выпадку няма рацыі не верыць Пшчолку, бо ён кажа пра падзеі, якія адбыліся за 2 гады да яго прамовы і, відочна, што такая спадчыннасць паміж цэрквамі была відавочнай для сучаснікаў. На карце горада 1842 г. былой уніяцкай царквы ўжо няма, але памяць пра яе захавалася ў назве сучаснай праваслаўнай царквы.

Каардынаты пляцоўкі цэркваў св. Мікалая і Міхала Арханёла (і магчыма св. Спаса): 53.89332136298254, 25.303711884679984 [74].

Паводле дакументаў Архіва ўніяцкіх мітрапалітаў, які з часоў ліквідацыі ўніяцкай царквы на Беларусі захоўваецца ў Санкт-Пецярбургу, у 1743 г. Лідскі ўніяцкі дэканат заплаціў мітрапаліту штогадовы падатак на ўтрыманне свайго епіскапа і кафедральнай царквы "cathedraticum" у памеры 60 злотых, Ашмянскі - 154 злотыя, Мядзельскі - 104 злотыя. З улікам памеру падатку, відно, што ў Лідскім павеце ўніятаў было меней, чым на Ашмяншчыне і Мядзельшчыне, бо было больш рыма-каталікаў[75]. У 1747 г. з кожнага "каплана" неабходна было заплаціць мітрапаліту *"по одному битому талеру"*. Лідскі павет заплаціў тады 12 талераў[76], што сведчыць аб такой жа колькасці ўніяцкіх святароў на Лідчыне. Адзін з іх - лідскі "парах" Антоні Марцінеўскі, пра якога вядома, што ён у тым жа годзе няправільна, без споведзі і абвяшчэнняў, даў шлюб[77].

У параўнанні з канцом XVII ст. у прыходзе павялічылася колькасць вёсак, але ў самім горадзе ўніятаў амаль што не было. Колькасць прыхаджан у 1792 г. - 608 чалавек[78]. Нягледзячы на наяўнасць уязной брамы, па класіфікацыі беларускага гісторыка Д. Лісейчыкава лідская плябанія адносілася да бедных, бо не мела варыўні, аборы, пуні, лазні, бровара і г. д.[79]

З-за дрэннага стану царквы ў канцы XVIII ст. царкоўныя ўлады, верагодна, прынялі рашэнне перавесці святара з Ліды на сталае жыхарства ў вёску Дакудава і адчыніць да гэтага часу нячынныя капліцы ў Ольжаве і Курасеўшчыне (Карасеева, Korosieiow)[80]. У "Вопісе парафій Лідскага дэканата ў 1784 г." капліца ў Курасеўшчыне фігуруе як капліца ў Навіцкіх: *"Навіцкія, вёска, уніяцкая капліца (ritus graci uniti) і карчма васпана Тукалы, будаўнічага Лідскага"* [81]. Старая драўляная капліца ў Курасеўшчыне існавала яшчэ ў 1830-х гг.[82]

У акце візітацыі 1784 г. ёсць апісанне капліцы ў Ольжаве: *"На зямлі вяльможных ягамосцяў паноў Гінетаў, крайчых Лідскіх*[83] *... У Ольжаве. Драўляная, гонтай крытая, на падмурку, асвечаная. Гэтага асвячэння сакрамант быў прэзентаваны. ... досыць мае апаратаў, якія ёсць падчас візіты. ... капліца пабудавана, за кошт .... у Яна Бялькевіча, сурагатара Гарадзенскага*[84]*, 2 жніўня 1764 г. ахвяравана Лідскай парафіяльнай царкве"* [85].

Такім чынам лідскія ўніяты маліліся ў Ольжаўскай капліцы, і таму ў момант скасавання ўніяцкай царквы, праваслаўныя вернікі засталіся без свайго будынка ў Лідзе.

---

[70] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. Арк. 86-86 адв.

[71] Slowo № 268 (4832) 28 wrzesnia 1937.

[72] ЛЕВ. 1865. № 23. С. 929.

[73] ЛЕВ. 1863. № 17. С. 629-632.

[74] Лаўрэш Леанід. Дзе і што археолагам шукаць у Лідзе. // Лідскі Летапісец. 2023. № 3 (103). С. 36-41.

[75] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 84.

[76] Там жа С. 118.

[77] Там жа. С. 116.

[78] НГАБ. Ф.136. Воп. 1. Спр. 41244. Арк. 35 адв.

[79] Лісейчыкаў Дзяніс. Штодзённае жыццё ўніяцкага парафіяльнага святара беларуска-літоўскіх зямель 1720-1839. С. 66.

[80] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Арк. 36 адв.

[81] Rybak Andrzej. Dekanat lidzki w 1784 r. w swietle opisow parafii. S.67.

[82] Вестник Виленского Св.-Духовского Братства. 1907. № 8. С. 165.

[83] У 1788 г. Ян Гінет - Лідскі крайчы. Гл. Herbarz polski Kaspra Niesieckiego, S. J. Powiekszony dodatkami ..., T. 4. Lipsk. 1839. S. 118.

[84] Ілія Бялкевіч - гарадзенскі сурагатар, парах скідзельскі. Гл. Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 124.

[85] ДГАЛ. Ф.634. Воп. 1. Спр. 53. Арк. 127.

*Леанід Лаўрэш*

# Першыя аўтамабілі і матацыклы на Лідчыне

Першае зафіксаванае ў прэсе здарэнне з удзелам аўтамабіля на гістарычнай Лідчыне адбылося 4 кастрычніка 1911 г.: *"…каля 17-00 пані Чачот ехала на брычцы па дарозе Ліда - Вільня. Не даязджаючы Беняконяў, конь быў напалоханы аўтамабілем пана Вагнера з Вялікіх Салечнікаў, які абагнаў брычку без папераджальнага сігналу. Конь кінуўся ў бок, перавярнуў брычку, і пані Чачот была выкінута з яе на дарогу. Конь з брычкай без гаспадыні памчаўся ў бок мястэчка, дзе і быў злоўлены. Пані Чачот атрымала цялесныя пашкоджанні і не магла сама падняцца з зямлі, аднак кіроўца і пасажыры аўтамабіля не звярнулі на яе ўвагі"*, - пісала газета "Кур'ер Віленскі".

Першае зафіксаванае смяротнае здарэнне з удзелам аўтамабіля адбылося ўзімку 1918 г., газета "Гоман" паведаміла, што па дарозе Ліда - Гародня, каля Новага Двара, *"конь, спужаны аўтамабілем, панёс і разбіў сані аб тэлеграфны слуп. Міліцыянт Якабсан зваліўся з санак і папаў пад аўтамабіль, каторы яго задушыў на смерць"*.

Першым вядомым мне аўтаўладальнікам на гістарычнай Лідчыне быў уладальнік маёнтка Гурнофель Альфрэд Бразоўскі. Вельмі цікава пра яго пісаў сын уладальніка Ішчалны Андрэй Брахоцкі: *"У мае маладыя гады гаспадаром маёнтка быў пан Альфрэд Бразоўскі - стары кавалер. Ездзіў чацвёркай коней, зімой заўсёды са званочкамі, бываў паўсюдна, не прапускаў нічыіх суседскіх імянін і нават у сталым веку сябраваў з так званай "залатой моладдзю". Меў яшчэ нейкі іншы маёнтак у іншым павеце і яшчэ перад Першай сусветнай вайной купіў сабе аўтамабіль - хоць і ўжываны, але гэта быў першы аўтамабіль у Лідскім павеце. Усе балі ў акрузе былі яго, і часта пасля балю брычка Бразоўскага начавала ў канаве. Расказвалі, што для аўтамабіля трымаў двух шафёраў, а шыны ездзіў мяняць за 100 кіламетраў. У часы Першай сусветнай вайны ажаніўся з паннай Янкоўскай і адразу пасля вайны памёр, пакінуўшы адну дачку.*

*Хадзіла пра яго шмат анекдотаў, якія дасціпныя сябры ахвотна расказвалі. Ён з цікавасцю выслухваў анекдоты пра сябе, і сам з іх першы смяяўся. У маёй памяці засталося некалькі такіх гісторый. Расказвалі, што ў маладосці ён некалькі разоў рабіў прапановы рукі і сэрца, але безвынікова. Адным разам у кавярні яму і яго пасіі падалі дзве філіжанкі кавы з вяршкамі ў адным гаршчочку з вушкам. Пан Альфрэд звярнуўся да панны з пытаннем, ці хацела б яна мець з ім адзін агульны гаршчок на ўсё жыццё. Тая адмовілася.*

*Іншым разам нейкі дасціпнік запэўніў пана Альфрэда, што ведае такі фокус: поўная шклянка вады будзе перавернута над яго галавой, а ён пры гэтым застанецца сухі. Пан Альфрэд сказаў, што гэта немагчыма. Тады жартаўнік прапанаваў паспрачацца на 100 рублёў - вялікія ў той час грошы. Памятаю, як наш улюбёны фурман, стары Юзаф, купіў сабе добрыя скураныя боты за 3 рублі. Пан Бразоўскі быў ашчадны і прапанаваў спрэчку на 1 рубель. Было гэта ў рэстаране, афіцыянт прынёс шклянку вады, якую штукар на вачах усяго рэстарана выліў на галаву пана Альфрэда. Пасля чаго, здзівіўшыся, сказаў, што фокус не ўдаўся, і заплаціў 1 рубель. На гэтым справа да задавальнення абодвух бакоў скончылася".*

Вось такім чалавекам быў першы шчаслівы ўладальнік аўтамабіля на Лідчыне.

З-за невялікай колькасці механічнага транспарту аварыі з ім у 1920-х гг. здараліся не часта. Але аўтамабілі і матацыклы ўжо пачалі забіваць і калечыць людзей. Напрыклад, 2 ліпеня 1926 г. за чатыры кіламетры ад Ліды ў бок Вільні, разбіўся аўтамабіль памежнай аховы, паручнік Вяндлінскі загінуў, а кіроўца аўтамабіля атрымаў цяжкія раненні. І з часам падобных выпадкаў станавілася ўсё больш.



***Польскі фіят-508***

І гэта пры хуткасці на нашых тагачасных дарогах, пра якую кажа той факт, што 25 верасня 1929 г. аўтамабіль прэзідэнта Польшчы Масціцкага на шляху з Навагрудка ў Ліду суправаджаў эскадрон уланаў 25-га палка.

У лютым 1929 г. у Лідзе з'явіўся першы спецыялізаваны аўтамабіль пажарнай аховы. А пры канцы 1937 г. Лідскі аддзел Чырвонага Крыжа атрымаў першы ў Лідзе санітарны аўтамабіль для перавозкі хворых.




***Мадыфікацыі фіята-508***

У траўні 1938 г. лідскія паштавікі атрымалі 5 аўтамабіляў маркі "Польскі фіят".




***Паштовы фіят***

Паміж 1934 і 1936 г. свой стары "Авэрлэнд" на новы "Польскі фіят" змяніла ўдава генерала Кіпрыяна Кандратовіча Ада.

Вось як прафесар Ірэна Стасевіч-Ясюкова, дачка лідскага павятовага доктара, якая жыла ў доме па сучаснай вуліцы 7-га Лістапада, д. 4, успамінала пра аўтамабіль сваёй сям'і: *"Праца павятовага лекара [...] была цяжкая і знясільвальная, але праз некалькі гадоў бацькі набылі аўтамабіль; выязджалі з шафёрам (бацька не навучыўся кіраваць гэтым новым набыткам тэхнікі) у нядзелю на возера, часам у кампаніі знаёмых"*. Ужо ў сталым узросце Ірэна Стасевіч-Ясюкова зноў убачыла дом свайго бацькі, дом свайго дзяцінства: *"Усё захавалася ў выдатным стане, у ідэальным парадку, як бы час затрымаўся на месцы. На падворку гараж для аўтамабіля, які запрашаў у нядзельныя выезды на Нёман; асфальтавы пад'езд да гаража, на якім мы гулялі ў мяч або ў гульню "ў класы" з нарысаванымі крэйдай небам і пеклам"*. Праходзячы каля гэтага дома, я заўсёды гляджу на той гараж з вузкімі, якраз для "Фіята 508", варотамі.

Транспарту было няшмат, удзельнікі дарожнага руху не мелі добрай падрыхтоўкі, да таго ж амаль што не было кантролю паліцыі за дарожным рухам. Верагодна, таму паводзіны ўдзельнікаў дарожнага руху вызначаліся дрэнным выкананнем правіл: *"Калі вы ездзілі аўтамабілем на нашых дарогах, дык ведаеце... як ігнаруюць усе правілы дарожнага руху вясковыя вазы. Таму з поўным разуменнем мы аднесліся да акцыі лідскага старостава, якое звярнула пільную ўвагу на ўпарадкаванне руху на публічных дарогах. 12 ліпеня 1937 г. на галоўных дарогах каля Ліды была арганізавана аблава на "карсараў дарог", кіраваў аблавай сам стараста Міклашэўскі. Рэферэнт бяспекі ў старостве, маёр Арлоўскі, павятовы інжынер Дамброўскі, кіраўнік камісарыяту паліцыі Акаловіч на працягу некалькіх гадзін кантралявалі рух фурманак і аўтатранспарту на публічных дарогах. У выніку за парушэнні яны пакаралі 145 чалавек (за парушэнні правіл руху, адсутнасць нумароў, няправільную вупраж каня і г.д.). Таксама былі пакараны 40 шафёраў перапоўненых аўтобусаў"*.

У другой палове 1930-х гг. кардынальна змянілася стаўленне самых шырокіх слаёў насельніцтва да аўтамабіляў. Аўтамабіль стаў сімвалам тэхнічнага прагрэсу, а развіццё аўтамабілізацыі - сімвалам сацыяльнага прагрэсу, і таму ў 1937 г. з ініцыятывы дырэктара Купецкай гімназі піяраў Генрыка Жалігоўскага ў гімназіі паўстаў гурток аўтааматараў. У гурток запісалася каля 50 вучняў і некалькі настаўнікаў. У гуртку вывучалася канструкцыя аўтамабіля і атрымліваліся практычныя навыкі кіравання. Настаўніца Купецкай гімназіі Яўгенія Багуцкая першай сярод вучняў і настаўнікаў здала экзамены і атрымала аўтамабільныя правы.

У траўні 1938 г. Лідскі маторны клуб на агульным сходзе вырашыў пачаць будоўлю станцыі тэхабслугоўвання аўтамабіляў: *"Ліда да гэтага часу не мае станцыі тэхабслугоўвання. У кожным выпадку нават малой паломкі трэба ехаць у Вільню. Лідскі маторны клуб спадзяецца на фінансавую дапамогу самакіравання горада"*, - паведамляла прэса.

Пры канцы 1936 г. у Лідскім павеце было 27 асабістых аўтамабіляў, 4 грузавыя аўтамабілі, 6 аўтобусаў, 28 матацыклаў - разам 67 механічных транспартных сродкаў: *"Ступень матарызацыі Лідскага павета ў Наваградскім ваяводства знаходзіцца на другім месцы, першае месца займае Баранавіцкі павет, які мае 95 механічных транспартных сродкаў, на апошнім месцы - Стаўпецкі павет, дзе ёсць толькі 16 машын (з іх 5 матацыклаў)"*, - пісала віленская газета "Слова". Спіс усяго матарызаванага цывільнага транспарту на Лідчыне ў 1936 г., падаю ў канцы артыкула.

А зараз паглядзім, як фінансава цяжка ў тыя часы ў Заходняй Беларусі было ўтрымліваць аўтамабіль тым

шчаслiўчыкам, якiя яго мелi.

Калі б можна было спытаць у тагачаснага лідскага аўтаўладальніка (які па азначэнні быў чалавекам не бедным), чаму ў нашым горадзе так мала аўтамабіляў, кожны аўтааматар адказаў бы адразу: "Бо кошт утрымання аўтамабіля вельмі вялікі". І змог бы падмацаваць свой адказ рахункам. За аснову для разлікаў аўтааматар узяў бы тагачасны самы танны легкавы аўтамабіль, які можна было свабодна купіць, а менавіта мадэль польскага фіята, так званую "пяцісотку" ці Polski Fiat-508 у розных мадыфікацыях. Трэба заўважыць, што кошт гэтага аўтамабіля амаль не адрозніваўся ад яго кошту на знешнім рынку, тады гэты аўтамабіль каштаваў 5400 злотых (самы танны з мінімальнай камплектацыяй рэкламаваўся за 4950 злотых) і столькі ж, крыху менш ці крыху больш, гэтая мадэль каштавала ў тагачасных Італіі, Германіі і Францыі.

З прэсы 1930-х гг.[1], даведваемся, што жыццё тагачаснага аўтамабіля пры прабегу 15 000 км у год, складала 5 гадоў - як бачым, рэсурс быў зусім невялікі. Пасля 5 гадоў эксплуатацыі, аўтамабіль можна было прадаць за тыя самыя грошы, якія былі патрачаны на яго эксплуатацыю на працягу гэтага часу. Таму, каб кожныя 5 гадоў купляць новы фіят, трэба было адкладаць на новы аўтамабіль прыкладна 1000 злотых у год.

Пры гэтым, на працягу 5 гадоў трэба было купіць два камплекты шын, гэта значыць 8 шын і не менш за 16 камер. Самая танная шына для гэтага фіята каштавала тады 70 злотых, а камера - 10 злотых, разам - 720 злотых ці 144 злотыя ў год.

Самая танная цана за гараж, абслугоўванне і змазачныя матэрыялы - 50 злотых у месяц, за 5 гадоў гэта складала 600 злотых.

Дробны рамонт, замена некаторых дробных дэталяў, якія хутка зношваюцца, і розныя малыя выдаткі на ліквідацыю няспраўнасцяў - не менш за 20 злотых штомесяц ці 240 злотых у год.

Падатак на аўтамабіль складаў 42 злотыя ў год, а разам з выдаткамі на рэгістрацыю і штогадовае падаўжэнне рэгістрацыйных дакументаў, якое тады патрабавалася, яшчэ 60 злотых у год.

Усе гэтыя фіксаваныя выдаткі цалкам не залежалі ад колькасці пройдзеных кіламетраў. Адсюль, у штогадовым вымярэнні:

- кошт пакупкі аўтамабіля 1100 злотых у разбіўцы на 5 гадоў;
- гума 144 злотыя;
- гараж і абслугоўванне 600 злотых;
- дробны рамонт 240 злотых;
- падаткі і зборы 60 злотых.

Разам: 2144 злотыя ў год.

Другі артыкул выдаткаў - выдаткі, якія залежаць ад прабегу аўтамабіля. Яны складаюцца з выдаткаў на бензін і маторную аліву. Маленькі польскі фіят спажываў у сярэднім 8 літраў на 100 км бензіну і 3 літры алівы на 2500 км, бензін каштаваў 70 грошаў за літр, аліва - 4 злотыя за літр. Пры прабегу 15000 км штогод, пайшло б 1200 літраў бензіну і 18 літраў маторнаай алівы - агулам 912 злотых.

Агульныя сумарныя штогадовыя выдаткі складалі б прыкладна 3060 злотых у год, ці 250 злотых у месяц.

Праз пяць гадоў за старую машыну можна было атрымаць 800 ці можа нават і 1000 злотых, але прынамсі столькі ж трэба было выдаткаваць на капітальны рамонт фіята на трэці год эксплуатацыі, гэтыя грошы кампенсуюць адны адных і могуць быць выдалены з уліковай сумы.

Такім чынам, мы бачым, што ўтрыманне самага таннага ў той час аўтамабіля абыходзілася амаль што ў 300 злотых у месяц.

І вельмі мала было людзей, якія маглі б выдаткаваць 300 злотых у месяц на задавальненне ад валодання аўтамабілем.

Трэба заўважыць, што калі кошт фіята - 5400 злотых - пакласці ў банк, дык пры тагачасных 5% можна было б атрымаць не менш за 1350 злотых на працягу 5 гадоў, г. зн. штогод з гэтай сумы можна было б мець 270 злотых прыбытку. У той час мала хто страхаваў аўтамабіль, аднак трэба ведаць, што страхоўка каштавала каля 500 злотых штогод.

***Рэклама фіята-508 у тагачаснай віленскай прэсе, кошт 4950 зл.***

У выпадку пакупкі больш вялікага аўтамабіля, напрыклад, форда, пры ўмове, што ён абышоўся б уладальніку бяспошлінна, трэба было б выдаткаваць каля 7000 злотых штогод. Штомесячны кошт з-за двайнога ў параўнанні з фіятам спажывання бензіну і алівы, а таксама значна большы кошт гумы, тэхнічнага абслугоўвання і дробных выдаткаў, склаў бы мінімум 400 злотых штомесяц. Такія выдаткі мог сабе дазволіць толькі чалавек, які зарабляў не менш за 2000 злотых у месяц, а такіх людзей у той час было вельмі мала. Аўтамабільныя

[1] Гл. напрыклад: Stanislaw Horwat. Ile kosztuje w Polsce utrzymanie samochodu? // Slowo. 1935. № 195.

аглядальнікі лічылі, што ва ўсёй тагачаснай Польшчы мелася, можа, тысяча чалавек, якія могуць патраціць 400 злотых штомесяц на машыну, але не маглі ўжо дазволіць сабе 500 злотых. Таму, адзінай перашкодай для аўтамабілізацыі з'яўляўся выключна нізкі ўзровень даходаў насельніцтва.

Фіят не быў прыстасаваны для нашых тагачасных дарог, але, як пісалі адмыслоўцы, і ва ўсім свеце не было тады машыны для нашых дарог у катэгорыі 300 злотых у месяц, і таму гэтая мадэль не мела канкурэнтаў. Каля 60% тагачаснага еўрапейскага аўтапарку складалі менавіта аўтамабілі такога класу, але аўтаглядальнікі лічылі, што з гэтымі аўто чалавек не мог спазнаць сапраўднай радасці ад аўтамабіля і яго настрой уздымала толькі тое, што праз год пасля пакупкі фіята, яго ўладальнік мог сказаць сабе: "Добра, што я не купіў Форд ці Шэўрале, з такім цмокам я б збанкрутаваў!".

Што за аўтамабіль быў гэты "Польскі фіят"?

Легкавы аўтамабіль "Фіят 508" выпускаўся кампаніяй "Fiat" з 1932 г. Аўтамабіль быў абсталяваны 3-ступеністай скрынкай перадач (з 1934 г. - 4-ступеністай), рухавіком аб'ёмам 955 куб. см, магутнасцю ў 20-24 к. с. (мадэль 508 S ужо мела магутнасць 30-36 к. с.). Аўтамабіль развіваў хуткасць да 80 км/г. Даўжыню аўтамабіль меў 3,67 м, шырыню - 1,33 м, а важыў толькі 760 кг. Усяго ў Еўропе было выраблена каля 113 000 такіх аўтамабіляў, большая частка з якіх на заводзе CWS у Польшчы. "Фіят 508" таксама выпускаўся ў Францыі кампаніяй SAFAF пад назвай Simca-Fiat 6CV. Цікава, што шматгадовым дырэктарам польскага фіята быў Юры Іваноўскі, старэйшы брат Вацлава і сын тайнага дарадцы і ганаровага жыхара Ліды Леанарда Іваноўскага, сям'я Іваноўскіх паходзіла з Лябёдкі, што ў Лідскім павеце, і пакінула пасля сябе значны след у гісторыі[2].

І пры канцы трошкі пра даходы простага чалавека ў нашым горадзе. У красавіку 1938 г. "Кур'ер Віленскі" пісаў: *"Заробкі рабочых у Лідзе наогул вельмі нізкія. Таму ўтрымліваць сям'ю, у якой працуе толькі адзін чалавек, які часта зарабляе меней за 2 злотыя ў дзень, надта цяжка"*. Сярэдні заробак у Заходняй Беларусі заставаўся ніжэйшым за заробкі ў заходняй частцы Польшчы.

Пры канцы 1930-х гг. у горадзе ўсталяваліся прыкладна такія цэны і заробкі: булка хлеба - каля 30 грошаў, 1 кг цукру - каля 1 злотага, 1 кг алею - 80 грошаў, 10 яйкаў - 10 грошаў, пачак запалак - 10 грошаў, 1 кг бульбы - каля 10 грошаў, мяса, ялавічына ці свініна - каля 1,5 злотых, малако - каля 20 грошаў за 1 л., вугаль каля 48 злотых за 1 т., мужчынская кашуля - каля 10 злотых, мужчынскі капялюш - каля 20 злотых, мужчынскія чаравікі - каля 15 злотых, цэгла - каля 40 злотых за 1000 шт., цэмент - каля 30 злотых за 1 т., друкарская машынка - 1200 злотых, гектар зямлі каштаваў 500 злотых, карова - 100 злотых, пуд збожжа - 2 злотыя. Сярэдні дзённы заробак быў каля 2 - 3-х злотых, мінімальны - 1 злоты, высокі заробак - да 10 злотых. Кваліфікаваны рабочы на "Ардалі" атрымліваў 5 злотых, майстар - 10 злотых. На жніве ў дзень плацілі 2 злотыя, на копцы бульбы - 1 злоты. Зарплата настаўнікаў дасягала 200 злотых у месяц. Зразумела, што ніхто з гэтых людзей не мог нават марыць пра аўтамабіль. Адначасова, напрыклад заробкі кіраўнікоў, адміністрацыі і працоўных заводакіравання "Ардаля" (абутковая фабрыка) пачыналіся ад 1 тысячы злотых у месяц. Гэтых людзей было мала, але якраз яны і маглі сабе дазволіць мець свой аўтамабіль.

Na bezdroża CHEVROLET!

W Jeździe Terenowej, organizowanej przez Automobilklub Polski w ciężkich błotnisto-piaszczystych partiach Puszczy Kampinoskiej, CHEVROLET kierowany przez A. Mazurka wykazał, że jest w Polsce bezkonkurencyjnym wozem na bezdroża.

I MIEJSCE W KLASYFIKACJI OGÓLNEJ

Cena od zł. 7.640.-

MONTOWANE W ZAKŁADACH LILPOP, RAU i LOEWENSTEIN S. A. WARSZAWA, LICENCJA GENERAL MOTOR

WYŁĄCZNA SPRZEDAŻ

AUTO-GARAŻE

Tel. 17-52 Wilno, ul. TATARSKA 3 Tel. 17-52

***Рэклама "Шэўрале" у тагачаснай віленскай прэсе, кошт 7640 зл.***

У канцы артыкула трэба трошкі расказаць пра матацыклы ў нашым горадзе, тым больш, што з-за сваёй адноснай таннасці яны былі значна больш папулярнымі.

У тыя часы вялікі і добра ўладкаваны завод "Нёман" у Гародні (Kresowa Wytwornia Rowerow i Motocykli "Niemen") выпускаў ровары, матацыклы і швейныя машынкі. Матацыклы, што праўда, завод толькі збіраў, выкарыстоўваючы пра гэтым нямецкія і англійскія рухавікі (фірмаў "Sachs" і "Villiers").

Перш, чым пачаць прадукаваць свае мотаровары, фірма "Нёман" некаторы час прадавала мотаровары нямецкай маркі Presto. Потым, фірма вырашыла пачаць зборку такой тэхнікі самастойна. Прыкладна ў

[2] Гл: Лаўрэш Леанід. Лябёдка Іваноўскіх. Дакументальная аповесць // Новы Замак. 2019. № 8. С. 194-212.; 2020. № 9. С. 180-219.

1934 г. тут быў пабудаваны просты мотаровар (у мужчынскай і жаночай рамных версіях) з рухавіком "Sachs" аб'ёмам у 75 см$^2$. Канструктыўна гэта быў ровар з навешаным рухавіком. Праз два гады пачалася вытворчасць мотаровара "Нёман", пазначанага як мадэль R100 з рухавіком "Sachs" аб'ёмам у 98 см$^2$ і магутнасцю 2,25 к.с. з 2-х ступеністай скрынкай перадач. Гэты транспартны сродак па-ранейшаму, як і звычайны ровар, быў абсталяваны педалямі, але пярэдняя падвеска ўжо падрэсорвалася спіральнай спружынай, хаця задняе кола было жорсткім. Гэтая асаблівасць з'яўлялася характэрнай практычна для ўсіх мотаравараў 1930-х гг. Пераключэнне перадач ажыццяўлялася з дапамогай рычага, размешчанага з правага боку побач з паліўным бакам. Запуск рухавіка ажыццяўляўся з дапамогай педаляў. Мотаровар развіваў максімальную хуткасць 50 км/г і важыў 55 кг (рухавік - 11,5 кг). Габарытныя агні працавалі ад сухой батарэі, размешчанай у кантэйнеры каля рамы мотаровара. Кошт гэтага транспартнага сродку складаў прыкладна 715 злотых. Мяркуючы па дызайне "Нёман" R100 меў шмат запазычанняў пд мотаравараў "Presto".

Вытворчасць мотаравараў стала вельмі прыбытковым справай, і гарадзенская фабрыка "Niemen" вывела на рынак новыя мадэлі. Гэта былі: "Нёман" 100DS з рухавіком "Sachs" 98 см$^2$ з нажным старцёрам. Дзякуючы гэтаму старцёру зніклі роварныя педалі. 100DS па сваёй канструкцыі набліжаўся да матацыкла.

Наступная мадэль "Нёман" 100DV Unit мела падобную канструкцыю, але абсталёўвалася англійскім рухавіком "Villiers" у 98 см$^2$.

Па меры развіцця канструкцыі мапеды "Нёман" даражэлі - 100DS каштавалі 900 злотых, а 100DV ужо 920 злотых. За дадатковую плату ў 35 злотых можна было набыць спідометр з лічыльнікам прабегу.

У 1938-1939 гг. фабрыка "Нёман" ужо прапаноўвала матацыклы з рухавікамі 125 і 150 см$^2$. Насамрэч гэта былі матацыклы аднаго з ангельскіх вытворцаў, а на іх была нанесена толькі назва кампаніі "Нёман".

Сёння ровары, мапеды і матацыклы "Нёман" карыстаюцца попытам у калекцыянераў.

***Рэклама матацыклаў "Нёман"***

## Спіс аўтамабіляў і матацыклаў у Лідскім павеце, на 15 снежня 1936 г.

| № | Рэгістрацыйны нумар | Від транспорту | Марка | Гаспадар | Месца знаходжання |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 79292 | асабісты аўтамабіль | Fiat | Марачэўскі Уладзімір | Эйшышкі, Віленская 68 |
| 2 | 79062 | асабісты аўтамабіль | Ford | Палячак Макс | Ліда, Сувальская, 91 |
| 3 | 79192 | асабісты аўтамабіль | Chevrolet | Сацыяльнае забеспячэнне | Ліда, Сувальская, 83 |
| 4 | 79093 | асабісты аўтамабіль | Overland Whippet | Сацыяльнае забеспячэнне | Ліда, Сувальская, 83 |
| 5 | 79021 | асабісты аўтамабіль | Tatra | Лясковіч Вітольд | Маёнтак Філіпкі, Лідская гміна |
| 6 | 9544 | асабісты аўтамабіль | Fiat | Жалігоўскі Генрык | Ліда, Шаптыцкага, 8 |
| 7 | 9530 | асабісты аўтамабіль | Fiat | Кабылінкая Халіна | Маёнтак Гарадэнка, Жырмунская гміна |
| 8 | 79324 | асабісты аўтамабіль | Ford | Ю. Столе | Гута шкла Нёман |
| 9 | 79316 | асабісты аўтамабіль | Ford | Грузель Раман | Нёман, Беліцкай гміны |
| 10 | 79310 | асабісты аўтамабіль | Polski Fiat | Грабоўскі Рудольф | Ліда, Сыракомлі, 2 |
| 11 | 9482 | асабісты аўтамабіль | Fiat | Макарэвіч Уладзімір | Ліда, Бярозавая, 21 |
| 12 | 79352 | асабісты аўтамабіль | Steyer | Кіневіч Генрык | Маёнтак Больценікі, Беняконская гміна |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 13 | 79134 | асабісты аўтамабіль | Fiat | Ельская Яніна | Маёнтак і гміна Жырмуны |
| 14 | 79366 | асабісты аўтамабіль | Essex | Пупко Шымон | Ліда, Сувальская, 88 |
| 15 | 9550 | асабісты аўтамабіль | Studebaker | Ардаль | Ліда, Фабрычная, 8 |
| 16 | 9568 | асабісты аўтамабіль | Ford | Міцкевіч Станіслаў | Ліда, Варшаўская, 32 |
| 17 | 79249 | асабісты аўтамабіль | Chevrolet | Заянчкоўская | Ліда, Пілсудскага, 13 |
| 18 | 79373 | асабісты аўтамабіль | Ford | Галінскі Дамінік | Ліда, Мяніцкага, 5/14 |
| 19 | 9597 | асабісты аўтамабіль | Chevrolet | Межва Ян | Ліда, Рынак, 3 |
| 20 | 9575 | асабісты аўтамабіль | Overland Whippet | Кузян Зоф'я | Маёнтак Кір'янаўцы, Лідская гміна |
| 21 | 79295 | асабісты аўтамабіль | Chevrolet | Якевіч Станіслаў | Ліда, Мацкевіча, 47 |
| 22 | 7939 | асабісты аўтамабіль | Polski Fiat | Кандратовіч Ада | Гародна, Жырмунская гміна |
| 23 | 401 | асабісты аўтамабіль | Fiat | Равінскі Станіслаў | Ліда, Гарнянская, 19 |
| 24 | 7939 | асабісты аўтамабіль | Ford | Канаржэўскі Генрык | Ліда, Фалькоўскага, 19 |
| 25 | 79239 | асабісты аўтамабіль | Ford | Дамброўскі Антон | Ліда, Варшаўская, 24 |
| 26 | 79395 | асабісты аўтамабіль | Fiat | Краеўская Казіміра | Гута шкла “Нёман” |
| 27 | 9505 | асабісты аўтамабіль | Ford | Вольфганг Зыгмунт | Воранава, Лідскі павет |
| 28 | 79301 | грузавік | Chevrolet | Пупко Мейлах | Ліда, Сувальская (бровар) |
| 29 | 79312 | грузавік | Chevrolet | Зарэцкі Шлёма | Ліда, Фалькоўскага, 39 |
| 30 | 24884 | грузавік | Ford | Бінкевіч Пётр | Ліда, Сувальская, 127 |
| 31 | 7935 | грузавік | Chevrolet | Баркоўскі Міхал | Ліда, Сувалькая, 72 |
| 32 | 79135 | аўтобус | Chevrolet | Апановіч Невах | Беліца, Лідскі павет |
| 33 | 79177 | аўтобус | Chevrolet | Школа Купецкая а. Піяраў | Ліда, Сувальская, 68 |
| 34 | 79349 | аўтобус | Chevrolet | Пуйдак Вацлаў, Кругер Эдвард | Беліца, Лідскі павет |
| 35 | 79003 | аўтобус | Chevrolet | Кавальскі Берка | Радунь, Татарская, 3 |
| 36 | 79391 | аўтобус | Polski Fiat | Аўтобусны кааператыў "Лідзянка" | Ліда, Замкавая, 4 |
| 37 | 79260 | аўтобус | Studebaker | Вырваль Станіслаў | Ліда, 5-ты лётны полк |
| 38 | 79226 | аўтобус | Chevrolet | Раманоўскі Юзаф | Ліда, Сувальская, 109 |
| 39 | 9416 | матацыкл | F.N. | Кс. Штэйн Чэслаў | Воранава, Лідскі павет |
| 40 | 24870 | матацыкл | Motocajer | Бердаўскі Гецель | Ліда, Мацкевіча, 39 |
| 41 | 9485 | матацыкл | Ariel | Антковяк Ян | Ліда, 77 п.п. |
| 42 | 24885 | матацыкл | Ariel | Бакавец Казімір | Ліда, 3-га Мая, 61 |
| 43 | 9547 | матацыкл | Norton | Даз Вільям | Ліда, 5-ты лётны полк |
| 44 | 9590 | матацыкл | Sunbeam | Крыгель Юліюш | Ліда, Сувальская, 72 |
| 45 | 38717 | матацыкл | B.S.A. | Праўлоцкі Кейстут | Ліда, 11-га Лістапада, 4 |
| 46 | 9462 | матацыкл | Royal Enfield | Ненартовіч Ян | Ліда, 17-га Красавіка, 20 |
| 47 | 9503 | матацыкл | Ariel | Касоўскі Стэфан | Гута шкла “Нёман” |
| 48 | 38628 | матацыкл | Panther | Грэйцюн Уладзіслаў | Ліда, 77 п.п. |
| 49 | 9546 | матацыкл | B.S.A. | Курганоўскі Алексы | Ліда, Мацкевіча, 37 |
| 50 | 403 | матацыкл | Triumph | Рэцька Юзаф | Навапрудцы, Лідская гміна |
| 51 | 405 | матацыкл | B.S.A. | Тоцін Эдмунд | Ліда, 5-ты лётны полк |
| 52 | 1253 | матацыкл | Niemen | Бердаўскі Гесель | Ліда, Мацкевіча, 39 |
| 53 | 1253 | матацыкл | Puch | Комінч Юзаф | Ліда, Лётная, 49 |
| 54 | 58918 | матацыкл | D.K.W. | Дзяркоўскі Францішак | Мыто, Васілішская гміна |
| 55 | 406 | матацыкл | Niemen | Ражанскі Ёсель | Ліда, Сувальская, 12 |
| 56 | 9445 | матацыкл | F.N. | Гаеўскі Вітольд | Ліда, 5-ты лётны полк |
| 57 | 9519 | матацыкл | F.N. | Дамброўскі Антон | Ліда, Варшаўская, 24 |
| 58 | 9584 | матацыкл | Royal Enfield | Галік Вацлаў | Ліда, Калонія дзяржаўных дамоў |
| 59 | 9405 | матацыкл | Gillet-Hestal | Гаюн Аркадзь | Ліда, Сасновая, 23 |
| 60 | 9571 | матацыкл з каляскай | Indian | Лявіцкі Александр | Ліда, Сыракомлі, 2 |
| 61 | 9437 | матацыкл з каляскай | Harley-Dawidson | Казлоўскі Эдвард | Іўе, Лідскі павет |
| 62 | 9554 | матацыкл з каляскай | Harley-Dawidson | Арлоўскі Міхал | Ліда, Малая Дварцовая, 14 |
| 63 | 9481 | матацыкл з каляскай | Matosacoche | Грывач Станіслаў | Ліда, 77 п.п. |
| 64 | 9471 | матацыкл з каляскай | B.S.A. | Лех Эдмунд | Эйшышкі, Вызвалення, 2 |
| 65 | 3085 | матацыкл з каляскай | Harley-Dawidson | Ціхоўскі Юліян | Ліда, Фалькоўскага, 15 |
| 66 | 24877 | матацыкл з каляскай | Harley-Dawidson | Раткевіч Казімір | Ліда, Райская, 70 |
| 67 | 9425 | матацыкл з каляскай | Indian | Дварэцкі Мойша | Ліда, Камерцыйная, 1 |

***Віктар Кудла,***
***дроздавец***

# ДРОЗДАВА

## *Віткі жыцця родзічаў і дроздаўцаў*

*(Працяг. Пачатак у №№ 70, 71, 92, 93, 99-100, 101,102, 103, 104.)*

**Раздзел № 10**

**Абяднанне Заходняй Беларусі з БССР і жыццё пры "Першых Саветах"**

Савецкі Саюз прапаноўваў Польшчы матэрыяльную і ваенную дапамогу. Але яе кіраўнікі і слухаць не хацелі, ні аб якім прамым або ўскосным супрацоўніцтве.

У гэты час у Польшчы паўсюдна гучалі патрыятычныя гімны, узмацнялася антысавецкая кампанія. Праз радыё і прэсу вялася настойлівая прапаганда таго, што Польшча непераможная дзяржава і пры абяцанай падтрымцы Англіі і Францыі яна дашчэнту разаб'е немцаў, а бальшавікоў тым больш… Але жыхароў Заходняй Беларусі такая жахлівая самаўпэўненасць не супакойвала, беларусы адчувалі дыханне бяды.

У канцы жніўня 1939 г. польскія ўлады абвясцілі другую агульную мабілізацыю, яна даволі актыўна вялася і ў Заходняй Беларусі. З беларусаў былі сфармаваны Баранавіцкі, Слонімскі, Лідскі і шмат іншых палкоў: іх накіроўвалі на заходнія рубяжы Польшчы. Гэтыя палкі ўваходзілі ў склад арміі пад кодавай назвай "Прусы", якая ў выпадку вайны павінна была стрымліваць галоўны націск германскіх войскаў. Тады Іосіф Сталін пачаў шукаць збліжэння з Адольфам Гітлерам.

23 жніўня 1939 г. паміж СССР і Германіяй быў падпісаны дагавор аб ненападзенні (так званы "пакт Молатава-Рыбентропа"). А вось сакрэтны дадатковы пратакол да яго прадугледжваў па-сутнасці ліквідацыю польскай дзяржавы. Цяпер дакладна вядома, што такая змова была ў выглядзе таемнага пакта, згодна з якім спачатку лінія падзелу праходзіла ўздоўж рэк Нарвы і Віслы, але потым у абмен на права акупаваць Літву, Латвію і Эстонію. Сталін пагадзіўся абмяжаваць свае ўладанні этнічнымі межамі Заходняй Беларусі.




***Вось як савецкая прапаганда тлумачыла эфектыўнасць "пакта Молатава-Рыбентропа"***

1 верасня 1939 года Германія інсцэніравала напад польскага падраздзялення на нямецкую радыёстанцыю ў мястэчку Глейвіцы. Насамрэч гэта зрабілі немцы, пераапранутыя ў польскую вайсковую форму.



***1.09.1939 г. Салдаты Вермахта ламаюць шагбаўм на граніцы з Польшчай***

Выкарыстаўшы "інцыдэнт" па ўсёй граніцы Германія кінула супраць Польшчы пяць армій, у якія ўваходзілі 65 дывізій і брыгад, у тым ліку 41 пяхотная, 11 танкавых і матарызаваных. Вермахт меў знакавую перавагу як у жывой сіле, так і ў ваеннай тэхніцы. У нападзе ўдзельнічала 2800 танкаў, каля 2000 самалётаў і больш за 100 ваенных караблёў. Гэтым сілам Польшча супрацьпаставіла 36 пяхотных дывізій, 2 матарызаваныя брыгады, 11 кавалерыйскіх брыгад. Польскія войскі налічвалі толькі 860 лёгкіх танкаў, 420 самалётаў і 12 ваенных караблёў. Нягледзячы на безнадзейнасць свайго становішча, польскія вайскоўцы гераічна змагаліся. Так пачалася для нас Другая Сусветная вайна...

Жаўнеры з Заходняй Беларусі, якія знаходзіліся ў частках польскага войска, плячом да пляча з палякамі, украінцамі прынялі на сябе агнявы шквал раптоўнага ўдару Вермахта. Яны гераічна абараняліся, дзясяткі тысяч з іх загінулі, былі параненыя або патрапілі ў нямецкі палон.

*Напад на Польшчу - вынік змовы,*
*І гэта ўжо вядомы факт,*
*Што перадзел, парадак новы,*
*Еўропе нёс таемны пакт.*
*У адпаведнасці дамове*
*Ў крэсы немцы не пайшлі,*
*Адсюль дамоў сышлі панове,*
*А ў след таварышы прыйшлі.*

Адразу пасля нападу германцаў на граніцы авіяцыя Люфтвафэ пачала бамбардзіраваць і ў Заходняй Беларусі найбольш стратэгічна важныя аб'екты: аэрадромы, чыгуначныя вузлы, масты, прамысловыя збудаванні і нават звычайнае жыллё. Нямецкія самалёты далятали практычна да былой польска-савецкай мяжы. У выніку бамбардзіровак былі забітыя і параненыя. Лік ахвяр, у тым ліку сярод мірных жыхароў, ішоў на дзясяткі. Прычым бамбардзіроўкам заходнебеларускіх населеных пунктаў спрыяў Савецкі Саюз: па просьбе германскага боку з Менска падаваліся спецыяльныя радыёсігналы для арыентацыі налётаў нямецкай авіяцыі. Такім чынам, Масква непасрэдна спрыяла знішчэнню нацыстамі заходнебеларускіх паселішчаў і мірных, цывільных жыхароў, якіх пасля ў хуткім часе мелася "вызваляць".

На Лідчыну вайна нахлынула таксама 1 верасня1939 года.

Па ўспамінах **Дзікевіча Мікалая -** 1924 г.н., майго настаўніка і краязнаўца: *"Першага верасня 1939 года нямецкі самалёт праляцеў з поўначы на поўдзень над чыгункай і скінуў шэсць бомбаў: дзве з іх узарваліся на чыгунцы, дзве - побач справа,і дзве - злева. На мост бомбы не ўпалі, пашкоджанні нязначныя, але перапалох у вёсцы выклікалі вялікі. Было зразумела: вайна пачалася. Па-рознаму аднесліся сяльчане да гэтай падзеі. У абед прынеслі павесткі з'явіцца мужчынам у Ліду па мабілізацыі ў польскую армію".*

**Валерый Сліўкін.** *"Паветраная вайна на Лідчыне пачалася з трывогі, па якой у 06:30 часу, 1 верасня з палявога аэрадрома ў Беліцы падымаецца пара знішчальнікаў эскадрыллі "Кракаў" у складзе капітана Мечыслава Мядзвецкага і падпаручніка Уладыслава Гныша. Абодва самалёты адразу атакуюць вяртаючыеся з бомбадзіроўкі Ліды нямецкія самалёты і знішчаюць два нямецкія бамбардзіроўшчыкі. Але і адзін польскі самалёт выбухае ў паветры. Напэўна, такім чынам, польскі P-11 і два нямецкія До-17Е аказваюцца першымі збітымі самалётамі Другой Сусветнай вайны."*



***Вынік паветраннага бою польскіх лётчыкаў з немцамі***

Так грымнула вайна над нашай бацькаўшчынай.

**Аляксей Каляга** ўспамінае:

*"1 верасня раніцай лётае нізка самалёт без знакаў адрозненняў: ні эмблемы, ні шахматка. Паехаў на працу на аэрадром на матацыкле. Самалёты былі эвакуіраваны па лясах. Заставаліся дзве ці тры машыны. Заходзіць самалёт на пасадку... Ударыў трасіруючымі з кулямётаў. Праз 20- 30 хвілін наляцелі 40 машын. Я паспеў толькі легчы каля ямы на зямлю... Яны пачалі бамбіць, заходзячы па новай дарозе, там, дзе млын быў... Каля мяне людзей... пабіла... У канаву трапіў снарад, і адразу загінулі 22 чалавекі. Узлётную паласу моцна не кранулі. Ангары засталіся цэлыя і самалёты таксама ".*

Загінуўшых вайскоўцаў пахавалі на вайсковых могілках.

Далей германская авіяцыя бомбіць чыгуначны вузел і раз'езды з мэтай зрыву падвозу жывой сілы, зброі і боепрыпасаў.

З самага пачатку польска-германскай вайны Гітлер, спасылаючыся на дамоўленасць пры падпісанні дагавора ад 23 жніўня 1939 г., пакрыўдзіўся за запозненае выступленне Чырвонай Арміі, падштурхоўваў Сталіна хутчэй выступіць супраць Польшчы, каб ускласці адказнасць за вайну і на Савецкі Саюз. А каб стварыць уражанне нейтралітэту, Іосіф Вісарёнавіч не спяшаўся, хацеў выглядаць перад краінамі Захаду і Амерыкі не як таемны саўдзельнік Адольфа Гітлера і агрэсар, а як "выратавальнік" народаў Заходняй Беларусі і Украіны.

І толькі, калі польская армія амаль што цалкам была разбіта (яшчэ трымалася Варшава), а ўрад Польшчы ўцёк за мяжу, Сталін 17 верасня аддаў загад камандаванню Чырвонай Арміі перайсці граніцу і ўзяць пад сваю абарону тэрыторыю і насельніцтва Заходняй Беларусі.

А між тым, раніцай 17 верасня, камісарыят замежных спраў у Маскве перадаў польскаму амбасадару Гжыбоўскаму ноту наступнага зместу: *"Польшча і яе ўрад перасталі фактычна існаваць. Тым самым*



***Чырвонаармейцы на танках, на аўтамабілях і конных падводах накіроўваюцца па-новаму ўсталяваць граніцу з Германіяй…***

*губляюць значэнне ўсе дагаворныя абавязацельствы, заключаныя паміж СССР і Польшчай".*

Перадавыя часткі Чырвонай Арміі перасяклі былую савецка-польскую граніцу. Вайскоўцы Войска Польскага ўсё ж спрабавалі стрымаць чырвонаармейцаў. Як бы там ні было, па абодвух баках у баях удзельнічалі беларусы. Яны стралялі адзін у аднаго. Забівалі. Яны ж ваявалі не за свае дзяржавы…

Немцы адступілі на новаўтвораную мяжу і прайшла перадача захопленай немцамі тэрыторыі "ўсходніх крэсаў" Саветам.



**Пазняк Вера** запісала ўспаміны мамы **Ганны Афанасеўны**: *"Да прыхода Чырвонай Арміі, у нас у двары мужыкі чысцілі жэрдкі, выпілоўвалі перакладзіны, але не збівалі, а склалі нарыхтоўку за адрынай, выразалі і склалі яловыя галінкі. Усё было гатова, каб усталяваць браму на драздоўскай вуліцы для ўрачыстай сустрэчы чырвонаармейцаў. Але было яшчэ небяспечна, бо міма нашай вёскі ў бок Беліцы зрэдку рухаліся часткі польскай памежнай "варты". І сапраўды, на другі ці трэці дзень прыйшлі чырвонаармейцы. Як ператварылася вёска, людзі! Двары чыста падмецены, на брамах падвязаны пучкі галінак бярозы. Бабы ў новых спадніцах, прамылі галовы попелам, і ад іх крыху ненатуральна пахла. Дзядзька Кумпяк прыцягнуў з куфра нейкіх пяць метраў чырвонага саціну. На ім мясцовыя грамацеі вывелі паўмятровымі літарамі: "Асвабадзіцелям - наш прывет!"*

За лічаныя дні верасня 1939 года сітуацыя для заходнебеларускага насельніцтва змянялася, прычым, у бок чаканняў і надзей. Нядаўнія польскія грамадзяне (перш за ўсё беларусы і яўрэі) шчыра віталі прыход чырвонаармейцаў і савецкую ўладу. Штампам стала паведамленне пра ўстаноўку трыумфальных брамаў у гарадах, мястэчках і нават сёлах.

**З расказаў бацькі Вані:**

*"Першыя часткі Чырвонай Арміі падышлі да вёскі, іх сустрэць высыпалі амаль усе вяскоўцы. Нейкі камісарскі чын падышоў да мужыкоў, пацiснуў рукі і з усімі гучна павітаўся. А на дарозе, па якой напярэдадні адступала польская армія, рухалася савецкая пяхота і артылерыя. Ішлі вельмі худыя замораныя коні.*

*Некаторыя кінуліся глядзець гарматы, коней і спыталі:"Таварыш камандзір, а чаму гэта ў Чырвонай Арміі такія худыя коні?" "А гэта не нашы - гэта калгасныя"- адказаў ён.*

*Тым часам войскі рухаліся, адзін камандзір змяняў іншага, яны падыходзілі да сялян, віталіся і віншавалі прысутных сялян з вызваленнем ад польскага прыгнёту.*

*Сярод салдат было шмат асоб старэйшага, непрызыўнога ўзросту, якіх, як і тых калгасных коней, мабілізавалі на час "вызваленчай" кампаніі. Яны паводзілі сябе стрымана, на пытанні адказвалі млява і казалі, што ў калгасах яны жывуць "добра". Падчас прыпынкаў салдаты прымудраліся заскочыць у вясковыя хаты, нешта купіць з ежы; асабліва шчыравалі за салам і хлебам. Плацілі рублямі або жульнічалі аблігацыямі, у якіх мясцовае насельніцтва не разбіралася. Часта іх проста частавалі і адрэзалі кавалак сала ў дарогу".*

Так, паводле ўспамінаў майго таты Вані, да іх зайшлі худыя, у зацёртых гімнасцёрках і амаль босыя, у абмотках чырвонаармейцы з камандзірам, каб ім даць "перакусіць". Пад выстаўленую бацькам добрую самагонку, ласуючыся салам, шырэйшым за далонь, што для іх было дзівам-дзіўным, камандзір з набітым ротам толькі прыгаворваў...

*Яшчэ таварышаў здзіўляла*
*свінога сала таўшчыня.*
*Не можа быць такога сала*
*і тлустаю такой свіння.*
*А таўшчыню свінога сала*
*прывыклі ў пальцах вымяраць.*
*Калі ў два пальцы - гэта мала,*
*другая справа - пальцаў з пяць.*
*Дык вось, таварышы шукалі*
*ў такім сале нейкіх швоў,*
*Бо памылкова меркавалі,*
*што яно склеена з кускоў.*

15-ці гадовы падлетак **Васіль Аляксандравіч Максімовіч** расказаў:

*"У 1939 годзе з радасцю і захапленнем большасць жыхароў вёскі Драздова сустракала воінаў Чырвонай Арміі. Вельмі хацелася вызваліцца ад польскага прыгнёту.*

*Уз'яднанне дало надзею на лепшае жыццё. У вёсцы пайшлі размовы і каментары таго, пра што распавядалі салдаты, забягаючы ў дамы. Наша суседка прыбегла да маёй мамы і сказала, што яна карміла салдата і спытала: ці праўда, што ў іх калгасе жанчыны шыюць сабе спадніцы і іншую вопратку з мяшкоў, як пра гэта пісалі палякі? І ён сказаў, што гэта праўда і што ў яго і*



*ў іншых калгасах людзі часта галадаюць. А на другі дзень, калі мы з бацькам прыйшлі абедаць, мая маці сур'ёзна знервавала бацьку, распавёўшы, як яна раніцай карміла салдата і ён сказаў наступнае: "Вось вы нас сустракаеце з кветкамі, але вы яшчэ нас пазнаеце". Прыход Чырвонай Арміі ўнёс некаторае замяшанне ў розумы аднавяскоўцаў і прымусіў пераасэнсоўваць многае, пра што раней пісалі польскія газеты. Рэальнае калгаснае жыццё яны бачылі на прыкладзе гэтых худых коней і даведваліся ад простых чырвонаармейцаў, з якімі ўдавалася пагаварыць".*

У майго бацькі ў адказ на гэтыя выказванні заўсёды быў важкі доказ, што не могуць быць беднымі савецкія калгасы. *" Мы ж былі ў бежанцах у Расіі і бачылі, якія там добрыя землі і якія ўраджаі"* - казаў ён мужыкам. І сапраўды, цяжка было селяніну ўявіць сабе галоднае жыццё на добрых ураджайных землях.

*Прыход саветаў, ён адзначыў,*
*Для нас вялікая бяда.*
*Я войска іхняе пабачыў -*
*Не войска гэта, а арда.*
*І апавёў ён пра ватоўкі,*
*Слабыя коні ў іх вазах*
*І вельмі доўгія вінтоўкі,*
*І пра абмоткі на нагах.*
*Яшчэ, мой пан яснавяльможны,*
*Зрабіў я вывад тут такі:*
*Наўрад ці там народ заможны,*
*Калі іх войска - жабракі.*

Уступленне 17 верасня 1939 г. Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь было ў асноўным з радасцю сустрэта большасцю насельніцтва. Жыхары гарадоў і вёсак пад кіраўніцтвам актывістаў КПЗБ і з удзелам прадстаўнікоў Чырвонай Арміі стваралі часовыя кіраванні ў гарадах і сялянскія камітэты ў вёсках, разгортвалі кампанію за ўсталяванне савецкай улады.

У адзначэнне захопу Польшчы Германіяй і Савецкім Саюзам (названага, натуральна, "перамогай") у Гародні, Берасці, Пінску і некаторых іншых гарадах 22 верасня адбыліся святочныя сумесныя савецка-германскія вайсковыя парады .

Камандзіры Чырвонай Арміі падчас параду савецкіх і нямецкіх войскаў звярталіся да германцаў як *"браты па зброі"*, а палякаў называлі *"белапалякі". "Немцы - нашы саюзнікі і браты па зброі, а "белапалякі " вараватыя і дрэнныя".*





Вось яны на фатакртцы, вайскоўцы Вермахта і Чырвонай арміі ў сябраўскай сустрэчы пасля перамогі над Войскам Польскім, а праз паўтара года сустрэнуцца ў баях. Таму, гэтая брацкая эйфарыя працягвалася не доўга, і ўжо ў 1940 годзе ніхто з чырвоных камандзіраў не прамаўляў такія словы.

28 верасня нямецкія войскі ўзялі Варшаву. Польшча як дзяржава перастала існаваць. У гэты ж дзень, у Маскве паміж Германіяй і СССР быў падпісаны дагавор "Аб дружбе і мяжы", згодна з якім тэрыторыя Польшчы была падзелена. Значная частка польскіх зямель была далучана непасрэдна да Германіі, а другая - увайшла ў так званае "Варшаўскае генерал-губернатарства". За СССР былі прызнаны Заходняя Беларусь і Заходняя Украіна, якія далучаліся адпаведна да БССР і УССР. Такім чынам, была ўзноўлена гістарычная справядлівасць у адносінах да беларускага і ўкраінскага народаў, парушаная ўмовамі Рыжскага дагавора 1921 г., калі гэтыя народы былі разарваны на дзве часткі.

2 кастрычніка здаліся апошнія часткі польскага войска. Яна страціла 66,3 тысячы забітымі, 133,7 тысячы параненымі, каля 420 тысяч трапілі ў палон (гэта статыстыка толькі па вайне з немцамі). Страты Вермахта склалі 10,6 тысячы забітымі, 30,3 тысячы параненымі, 3,4 тысячы прапаўшымі без вестак. Па дадзеных, у складзе Войска Польскага было 75 тысяч беларусаў, у нямецкі палон трапілі 40 тысяч.

Лёс іх быў розны. Паехалі на фронт, ваявалі, хтосьці вярнуўся дамоў, іншыя трапілі ў палон да немцаў ці бальшавікоў, загінулі на фронце або ў палоне на Салаўках, ці былі расстраляныя ў Катыні.

Ужо пасля вайны жывым удзельнікамі абарончай вайны 1939 года польскі ўрад уручыў і польскі медаль "За ўдзел у абарончай вайне 1939 года". У тым ліку: Урбановічу Канстанціну Антонавічу,1917 г.н. з вёскі Жомайдзі, Казлову Валянціну Пятровічу, 1909 г.н. з вёскі Бенявічы.

Дваюрадны татаў брат - **Хрышчановіч Іван Іосіфавіч** з Хаданішкаў, карыстаючыся ільготамі для таленавітых дзяцей з бедных сем'яў, скончыў Шчучынскую настаўніцкую семінарыю. Служыў у польскай арміі, дзе яму было прысвоена вайсковае званне падхаружжага.

У верасні 1939 года пры нападзе гітлераўцаў на Польшу змагаўся ў польскім войску. А між тым, аслаб-

леная раптоўнай нямецкай агрэсіяй, польская армія, адыходзячы бліжэй да ўсходніх крэсаў, пачала наносіць Вермахту ўсё больш адчувальныя ўдары. Вось як пра гэта распавядаў Іван Іосіфавіч, які ваяваў "уланам" у польскай кавалерыі. *"Наша кавалерыя супраць нямецкіх танкаў нічога не магла зрабіць. Мы, адыходзячы, сыходзілі з вялікіх дарог і з надыходам ночы раптам нападалі на тылавыя нямецкія часткі і пяхоту, прычыняючы ім значныя страты. Мы працягвалі ўпарта абараняцца і навучыліся нават падбіваць нямецкія самаходы. Але калі нам абвясцілі, што Чырвоная Армія перайшла польскую мяжу, наш баявы дух адразу ўпаў. Старэйшыя афіцэры падзякавалі нам за вернасць прысязе і прапанавалі прасоўвацца ў бок Румыніі або здавацца ў палон, бо далейшае супраціўленне і кровапраліцце бессэнсоўнае, і я застаўся ў акупаваннай немцамі Польшчы".*



P.S. Пасля вайны Хрышчановіч Іван Іосіфавіч служыў у Войску Польскім, апошнія службовыя гады працаваў у Маскве ў польскім консульстве. Меў шэраг высокіх узнагарод. Выйшаў у запас у званні палкоўніка. Некалькі разоў прыязджаў на радзіму ў Хаданішкі да родных сыноў Міхаіла, Анатоля, Веніяміна, Валодзі і сястры Ніны з іх сем'ямі. Памятаю, як бываў у гасцях у нас. Многа расказваў аб вайне, службе ў войску.

**Данэйка Мікалай Іванавіч**,1916 г.н. З хутара Тарасаўшчына па павестцы мабілізавалі ў польскае войска. Дзесьці ваяваў з германцамі. А потым быў у савецкім палоне, і адпусцілі… Прыйшоўшы да хаты, па некалькі дзён не сустракаў жонку Маню (сястра Вольгі Быстрыцкай). Аказалася вяла сябе вольна, п'янствавала і загулівала. Нават маленькую дочку Соф'ю (1939 г.н.) не даглядала, і бацькі забралі яе да сябе.



Мікалай, прагнаўшы Маньку, жаніўся з маладой Максімовіч Верай, 1929 г.н. Давялося весці бедную гаспадарку па адным гектарыворнай зямлі і сенажаці. Каня не было - дапамагалі сваякі, толькі праз паўтара года карову выгадавалі з цяляці. Завялі свінню і авечак, стала лепей з ядой…

**Козел Мікалай Іосіфавіч** - сын Арсеніі Ануфрыеўны з хутара Заецкія, дзе многа пясчанай зямлі. Бацька Іосіф Лявонцьевіч гаспадарку вёў з сынамі: старэйшы Ваня - 1912 г.н., Саша - 1913 г.н., Коля - 1915 г.н. Меў на сялянскай працы трох здаровых мужчын. Згодна са Статутам аб польскай вайсковай службе № 375 малодшага Мікалая прызвалі на службу.



Калі хлынула вайна з немцамі, ён ваяваў у польскай арміі, у 1939 годзе, будучы ў Румыніі, трапіў у савецкі палон. Савецкая ўлада дазволіла беларусам вяртацца на радзіму. Адтуль прывёз Валянціну - хахлушку. Яна таксама была ў палоне. Ажаніліся. Жылі з бацькамі, вялі гаспадарку, мелі кабылу, карову, цялё, пару свіней і авечак.

Мае землякі, былыя салдаты польскай арміі Данэйка Мікалай, Козел Мікалай распавядалі тату Ваню, што пры ваенных дзеяннях супраць Польшчы, многія польскія афіцэры не хавалі сваіх слёз, яны казалі пра тое, што Германія і Расія - адвечныя гістарычныя ворагі Польшчы, што губляючы незалежнасць, упарта змагаліся і будзем змагацца з дапамогай тых, хто сыходзіць у Румынію, і тых, хто з цяжкасцю будзе прабірацца дадому.

Пытання аб лёсе Заходняй Беларусі па сутнасці ўжо не існавала. Але пытанні аб дзяржаўнай уладзе, аб самавызначэнні Заходняй Беларусі і заканадаўчым замацаванні распачатых пераўтварэнняў патрабавалі свайго правядзення праз працэдуру выбараў у Народны сход і прыняцця ім неабходных пастаноў.

28 кастрычніка 1939 г. у Беластоку Народны сход Заходняй Беларусі, выказваючы волю і жаданне большасці насельніцтва, аднагалосна прыняў Дэкларацыю аб абвяшчэнні савецкай улады на ўсёй тэрыторыі Заходняй Беларусі, аб канфіскацыі абшарніцкіх зямель і нацыяналізацыі банкаў і буйной прамысловасці. Ад працоўных горада выступіла рабочая фабрыкі "Ардаль" Я.А. Рэдзік. Ад працоўнага сялянства Лідчыны выступіў Ю.В. Кароль.

14 лістапада 1939 г. нечарговая III сесія Вярхоўнага Савета БССР прыняла Закон, у якім было запісана: *"Прыняць Заходнюю Беларусь у склад Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і ўз'яднаць тым самым вялікі беларускі народ у адзінай Беларускай дзяржаве".*

У большасці заходнебеларускіх вёсак чакалі з усходу лепшага жыцця. Салдатаў Чырвонай Арміі называлі не інакш, як нашымі. Але рэакцыя з боку большасці сялянскага насельніцтва ў асноўным была стрыманай і памяркоўнай. Так, сустрэчы сялян з чырвонаармейцамі і савецкімі кіраўнікамі, прымушалі задумацца над будучыняй. Многія пасажы ў "заходнікаў" выклікалі як мінімум здзіўленне.




***Плошча БССР павялічылася са 125,6 тыс. км$^2$ да 225,6 тыс. км$^2$, а насельніцтва - з 5,6 млн да 10,3 млн чалавек***




З гэтых падзеяў пачалося жыццё заходнікаў "пры першых Саветах".

З таго часу дайшла да нас вершаваная народная показка:

*"За царом*
*пілі чай з пірагом.*
*Як прыйшлі палякі-*
*елі хлеб траякі:*
*белы, чорны і ніякі!*
*А калі настаў Савет-*
*агледзела ср..ка свет".*

Лідскі раён быў створаны з цэнтрам у горадзе Лідзе паводле ўказа Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 15 студзеня 1940 гада ў складзе Баранавіцкай вобласці. Было ўтворана Часовае кіраванне горада і павета, якое ўзначаліў Пётр Захаравіч Калінін,упаўнаважаны ЦК КП(б) Беларусі. На падтрымку парадку была створана рабочая гвардыя, якую ўзначалілі М.Т. Рачкевіч і С. Кісель.

У Ганчарах утварылі сельскі камітэт, уключыўшы многа навакольных вёсак, у вёсках стараліся выбраць старастаў. У Дроздава прызначылі старастам граматнага і актыўнага Кудлу Васіля Васільевіча.

**Васіль Аляксандравіч Максімовіч**. *"У вёсцы Ганчары была крама, але грошай у сям'і не хапала. За 20 км ішлі ў Ліду, прадавалі яйкі, масла, клінковы сыр. Каб купіць дзецям пернік, булачку - гаворкі нават не было. За атрыманыя грошы куплялі ў асноўным соль, бутэлечку газы. Тавараў было шмат, але не было грошай.*

*Дзесьці пад канец верасня 1939 года школа ў Ганчарах узнавіла працу, толькі не на польскай мове, а ўжо на беларускай. Дырэктарам застаўся працаваць Ю. Пякелка, настаўнікамі - яго жонка Вольга і Гіпаліт Маліноўскі. Усе дзеці ў абавязковым парадку павінны былі наведваць школу.*

*Усіх вучняў, якія вучыліся ў польскай школе, адсадзілі на адзін клас ніжэй, бо яны не ведалі азбукі кірыліцы. Навучэнне пайшло лягчэй, матэрыял засвойваўся хутчэй, таму што выкладаўся на зразумелай роднай беларускай мове.*

*У 1939 годзе я пайшоў у 7-ы клас зноў ў Ганчары. Прадоўжылі навучанне і аднакласнікі паўшэхнай школы: Дзікевіч Мікалай, Шут Генадзь, Шут Віця,*

*Шут Жора, Каханоўскі Бронак, Курылаў Федзя.*

*Для дарослага насельніцтва, якое ў большасці сваёй было непісьменным, была адкрыта вячэрняя школа. Мужчыны і жанчыны, якія не ўмелі чытаць і пісаць, павінны былі ўвечары наведваць школу. Дарослыя вучыліся па спецыяльных букварах для лікбезу. Ад Ганчарскай школы ў вёсках Дроздава і Даржы дзейнічалі курсы па ліквідацыі непісьменнасці дарослага насельніцтва, якое ў той час выпісала 238(!) экзэмпляраў газет і часопісаў".*

*(Са слоў Васіля Аляксандравіча запісала Настасся Аляксандраўна Каладяжная, чэрвень-ліпень 2019 года.)*

30 верасня 1939 г. выйшаў на беларускай мове першы нумар газеты "Уперад". На яе старонках чытач мог знайсці цікавы матэрыял аб падзеях у горадзе, павеце. У газету прыйшлі таленавітыя пісьменнікі, журналісты: былы палітычны вязень Валянцін Таўлай, паэтэса Ніна Тарас, Пётр Радзюк.

18 студзеня 1940 года ў нататцы "Выраслі ўстановы народнай асветы" газета "Уперад" пісала: *"У час зімовых канікул для перападрыхтоўкі настаўнікаў былі арганізаваны курсы, на якіх асаблівая ўвага звярталася на вывучэнне беларускай мовы з прычыны пераходу школ на беларускую мову навучання і вывучэння ва ўсіх школах беларускай мовы".*

У самым пачатку вызвалення Заходняй Беларусі пачала ажыцяўляцца культурна-асветніцкая работа як у горадзе, так і ва ўсім павеце. У вёсках у дзяржаўных будынках адкрылі хаты-чытальні, а дзе іх не было, стваралі чырвоныя куткі. Кніг - чытай, колькі хочаш. Прыязджалі кінаперасоўкі - глядзі кіно дарэмна. Ставілі канцэрты - шыбуй і старайся заняць лепшае месца. Жанчыны паскідвалі ўжо зрэбныя паддзеўкі, і фанабэрыліся ў фабрычных адрэзах. Спрытных кавалераў адзначалі, "хто пад часамі" і хто мае ровар… Пабалакаўшы сярод дзяўчат, стараліся "говарыць по-російску"….

Адбываліся і перамены ў ахове здароўя насельніцтва.

Медыцынская дапамога стала бясплатнай. У Лідзе працавалі 18 лячэбна-прафілактычных устаноў, дзе налічвалася 38 дактароў.

Нягледзячы на ўсе цяжкасці і супярэчнасці, за першы год савецкай улады жыхары горада і працоўнае сялянства дабіліся ў эканамічным, культурным жыцці, а таксама ў павышэнні жыццёвага ўзроўню значных поспехаў.

З прыходам савецкай улады вяскоўцы паступова пачалі асвойваць тэхналогію самагонаварэння, якое пры Польшчы з-за дзяржаўнай манаполіі і вялікіх штрафаў на спіртные напіткі было немагчыма.

Тата Ваня і мама Вера расказвалі, як пасля прыходу"Першых Саветаў *"праз месяц на Пакровы -14 кастрычніка 1939 года* ("Пакроў Прасвятой Багародзіцы") *нарадзіўся сынок"*. Нараджэнне хлопчыка лічыцца шчасцем і Божым дабраслаўленнем. Пра гэта кажуць, гэтаму радуюцца і зайздросцяць: лішні цяглец на хаце і верны памочнік. Шчаслівыя роды прайшлі ў Праважы на саламянай пасцелі з дапамогай роднай бабкі-павітухі Еўкі.



***Мама Вера***



***Тата Ваня***



***Бабуля Алеся***



***Бабуля Еўка***

Прыехалі сваякі, ўвайшлі ў хату, дзе нарадзілася новая радня - жывая душа, сялянскі сын, будучы працаўнік і хлебароб. У хату па разу заходзілі суседкі наведваць, павіншаваць, падмагчы маці-парадзісе, і пацікавіцца, расказаць і пагаманіць. Маладая мама Верка сама частавала ўсіх пірагамі, напрошваючыся на новае пажаданне…

Суседка бабка Грэбяніха, якая прымала дзіця, хадзіла з кашай па ўсіх пакліканых гасцях; хто хоча кашу есці, той павінен выкупіць лыжку кашы, гэта значыць пакласці грошы, па павер'і: за кашку грош аддаць - немаўля жыць будзе.



Бацьку Ваню давалі кашу крута пасоленую, з перцам. Каша, звараная на малацэ, так званая размазня, яе варылі, калі акажацца мала ў маці яе ўласнага малака, а дзіця будзе прасіць есці.

У хаце, каля ложка вісела падвязаная да бэлькі калыска. Над ёй маці заўсёды спявала свайму дзіцяці калыханкі.

Наша дзіця яшчэ вельмі малое і нічога не разумее: крычыць, калі есці захоча, крычыць, калі азябне. Трэба пагушкаць, каб пацішэў. Чым суцішыць дзіця, калі яно раскрычыцца? Пакарміць грудзьмі маці, ці напхаць ў рот дзіцяці суслу з жытняга хлеба або кашы, ад усіх бед паратунак - будзе смактаць і замоўкне. Будзе маўчаць - значыць, пачаў набірацца сялянскай рабочай сілы і шчасця.

Успаміналі бацькі, як ахрысцілі сыночка Ігара ў Ганчарскай царкве. Праз пару месяцаў узімку, калі ўжо не было працы ў полі, бацькі правялі хрэсьбіны.

Для абраду хрышчэння нованароджанага запрашалі кумоў і сваякоў. Кумам прызначылі мамінага брата - Валодзю Белавуса, а кумой запрасілі аднавяскоўку - Вольгу Быстрыцкую (Вíткаву).

Царкоўны бацюшка здзейсніў над хрышчаным малым у царкве сакрамант хрышчэння. Ён атрымаў на ўсё сваё жыццё імя Ігар.


***Кума Вольга Быстрыцкая***

Калі варочаліся з царквы пасля хрышчэння, бацька клаў немаўлятка на некалькі хвілін на парозе, што значыла "асвятліць дзіця цераз парог". Так новы член сям'і ўваходзіў у хату. Так у сялянскім побыце хрышчэнне суправаджалася



народнымі рытуальнымі дзеяннямі.



На фатакартцы 80-тых гадоў старэнькая хатка Ванюшкаў, што ўжо была запушчанай пад разборку.

А тады хаціна была прыхожай, добраўпарадканавай. У кухні гліняная печ і адно акно, у каморы кладоўка. У спальні печка, два ложкі і калыска. На выхадзе сенцы і веранда.

У зале два акны з дубэльтамі, дашчатая, памалёваная падлога. У покуці - палічка з абразом, упрыгожаная ручніком, па баках - лаўкі і дубовы стол.

Безумоўна, гаспадары рыхтаваліся да гэтага дня. У хаце і на падворку зрабілі важную прыборку.

Гасцей запрашалі на застолле і частавалі падрыхтаванай ежай: мама Вера і бабулька Алеся прыгатавалі каравай, натушылі мяса ў печы, "смажылі" яечню ў гліняных місках, сыр клінковы, даставалі з бочкі кіслую капусту і салёныя агуркі. І абавязкова - раздача бабулінай кашы.

Кум і кума разам з бабкай адыгрывалі вялікую ролю на радзінах, стараліся выконваць традыцыйныя песні, прыказкі, прымаўкі. Самагонка стаяла ў графінчыку, але пілі яе малавата, застолле заключалася, у асноўным, у ежы і весялосці. Спявалі песні, жартавалі, было шмат смешных гульняў. Выконваліся цікавыя радзінныя песні.

На другі зімні дзень пасля хрэсьбін бабулю Алесю вазілі на санках па ўсёй вуліцы ад выгана да аселіцы. У аглоблі запрагаліся мужчыны, і з песнямі госці суправаджалі смешную працэсію, а вяскоўцы выходзілі і віншавалі. Нованароджанаму дарылі падарункі. Кумы да дзіцяці выконвалі патранажныя функцыі. Ужо і потым актыўна дапамагалі бацькам ў палявых работах. На святы і фэсты маліліся ў цэркве, а дома адзначалі святы з хрышчоным Ігарком.


***Захавалася вось гэтая прыгожая карцінка, падораная Ігару хросным - дзядзем Валодзем***

Тата расказаў, як выбралі рэдкае ў Беларусі імя сыну. Сыночка пасля цікавых расповедаў мудрагеліста назвалі: Ігар.

Тата Ваня яшчэ ў бежанстве вучыўся ў расейскай школе, дзе пазнаёміўся са "Словам пра паход Ігаравы". Пасля бежанства ці ,мажліва, ужо пры Польшчы, дзядуля Іван Зыдаравіч і цёця Соф'я мелі кнігу "Слова пра паход Ігаравы".

Гэты старажытнарускі твор, з'яўляецца адным з вялікіх эпічных помнікаў рускай літаратуры.



Кніга апісвае паход вялікага князя Ігара Святаслававіча ў 1185 годзе на полаўцаў, вайна з якімі насіла характар абароны рускіх зямель ад нашэсця. Нараджэнне хлопчыка Ігара лічыцца шчасцем і Божым дабраслаўленнем.

Тата Ваня пра гэта расказваў, і мы з Ігарам з цікавасцю праштудзіравалі кнігу: *"У цэнтры апавядання стаіць князь Ігар, чыя душа імкнецца да подзвігаў і славы. Князь збірае магутнае войска, уключаючы дружыны сваіх братоў, каб стаць на абарону сваёй зямлі ад палавецкіх войскаў. Ён выказвае сваю высакароднасць, патрыятызм і гатоўнасць загінуць за сваю Русь".*

**Каханоўская Ядвіга Міхайлаўна:** *"Хачу расказаць пра старэйшую сястру Ірыну. Нарадзілася 15 жніўня 1927 года ў Драздаве. Хрысцілі ў Міноўтаўскім касцёле, там жа прымала і Першую Камунію Святую. Хрышчоны бацька - малодшы брат бацькі - Станіслаў, працаваў на чыгуначнай станцыі Багданава.*



*Тварам сястра была падобная на бацьку, але вочы - зеленаватыя. Такога колеру вачэй не было ні ў кога ў нашай сям'і, і валасоў русых, густых. Заплятала тоўстыя косы. Як на старэйшую, на яе рукі клалася самая цяжкая праца ў сям'і.*

*З 13-ці гадоў яна хадзіла ў заробкі і адпрацоўкі, на жніво. Нароўні з дарослымі жанчынамі і маладзіцамі жала жыта, авёс, пшаніцу. Даставаўся ёй заўсёды ўчастак пацяжэй - палеглы, разоры, а адставаць было нельга, інакш больш не паклічуць жаць. Вось і старалася з усіх сіл. Да апошніх дзён жыцця рубцы на пальцах ад парэзаў сярпом не давалі ёй забыцца пра тую жніўную працу.*

*А дома!? І дома ёй даставалася цяжкая праца. Круціць жорны, каб малоць збожжа, малаціць снапы, рэзаць сечку, мясіць хлеб на выпечку і г.д.- яна была безадмоўная ў працы.*

*Было неяк, яна з Браніславам у гумне малоціць цапамі снапы, прыходзіць мама і робіць ім заўвагу, што нешта не так. Брат мог спакойна паставіць цэпланцуг і ў гэты дзень больш не малаціць.*

*А сястра Рэня, змахнуўшы слязу, праглынуўшы крыўду, працягвала працаваць. Часта прала, вязала, ткала. Усё немагчыма пералічыць.*

*Я не памятаю выпадку, каб яна лаяла нас, малодшых, непаслухмяных. Ёй была ўласцівая нейкая вялікая ўнутраная культура".*

**Дзікевіч Мікалай:** *"Восенню 1939 года пры "Першых Саветах" першы раз у жыцці глядзеў гукавое кіно, якое паказвалі ў вёсцы Драздава.*

*Завезлі нас туды на палутарцы. Там, дзе цяпер магазін, паміж дзвюма жэрдкамі быў нацягнуты вялізны экран. На ім дэманстравалі ваенны фільм, назву якога я не запомніў. Аднак памятаю, што было адначасова і цікава, і вусцішна, калі на цябе рухаўся цягнік ці танк."*

**Дзявятая Вера Іосіфаўна** на фота **з маці Надзяй** (Салаткавай) таксама расказвала: *"Памятаю, у Драздава прывезлі кіно. Паказвалі яго ў канцы вёскі на выгане. Бацькі нас маленькіх, мяне і брата Ваню - не ўзялі. Нам жа было цікава, і мы ўсё ж такі лезлі на плот, каб убачыць, што там адбываецца. Бачылі толькі ўспышкі святла і чулі грукат і страляніну...*



*Пры Польшчы існавалі толькі грашовыя падаткі, а цяпер увялі савецкія падаткі, якія называліся пастаўкамі: збожжа, мяса, малако, яйкі. Акрамя паставак, якія вызначаліся колькасцю зямлі, быў яшчэ грашовы падатак на нерухомасць, на сад, вуллі, каня і іншую жыўнасць. Гэтыя падаткі сур'ёзна падрывалі аўтарытэт савецкай улады, і аднавяскоўцы часта папракалі майго бацьку Юзафа за яго ранейшыя расказы з дэтэктарнага радыё, што з прыходам савецкай улады мы пазбавімся ад польскага прыгнёту. "З польскага прыгнёту мы патрапілі ў савецкае ярмо, якое нас канчаткова задушыць", - скардзіліся вясковыя мужыкі..."*

**Кудла Уладзімір Юльянавіч** (Юльчыкаў) расказваў: *"Пасля абяднання Заходняй Беларусі ў 1940 годзе ў Драздаве па ініцыятыве* ***Шута Генадзія Сцяпанавіча*** *(1924 г.н.) была створана першая на Лідчыне камсамольская арганізацыя ў складзе: Кудла Уладзімір Канстанцінавіч, Кудла Іван Канстанцінавіч, Кумпяк Віктар Вікенцьевіч, Каханоўскі Браніслаў Міхайлавіч, Курылаў Фёдар Дарафеевіч, Данэйка Леанід Канстанцінавіч, Ненартовіч Вацлаў Пятровіч.*



***Генадзь Шут***

*Свае сходы камсамольцы ладзілі адкрыта, пад*

*выглядам вечарынак, з гармонікам і танцамі. Абмяркоўваўся палітычны прыпынак, "Разам мы сіла, а нас раз'ядналі на нейкія хутары", - казаў які-небудзь актывіст КПЗБ. У працэсе сходу камсамольцы спявалі Інтэрнацыянал і іншыя рэвалюцыйныя песні, прывезеныя іх бацькамі з бежанцаў або пранікаўшыя праз кардоны з Савецкага Саюза, як і мноства іншай прасавецкай літаратуры. Я памятаю, як на адзін з такіх сходаў, калі прамаўляліся словы песні: "Там удалечыні каля ракі заблішчалі штыкі - гэта белагвардзейскія цэпі"- зайшоў стараста. Моладзь прыціхла, а ён сказаў: "Вашая песня і так чутна на вуліцы, але павінен вас папярэдзіць, што ўжо падпісаны закон аб забароне такіх сходаў,за што прадугледжана турэмнае зняволенне".*

*Насельніцтва Заходняй Беларусі, назіраючы гэтую жудасную карціну масавага нашэсця галадаючых "усходнікаў", з трывогай чакала сваёй такой жа долі. Нельга выключыць, што менавіта гэты факт садзейнічаў разгортванню антысавецкага падпольнага руху ў выглядзе т.зв. "лясных братоў" і іншых фарміраванняў. Частка мясцовага насельніцтва, напалоханая калгасамі, актыўна падтрымлівала антысавецкі падпольны рух. Таму савецкі ўрад не спяшаўся адразу пры "Першых Саветах" праводзіць калектывізацыю сельскай гаспадаркі .*

*Было спачатку паляванне*
*на ўвесь дзяржаўны апарат.*
*Каго ў турму, каго ў выгнанне,*
*але хапалі ўсіх падрад.*
*І кожны служачы ўлады,*
*не важна, дзе ён працаваў,*
*І незалежна ад пасады*
*чэкістам у лапы патрапляў.*
*Усе прайшлі праз пастарункі -*
*паліцыянт або ляснік,*
*Рабочы, служачы чыгункі,*
*і землямер, і паштавік.*

У красавіку 1940 года арганізаваліся першыя калгасы толькі ў вёсках Сялец і Ганчары. Што такое калгасы і як жывуць калгаснікі, насельніцтва ведала, бо актыўна працавала савецкая прапаганда.

У цэлым, насельніцтва вёскі ў гэты перыяд, "пры Першых Саветах", жыло нядрэнна. У насельніцтва ад працы з'явілася і грошы: мужчыны, акрамя працы на сваёй гаспадарцы, вазілі камяні на рамантаваны Лідскі аэрадром, за што вайскоўцы нядрэнна плацілі. А вось у крамах тавараў не даставала, ды і самыя неабходныя ў гаспадарцы соль, газа, запалкі былі ў дэфіцыце. Сельскае насельніцтва прадукты харчавання не купляла, абыходзілася тым, што было ў сваёй гаспадарцы. У цэлым, хто як працаваў, так і меў. Былі ў вёсцы і моцныя гаспадаркі, але да вайны з Дроздава ніводнага моцнага гаспадара, так званага "кулака", на ўсход не дэпартавалі.

**Кучынскі Вячаслаў Мікалаевіч:** *"Антырэлігійная прапаганда ўтрымлівалася на бальшавіцкай канцэпцыі: "Рэлігія - гэта атрута для народа, яе трэба вырваць з корнем, а калі хто супярэчыць, то і з галавою". Нездарама тады нарадзілася прымаўка: "Гуляй, Ванька, Бога няма". І, трэба сказаць, частка моладзі адвярнулася ад царквы, баялася хадзіць да споведзі, толькі старэйшыя не звярталі ўвагі на намаганні агітатараў.*

*І ўсё ж аднойчы вера ў атэістычную прапаганду надзвычай пахіснулася.*

*Гэта было позняй восенню ў першы ж год аб'яднання. Група вайскоўцаў на грузавым аўтамабілі прыехала ў Дроздава, каб даць канцэрт. Народу сабралася шмат. Лётчыкі (яны былі ў такой форме) спявалі, і танцавалі, і байкі расказвалі.*

*І ў большасці нумароў высмейвалі Бога і папоў. Высмейвалі тонка, з гумарам, і хтосьці клаўся са смеху, хоць старыя людзі набожна хрысціліся і выслізгвалі з хаты…*

*Канцэрт закончыўся даволі позна, вайскоўцы ўладкаваліся ў грузавік і па шашы падаліся ў горад. А праз некалькі хвілін вёску страсянула жудасная вестка: на дроздаўскім чыгуначным пераездзе, грузавік сутыкнуўся з таварным цягніком, і ўсе да аднаго - сямнаццаць аэрадромшчыкаў - загінулі. Паравозы тады не былі абсталяваны электрасвятлом. У фары ўстанаўліваліся звычайныя газавыя лямпы, святло якія было цяжка адрозніць ад мільгаючых хутарскіх агеньчыкаў, і шафёр іх, відаць, не заўважыў. А па вёсках папаўзлі розныя чуткі: "Дагуляліся, а ўсё ж гаварылі, што Бога няма…"*

*Па вёсцы прайшла падрыхтоўка да выбараў у Народны сход Заходняй Беларусі, які павінен быў адбыцца 22 кастрычніка 1939 года. З цікавасцю слухалі агітатараў, што гаварылі вяскоўцам пра выбары. Не вельмі зразумелым было слова "галасаваць", а таксама сам працэс галасавання. Але ўсё стала на свае месцы, калі ўбачылі абсталяваныя кабіны для галасавання.*

*Такім парадкам 24 снежня 1940 года прайшлі выбары ў мясцовыя саветы, і мясцовым дэпутатам выбралі актыўнага Кудлу Канстанціна (Унучкава).*

*Актыўнасць сялян паступова зменшылася: на выбарчыя ўчасткі ішлі неахвотна, галасавалі за сябе і за жонку. На сходах ўсё часцей чулася слова "кулак" - выбаршчыкаў запалохвалі. Сяляне ўжо ведалі, што такое азначэнне заслужылі ўсе, хто быў добрым гаспадаром, меў некалькі каней і кароў, і наймаў на працу.*

*Было вядома, як і куды вывозілі тых "кулакоў" з Усходняй Беларусі".*

**Кахаоўская Ядвіга Міхайлаўна:** *"У памяці ўваскрасае момант, калі тата Міхась і мама Зоня збіраліся ісці на галасаванне, чамусьці ў вёску Канюшаны. Святочна адзяваліся, і з суседзямі, раднёй ехалі на падводзе галасаваць. Я даймала бацькоў пытаннямі: "Ці моцна там трэба крычаць?"*

*Наша вёска паступова пачала ажываць. Моладзь арганізоўвала "вечарынкі" - танцы. Танцы праходзілі ў дамах, дзе былі прасторныя пакоі з даш-*

*чанымі падлогамі: у Курылы Сяргея (у Заецкіх), на вёсцы ў Быстрыцкага Віктара, на хутары ў Сымонкавых. Хлопцы збіралі грошы для музыкантаў і запрашалі іх паіграць. Кідаліся ў танцы і старыя, і малыя. Мы, падлеткі, таўкліся ў двары, спрабавалі танцаваць, як дарослыя, лезлі ў адкрытыя вокны: хацелася бачыць, што творыцца ў хаце. Пасля гарачых полек, мазурак, кракавякаў і кадрыляў, быў перапынак з паўгадзіны. Тады пачыналі спяваць. Былі моцныя і прыгожыя галасы. Спявалі песні даўнейшыя народныя і польскія.*

*Некалькі фраз адной польскай песні я памятаю:*

*"Богнэт вымуе, персці пшэбіе,*
*нех млода пара в гробе спочыва…..*
*нех людзі знаён, цо то з мілосці".*

*Дзяўчаты пасля вечарынак прыбіралі памяшканне гаспадара: мылі падлогі, вокны і г.д.*

*У перыяд Савецкай улады з 1939 па чэрвень 1941 года мне вельмі запомніліся ранішнія паходы мамы ў вёску Ганчары ў тамашні магазін па пакупкі на пай. Я не разумела, што азначае гэты "пай", але мы, асабліва малодшыя дзеці, чакалі яе з нецярплівасцю. Прыносіла яна незвычайна смачныя цукеркі вялікія па памерах і розных прыгожых колераў "падушачкі": жоўтага, блакітнага, ружовага, зялёнага. Усім дзялілі пароўну. А яшчэ памятаецца халва (мы называлі "холма"), садавінная гарбата. Мне здаецца, што ў сваім жыцці я нічога больш смачнага не ела.*



***Мама Ядвігі Міхайлаўны - Софія Каханоўская, 05.01.1907 г.н.***

*Гарбату мы не заварвалі, а елі сухую з пачка. Напэўна, былі і іншыя пакупкі, неабходныя ў гаспадарцы: мыла, газа (у нас былі дзве лямпы) .*

*Ладзіліся "вячоркі", мама зімой хадзіла на іх з калаўроткам і верацяном, але вельмі рэдка. Больш да нас прыходзілі жанчыны.*

*Часцей за ўсё я ўспамінаю пасядзелкі ў нашым доме, калі збіраліся за чытаннем кніг. Трое старэйшых дзяцей: брат Браніслаў, сёстры Ірына і Леакадзія, адвучыліся ў польскай, а затым у савецкай школах. Самым адукаваным, канешне, быў старэйшы - Браніслаў. Ён свабодна размаўляў на польскай мове. Зімнімі вечарамі прыходзілі да нас Шуты: дзед Сымон, дзядзькі Кастусь (Ануфрыеў) і Кастусь (Янаў). Прыходзілі яшчэ 2-3 вясковыя дзяды, але іх прозвішчы ўжо не памятаю. Браніслаў браў кнігі, запальваў лямпу і чытаў услых. Былі кнігі і на рускай мове рускіх пісьменнікаў. Часам, ён спыняўся, і дзяды пачыналі ўспамінаць сваё жыццё ў Сібіры. Усе яны ў Першую Сусветную вайну пакідалі сваю вёску Дроздава. Некаторыя жылі ў Омскай вобласці, іншыя ў Чалябінскай. Расказвалі розныя забаўныя, часам цікавыя гісторыі. Магчыма, змест прачытанага наводзіў іх на ўспаміны. Больш за ўсё мне падабалася слухаць "Патоп" Г. Сянкевіча. Кніга была на польскай мове.*

*Браніслаў часта спыняўся і пачынаў працяглае абмеркаванне прачытанага. Бывала, нават сур'ёзна спрачаліся. Вобразы Глобы і пана Уладыеўскага ўрэзаліся ў маю дзіцячую памяць на ўсё астатняе жыццё. У маладосці хацела сама прачытаць "Патоп", але сустракала толькі на польскай мове. І мая мара збылася толькі ў 80-я гады XX-га стагоддзя.*

*Памятаю, як у доўгія зімнія вечары, тата Міхаіл Феліксавіч, не запальваючы лямпы, чытаў на памяць вершы Лермантава, Пушкіна (аўтараў гэтых вершаў я спазнала толькі ў школе) ці браў скрыпку і іграў прыемныя мелодыі.*



*У гэтыя годы я не хадзіла па вёсцы. Усё абмяжоўвалася нашымі гумнішчамі, хатамі дзеда Сымона і дзядзькі Сцяпана Шутоў. Да Сцяпанавых мяне браў брат Браніслаў, які з Генам быў "не разлі вада" - разам вучылі ўрокі, разам хадзілі ў школу. А я з Лёням і Вольгай (малодшыя брат і сястра Гены) знаходзілі свае дзіцячыя заняткі".*

**Марыя Папковіч,** 24.12. 1919 г.н., з хутара Жвіркі пасля польскай школы ў Ганчарах пры "Першых Саветах" здатна прадоўжыла навучанне ў Лідскім педвучылішчы на выдатна. Вельмі здатная і творчая натура-Марыя малявала каляравымі фарбамі мужчын і кабет у нацыянальным убранні, а колькі розных кветак і мясцовых краявідаў. Малюнкі былі на выставах у школе, педвучылішчы, царкве (захавалася многа малюнкаў). Марыла стаць настаўніцай і мастачкай. Вышывала, і цяпер стол у бацькоўскай хаце накрыты цудоўным вышытым абрусам, з воўны вязала світары,шкарпэткі...

З успамінаў брата **Васіля Канстацінавіча** 1908 г.н.: *"Пасля 2-га курса летам саракавога года, на канікулах Марыя была ў дзядзькі Касарэўскага ў Ганчарах. З дзяўчатамі шпацыравалі па вуліцы. Тут пад'ехаў на палутарцы знаёмы малады лейтэнант*





*Мікалай, якому яна вельмі падабалася. Хоць яна і адмаўлялася ехаць, ён настаяў падвезці да іхняга хутара. Мажліва, яна стала на падножку кабіны і, калі саскочыла з машыны, то спадніцай зачапілася за нешта, а ён не глянуў і паехаў, працягнуўшы яе па брукаванай дарозе… Людзі, якія сядзелі ў кузаве ўбачылі гэта і закрычалі, застукалі па кабіне. Калі Мікалай выйшаў, то ўбачыў Марыю ў такім стане, што зразумеў: жыць яна не будзе. Дастаў пісталет і застрэліўся. Марыя праляжала тыдзень у Лідзе ў бальніцы і памерла. Пахавана каля Ганчарскай царквы побач з бацькам Канстанцінам (памёр 13.08.39 г.). Яе маці не магла вытрымаць вялікае гора: кожны дзень, як узыдзе сонца, падала на*



**Магіла Марыі Папковіч**





**Малюнкі Марыі Папковіч**

*магілку і галасіла на ўсю ваколіцу. Людзі спачувалі іхняму гору і маліліся…"*

**Дзікевіч Мікалай:** *"Дзякуючы хутарызацыі за польскім часам нашы палеткі і сенажаці сама прырода прызначыла для гаспадарання. Не помню, каб хтосьці выказваў незадавальненне з жыцця ў гэты час. Наогул, два даваенныя гады сяляне ўспамінаюць, як адзін з лепшых перыядаў у сваім жыцці. Працавалі ахвотна, з асалодай і значна менш, чым раней, але, як цяпер кажуць, больш прадукцыйна.*

*Змяніўся і рытм працы: поле побач, не трэба везці гной за некалькі кіламетраў, звозіць адтуль зжатае і скошанае. Стала больш вольнага часу. Людзі ажылі, павесялелі. З'явілася больш грошай. Забыліся пра хадакі і трэпы. Саматканае апраналі штодзённа на працу, на святы і ў госці, у царкву мелі лепшае, пашытае з крамнага.*



*Вясной на святы гаспадар у белай палатнянай кашулі абыходзіў свае ўладанні. Падчас пераходу на хутары палеткі выглядалі рознакаляровымі і няроўнымі. Яшчэ праглядаліся загоны былых гаспадароў, ды і ўраджай быў неаднолькавы. Хапала і пырніку ад дрэннай папярэдняй апрацоўкі зямлі. Аднак хутарызацыя дала магчымасць на любой глебе атрымліваць добры ўраджай, калі ставіцца да яе па-гаспадарску".*

**З успамінаў таты Вані:** *"У 1940 годзе і ў пачатку 1941 года пачалася прымусовая калектывізацыя. У суседняй вёсцы Ганчары, дзе было шмат актывістаў КПЗБ, калгас арганізаваўся яшчэ вясной 1940 года. Новыя калгаснікі мелі некаторыя льготы па падатках. Тыя, хто не ўступаў у калгас, абкладаліся вялікімі падаткамі, якія не ішлі ні ў якое параўнанне з польскімі аналагамі.*

*У 1940 годзе былі ўведзены абавязковыя нормы здачы зерня, бульбы і жывёлы. І хаця займець грошы селяніну можна было толькі так, дзяржава плаціла за гэтыя прадукты вельмі мала. Хутка сяляне зразумелі, што атрыманыя грошы за прадукты не пакрываюць выдаткаў на іх вытворчасць. Сярод вяскоўцаў узнікла незадаволенасць, якая ўзмацнялася патураннем некаторым гаспадарам. Калі заходзіла размова пра калгас, усе аднекваліся, абыходзілі гэтую тэму, мянялі гаворку. Так калгас у вёсцы і не арганізавалі.*

*Па завядзёнцы людзі шмат працавалі, гадавалі многа жывёлы, крадком гналі самагонку. У Лідзе за яе можна было купіць у знаёмых керзавыя і хромавыя вайсковыя боты і чаравікі, валёнкі, галіфэ, бялізну,*

*шапкі, гімнасцёркі, шынялі і паўкажушкі. У магазінах можна было набыць гатовае адзенне і фабрычныя тканіны. Тоячыся ад улады, краўцы і краўчыхі (іх абкладалі грашовымі падаткамі) па дамоўленасці шылі сялянам розныя паддзёўкі.*

*Сельскія мужчыны, якія прывыклі бязбоязна лаяць польскі ўрад, пачалі абурацца савецкімі парадкамі, і многія за гэта паплаціліся арыштамі. Органы НКУС садзілі і заахвочвалі даносніцтва.*

*Дастаткова было задаць нявіннае пытанне, чаму з прыходам савецкай улады апусцелі паліцы ў крамах, каб цябе ў тую ж ноч арыштавалі. Ад ранейшага польскага вальнадумства давялося адмовіцца. І народ прыціх. Сёй-той з жыхароў здолеў схаваць ад супрацоўнікаў НКУС старыя польскія радыёпрыёмнікі і таемна слухаць Лондан .*

*Гарадзенскі пісьменнік Аляксей Карпюк так успамінае тыя падзеі. "Я быў ворагам польскага "рэжыму санацыі". Удзельнічаў у камуністычным падполлі. Але калі пры "панах " чалавека арыштоўвалі па палітычным артыкуле, на наступны дзень пра гэта пісалі ва ўсіх газетах. Калі быў працэс над Сяргеем Прытыцкім (дзеяч КПЗБ), то пра працэс усе даведваліся з газет. Уся Польшча штрайкавала.*

*А што стала пасля верасня 1939 года? У маёй вёсцы Страшава разам з сям'ёй быў арыштаваны дзеяч заходнебеларускага камсамолу Сяргей Лебядзінскі. НКУС знішчыла яго разам са сваякамі. Арыштавалі і іншых камсамольцаў. Калі б гэтыя арышты адбыліся " за польскім часам", уся вёска б узбунтавалася, а тут нічога. Усе баяліся. І за што мы змагаліся?".*

*Калі ўжо пры "першых Саветах" арыштоўвалі заходнебеларускіх камуністаў і камсамольцаў, то што казаць пра вайскоўцаў Войска Польскага, польскіх паліцэйскіх, супрацоўнікаў польскай адміністрацыі, прысвоіўшы ім назвы"ворагі народа - контррэвалюцыйныя элементы".*

У перыяд з 17.09.1939 г. па 22.06.1941 г. на тэрыторыі Заходняй Беларусі было арыштавана 44 981 чалавек. Большасць з гэтых людзей была расстраляна, альбо многіх вывезлі на будоўлі ГУЛАГ-а, тады былі праведзены чатыры хвалі дэпартацый.

Сялян-аднаасобнікаў празмерна прыціснулі нарыхтоўкамі: збожжам, бульбай, мясам, грашовымі падаткамі. Цэрквы і касцёлы забіралі пад склады. (На шчасце Ганчарскаю царкву гэта абмінула).

Да гэтага не знойдзены сумна вядомы "беларускі катынскі спіс", дакумент, які змяшчае прозвішчы каля 4 тысяч польскіх знішчаных грамадзян (у асноўным паліцэйскіх і вайскоўцаў Войска Польскага). Важна разумець, што сярод знішчаных значную колькасць складалі этнічныя беларусы. " Катынская " трагедыя - гэта не толькі боль Польшчы і палякаў. Гэта таксама трагедыя і для беларусаў.

Пераацаніць важнасць 17 верасня 1939 года ў айчыннай гісторыі немагчыма: менавіта ў гэты дзень дзве часткі краіны аб'ядналіся пасля амаль дваццацігадовага раздзялення.

Не будзем адбіраць хлеб у гісторыкаў і паліталагаў і пускацца ў доўгія дыспуты наконт дзеянняў тагачасных уладаў. Лепш пачытаем гэты нарыс, каб даведацца, як змянілася жыццё беларусаў-заходнікаў у бытавым плане пры "Першых Саветах". Усім станавілася ясна, што вайна з Германіяй вось-вось пачнецца, нягледзячы на газетныя запэўніванні ў дружбе з гэтай краінай.

Апошні нумар, № 230, газеты "Уперад" выйшаў 20 чэрвеня 1941 года. Перадавы артыкул яе заклікаў "Мацаваць абаронную работу"- гэта быў яўна запознены заклік.



Ужо ў самым пачатку 41-га насельніцтва, не тоячыся, гаварыла: "Будзе вайна", "Давядзецца ваяваць з немчурой". Ля магазінаў збіраліся вялікія чэргі. Самымі хадавымі таварамі былі соль, запалкі, газа, цукар. У паветры яўна пахла вайной…

*Праз гады перыяд гэты,*
*Саветаў першы раз прыход,*
*Найменнем "Першыя Саветы"*
*Адзначыў кемлівы народ.*
*Маглі саветы значна болей*
*Народу шкоды нанясці,*
*Але, напэўна, Божай воляй*
*Адсюль прыйшлося ім сысці.*
*Што ж не дазволіла саветам*
*Ажыцявіць свой план спаўна?-*
*У сорак першым годзе летам*
*Да нас вярнулася вайна.*

**Спіс выкарыстаных матэрыялаў:**

Колодяжная А.А. “Память - главный свидетель”.

Дзікевіч М.М. “Дзітрыкі.Звукі заснуўшай цывілізацыі”.

Данілаў Іван. "Запіскі заходняга беларуса".

Пры напісанні нарыса выкарыстаны ўспаміны, запісаныя на дыктафоне, і фатакартачкі дроздаўцаў: Кудлы Івана Іванавіча, Каханоўскай Ядвігі Міхайлаўны, Дзявятай Веры Іосіфаўны, Максімовіча Васіля Аляксандравіча, Кудлы Уладзіміра Юльянавіча, Пазняк Веры Міхайлаўны.

*(Працяг у наступным нумары.)*

***Віктар Кудла,***
*54 гады на другой малой радзіме - у Дворышчы*

# ДВАРЫШЧАНСКІЯ ХРОНІКІ

**№ 1. Кудла В.,Суднік С. Дворышча. Лідскі летапісец № 35. 2006 год.**
**№ 2. Сліўкін В. Маёнтак Дворышча-1520-1850, Лідскі летапісец № 91. 2020 год.**
**№ 3. Сліўкін В. Маёнтак Дворышча 1850-1870. Лідскі летапісец № 92. 2020 год.**
**№ 4. Сліўкін В. Маёнтак Дворышча 1870-1915. Лідскі летапісец № 93. 2021 год.**

## № 5. Пачатак XX стагоддзя, Першая сусветная вайна і яе след у гісторыі Дварышчанскага краю

У пачатку XX стагоддзя Дварышчанскі край быў у складзе Расійскай імперыі. Тыя гады былі, напэўна, лепшымі, бо ў мірны час добра жылі вяскоўцы, радзілі дзетак, вялі гаспадаркі з добрымі ўраджаямі, ад жыўнасці хапала яды і нават для прадажу на грошы, у мясцовых лясах - грыбы і ягады, а ў рацэ Жыжма - рыба, магчымасць уладкаваца на працу ў пана.

Галоўным ідэолагам і арганізатарам пераўтварэнняў у аграрным сектары выступіў Пётр Сталыпін, які ў 1902-1903 гг. займаў пасаду Гарадзенскага губернатара, а з 1906 г. стаў міністрам унутраных спраў і адначасова Старшынём Савета Міністраў Расійскай імперыі.



У тыя гады фальварак Дворышча ўяўляў сабой частку феадальнага валодання, дзе самастойна вялася панская гаспадарка. Складаўся фальварак з двара з комплексам жылых і гаспадарчых пабудоў і зямельнага ўчастка.

Яшчэ раней панскі гаспадарчы комплекс фальварка набыў рысы сядзібнага. Быў пабудаваны драўляны палац на каменным падмурку з трох флігеляў, з дзвюма цаглянымі вежамі - трохпавярховай і чатырохпавярховай, дзе з сям'ёй пачаў жыць уладальнік маёнтка з 1911 года, латыш па нацыянальнасці Аўгуст Амберг.



***Залатыя 10 рублёў выпуску 1911 года, калі Амберг купіў у Філіпавых фальварак***



***4-х павярховая вежа, хата эканома, каменны склеп***

Ад ранейшых гаспадароў тады засталіся два жылыя драўляныя дамы: васьміпакаёвы, крыты дранкай, і пяціпакаёвы, крыты саломай, дзе жылі так патрэбныя ў гаспадарцы работнікі.

Філіпавы пабудавалі ў Дворышчы вадзяны каменны турбінны млын, двухпавярховы, прамавугольны, складзена з валуноў на вапнавым растворы, толькі франтоны выкладзены з цэглы, падмурак абапіраўся на дубовыя палі.

Дах двухсхільны, чарапічны. Частку першага паверха займаў тартак (лесапільня) з цыркуляркаю, унізе дынама давала святло. Над уваходам у млын на сцяне вісела жалезная табліца "Застрахавана ў 1888 г. Паўночным таварыствам".

Гойдзь Лілея выдала фатакартку свайго прадзеда Гойдзя Марціна і ўспаміны бацькі Аляксандра, як Марцін удзельнічаў у будоўлі млына.



Па палетках збіралі даволі цяжкія валуны і па некалькі мужчын грузілі на калёсы. Падвёзшы і скінуўшы каля фундамента, даволі цяжка абчэсвалі бакавіны і на растворы ўкладвалі ў сцяну.

Для дзейнасці млына была ўтворана цэлая водная сістэма. Плаціну, што на павароце насупраць Сушынскіх, перакрывалі заставай, назапашвалі ваду, далей па водным канале падавалі на вадасховішча перад млыном, і назапашаная вада круціла турбіну, а далей адпрацаваная вада ішла ў сажалку і вярталася ў Жыжму. Вінда (ліфт) на другі паверх падымала па 6-7 пудоў збожжа. Калі здымалі мяшкі, пад уласным цяжарам платформа апускалася ўніз.

У жорнах круціліся вялікія камяні, і са збожжа першы памол аддавалі на корм жывёле. Далей больш за ўсё малолі муку на хлеб і рабілі ячменныя крупы. Харошыя вальцы з-за мяжы з тонкімі сітамі выраблялі пытляваную муку для караваяў. Былі завозы збажыны па тыдні. Людзі сядзелі ў калейцы.

Па ўспамінах старажылаў хатка для мельнікаў была пабудавана толькі на пару гадоў пазней за млын і размяшчалася недалёка ад млына пры беразе рэчкі. Домік пабудаваны ў зрубнай тэхніцы. Падмурак - валуны, выкладзеныя па перыметры хаткі, на якія пакладзены першы вянок бярвення. Двухсхільны дах пакрыты саломаю з усечаным франтонам.

P.S. Там больш за пяць дзесяткаў гадоў у старэнькай хаце жыў мельнік Тумілевіч Станіслаў з жонкаю Зосяю і сынам Стасем.

У 1970 годзе, калі мяне, Віктара Кудлу, прыслалі галоўным заатэхнікам саўгаса, на кватэру давялося



пайсці да іх на два гады. І ўжо ў 80-ых Тумілевічам выдзелілі пабудаваны цагляны домік, а стогадовую трухлявую хатку мельнікаў давялося разабраць.

Пабудаваны свіран з сутарэннямі на каменным падмурку з сасновага дрэва, тады быў пакрыты саломай.



У ім дзверы на жалезных завесах і гаках з вісячымі замкамі. Унутры падлога і столяванне з дошак, па ўсёй даўжыні многа засекаў, дзе засыпалася ачышчанае арфаю збожжа. Пасярэдзіне, каля сцяны драўляная лесвіца вяла на гарышча, там рассыпалася зерне для сушкі. Там жа па канцах вокны са шклом. Пад свіранам склеп з каменнымі сценамі, некалькі акенцаў з жалезнымі кратамі. Там раскладвалі ў буртах бульбу, гародніну, а каб збератчы, уцяплялі саломай, дзверы замыкаліся навясным замком.

Дарэчы, пры дарозе меўся мураваны бровар са свіранам для вырабу гарэлкі. Пабудаваны ў іншыя гады з бутавага каменню і цэглы, страха з сасновага дрэва, пакрыты дранкаю, столяванне з дошак, падлога бітая з гліны. Быў у дзеянні, спачатку на саладоўні драджджавалі



жытнюю муку, а потым па ўстаноўленнай тэхналогіі рабілася гарэлка і разлівалася ў посуд. Для продажу гарэлкі ў маёнтку была мураваная карчма, прадавалі таксама і ў іншых пасёлках і мелі добрую выручку.

У 1896 годзе пабудаваны бульбяна-крухмальны завод, і ў тыя гады ён працаваў эффектыўна. Амберг павялічыў палеткі пад бульбу, вырошчваў добрыя сарты з граматным агранамічным доглядам. На пасадку буль-



бы (на фатакартцы) і копку наймаў сялян і добра плаціў, бо перапрацаваная бульба давала многа крухмалу, які прадаваўся па ўсёй Віленскай губерні. А для сваёй жывёлы быў добры корм з адходаў.



На сёння вядома не толькі дата будаўніцтва крухмальнага завода. На фатакартцы дварышчанскі старажыл Хутны Франц, які многа напісаў пра гісторыю роднай мясцовасці і знайшоў на сцяне дату пабудаванага ў 1898 годзе хлява для кароў і свіней з бутавага каменю, пакрытага саломай. Побач прыбудавана стайня з сасновага дрэва на каменным падмурку. Яна падзялялася на дзве паловы - у адной валы для ворыва, у другой - коні для баранавання.

На сенавал завозілі сена і сячкарняй з конным прывадам рэзалі сечку для жывёлы.

А ў вялікім драўляным гумне па тарпяках укладвалі снапы збожжа і восенню коннымі малатарнямі вымалочвалі зерне.

Веялі ручною арфаю некалькі парабкаў на змену. Частку зерня - насенне - перавозілі ў свіран, астатняе ішло на размол у млыне. Мякінку дабаўлялі пры варцы бульбы для свіней.

У маёнтку было таксама многа кароў, з малака ў сыравальні рабілі сыр, масла.

А з цяляціны і свініны ў будынку для ванджэння рабілі каўбасы, ялавічыну і захоўвалі ў лядоўні.

Некалькі сем'яў дварышчанскіях вяскоўцаў жылі ў курных хатах , дзе печы без коміна і дым ішоў пад сталяванне, далей выходзіў праз дзверы і вокны. У залежнасці ад маёмаснага становішча гаспадара падлога была гліняным токам, ці драўлянай з плах. Вокны былі невялікімі, і іх закрывалі засаўкай, бычыным пухіром, хтосьці прамасленай паперай і вельмі рэдка шклом.



На фатакартцы тых часоў зруб хаты з прызбаю. Побач прыбудоўка-дрывотня-паветка для дроў. Пры студні журавель калодзежны з каромыслам..

Фальварак заставаўся асноўным месцам працы для жыхароў навакольных вёсак. Людзі хадзілі да Аўгуста на працу на крухмальны завод, млын, бровар..

Пан Амберг актыўна вёў гаспадарку, быў багаты, сядзіба шыкоўная, не быў злы, не катаваў сялян, якія працавалі ў яго па 12-14 гадзін у дзень. Улетку жанчынам ён плаціў пудам жыта і 0,5 кг сметанковага масла. Узімку плаціў грашыма. Старажылы распавядалі, што пан вёў назіранні за палявымі работамі з верху жыллёвай вежы.

Згодна са сталыпінскай рэформай асноўныя магчымасці росту ўраджайнасці заключаліся ва ўжыванні замест састарэлага трохполля, развітых да 11-польных севазваротаў. Да збожжавых культур дадаваліся бульба, сеяныя травы, лён, цукровыя буракі. Павялічвалася колькасць аперацый па апрацоўцы зямлі, уводзіліся травасеянне, сартаванне насення, прымяненне штучных угнаенняў, павелічэнне колькасці жывёлы ў гаспадарках.

Панскія глебы былі супяшчаныя, камяністыя з гліністай падглебаю, адносна ўраджайныя пасевы ўсіх гатункаў азімага і яравога хлеба пры ўгнаенні. Звычайна на адну дзесяціну пад азімы пасеў вывозілася многа аднаконных фур гною. Праца не вельмі ахайная, не вельмі пахучая, але затое яна важней за многія і складае першую справу: "Гной кладзём густа, каб потым у свірне, не было пуста…"



На панскім двары меліся і выкарыстоўваліся ў гаспадарцы: вазы на жалезных восях, брычка з акаванымі коламі, па снезе сані простыя, дышловыя.

Закупілі жалезную сеялку прускага вырабу на двух кованых колах. Палявыя работы - баранаванне - выконвалі коньмі запрэжаная хамутамі з драўлянымі баронамі.

Плугі аднастайныя з жалезнымі сашнікамі, рыдлёўкі для саджання агароду, матычкі для адсыпкі бульбы жалезныя з драўлянымі ручкамі.

Але шмат транспартных работ выконвалі коньмі, запрэжанымі ў калёсы, а зімой у сані. Мужчынам даводзілася на забалочаных лугах касіць сенакос, а на жаночыя плечы клалася праца па зграбанні сена і ўкладцы ў копы.

А яшчэ абшарнік заняўся вырошчваннем льну. Прывучыў парабкаў праполваць лён, як толькі падрасце. Пад восень вырыванне льну, вымалат льнасем'я, расціл для вылежвання, падборка. Потым у сушні з печчу лён раскладвалі на жэрдках каля столі, напальвалі печ і высушвалі. Жанчыны ўвесь дзень на церніцах і трапашках церлі і трапалі лён, аддзялялася кастрыца ад валакна (на фатаграфіі).



Многа валакна прымянялася для вязання вяровак, так патрэбных у гаспадарцы і сялянам, і на продаж. Прадавалі льняное сем'е і валакно. Часткай пакулля (кудзеляй) уцяплялі свіран, падвал. Зімовымі днямі жанчыны пралі ніткі, на кроснах ткалі кужаль і зрэб'е, шылі дзяругі, мяшкі.

Асноўнымі напрамкамі сталыпінскай аграрнай рэформы былі: перадача надзельных зямель ва ўласнасць сялян, шырокае крэдытаванне сялян, скупка абшарніцкіх зямель для перапродажу сялянам на льготных умовах, землеўпарадкаванне, якое дазваляла аптымізаваць сялянскую гаспадарку за кошт ліквідацыі цераспалосіцы.

Дзякуючы сталыпінскай аграрнай рэформе былі створаны хутары і вёскі, якія пераважна змаглі наладзіць эффектыўную працу і з'яўляліся ўзорам гаспадарання.

Такім мерапрыемствам была перадача ва ўласнасць сялян казённых зямель, а эканамічнымі метадамі прымушалі абшарнікаў прадаваць сваю зямлю сялянам.

**Піута Андрэй** запісаў: *"У тыя гады перасяліліся многія сем'і на Дварышчанскі край з розных месц Лідчыны на новыя выдзеленыя землі, і вёскі атрымалі назвы Гімбуты казённыя і Гімбуты панскія.*




*Тады раскуплялі панскую зямлю каля ракі Жыжмы ў Амберга: Рубелі, Вільбікі з Доўкняў, Міхайловічы з Татарцаў, Марцінкевічы са Сцеркава, Капачэлі, Борысы, Касцюшкі, Рубялі, Здончыкі з розных вёсак.*

*Дзяркач з-пад Ліды выкупіў 20 дзесяцін,стаў вельмі багатым, выіграў у Амерыцы вялікую суму.*

*Каля лесу да хутара Вароніхі казна (дзяржава) выдзяляла зямлю за банкаўскі крэдыт, і стала вёска Гімбуты казённыя, дзе жылі Ачкевічы, Федаровічы, Мужчынкі, Жылюкі, Вінчы з Белькавіч, Варона з Такароў - прыйшоў у прымы, Хадыкі з Няцечы, Піуты з Раманоў, Яскелі з Бянеяк".*

Лясы знаходзіліся ў распараджэнні абшарніка. На пабудову і папраўку будынкаў пан са сваіх лясоў адпускаў сялянам бярвенні і жэрдкі па меры патрэбы.

Усім хутаранам давялося актыўна засяліцца на выдзеленай зямлі.

Тыя, якія прыехалі, забраўшы бацькоў, перавезлі іхнія хаты і адрамантавалі, размясцілі хлявы, хтосьці свірны, ці гумны і адрыны.

Многія новыя хаты на хутарах пабудавалі значна палепшанай планіроўкі: сцены вянкамі з абчэсаных бярвенняў, накрывалі кулявой саломай і некаторыя дранкаю, вокны майстравалі з дубэльтамі, у хаце - спальня, кухня, сені, камора. На ацяпленне хаты ўзімку сяляне секлі хмызнякі, якія раслі ў межах паселішчаў. Бацька, Піута Ян (Ялька) Усцінавіч, быў праваслаўным. У маладосці жыў з бацькамі ў Раманах, закончыў некалькі класаў у Тракелях. Акрамя ўдзелу ў бацькоўскай гаспадарцы быў краўцом, шыў кажухі, бурносы, марынаркі, галіфэ для сябе і вяскоўцам, а таксама працаўнікам Амберга.

Звярнуўшыся да кіраўніцтва Лідскага павета праз крэдытаванне атрымаў зямельку. Запрасіў мясцовых будаўнікоў, і адбудавалі даміну, больш прывабную, на



каменным фундаменце з ганкам, ашалёваным да сярэдзіны сцяны, з чатырма стойкамі і дзвюма лаўкамі.

Вось у гэтай хаце, пабудаванай яшчэ бацькам Янам Піутам, Андрэй (выдаў гэтую фатаграфію) пражыў польскі час, першых саветаў, акупацыю немцамі, аднаасобніцтва і калектывізацыю. Дзесьці ў 50-х гадах жаніўся з Цэзарыяй і перайшоў у прымы, а закінутая хаціна яшчэ доўга трымалася…

У балоцістай даліне каля карчмы, пан Аўгуст задзейнічаў многа людзей, высеклі кусты, уручную рыдлёўкамі грузілі торф і коньмі на падводах вывозілі на палеткі, за працу добра зараблялі. Праз некалікі месяцаў ачысцілі і павялічылі сажалку, дзе потым развялася рыба.



**Альшэўскі Франак** расказваў, як яго дзяды і бацькі жылі на выдзеленым хутары з некалькімі дзесянцінамі ворнай зямлі і выкапанай у даліне сажалкай (на фатакартцы).

*"Хату пабудавалі з выдзеленых Амбергам лесаматэрыялаў.*



*За гэта па тры дні на тыдзень працавалі ў пана на розных работах, летам пасвілі кароў галандскай пароды, потым у зімнія месяцы кармілі ў кароўніку. У святлейшай і чысцейшай хаце жылі вялікай сям'ёй.*

*Падзялілі яе папалам, разгарадзілі шафай і сцяной з дошак і лёгкімі дзвярыма. У спальні стаялі два ложкі з самаробнымі матрацамі. Ацяплялі зімой печкаю, змайстраванай з кафлі. Пакой-залу абставілі доўгімі лавамі, каля стала, паставілі зэдлікі. Для сваёй гаспадаркі мелі каня і жарэбчыка, некалькі кароў, свіней і нават авечак".*

P.S. Як камбайнёру, Франку і жонцы-бухгалтару Яніне з сям'ёй выдзелілі кватэру. Хатка захавалася і цяпер стаіць.

**Расказвае Мікавоз Алёна**: *"Наша вёска Эйтуны ўзнікла даўно. Як і ўсюды, людзі адбывалі паншчыну: апрацоўвалі панскую зямлю, збіралі ўраджай, малацілі збожжа і звозілі яго ў панскія свірны. Паны жорстка каралі людзей за розныя нязначныя правіннасці. Напрыклад, калі селянін вазіў гной, ён не меў права сесці на воз. А калі ж ён сядзеў, то па загадзе пана яго білі бізунамі. Гной скідваўся з вазоў, сахарамі раскідваўся па палі. "Гной адвязём, тады і хлеб прывязём".*



*Людзі працавалі тры дні на сябе і тры дні на пана. На работу да пана тады ўжо наймаліся беззямельныя або малазямельныя людзі. Пан наймаў сабе слуг і работнікаў і плаціў ім за работу збожжам або часткова грашыма.*

*У некаторых дамавітых вяскоўцаў хатка вычышчана, стараецца здавацца ахайнаю, сцены патынкованы, вокны шкляныя, вельмі падобныя, вонкавым выглядам так, як на фатакартцы.*

*Некаторыя жыхары нашай вёскі мелі хаты, вядома, з бярвення, ад часу пачарнелыя. Большая частка хат крыта тым матэрыялам, на які ў вёсках і кошту няма. Матэрыял гэты - кулі азімай саломы пасля абмалочанага хлеба, прывязаныя лазовымі пруткамі да вельмі тонкіх жардзінак. Іншыя гатункі сюды не падыходзяць.Таму што аўсяная або яравая салома тонкая, дробна пасечаная ў сечку ідзе на корм быдлу.*

*Жытняя салома служыць страхой многа год, пакуль не рацягаюць яе вятры. Яна служыць гаспадару свайму, прыкрываючы яго ўбоства і адлюстроўваючы яго галечу, цэлыя дзесяткі гадоў. З-за саломы селяніну не трэба было купляць ні бляхі, якая ў той час вельмі дарагая, ні дошак, ні дранкі.*

*У самых бедных сялян курныя хаціны і хлявы з сасновага дрэва сышлі ў зямлю. Стрэхі запушчаныя, абламаныя і неахайныя, месцамі спаўзлі, месцамі праваліліся, асабліва крытыя так званаю дранню і аполкамі, коміны драўляныя, абгрызеныя і абкурадымленыя, акенцы пакрывіліся, дзверы на баку і, адчыненыя вонкі.*

*На вугле хлява прытулена драўляная барана і конская саха з дышлам. Для знаёмства стаяць гаспадар з жонкаю,сынам і дочкаю ў святочным адзенні…*

*У далёкія годы былі гаспадаркі дробнаўласніцкія, надзелы кожнай гаспадаркі аддзяляліся межамі. Напрыклад, у майго прадзядулі ў сям'і было 9 душ, а зямельны надзел быў прыблізна 6 дзесяцін. Цягнуліся вузенькія палоскі ад вёскі аж да самых Тракеляў.*

*Зямлю тады араў іхні сын сахою на добрым кані. Так жылі і пацавалі многія аднавяскоўцы".*

Вёскі ўзнікалі пры панскіх дварах, калі колькасць работнікаў, патрэбных для апрацоўкі зямель двара, пачынала перавышаць колькасць, якую можна было

непасрэдна размясціць у двары. Звычайна гэтыя вёскі былі невялікія. Так, вёска Дворышча налічвала ўсяго дзесятак двароў і размяшчалася за паўвярсты ад двара. Адносілася да Жырмунскай воласці Лідскага павета.

Хлебробства тады вялося простае, збожжавае, трохпольнае. Сяляне звычайна высейвалі загоны пшаніцы яравой, жыта, ячменю, аўсу, грэчкі, гароху, бульбы. Сярэдні штогадовы ўраджай з сялянскіх палёў бываў меншы супраць панскага таму, што яны не мелі столькі гною ад сваёй жывёлы для ўгнаення зямлі. У большасці сялян поле апрацоўвалася звычайнай сахою двумаваламі, а драўлянай бараной баранаваў адзін конь.

Некаторыя вяскоўцы вырошчывалі буракі, капусту, рэпу, моркву і цыбулю. Акрамя хлебных і мясных прадуктаў прадавалі дробнымі партыямі гародніну і бульбу, палатно хатняга вырабу і іншую гаспадарчую дробязь на рынках Вільні, Ліды і акруговых мястэчак Ліпнішкі і Веранова.



Вось пры дапамозе такіх вагаў на рынку прадавалі сяляне свае прадукты, а ў хаце гаспадыні важылі бязменамі.



На фатакартцы захаваны экспанат будучага "Музея рарытэтнай тэхнікі і сялянскага быту".

Вагі выраблены ў1914 годзе з дошак,з жалезнымі ланцугамі, да іх гіры чыгунныя рознай вагі.

На той час асноўнымі адзінкамі для вызначэння вагі былі фунт і пуд.



Пуд = 40 фунтаў = 16,38 кг.
Фунт = 409,512 г.
Пералік сучасных мер вагі на старадаўнія.
Тона = 61 пуд = 2 440 фунтаў.
Цэнтнер = 6 пудоў 4 фунты = 244 фунты.
Кілаграм = 2,44 фунта.
.

Аўгуст Амберг у нядзелю (13 чэрвеня 1914 года) быў са сваім эканомам у Лідзе на рынку. Яго падсобнікі прадавалі розныя панскія прадукты.Тут жа сярод пакупнікоў вылучыліся жонкі вайскоўцаў, якія разнеслі страшную вестку: "Да нас прыйдзе вайна". Аб гэтым ім расказалі іхнія мужы з 172-га пяхотнага палка, вярнуўшыся з летніх лагераў. Адразу часткі палка прыступілі да аховы чыгункі: усе шляхі, масты, вадакачкі, будынкі і ўстановы былі абстаўлены ўзброенымі салдатамі.




Да позняй ночы горад Ліда не спаў, людзі зразумелі, што вайна непазбежная. Конная паліцыя за ноч развезла па валасцях мабілізацыйныя павесткі. Ліда і ўсе паселішчы ў павеце былі ўпрыгожаны каляровымі мабілізацыйнымі плакатамі.

З аддаленых куткоў Лідскага павета ўсімі - дарогамі і шляхамі, вазамі і пешшу шуравалі сотні мабілізаваных мужыкоў разам з коньмі.

Рэгістрацыя мабілізаваных адбывалася ў гарадскім парку па вуліцы Каменскай. Адначасова на Выгане каля праваслаўных могілак і на навагрудскай дарозе пры каталіцкіх могілках адбываўся адбор коней. Большасць ахвотна збывала іх за добрую цану, але было шмат і такіх, што плакалі, разлучаючыся са сваімі любімцамі. Годных у армію мужчын з пункта перагналі ў замак,

дзе іх размяркоўвалі падафіцэры каменданта па родах войск, а адтуль пешшу адпраўлялі ў казармы Лідскага палка. У Лідскі 172-гі пяхотны полк у ліпені 1914 года было прызвана каля дзвюх тысяч рэзервістаў з Лідскага павета.

З народнага апалчэння старэйшага кантынгенту была сфарміравана 385 Віленская пешая дружына. Тады ж была сфарміравана 66 конная сотня. Віленская дружына апраўлена ў Вільню, конная сотня - у Эйшышкі.



24 ліпеня 172-гі пяхотны Лідскі полк пад музыку пагрузіўся ў эшалоны і адбыў на вайну. У жніўні полк быў разгромлены ва Усходняй Прусіі, пасля папаўнення ў верасні - лістападзе 1914 г. удзельнічаў у Варшаўска-Івангародскай аперацыі.

На вакзале былі адменены ўсе пасажырскія цягнікі, што праходзілі цераз Ліду.

Усе гарадскія пякарні былі задзейнічаны пад выпечку хлеба для вайскоўцаў.

Выкладчыкі лідскіх школ арганізавалі патрыятычную маніфестацыю - хадзілі па горадзе з царскім партрэтам і трохколернымі сцягамі і спявалі "Боже, царя храни" і "Славься, славься, наш русский царь".

Па ўказанні зверху ў касцёле, царкве і сінагозе адбываліся малебны аб змаганні і перамозе, збіраліся грашовыя ахвяраванні на вядзенне вайны.

Абшарнікі ў сувязі з пачаткам вайны падпісалі ў Вільні адрас з прысягаю імператару. Уладальнікі маёнткаў і фальваркаў па магчымасці не выганялі з жылых памяшканняў жонак і дзяцей парабкаў, больш таго, у надзеі на хуткі канец вайны выплачвалі некаторы час жалаванне і частку заробку, выдаваную натурай.

З верасня 1914 г. у кожнай воласці Лідскага павета праводзілася абследаванне для выдачы дапамогі сем'ям, чые мужчыны былі мабілізаваны ў дзейную армію. Прыкладам дакумента, па якім вызначалася неабходнасць у выдачы дапамогі, з'яўляецца дадзены акт.

У Лідскай воласці дапамогі былі прызначаны сем'ям 87 салдат *(НІАБ у Гродне. С. 669. оп. 5. с. 73)*. Выбраны сем'і Дварышчанскага краю:

Адасюк Васіль Данілаў, селянін в. Меляшы;
Сарока Восіп Міронаў, в.Меляшы;
Бічэль Іван Іосіфавіч,1895 г.н., в. Левашы;
Бічэль Адам Антонаў, в. Левашы;
Зубрыцкі Баляслаў Пятровіч, в. Дубраўка;
Шпенглер Андрэй Данілавіч, в. Дубраўка;
Вінча Канстанцін Марцінавіч, в. Цвермы;
Марцэвіч Браніслаў Іванавіч, в. Плясавічы;
Бебка Станіслаў Антонаў, в. Плясавічы;
Хадыка Сцяпан Вікенцьевіч, в. Плясавічы;
Войшніс Іван Казіміраў, в. Князікоўцы;
Барысевіч Мікалай Юр'еў, в. Малыя Князікоўцы;
Круповіч Адольф Адамавіч, в. Колышкі;
Парфеньчык Міхаіл Міхайлавіч, в. Споркаўшчына;
Тэжык Станіслаў Францавіч, в. Верх-Ліда.

У гісторыі запісана: Першая Сусветная вайна пачалася 1 жніўня 1914 года далёка ад Беларусі. Расійская імперыя ўступіла ў вайну дрэнна падрыхтаванай і паступова страчвала сваю ваенную магутнасць. Нямецкая армія наступала на Усходнім фронце. Уцягнутыя ў вайну беларускія тэрыторыі спаўна сербанулі горыч разбурэнняў, голаду, сталі арэнай кровапралітных баёў, ахвярай ад нямецкай акупацыі і разам з тым прыкладам гераізму і мужнасці вайскоўцаў.

Так, у лютым, у выніку нямецкага наступу ў Польшчы ў Аўгустоўскіх лясах недалёка ад Гародні ў акружэнне трапіў XX корпус генерала Булгакава. Рускія паспрабавалі прарвацца да фартоў Гарадзенскай цвердзі, але немцы кінулі войскі наперад, каб адрэзаць адыход. 15 лютага нямецкія раз'езды былі ўпершыню заўважаны каля Сапоцкіна (вёска прыкладна за 30 км на поўнач ад Гародні).

17 лютага горад бамбіла нямецкая авіяцыя, а ў раёне Сапоцкіна, разгарнуліся жорсткія баі.

На працягу некалькіх дзён немцы спрабавалі прарвацца да Нёмана і абыйсці цвердзь. Але сіл у іх не хапіла, і да 6 сакавіка яны былі вымушаны адысці назад у Польшчу.

Потым некалькі месяцаў баявых дзеянняў на нашай тэрыторыі не было.

Па-сапраўднаму маштабныя баявыя дзеянні на беларускай зямлі пачаліся летам 1915 года, і ўжо вайна прыйшла сур'ёзна і надоўга.

Расійскім камандаваннем ўжывалася тактыка выпаленай зямлі. Стараліся не пакідаць ворагу нічога, за што ён мог зачапіцца. Вывозілі абсталяванне, быдла, маёмасць, руйнавалі заводы, фабрыкі, падрывалі масты.

Перад адступленнем ўзарвалі прычал для дырыжабляў у Лідзе, і спалілі лідскі чыгуначны вакзал. Чыгуначнае палатно часткай было падарвана, шпалы і рэйкі выдаленыя.

Масты цераз Нёман і астатнія значныя рэкі былі ўзарваны дашчэнту. Молат вайны патрабаваў усё новых ахвяр - амаль кожны месяц з лідскіх вёсак забіралі навабранцаў. За год і 3 месяцы з Лідскага павета былі прызваны больш за 6 тысяч мужчын.

Падчас мабілізацый на ваенную службу былі прызваныя і ўраджэнцы Дварышчанскага краю. Па

рознаму склаўся іх ваенны лёс, але даўшы клятву "на вернасць цару і Айчыне", яны гэтую клятву не парушылі.

Сабраны матэрыял сведчыць, што нашы землякі, мабілізаваныя на фронт, у поўнай меры адчулі нягоды вайны, але заставаліся вернымі вайсковай прысязе.

Іх лёсы поўныя драматызму: хтосьці з іх загінуў на палях бітваў, хтосьці быў паранены, кагосьці спасціг лёс палону, і толькі некаторыя вярнуліся на радзіму.

Калі пачалася вайна **Бічэля Яна Іосіфавіча** прызвалі ў царскаю армію. (Нарадзіўся ў вёсцы Левашы ў 1895 годзе ў сям'і бедных бацькоў, памёр ён у 1970 годзе.) Вучыцца Івану давялося мала, ужо з малаленства трэба было працаваць на цяжкай бацькоўскай гаспадарцы.

Вось што распавёў Ян Іосіфавіч са сваім фотаальбомам нашым краязнаўцам і што было запісана ў Музеі "Зямля і людзі": *"Спачатку служба праходзіла ў Саратаве, дзе навучылі вайсковым абавязкам. Калі па Расіі пайшла Грамадзянская вайна - давялося выконваць каманды бальшавікоў. З баямі перадыслакаваліся да горада Старая Руса Наўгародскай губерні. Утварыліся рэвалюцыйныя вайсковыя камітэты. На маю долю выпала шчасце трымаць удзел у коннай выведцы, кіраваць конным раз'ездам. У выніку дакладных дадзеных, да вечара наступнага дня была атрымана перамога над белагвардзейцамі. Контррэвалюцыянеры былі разгромлены".*

*"Пайшла Кастрычніцкая рэвалюцыя ,перавялі ў Петраград. Праводзілі розныя рэвалюцыйныя дзеянні. На мітынгу Уладзімір Ленін горача выказаўся пра будучае новае жыццё ў Расіі, падзякаваў вайскоўцам за актыўныя дзеянні .*

*Успамінаю, як з салдатамі мы падышлі да трыбуны і прывіталіся з Уладзімірам Ільічом за руку. Там у Петраградзе яшчэ многа давялося наводзіць парадак".*

Расказала **Жук Алёна** з в. Эйтуны: *"На вайне з немцамі ўдзельнічалі эйтунцы. Многія загінулі - гэта: Вайтовіч Канстанцін Міхайлавіч, Баярун Міхаіл Міхайлавіч. У войска забралі чатырох сыноў Фурмана Міхаіла і тры родныя браты Уладзімір, Вікенцій і Адам дзесьці на вайне загінулі. Чацвёрты іхні брат Іосіф таксама прымаў удзел у гэтай вайне, але здолеў вярнуцца.*

*Удзельнічаў у гэтай вайне і Мікавоз Аляксандр Казіміравіч. Быў мабілізаваны на вайну ў 1914 годзе, прайшоў падрыхтоўку ў артылерыйскім батальёне. Непасрэдны ўдзел у баявых дзеяннях прымаў вясной і летам 1915 года пад Варшавай, калі руская армія беспаспяхова спрабавала стрымаць маштабнае наступленне германскіх войскаў. А ў верасні таго ж года дывізіён заняў пазіцыі на рацэ Гаўя, за дзесятак кіламетраў ад роднай вёскі. Аляксандр Казіміравіч успамінаў, як аднойчы яму нават удалося перабрацца і наведаць родных, застаўшыся незаўважаным нямецкай аховай.*



*У першы месяц вайны прапаў без вестак малодшы унтэр-афіцэр Вайтовіч Іосіф Купрыянавіч родам з вёскі Кабыльнікі.*

*4 сакавіка 1915 г. прапаў без вестак радавы Лукаш Віктар".*

Разам з яшчэ некалькімі аднавяскоўцамі ў 1914 годзе былі мабілізаваны ў дзейную царскую армію браты Пакшысы. Спачатку з Ліды навабранцы былі накіраваны пад Варшаву, дзе прайшлі вайсковую падрыхтоўку, а затым былі адпраўлены на перадавую.

У адным з баёў Адась атрымаў сур'ёзнае раненне і некалькі месяцаў знаходзіўся на лячэнні ў шпіталі.



***На фатаграфіі Пакшысы з Мяргінцаў: Людвік - злева, Адась - справа***

Зноў быў накіраваны на фронт. Удзельнічаў у баях у Латвіі, Румыніі. Пасля заканчэння вайны вярнуліся на радзіму і вялі свае гаспадпркі.

Удзельнікам вайны быў Якаў Іванавіч Жынко з вёскі Морына, што каля Іўя. Нарадзіўся ў 1895 годзе ў шматдзетнай сялянскай сям'і. Скончыў 4 класы Морынскай прыходскай школы, затым Уселюбскае двухкласнае вучылішча. Некаторы час Якаў нават быў на пасадзе настаўніка ў царкоўнапрыходскай школе. У весну 1915 года быў прызваны ў царскую армію. Спачатку Якаў Жынко служыў у 174-ым пяхотным батальёне, а затым быў камандзіраваны ў Гатчынскую школу прапаршчыкаў. Атрымаўшы 12 сакавіка 1916 года званне прапаршчыка Якаў Жынко нёс службу на пасадзе малодшага афіцэра ў 2-ім запасным батальёне Кранштадцкага палка. У рэвалюцыйным 1917 годзе далучыўся да бальшавікоў.

P.S. Яго нашчадкі жылі ў Дворышчы. Іван працаваў інжынерам, а сын яго Жынко Дзмітрый закончыў школу, акадэмію і цяпер - першы намеснік начальніка РАУС.

Адной з праблем, створаных вайной, стала бежанства. З-за няўдач расійскага войска неабходнасць эвакуацыі становіцца відавочнай, і ўлады на ўсіх узроўнях пачынаюць рыхтаваць да яе мясцовае насельніцтва, якое, на думку дзяржаўнага кіраўніцтва, не павінна было заставацца на захопленай ворагам тэрыторыі. За яе актыўна агітавалі праваслаўныя святары, а таксама чуткі пра зверствы немцаў. Палохалі, што немцы, калі прыйдуць, будуць здзекавацца і рэзаць цыцкі. Уцякачам улады афармлялі акты на пакінутую маёмасць, распіскі з абяцаннем людзям усё пакрыць пасля заканчэння вайны.

P.S. Але калі наступілі рэвалюцыйныя часы, закончылся вайна і бежанцы вярнуліся на родныя мясціны, гэтыя абяцанні ўжо ніхто не мог выканаць. Аб гэтым мною пададзена ва ўспамінах бацькі-бежанца Вані ў "Лідскім летапісцы" № 70,71.

Фронт набліжаўся, рускія адступалі. Людзі не ведалі, што рабіць: ці бегчы ў Расію, ці хавацца ў лясах і балотах, пакуль фронт не пройдзе.

Ксяндзы выказвалі сваім вернікам, што палякам, мажліва, няма чаго баяцца немцаў, бо яны ваююць з рускімі, а не з палякамі, і раілі не пакідаць сваіх дамоў і радзімы. Праваслаўныя святары раілі ўсім праваслаўным уцякаць у глыб Расіі, бо рускім, як яны казалі, пагражаюць зверствы з боку немцаў і нават смерць. І многія беларусы выехалі, а палякі засталіся на месцы.

Пад націскам наступаючых кайзераўскіх войскаў тысячы людзей з заходніх раёнаў здымаліся са сваіх месцаў і рухаліся на ўсход. Ужо з першых дзён вайны людзі ўцякалі, пакідалі свае гаспадаркі, першапачаткова рассяляліся ў прыфрантавой мясцовасці, разлічваючы ў хуткім часе вярнуцца назад.

Першыя ўцекачы з'явіліся ў 1914 годзе, але асабліва масавая плынь бежанцаў назіралася з лета 1915 года..

Паводле афіцыйных, далёка не поўных дадзеных, да пачатку 1917 года ў Расіі было зарэгістравана 750 680 бежанцаў з Гарадзенскай губерні.

*Божа мой ! Калі паўстане ў свеце згода тая?*
*Лад ці скора к людзям гляне, змоўкне бура злая?*
*Загарэўся, задыміўся свет вайной і далей.*
*Дым пажараў пакаціўся агнявістай хваляй.*
*Гінуць людзі, памарнелі скарбы іх і сёлы,*
*Ад крыві пачырванелі і горы, і долы…*
*Божа мой! Калі ўціхне гэта трасяніна?*
*Блескам сонца калі ўспыхне згоднасці часіна?*

***Якуб Колас*.**

У асноўным уцекачы пачалі перамяшчацца адмысловымі бежанскімі абозамі. Гэта калона фурманак, крытых брызентам і гружаных найбольш каштоўнай маёмасцю. Унутры ехалі дзеці і старыя, астатнія члены сям'і ішлі побач, часам гонячы жывёлу.



Становішча гэтых людзей было надзвычай цяжкім. Яны ператварыліся ў масу жабракоў, галодных і бяздомных, пазбаўленых сродкаў існавання. Часта ўцекачы гінулі ад холаду, голаду, эпідэмій…

Усе бедствы, выкліканыя пачаткам вайны, выпрабавала на сабе і Лідчына.

Пры адступленні царская армія выконвала тактыку "выпаленай зямлі", падрывала заводы, спальвала жылыя дамы, службовыя будынкі і некаторыя вёскі.

У чэрвені 1915 г. з многіх воласцей Лідскага павета многія праваслаўныя сяляне сабраліся і паехалі. Так з праваслаўных вёсак Сліжы, Меляшы Дварышчанскага краю выехалі дзесяткі вяскоўцаў: Ігнатовічы, Васілючкі, Шамрэі, Шавелі, Паляшукі, Сарокі.

А каталіцкія сяляне засталіся. У гэтым пераканаў сваіх вернікаў тракельскі ксёндз Ян Янкевіч, ён казаў, што немцы - таксама каталікі і, мажліва, гора мясцовым каталікам не прынясуць.

**Ігнатовіч Уладзімір** запісаў:

*"Разам з нашымі дзядамі паехала яшчэ пяць сем'яў.*

*Каля Менска яны прадалі каней з фурманкамі, загрузіліся на цягнік і паехалі ў невядомы свет. На месца дабраліся аж пад восень. Высадзіліся на станцыі чыгуначнай. Па іх прыехалі сяляне на падводах. Адразу ж у сяле атрымалі жыллё. Жылі ў асобным доме ў гаспадара. Хто хацеў, ішоў працаваць..*

*Багата там жылі расіяне. Гаспадаркі яны мелі добрыя, зямля без угнаенняў радзіла добры ураджай, не жыта сеялі, а пшаніцу. Гаспадыня пякла пшанічныя булкі. Варылі часта рускую гарбату ў самавары і пілі "ўпрыкуску". Гарэлкі яны не пілі.*

*Там так не было, як цяпер у нас стала. Тады п'яных не бачылі.*

*Тамтэйшыя людзі мелі багатыя гаспадаркі: па некалькі коней, кароваў, свінчоў і дзесяткі курэй. Кожны гаспадар зерне захоўваў у высокіх свіранах, бо зімою снег засыпаў усе платы і нізкія будынкі".*

Насельніцтва прыфрантавой паласы выконвала цяжкія ваенныя работы: рамонт дарог, будаўніцтва мастоў, зямельных абарончых умацаванняў.

Стратэгічным ваенным аб'ектам на Лідчыне стала адрамантаваная чыгуначная станцыя. На яе днём і ноччу прыбывалі розныя грузы з Германіі, і далей ішла перавозка ваенных грузаў да лініі фронту. У Германскую імперыю вывозіліся матэрыяльныя каштоўнасці, абсталяванне, быдла, сельгаспрадукцыя, розная сыравіна. Бясследна зніклі карціны, старажытныя абразы, бібліятэкі рэдкіх кніг і іншыя каштоўнасці.

У Лідзе былі сур'ёзныя праблемы з прадуктамі харчавання. Меў месца пастаянны дэфіцыт лекаў і мыла. У вёсках жыццё было лягчэй, і немцы не прызывалі на ваенную службу.

Лідскі павет быў уключаны ў склад бецырке Беласток-Гародня і падзелены на чатыры акругі: Лідскую, Радунскую, Васілішскую і Плантаўскую.



LIDA. Marktfrauen an ihren Verkaufsstellen

Дворышча трапіла пад кіраванне Kreisamt Lida.

20 верасня 1915 г. кайзераўская група войск ўвайшла ў фальварак Дворышча.





Такім чынам, больш чым на тры гады ў Дворышчы ўсталяваўся жорсткі рэжым акупацыі, які суправаджаўся незлічонымі рабаваннямі і гвалтам, што яшчэ больш пагаршала і без таго бядотнае становішча насельніцтва.

Уначы дзейнічала каменданцкая гадзіна. Усе людзі ва ўзросце ад 16 да 60 гадоў абавязаны былі плаціць грашовы падатак і падушную падаць у выглядзе прадуктаў харчавання, скураў, воўны, каляровых металаў.

Былі ўведзеныя падаткі на гандаль і на жывёл. Былі абмежаванні па продажы мяса, забаранялася паляваць і лавіць рыбу.

За парушэнні прадугледжваліся буйныя штрафы, пазбаўленне волі і нават смяротнае пакаранне, асабліва за захоўванне зброі.

Жыццё сялян пры акупацыі рэгламентавалася загадамі нямецкай адміністрацыі, якія вывешваліся ў спецыяльных месцах па вёсках.

Перамяшчэнне дазвалялася толькі пешшу ў межах паселішча, для перамяшчэння ў іншыя мясцовасці патрабаваўся спецыяльны дазвол.

У Дворышчы была арганізавана гаспадарка, якой кіраваў камендант, дзейнічаў паліцэйскі пост.

Нямецкае камандаванне спрабавала прышчапіць мясцовым сялянам прускі светапогляд і педантычнасць. Праводзіліся эксперыменты з рознымі збожжавымі культурамі, спрабавалі прымусіць засеяць кожную дзесяціну прыдатнай зямлі. Але, сутыкнуўшыся з нізкай



***На фотаздымку часоў кайзераўскай акупацыі намаляваны немцам будынак у Лідзе, у якім размясцілася нямецкая камендатура, а потым карчма***

ураджайнасцю і сярэднявечнай сялянскай культурай, расчараваліся.

Немцы - прыхільнікі і аматары піва. Лідскае піва немцы ацанілі як адно з лепшых на акупаванай тэрыторыі. Цяжка меркаваць пра аб'ёмы выпуску піва ў тыя гады, можна думаць, што яны былі не меншыя за раней дасягнутыя.

Аўгуст Амберг у асноўным выконваў распараджэнні каменданта, больш-менш працавалі ўсе прамысловыя заводы, актыўна вялі сельскую гаспадарку і вы-



раблялі розную прадукцыю, частка якой выдзялялася немцам. У кузні нямецкія вайскоўцы паводзілі сябе больш чым годна - арганізавалі рамонт сельскагаспадарчай тэхнікі і прыладаў працы.

Са снежня 1915 года ў Лідзе была праведзена ўсеагульная пашпартызацыя.

Кожнаму з жыхароў ва ўзросце больш за 10 гадоў выдавалі пашпарт- Personal-Ausweis.

Бланкі пашпартоў былі надрукаваны па-нямецку і па-беларуску (беларускай лацінкай). У пашпарт ўпісваліся прозвішча, імя, месца пражывання, месца нараджэння, узрост, грамадзянства, родная мова, вера, рост, асаблівыя прыкметы, уклейвалася фатаграфія, ставіўся адбітак указальнага пальца правай рукі. У выпадку смерці пашпарт праз тры дні павінен быць вернуты таму аддзелу, які яго выдаў. Так на лацінцы было надрукавана на 2-ой старонцы пашпарта.

Правілы абыходжання з пашпартам былі надзвычайнымі: пашпарт трэба заўсёды мець з сабою. У каго пашпарта не будзе, або хто будзе мець пашпарт чужы, фальшывы, падроблены ці наогул благі, таго караць будуць папраўчым астрогам да 10 гадоў. Пра страту пашпарта трэба ў 24 гадзіны паведаміць аддзел, які яго выдаў. Хто не паведаміць, таго караць турмой да 5 гадоў, або штрафам да 6000 марак.



У калекцыі пашпартоў Лідскага музея выявіліся тры пашпарты 1917 г., якія належалі сялянам вёскі Мігуны - Тарэнць Юліі, Грыгаровічу Станіславу і Грыгаровіч Еве. Сям'я Тарэнць у Мігунах мела надзельную зямлю, Грыгаровічы не мелі. Нумарацыя пашпартоў адлюстроўвае старшынства ў доме: мама (99204), дачка (99205), муж дачкі (99206). На кожнай з фатаграфій па 2



***Тарэнць Юлія***



***Грыгаровіч Ева***



***Грыгаровіч Станіслаў***


Deutsche Verwaltung
im Gebiet des Oberbefehlshabers Ost.

1. Kreis:
2. Paß Nr.
3. Wohnort
4. Vor- u. Zuname
5. Geburtsdatum
6. Geburtsort
Gemeinde
Kreis


Ortskommandantur:
Nr. 90096

Personal-Ausweis


7. Beruf:
8. Religion:

Personalbeschreibung.
Prymiety asoby.

1. Größe:
2. Auffällige Narben, Warzen, Leberflecke, Muttermale, Buckel, Verkrümmungen und Angabe ihrer Lage:
3. Abdruck des rechten Zeigefingers.


90096

круглыя штампы з надпісам: *“Рэйнгольд фон Шэфер-Баядэль, камандуючы групы”*.

Войскі асаблівага прызначэння "Шэфер" размяшчаліся на тэрыторыі Лідскага павета да кастрычніка 1917 г.

Асабліва ўзмоцнена акупанты разрабавалі лясныя багацці Лідчыны, якія сталі для Германіі добрай крыніцай даходаў, лесаматэрыялы пачалі карыстацца вялікім попытам не толькі ў Германіі, але і ў далёкім замежжы.

На нарыхтоўку драўніны зганяліся мясцовыя жыхары. Перавозкай драўніны займаліся сяляне з уласнымі коньмі, запрэжанымі ў вазы, а зімой - у сані, і драўніна вывозілася да Нёмана.

**Піута Андрэй (Гэнюсь) Іванавіч,** 1929 г. н. захаваў бацькі - Піуты Яна Усцінавіча - пашпарт, Personal-Ausweis № 90096 і запісаў:

*“Тата, Ян (Яська) Усцінавіч, уключыўся ў работу, наймаў 5-6 чалавек: закупляў лес, пілавалі, абчэсвалі і на вазах дастаўлялі да Нёмана, дзе была пабудавана прыстань: білі плыты, гердзялі плялі з лазовых дубцоў . У сухія гады вазілі праз броды і па рацэ сплаўлялі да Балтыйскага мора, у бухту порта Кёнігсберга. Адтуль тавар ішоў у замежныя краіны.*

*Шафар - Ян Піута - скупшчык і пераплаўшчык лесу, дарэчы, меў дазвол на пісталет, добра зарабіў і заехаўшы ў Амерыку, купіў зямлю, пабудаваў 2-х павярховы дом. Выклікаў сястру Марыю, выйшла замуж за Пашкевіча. Перадаў ім гаспадарку і сам вярнуўся прадаўжаць лесасплавы. А калі закончылася вайна і пры Польшчы давялося застацца на радзіме, актыўна вёў гаспадарку. Але захварэў і памёр у 1935 гадзе. Пахаваны на праваслаўных могілках у Князякоўцах. Пасля вайны прыязджалі да мяне сыны цёткі Марыі з Амерыкі, наведвалі магілку майго бацькі…”.*

Восенню 1915 года расейская армія спыніла адступленне і замацавалася на лініі фронту, якая на два з паловай гады падзяліла тадышнюю Беларусь з поўначы на поўдзень ад Браслаўскіх азёр да Палескіх балот ( на схеме).

За тры гады немцы ўмацавалі лінію фронту бетоннымі дотамі. Рэшткі гэтых умацаванняў - бункераў і земляных акопаў - захаваліся па беразе Нёмана, у ваколіцах вёсак Дакудава, Сялец, Збляны, Морына.

Паколькі ў вёсках размяшчаліся тылавыя ваенныя падраздзяленні нямецкіх салдат, мясцовых жыхароў пацяснілі, прымусіўшы пасяліцца па некалькі сем'яў у адну хату, а ў некаторых выпадках высялялі з родных



Схема 1. Восточный фронт к моменту мартовского наступления русских в 1916 году.

месцаў.

Некалькі сялян вёсак Казевічы, Чапунь былі гвалтоўна перaселены ў вёскі Мігуны, Дубраўка. Ураджэнка вёскі Пясевічы Алімпія Адамаўна Буяк успамінала, што яе сям'ю прытулілі ў вёсцы Філонаўцы пад Лідай, дзе яны і пражылі да сыходу кайзераўскіх войскаў.

29 верасня ў Лідзе размясціўся штаб 12-й нямецкай арміі, камандаваў генерал пяхоты Макс фон Фабек. 8-9 сакавіка 1916 г. у Обер-Осце быў праведзены перапіс людзей і жывёлы "для правільнага выкарыстання мясцовых рэсурсаў" камісіяй лічыльнікаў пад наглядам нямецкіх чыноўнікаў. Апытваліся рэлігійная і нацыянальная прыналежнасць.

Усяго ў Лідскім павеце налічылі 288,14 тысяч чалавек, у тым ліку палякаў 52,6 %, беларусаў 21,8%, габрэяў 20,8%, літоўцаў 1,6%. Большасць (62,3%) аднеслі сябе да католікаў.

31 траўня 1916 г. Ліду наведаў кайзер Вільгельм, і яго віталі на вакзале вышыхтаваныя ў 10 шэрагаў салдаты 49-й рэзервовай дывізіі генерала і літаратара Фрыдрыха фон Бернгардзі.

Кайзераўскія войскі прабылі ў Лідзе 3 гады і 3 месяцы, аднавілі вакзал, масты, у замку ладзілі на летні перыяд лазарэт. Правялі пашпартызацыю насельніцтва, перапіс жывёлы, стварылі адміністрацыю.

Вайна аказала ўплыў і на стан грамадска-палітычнага жыцця, пазіцыі розных палітычных партый, арганізацый, груповак. Манархічныя і ліберальныя партыі падтрымалі вайну і царскі ўрад, выступілі з заклікам "абароны Айчыны".

Правыя эсэры фактычна выступілі за падтрымку царскага ўрада пад заклікам "Спачатку перамога - потым рэвалюцыя". Леваэсэраўская плынь лічыла, што ваенныя паражэнні самадзяржаўя паскораць перамогу рускай рэвалюцыі і трэба працягваць рэвалюцыйную барацьбу. Бальшавікі высунулі лозунгі пераўтварэння імперыялістычнай вайны ў грамадзянскую, паражэння царскага ўрада. Правыя і ліберальныя партыі абвінавачвалі бальшавікоў у здрадніцтве і адсутнасці патрыятызму.

Германія, якая імкнулася ўзмацніць сваю ўладу на акупаванай тэрыторыі, распачала адпаведныя меры, каб, з аднаго боку, не даць магчымасці стварыць тут самастойную дзяржаву, а з другога - прадухіліць польскае дамінаванне на гэтых землях.

Беларускі нацыянальны рух значна ажывіўся.

На акупаванай тэрыторыі былі адкрыты беларускія школы, створаны выдавецтвы. Пачалося выданне на беларускай мове газет, часопісаў. У Вільні выходзіла газета "Гоман", дзейнічалі Беларускае таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны, "беларускі клуб", аб'яднанне "Золак", "Беларускае навуковае таварыства".

Беларускія прадстаўнікі з акупаваных немцамі тэрыторый прынялі ўдзел у працы арганізаваных нем-



***Кайзер Вільгельм на Лідскім вакзале***




цамі ж у Стакгольме і Лазане ў 1916 г. канферэнцый прыгнечаных народаў Расіі. Там яны прасілі дапамогі ў народаў Еўропы ў вызваленні беларускага народа з-пад расей-скай акупацыі. Мэта - стварэнне незалежнай беларускай дзяржавы.

У гэтым дакуменце падкрэслівалася, што літоўскія, беларускія, польскія і яўрэйскія арганізацыі прыступілі да ўтварэння канфедэрацыі на аснове незалежнасці Літвы і Беларусі як адзінай дзяржавы, якая забяспечыць усім нацыям усе правы ў межах дзяржавы. Але Германія не была зацікаўлена ў такой дзяржаве літоўцаў і беларусаў.

Тое, што Германія змагла зачапіцца на Усходнім фронце за перамогу, - выключная "заслуга" бальшавікоў. У выніку "дэмакратызацыі" расейская армія была імі цалкам развалена, дэмаралізавана. Пяхота выбірала сабе камандзіраў і галасавала: ісці ў атаку ці не ісці. Не было жадання ваяваць, адбывалася так званая" самадэмабілізацыя", а па-просту кажучы - павальнае дэзерцірства.

Да канца 1917 года рэсурсы Германіі былі практычна цалкам вычарпаны, яна стаяла на мяжы паразы, войскам не хапала самага неабходнага. Але пасля перамір'я, заключанага ў снежні ў вёсках пад Смаргонню, немцы забіралі ўсё, што ім было трэба, у рускіх салдат.

18 лютага 1918-га, калі скончыўся тэрмін двухмесячнага перамір'я, пунктуальныя немцы зрабілі пару папераджальных стрэлаў з гармат "у знак аднаўлення баявых дзеянняў", падняліся з акопаў, выйшлі на рускія пазіцыі і знайшлі іх "кінутымі і часткова запушчанымі".

Немцы занялі Менск і пайшлі далей. Падышоўшы да Пскова, яны разагналі разрозненыя атрады чырвонаармейцаў і 23 лютага адправілі тэлеграму Леніну з ультыматумам, далі дзень на роздум. Ленін паспешліва адправіў тэлеграму, што прымае ўсе нямецкія ўмовы. У выніку перамоваў 3 сакавіка 1918 года быў падпісаны Берасцейскі мір, тут і вайна скончылася.

Па дамове савецкі ўрад аддаваў немцам Заходнюю Беларусь, а таксама іншыя тэрыторыі, згаджаўся на выплату велічэзнай кантрыбуцыі.

Пасля таго, як перад заходнімі краінамі, Германія прызнала сваю капітуляцыю ў Першай Сусветнай вайне, канчаткова немцы сышлі з Беларусі толькі ў 1919 годзе.

А калі людзі даведаліся, што немцы рыхтуюцца да таго, каб пакінуць віленскую зямлю, у Лідзе зашумела, як у вуллі.

Прадстаўнікі кожнай нацыянальнасці імкнуліся стварыць нейкую сваю арганізацыю, якая б пасля адыходу немцаў мела найбольшы ўплыў на ход палітычных і нацыянальных спраў у горадзе.

Найбольш актыўнымі ў гэтай справе аказаліся палякі. Дзякуючы ініцыятыве шэрагу асоб, а таксама дзякуючы імкненню палякаў да вызвалення, у Лідзе былі створаны польскія арганізацыі. Матэрыяльную дапамогу аказвалі ўсе слаі насельніцтва польскай нацыянальнасці былога Лідскага павета.

Гэтая дапамога выражалася ў пастаўках грошай, бульбы, мукі на хлеб, фуражу для коней і нават коней для кавалерыі і абозу. Былі выпадкі, калі некаторыя вёскі доўга за свой кошт утрымлівалі цэлыя атрады.

Пасля кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года ў адпаведнасці з Дэкрэтам аб зямлі дваранства было пазбаўлена ўласнасці на зямлю.

Гэты дэкрэт дайшоў да абшарнікаў, і пан Аўгуст Амберг адправіў сям'ю ў Польшчу. Гертруда выйшла замуж за француза, Вернер ажаніўся з полькай, а сам Аўгуст застаўся некаторы час працаваць на млыне.

Падчас вайны драўляная частка палаца была спалена, захавалася толькі чатырохпавярховая вежа.

Першая Сусветная вайна скончылася 11 лістапада 1918 г., нямецкая дэлегацыя ў гэты дзень у Камп'енскім лесе падпісала перамір'е.

28 лістапада кайзер Вільгельм афіцыйна адрокся ад імператарскай кароны.

На тэрыторыі Беларусі за адыходзячымі немцамі прасоўвалася расейкая армія. Немцы дзейнічалі, як звычайна, больш арганізавана і выязджалі хутчэй, чым прыходзілі падраздзяленні Чырвонай Арміі.

Пачалася барацьба мясцовых нацыянальных і



палітычных арганізацый за ўладу. Была створана Рада Лідскай зямлі. Намеснікам прэзідэнта Рады ад Тракельскага профільнага камітэта быў абраны Браніслаў Шаптуноўскі (1887-1947).

Апошні нямецкі аддзел пакінуў Ліду 3 студзеня 1919 года. Бальшавікі з боку Іўя заехалі ў Дворышча і спыніліся ў фальварку.

6-га студзеня 1919 г. прыйшла Чырвоная Армія. Раду бальшавікі разагналі, Б. Шаптуноўскі схаваўся ў Дворышчы.

З пачаткам рэвалюцыных дзеянняў усё змянілася і для беларускіх бежанцаў. У сельскіх жыхароў чырвоныя забіралі жывёлу і зерне, цяжка было з ежай, надышла галадоўка. Пасля заканчэння вайны бежанцы ў большасці сваёй вырашылі вяртацца дадому. Праз некалькі тыдняў цяжкай дарогі перабіраліся цераз мяжу і дабраліся да роднай мясцовасці. Некалькі гадоў давялося рамантаваць свае закінутыя будынкі і парадкаваць зямельныя ўгоддзі…

*І хутка быццам ліхаманка*
*Расію стала калаціць.*
*Перавароты, грамадзянка -*
*аж немагчыма стала жыць.*
*Пачаў душыць Расію голад,*
*вялікі гвалт вакол стаяў.*
*У гарадах зімою холад*
*ды пошасць Бог яшчэ паслаў.*
*І беларус дамоў падаўся,*
*хто на падводзе, хто пяшком,*
*К мясцінам родным дабіраўся*
*з адзіным рэчавым мяшком.*
*Тым больш з'явілася нагода:*
*дамова Рыжская была.*
*Па той дамове перашкоды*
*Масква вяртанню іх зняла.*
*Старыя людзі гаварылі -*
*не ўсе вярнуліся дамоў.*
*Хто сам памёр, каго забілі,*
*а хто ў Расіі лёс знайшоў.*

Пасля захопу Ліды і наваколля бальшавікі прыступілі да арганізацыі кіраўніцтва і цывільнай улады на свой лад. Перш за ўсё рэарганізавалі мясцовы Рэвалюцыйны Камітэт, у якім галоўныя пасады занялі прыезджыя расіяне, а тутэйшыя бальшавікі Калясінскі і Сегень былі прызначаны на другарадныя пасады. Далей пачалі арганізоўваць службу бяспекі, судовую ўладу, турэмную службу і рэвалюцыйныя камітэты ў правінцыі.

Пасля накладання на "буржуазію" кантрыбуцыі гандаль у горадзе заглох. Не толькі больш багатыя гандляры, але і дробныя пахавалі тавар, баючыся рэквізіцыі. Нічога дзіўнага няма, што ўсе магазіны і склады, якія былі пазакрываныя яшчэ да прыходу чырвонаармейцаў, і цяпер не працавалі. Тавары, якіх не паспелі пахаваць, узялі "на учёт", таму гараджане адчувалі недахоп прадуктаў і прамтавараў першачарговага попыту. Харчаваліся пераважна з запасаў, якія засталіся і якія накуплялі пры немцах, да іх адыходу.

Што датычыць сельскай гаспадаркі, то зацікаўленасць бальшавіцкіх уладаў заключалася ў тым, каб як мага больш выбіць прадукцыі сельскай гаспадаркі, неабходнай для ўтрымання войска.

Незалежна ад гэтага на ўладальнікаў фальваркаў і маёнткаў накладваліся вялікія падаткі, тых, хто не мог заплаціць, садзілі ў турмы і прымянялі жорсткія рэпрэсіі. Адначасова пачалі шырокую агітацыю за савецкі лад.

На Лідчыне ўсталёўваецца на кароткі час -тры месяцы - савецкая ўлада з 5 студзеня 1919 года па 17 красавіка 1919 года, бо пачалася польска-расейская вайна: польскія войскі выганалі саветаў, але і самі пратрымаліся толькі крыху больш за год - да 17 ліпеня 1920 года, калі расейскія войскі зноў пагналі палякаў, але зноў не надоўга. Там, пад Варшавай, атрымалі паразу і 28 верасня "чырвоныя" пакінулі Лідскую зямлю. Раніцай з боку Жырмунаў увайшлі польскія войскі, і з 30 верасня 1920 года наш раён быў у складзе Польшчы да 17 верасня 1939 года.

Вялікія ператрусы і перасцярогі давялося перажыць нашым землякам у часы савецка-польскай вайны, якая пракацілася па паселішчах і насельніцтве Заходняй Беларусі.

***Ігнат Дварчанін***

*Вы ці ведаеце, людзі, што вайна зрабіла,*
*З нашым краем гаратлівым, што з ім учыніла.*
*Там, дзе жыў народ шчасліва, сёлы і мястэчкі*
*Цвілі, цветам красавалі, цяпер крыві там рэчкі.*
*Там, дзе нівы, збожжа, жыта душачку ласкалі -*
*Там пустэльня, розны быльнік,*
*там равы паўсталі.*
*А што сталася з людзямі, што з вякоў тут жылі, -*
*Эх, не знаць бы і не ведаць,*
*Людзі мае мілы.*

*Хлопцы ахраняць айчыну,*
*усе пайшлі - там тлеюць,*
*А дзяўчаты засталіся, ждуць іх і марнеюць.*
*Тут з пазіцыі на отдых маскалі прыходзяць*
*І, як кажуць, што "культуру" за сабой прыносяць.*
*Вось у гэтай то "культуры" розніца выходзіць.*
*Не хацеў бы яе ведаць, то сама прыходзіць…*

**Выкарыстаныя матэрыялы:**

1. Гістарычна-архіўныя даследаванні эксбазы "Ніва".
2. Памяць. Лідскі раён.
3. Багданаў У. Забытая вайна.
4. Платонаў Р. Пад пятой германскага кайзера.
5. Кучко М. Падзеі Першай сусветнай вайны.
6. Гашкевіч І. Віленская губерня - 1911 г.

*(Працяг у наступных нумарах.)*

***Юзаф Кардаш***

# Ліда праўдзівая*

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**На рынку і за яго межамі**

Вяртаемся з вуліцы 3 Мая на Сувальскую і рушым далей на поўнач. З правага боку, дзе калісьці быў рынак, і на ім стаяла ратуша, ляжаў толькі друз і відаць было толькі невялікае паглыбленне, дзе праходзіла вуліца Крывая. На гэтым рынку, сярод друзу, восенню 1941 года немцы павесілі мужчыну гадоў 28-30. Не скажу, хоць памятаю, які надпіс быў на дошцы страчанага Станіслава Ганевіча з мясцовасці Дзітрыкі з-за ракі Дзітвы. Паводле аповеду радавітага лідзяніна пана Рышарда Казубоўскага, на гэтай рынкавай плошчы таксама быў пакараны "чорны паліцыянт", які, верагодна, паходзіў з Германішак. Немцы трымалі яго ў падвале будынка па вуліцы Фалькоўскага, дзе размяшчалася жандармерыя.

На вуліцы Сувальскай, там, дзе заканчваўся рыначны пляц, амаль насупраць вуліцы Лідскай, стаяла манапольная крама. Пан Межва, які не меў абедзвюх далоняў, вельмі спрытна загортваў і раздаваў паўлітроўкі. Вуліца Лідская адходзіла на ўсход, за раку Лідзею ў раён Расляківі. Прылеглыя да яе ў паўднёвым кірунку беглі вуліцы-завулкі: Пераца, Камерцыйная і Шкляная, а перасякала яе вуліца Ясялевіча.

На вуліцы Шкляной, у глыб да ракі, жылі ў сваім доміку Філіпчыкі. Мілая і добразычлівая, але трагічная сям'я. У час вайны, калі я двойчы ўцякаў, я знаходзіў у гэтай хаце ўдзень прытулак, каб дачакацца змяркання і бяспечна выбрацца за горад. Вайна раскідала па свеце і часткова знішчыла гэтую АК-аўскую сям'ю з Навагрудскай акругі. Найстарэйшыя, Юзак з Міхалам, былі ў Вільні, і ў 1939 годзе НКВД збіралася вывезці іх у глыб Расіі. У 1943 г. Юзак апынуўся ў Асвенцыме, а потым за арганізацыю падполля ў лагеры быў перавезены ў Маўтхаўзен і замардаваны 6 лютага 1945 г. Казік быў вывезены ў Расію. Стах удзельнічаў у вераснёўскай кампаніі 1939 года, узнагароджаны медалямі і падзякамі. Уцёк з нямецкага палону. Арыштаваны НКВД 20 снежня 1944 года, трапіў у турму ў Гародні. Пасля цяжкіх следстваў у лютым 1945 г. Ваенным трыбуналам за дапамогу партызанам быў прыгавораны да смяротнай кары. Пасля адмены смяротнага пакарання прысуд яму быў заменены на 25 гадоў палітычных лагераў і 5 гадоў пазбаўлення грамадзянскіх правоў. 26 кастрычніка 1945 г. быў вызвалены, але 22 лістапада 1948 г. зноў арыштаваны ў Лідзе. Высланы 15.05.1949 г., "адбыў" некалькі лагераў, прайшоў 19 этапаў. У 1953 г. пасля паўстання ў Нарыльску быў высланы на Калыму, на залатыя капальні. 10 снежня 1954 года лагер быў заменены Стаху на вечную ссылку, але 21 кастрычніка 1955 года атрымаў права на выезд у Польшчу. Стэфан быў у партызанах і ўдзельнічаў у баях за Вільню. За гэта ганялася за ім НКВД і ў час уцёкаў з дому застрэліла. Толькі Марыся і Ядзя пазбеглі арыштаў.

Зноў прыпынімся на вуліцы Сувальскай. Не так ужо выглядае кінатэатр "Нірвана", які згарэў у 1930 годзе. Яўрэйка, якая жыла паблізу, не хочучы, скінула з паліцы бутэльку з бензінам на распаленую печ. Рухаемся па вуліцы Сувальскай на поўнач. З правага боку стаіць касцёл ксяндзоў-піяраў, ёсць гэта ратонда, накрытая купалам. Хадзілі ў гэтую святыню пераважна аматаркі ранішняй імшы і школьная моладзь, а сума адбывалася каля 12 гадзін.

Ліда - гэта горад вайсковы. Неаднойчы, у цёплы сонечны дзень, малады курсант вёў сваю высокую прыгожую сімпатыю, утыкаючыся носам у яе кудзеркі.

Улева ад вуліцы Сувальскай на захад адходзіла вуліца Школьная. На яе стыку з завулкам, які вёў да рынку, стаяла яўрэйская сінагога. Яна была пабудавана ў характэрным усходнім стылі з даволі арыгінальнай архітэктурай. У вайну яе разбамбілі і знеслі немцы.



***Сінагога і ешыбот***

За скрыжаваннем вуліц Школьнай і Фалькоўскага, на рагу з левага боку стаіць вялікі двухпавярховы мураваны дом Урбановіча. Тут размяшчаецца паліклініка. Далей за скрыжаваннем на вуліцы Школьнай, справа (з поўначы) стаіць прыгожы белы будынак. Гэта ўсеагульныя школы № 1 і № 2. імя Габрыэля Нарутовіча ў Лідзе. Далей па той жа вуліцы злева віднееца гарадскі стадыён. З правага боку - пляцоўка плошчай больш за гектар, агароджаная прыгожай, трывалай металічнай

** Пераклад Станіслава Судніка з кнігі: Jozaf Kardasz, “Lida prawdziwa”, Agiencja Wydawnicza, “Remix”, s.c., Olsztyn, 1997 r.*

сеткай, апраўленай вугалкамі. У глыбіні пляцоўкі стаіць троххпавярховы будынак Дзяржаўнай гімназіі імя гетмана Караля Хадкевіча. Ён мае форму чатырохкутніка і добра абсталяваную спартыўную залу. Сцяна паўночнага фасада трохпавярховая, бакавыя крылы - маюць толькі па два паверхі. У будынку дубовы паркет ззяе, як люстэрка. Падчас вайны ў Вялікі чацвер ці Вялікую пятніцу 1943 года, ідучы па вуліцы 3 Мая, я наткнуўся на нямецкую аблаву. З групай затрыманых, мы працавалі да цёмнай ночы на плошчы і на дарозе каля будынка малодшай школы, прыбіраючы камякі мёрзлай зямлі. Дрэннае асвятленне ў раёне дазволіла мне ўцячы. Што з астатнімі, не ведаю. Перад уваходам рускіх у Ліду, у ліпені 1944 года, немцы пакінулі будынак. Пакінулі ў цэласці і парадку, толькі некаторыя пакоі падзялілі на дзве-тры часткі перагародкамі з дошак. У жніўні 1944 г. туды засяліліся войскі НКВД, якія выкарыстоўваў будынак да красавіка 1945 г. Я меў магчымасць бачыць залы і памяшканні будынка пасля таго, як яго пакінуў НКВД. Адходы былі ў кожным куце, але ў будынку былі прыбіральні. Пасля чысткі заставаліся плямы, быццам ад салянай кіслаты. Прышэльцы рабілі беспарадак на захопленых землях. За гэткія паводзіны і бальшавіцкую "культуру" Сталіну на партрэтах малявалі вусы брудам і надпісвалі: *"Какая власть, такая масть"*. Быў зменены і змест бальшавіцкага верша, у якім выказвалася павага і любоў да герба і каштоўнасць працы:

*"Справа молот, слева серп,*
*Это наш любимый герб.*
*Хочешь - куй, а хочешь - жни,*
*насчитают трудодни".*
Апошнія радкі замянілі на:
*Хочешь - жни, а хочешь - куй,*
*всеравно получишь ...* (у сэнсе - *дулю*)".

Рушым у бок вуліцы Жандовай, маючы справа пляц дзяржаўнай гімназіі, а злева - незавершаную будоўлю гімназіі асадніцкай. У 1949-50 гадах расейцы пабудавалі шматпавярховы дом для афіцэрскіх сем'яў над падмуркам і першым паверхам, пабудаваных палякамі. За агароджаным пляцам дзяржаўнай гімназіі павернем на ўсход і пойдзем па вуліцы Міцкевіча ў бок пошты. Будынак, пабудаваны незадоўга да вайны, стаіць да нас фронтам, а насупраць пошты - так званы выган. Калі б хто мог падрабязна апісаць трагедыі, якія тут адбываліся, асабліва вясной 1943 года, калі на гэтай плошчы сабралі невялікую колькасць пазасталых мясцовых яўрэяў і больш за дзве тысячы прывезеных з-за Ліды. Было гэта ў першых днях сакавіка. Снег раставаў, ствараючы вадзяністую "кашу". Яўрэі адчувалі, што надышоў канец: знішчалі пазасталыя грошы, якія мелі, выкідвалі ў снег і гразь біжутэрыю, якую адбіралі ў іх гестапаўцы. Злачынцы расстралялі іх на так званых “Барах” (на паўночны захад ад Ліды). Сведкі назвалі некаторыя прозвішчы і імёны: Бярковіч, Меер і яго сын Ліпка, Аран, Мейшке, Лейзар, Нагман, Раўко, Лейба і многа іншых. Усяго восенню 1942 - вясной 1943 года было расстраляна 5670 чалавек.

Раней на тым самым выгане немцы паставілі шыбеніцы і павесілі трох чалавек, якія арганізавалі замах на гэбітскамісара, падклаўшы пад яго крэсла міну. Зрабіў гэта Сямак, які жыў на вуліцы Вызвалення (Зарэчча) і працаваў абслугай у будынку гэбітскамісарыяту. Яўрэйка-прыбіральшчыца выявіла міну і паведаміла немцам, таму бомбу ўдалося абясшкодзіць. Нібыта немец таемна ажаніўся з яўрэйкай, таму што яна была маладая, прыгожая і верная. Неўзабаве ён яе забраў (куды?). На шыбеніцы загінулі: жанчына-лекар, шафёр, які нібыта прывёз міну аж з Менска, і Сямак. Немцы сабралі рабочых з фабрык на плошчы, каб глядзелі на экзекуцыю.

Вернемся да касцёла піяраў і адтуль пойдзем на поўнач па вуліцы Сувальскай. З правага боку два бровары 1863 і 1873 гадоў. Іх гаспадарамі былі Пупко і Папірмейстар. У адным з іх варыў піва Франак Іваноўскі з вуліцы Віленскай. З левага боку вуліцы дагэтуль стаіць адметны сваёй архітэктурай цагляны дом з чатырма калонамі пры галоўным уваходзе (як малы Бельвядэр). Перад вайной у ім размяшчаўся інспектарат асветы. Ідучы далей на поўнач па вуліцы Сувальскай, мы бачым ужо драўляныя дамкі. Загрода бабулькі Галецкай і драўляныя гаспадарчыя пабудовы складалі адно цэлае пад адным дахам. Яшчэ далей на поўнач, злева, стаяў ладны цагляны будыначак. Гэта каапературная крама з шыльдай «Spolem», дзе абслугоўваў пакупнікоў Любкевіч.

У глыбіні, за магазінам, размяшчаліся гаражы і вежа пажарнага дэпо. Мне было шкада тых бедных механікаў, адказных за тэхнічны стан пажарных машын, якія ў гады вайны, а асабліва падчас нямецкай акупацыі, увесь час рамантавалі старыя, зношаны "Шэўрале". Адразу ўправа адходзіла вуліца Пастаўская, а на рагу Сувальскай і Пастаўскай стаяў даволі вялікі мураваны будынак. Гэта шпіталь, які звычайна называюць "яўрэйскім", заснаваны ў 1898 г. Разбомблены немцамі, ён згарэў 23 чэрвеня 1941 г. 24 чэрвеня на тратуары на скрыжаванні вуліц ляжала наўзніч маладая абгарэлая жанчына (з карычневай скурай). Была зусім голая, толькі пах нехта прыкрыў невялікай анучкай. Спляценні электрычных і тэлефонных правадоў, пагнутыя ад пажару металічныя ложкі ў спаленых дамах, дзіцячыя каляскі, клубы дыму, абсмаленыя бэлькі драўляных будынкаў рабілі жудаснае ўражанне. Толькі бязладныя тлумы людзей пад пякучым чэрвеньскім сонцам моўчкі разбягаліся ва ўсе бакі.

Пойдзем направа на вуліцу Пастаўскую, дзе жылі яўрэі і палякі (Забела, Белавус, Каспровіч, Бутурля, Кулевіч, Васілеўскі і інш.). З правага боку была брама, якая вяла ужо на прыгожыя яўрэйскія могілкі. У палове вуліцы Пастаўскай налева адходзіла вуліца Халодная. Перад вайной на рагу была маленькая крамка яўрэя Шмуйла. Тут можна было купіць усё: хлеб, булачкі, селядцы, запалкі, мыла, газу, коламазь і г.д. Насупраць крамкі, дакладна з заходняга боку, віднелася вялікая брама - гэта быў уезд на тартак і млын. Таксама ў Лідзе былі тартакі ў Кроніка на вуліцы Сыракомлі, на вуліцы Фалькоўскага і ў Папірмейстра.

Але вернемся да вуліцы Сувальскай. Улева на захад адходзіць вуліца Крупаўская, якая вядзе за чыгуначныя калі і прадаўжаецца ў паўночна-заходнім, кірунку, ператвараючыся ў тракт, які вядзе да парафіяльнай вёскі Крупава. Слаўны былі там фэсты. Як на кірмашы, так і на фэсце размаўлялі на дзвюх мовах: польскай

і беларускай. Некаторыя суайчыннікі валодалі беларускай мовай лепш, чым роднай. Перад ад'ездам у Польшчу ў 1946 г., а потым і ў 1958-1959 гг., яны баяліся, што на радзіме з імі будуць абыходзіцца, як з чужынцамі. Тыя, хто застаўся, дражнілі тых, хто ад’язджаў:

*Трэба, каб у вашу вёску ўпалі конныя казакі*
*і каб вас перахрысцілі з рускай веры ды ў палякі.*

Паралельна да вуліцы Крупаўскай была вуліца Фабрычная. Пры ёй знаходзіліся праваслаўныя могілкі, на іх стаіць драўляная царква. На гэтай вуліцы былі дзве фабрыкі, знакамітая "Ардаль" (Лідская фабрыка гумовых вырабаў, можа, нават большая, чым такая ж у Гданьску) і буйны цвіковы завод. Са студзеня па красавік 1944 года немцы дэмантавалі з заводаў усе станкі і прыстасаванні, запакавалі іх у скрыні і вывезлі. Дэмантавалі іх расейцы, прывезеныя цэлымі сем'ямі з ваколіц Бранска. Былі сярод іх вельмі стары чалавек Галенік з непаўнагадовай унучкай Алай, сям’я Седзіча (сын служыў паліцаем у немцаў, а дочкі Паліна і Тамара працавалі на фабрыцы). З моладзі яшчэ Васька, Валянцін. Верагодна, немцы не змаглі распакаваць вывезеныя машыны. Чыгуначнікі з Ліды распавядалі, што тыя ж скрыні вярталіся транспартамі на Усход, калі расейцы перамаглі гітлераўцаў. Пераможцы вывезлі з Германіі і дабро, нарабаванае ў іншых заваяваных краінах Еўропы. Маршал СССР Грэчка ў адной са сваіх прамоў сказаў: "Через войну мы окрепли".

Вернемся да скрыжавання вуліцы Сувальскай з вуліцамі Пастаўскай і Крупаўскай. Ідучы на поўнач, мы мінем дзве кузні добрых спецыялістаў - Савіцкага і Моўшы. Далей з правага боку віднеліся агароджа і брама буйнога завода сельскагаспадарчых машын з чыгуналіцейным цэхам з 1901 года, які належаў Шапіру. У канцы вуліцы Сувальскай, каля маладзечанскай чыгуначнай калеі, была гарадская электрастанцыя. 8 ліпеня 1944 г. пры адступленні немцы ўзарвалі чыгуначны раз’езд на ўчастку Гутна - Ліда, затым чыгуначны мост цераз раку Лідзею і электрастанцыю. У 1948-1954 гадах расейцы адбудавалі апошнюю з 65-мятровым комінам. Палілася торфам, які дастаўляўся з адлегласці 14 кіламетраў ад Дворышча на рацэ Жыжма, а калі там запасы вычарпаліся, прывозілі торф з ваколіц Дакудава.

Ад электрастанцыі пройдзем на ўсход па маладзечанскай калеі да чыгуначнага моста цераз раку Лідзею, дзе заканчваецца вуліца Халодная. Перад вайной польскія жаўнеры арганізавалі тут сабе пляж. У канцы вуліцы Хлоднай з захаду, у апошнім мураваным доме, жыў стары Вароніч. З восені 1943 г. да ліпеня 1944 г. у яго, і не толькі ў яго, стаялі немцы, якія ахоўвалі чыгуначны мост цераз рэчку. Дапамаглі ім уласаўцы, і тыя ў чэрвені, калі фронт набліжаўся з усходу і ўжо чулася артылерыйская кананада, ноччу выразалі немцаў, а самі пайшлі ў лес.

Мы зноў на чыгуначным пераездзе, дзе заканчваецца вуліца Сувальскага палка. За каляёй, каля лугоў, стаіць занядбаная сядзіба Прыбыльскіх. У гэтым раёне пачынаецца вуліца Віленская. Абапал яе стаялі дамы і сядзібы Семяновічаў, Вяцкевіча, Крыўца, Хруля, Бярковіча, Мейшкі, Іршкі, Пауляка, Іванца, Пятра і Франка Іваноўскіх, Казіка і Янка Мамчыцаў, Багуцкага, Стракоўскага, Пятра Вянцкоўскага, Стэфана і Юзафа Урбановічаў, Меера, Абрама, Лейзера, Раўбэ, Чайкоўскага, Сарокі, Кур'яна, Смольскіх, Каржанеўскіх, Шымчыка і іншых; усяго тут пражывала восемдзесят пяць сем'яў. Цяжка запомніць усіх.

Некаторыя жыхары гэтай вуліцы памяталі падзеі з часоў перад Першай Сусветнай вайной. Пад Лідай бадзяўся разбойнік Шыбайла, за галаву якога царскія ўлады прызначылі ўзнагароду ў 100 рублёў. У той час паліцыянтам быў разам з іншымі Гебень, які высачыў бандыта і пачаў за ім пагоню. Уцякаючы, Шыбайла некалькі разоў паварочваўся і папярэджваў Гебеня, каб той адмовіўся ад пагоні, бо пасіроціць дзяцей. Гебень не паслухаў. Шыбайла застрэліў паліцыянта. Крыху пазней у рэстаране ў Эйшышках бандыта злавіў іншы ўчастковы, пераапрануты ў жаночую вопраткі. Неўзабаве Шыбайлу пакаралі смерцю.

У 1944 годзе, падчас нямецкай акупацыі, па вуліцы Віленскай праехаў канвой з танкеткай, у якой везлі з лідскай турмы жаўнераў Арміі Краёвай, каб абмяняць іх на крайсляндвірта Белаха, якога раней нашыя ўзялі ў палон. Немцу было каля 50 гадоў, невысокага росту, з вялікім прадаўгаватым шрамам на шчацэ. Многія хлопцы з вуліцы Віленскай належалі да АК; з сям’і Францішка І. аж трое: Уладак, Стасік і Янак.

Прыкладна праз 100 метраў пасля чыгуначнага пераезду ад вуліцы Віленскай на паўночны ўсход адходзіць вуліца Новавясковая (Новавейская), а крыху далей - вуліца Стругі, якая вядзе да вёскі Чэхаўцы. На гэтай вуліцы жыў заможны гаспадар Высоцкі. У сакавіку 1944 года я паехаў туды да лекаркі, расіянкі Навіцкай. Пакуль я чакаў, каб адвезці яе да хворага, бабулька спытала мяне, ці не чуў я нічога пра малодшага Высоцкага? Я тады пра яго сапраўды нічога не ведаў, толькі здагадваўся, што ён мог быць у аддзелах АК.

Вуліцу Віленскую звычайна называлі Закасанкай. Паглядзім адтуль на вуліцу Рачную. Жылі там Баляслаў Клышэйка, Юзак Гебень, Часлаў Банюк, Юзаф Радзевіч, Лейцяновіч і інш. Восенню 1944 года Радзевіч бясследна згінуў. Да бальшавікоў пайшоў як знішчальнік (асобыя часці войскаў НКВД) салдатаў АК і быў ліквідаваны АК каля вёскі Зосіна, бо адтуль яго конь самастойна вярнуўся дадому.

З вуліцы Рачной зазірнём у бліжнюю вёску Стругі. Жыхарамі яго былі: Хрулі, Корзуны, Андрэеўскі, Чарнавус, Запаснік, ветэрынар Юшкевіч, ротмістр Сыты, селянін Эйдымт з жонкай Геленай, дачкой Ірэнай і сынамі Зыгмунтам і Генрыкам. Скончым наш візіт у Стругі на сядзібе старога Антонія і яго сына Эдка Банцэвічаў, побач з гразкай грэбляй. Яны былі добрыя людзі і суседзі. Асаблівай увагі заслугоўваў стары кавалер Стасік. Ён быў сярэдняга росту, тоўсты, любіў музыку, але не меў да яе таленту. Трохі граў на польскім двухрадным гармоніку “Саноры”, перабіраючы пухлымі пальцамі. Падскокаў у такт на крэсле, аж пот з яго капаў. Гэта быў душа-чалавек: з малым - малы, з вялікім - вялікі, мілы і гаваркі. Блізкім суседам сям'і Банцэвічаў быў Станіслаў Шымчык, у якога былі дзве маленькія прыгожыя дачушкі.

*(Працяг у наступным нумары.)*

*Леанід Лаўрэш*

# Яўстах Шалевіч і яго мемуары

Польскі гісторык Людвіка Жыцкая[1] ў кнізе, надрукаванай у 1939 г., сярод іншых успамінаў згадала і мемуары жыхара Лідчыны Яўстаха Шалевіча. Шалевіч на пачатку XX стагоддзя перапісваўся з рэдакцыяй кракаўскай газеты "Przyjaciel Ludu", у якой тады працавала Жыцкая. Менавіта па яе просьбе ён і напісаў два сшыткі сваіх ўспамінаў, якія сёння разам з яго лістамі ў рэдакцыю захоўваюцца ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы[2].

Гэтыя ўспаміны з'явіліся да 1914 г., і з аналізу тэксту бачна, што, як найменей, другі сшытак напісаны ў 1909 г. У Шалевіча атрымаўся дастаткова сумбурны тэкст, бо аўтар яўна не меў навыкаў сістэматычнага напісання вялікіх наратываў. Здаецца, ён зашмат чытаў авантурных раманаў і стараўся пісаць "прыгожа" і "як у раманах".

На жаль, на старонках аўтабіяграфіі аўтар не сказаў, дзе жыла і чым валодала яго сям'я, і не зразумела, нават, у якім маёнтку ён нарадзіўся. Вядома, што Шалевічы герба Сялява (ці Шалава) на Лідчыне жылі ў Жалудоцкай, Ваверскай і Васілішкіх парафіях і займалі розныя павятовыя пасады. З ўспамінаў бачна, што мемуарыст Яўстах Шалевіч першы перыяд жыцця правёў у Жалудоцкай парафіі.

Вядома пра існаванне на Лідчыне маёнткаў Лебяда Шалевічоўская (1690 г.) і Шалева (XIX ст.). З 1790 г. Міхал Шалевіч (дзед мемуарыста) валодаў фальваркам Заляскоўшчына з вёскай Субачы ў Жалудоцай парафіі. Потым гэтая маёмасць перайшла да бацькі Яўстаха Шалевіча - Феліцыяна (сына Міхала і Ізабэлы з Навіцкіх) і яго брата Ежы, у сярэдзіне 1844 г. фальварак Заляскоўшчына з вёскай Субачы - гэта 74 дзясяціны зямлі, 4 мужчынскія і 5 жаночых душ. Потым гэтая маёмасць перайшла да сына Феліцыяна - Адольфа Шалевіча. Брат Яўстаха - Адольф Шалевіч (сын Феліцыяна), якога мемуарыст узгадвае ў сваіх успамінах, у 1847-48 гг. вучыўся ў Лідскай павятовай вучэльні, у якой потым вучыўся і Яўстах Шалевіч. У 1891 г. Адольф Шалевіч валодаў маёнткам Галадзішкі (190 дзесяцін) у Нацкай парафіі[3].

У старой прэсе я знайшоў некалькі карэспандэнцый у прэсу Яўстаха Шалевіча і некалькі згадак пра яго. Напрыклад, у траўні 1886 г. Яўстах Шалевіч паведамляў: *"... пра пажар у мястэчку Астрына. Падобна, там згарэла каля 200 дамоў, а ўцалела ледзь 20 дамоў. Кажуць, пажар пачаўся з пякарні, у якой пяклі мацу. Для яўрэяў-пагарэльцаў збіраюць сродкі яўрэі іншых гарадоў і мястэчак. У Жалудку для іх спяклі на свята 15 пудоў мацы, а ў Шчучыне - 25 пудоў. Таксама адусюль ім дасылаюць розныя рэчы і гаспадарчыя прылады. Вось якая ўзаемадапамога паміж яўрэямі. І адначасова, хрысціяне-пагарэльцы ніякай дапамогі ніадкуль не маюць.*

*На ўскрайку Лідскага павета, ад вёскі Сялец, што каля ракі Нёман, дзе з'явілася чыгуначная станцыя, распачаты новы водны маршрут, які злучыў гэтую станцыю з Гародняй. Ад Гародні сюды і назад ходзіць паравы карабель. Такім чынам, можна патрапіць у Гародню за 5 гадзін заплаціўшы трошкі больш за рубель. Гэтым маршрутам карыстаецца шмат народу, а яўрэі вязуць у Гародню мільёны яек, закупленых у ваколіцах Жалудка, Орлі і іншых мястэчак.*

*Пасля прыезду з Варшавы на Лідчыну Лявіцкага, у павеце пачало хутка развівацца пчалярства. ... Адзін ваколічны шляхціц мае добрую пасеку, якая прыносіць каля 1000 рублёў штогод і дае яму магчымасць вучыць 2 сыноў..."*[4].

Шалевіч шукаў грамадскага прызнання і дапамогі і таму актыўна займаўся самарэкламай і пісаў сам пра сябе: *"Піша нам механік-самавук Яўстах Шалевіч, які жыве ... каля Вільні. Ён прыдумаў некалькі практычных прылад, якія могуць быць карыснымі ў вясковай гаспадарцы. Напрыклад, апарат для кантролю начнога вартаўніка, машыну, якая адчыняе і зачыняе браму перад любым транспартам, машынку, якая падлічвае колькі вёрст праехаў воз, прыладу, якая будзіць, запальвае лямпу, налівае ваду, падае абутак і г.д. Вынаходнік мае надзею, што людзі добрай волі грунтоўна дапамогуць яму дапрацаваць гэтыя механізмы, бо сам ён не мае сродкаў"* [5].

Справа даходзіла нават да містыфікацый, калі ён, як быццам пра іншага чалавека, усё роўна расказваў сам пра сябе: *"Геніяльны самавучка. Цікавую інфармацыю даслаў нам Яўстах Шалевіч пра аднаго*

[1] Zycka L. Dzialalnosc popowstaniowa Polakow na ziemi mieskiej (materialy i wspomnienia) / L. Zycka, M. Leska. Warszawa, 1939.

[2] Szalewicz Eustachy. Wspomnienia szkolne ze szkoly powiatowej w Lidzie i gimnazjum w Nowogrodku // ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 4. Спр. 172.; Szalewicz Eustachy. Historja koscila zoludzkiego oraz wspomnienia o zoludzkiej parafji. Slow pare o obok lezacej Iszczonskiej parafji. Slow kilka o Szczuczynie. Lida. Parafja Kolesnicka // ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 4. Спр. 482.

[3] Malewski Czeslaw. Rodziny szlacheckie na Litwie w XIX wieku. Powiaty lidzki, oszmianski i wilenski. Warszawa, 2016. S. 197-198.

[4] Gazeta Swiateczna. 1886. 9 maja.

[5] Kraj. 1901. 19 stycznia (1 lutego).

*маладога ваколічнага шляхціца Яна Радзевіча, які жыве ў вёсцы Янава недалёка да Нёмана. "Шмат пра яго чуў, - піша Шалевіч, - а потым сам паехаў, каб пераканацца, што гэта праўда. Вучыўся ён вельмі мала - толькі адзін год у вясковай школе, а зараз жыве ў пушчы, далёка ад мястэчка і людзей. Што ён там робіць? У сваім пакоі, са свайго невялікага насценнага гадзінніка зрабіў такую прыладу, якая калі выставіць час, будзіць яго ўначы а патрэбнай гадзіне і паднімае ложак, каб вынаходнік сеў. На стале ў яго хаце стаіць шафка ў форме капліцкі, з яе ў вызначаны час выходзіць выразаны з дрэва хлопчык і запалкай падпальвае лямпу. Усе гэта зроблена проста, але прыгожа. І я бачыў яго 3-ю работу. У маленькай шафе месціцца адмысловая шпулька, якая сама звівае і наматвае ніткі. …*

*Гэты геніяльны самавучка мае 26 гадоў, у яго слабае здароўе, і ён не можа працаваць на гаспадарцы. Параіў паехаць вучыцца на якую-небудзь Варшаўскую фабрыку, але ён не ў стане гэтага зрабіць.*

*Колькі такіх здольных людзей марнуецца без навукі, пры тым, што маглі б зрабіць шмат карысната. Шмат такіх людзей у нашым краі, але не хапае ім адукацыі"* [6], - у тэксце ўсе супадае з самім Шалевічам - і вынаходніцтвы, і малая адукацыя, і слабое здароўе, вось толькі аўтар амаладзіў сам сябе недзе гадоў на 10.

Апошні раз Шалевіча, пераблытаўшы яго імя, успомнілі ўжо пасля яго смерці. Нейкі Вітольд Радзевіч пісаў: *"Знаў… "пана Яна" жалудоцкай гміны… які жыў адзінока і з дрэва рабіў розныя цуды, якія моцна здзіўлялі яго суседзяў. Яшчэ хлопцам ён зрабіў механічны гадзіннік, які будзіў яго арыгінальным спосабам, а менавіта - з шафкі гадзінніка выскокваў д'ябал і біў хлопца ў плечы. Яго па-мастацку ўпрыгожаны разьбой экіпаж падчас вайны немцы вывезлі ў Берлін"* [7].

Гэты вынаходнік-самавук з Лідчыны варты таго, каб яго памятаць, а яго цікавыя мемуары, вартыя, каб быць надрукаванымі. Сканаванне ў архіве дзвюх частак успамінаў Яўстаха Шалевіча аплаціў мой дарагі сын Вадзім Лаўрэш.

[6] Gazeta Swiateczna. 1887. 13 marca.

[7] Kurjer Wilenski № 225 (4542), 18 sierpnia 1938.

***Яўстах Шалевіч***

# УСПАМІНЫ*

## Першая частка ўспамінаў

***Гісторыя Жалудоцкага касцёла і ўспаміны пра Жалудоцкую парафію. Некалькі слоў пра суседнюю Ішчалнскую парафію і трошкі пра Шчучын. Ліда. Калясніцкая парафія*** [8]

### Гісторыя Жалудоцкага касцёла і ўспаміны пра Жалудоцкую парафію

Касцёл у Жалудку, які сёння існуе, пабудаваны графіняй Генавэфай Тызенгаўз з Пуслоўскіх у 1825 г. Яго сцены былі вымураваны, можа, на тры локці, пасля чаго праца спынілася. У такім стане касцёл праіснаваў да 1850 г. Яго будоўлю аднавіла дачка вышэй згаданай уладаркі Жалудка, графіня Германцыя Уруская, пасля чаго, за тры гады касцёл быў пабудаваны[9].

Я меў тады 11 гадоў і прысутнічаў пры пераносе начыння са старога касцёла. Новы касцёл высвеціў тагачасны пробашч, прыемны і шляхетны каплан кс. Наркевіч.

Як сёння памятаю прыгожую прамову кс. Наркевіча з пахвалой фундатарам. Графіня цалкам за свой кошт пабудавала святыню і потым, на працягу болей, чым 30 гадоў, ахвяравала грошы на рамонт касцёла, бо парафіяне як пры пабудове касцёла, гэтак і потым, ніякіх больш-менш значных грошай не сабралі.

Парафіяльны касцёл мае форму крыжа. Касцельнае начынне прывезлі з Варшавы, а абразы - з Італіі. Прыгожыя арганы зрабіў варшаўскі майстар Жаброўскі.

Пра абразы ў галоўным алтары я не ведаю. А ў правай капліцы - Пан Езус на крыжы і ўкленчыўшая св. Магдалена. У левай капліцы абраз Трох Каралёў, якія пакланяюцца Хрысту - знаўцы лічаць, што гэта вельмі

* Пераклад і каментарыі Леаніда Лаўрэша.

[8] Szalewicz Eustachy. Historja koscila zoludzkiego oraz wspomnienia o zoludzkiej parafji. Slow pare o obok lezacej Iszczonskiej parafji. Slow kilka o Szczuczynie. Lida. Parafja Kolesnicka // ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 4. Спр. 482.

[9] Сучасны будынак у стылі класіцызму быў пабудаваны ў 1853 г. з бутавага каменю і цэглы паводле праекта вучонага і тэарэтыка позняга класіцызму, архітэктара Караля Падчашынскага.

добры твор.

У 1887 г. стараннем жалудоцкіх месцічаў, на чале якіх стаяў шавец Казімір Куцэвіч (знакаміты паэт), у нефе касцёла, з левага боку прэзбітэрыюма, у пабудаваным алтары размешчаны прыгожы абраз св. Міхаіла Арханёла які перамагае сатану, пэндзля знакамітага былога пробашча кс. Шукевіча (другі алтар павінны былі зрабіць у хуткім часе). У алтарыку, які носяць падчас працэсій, ёсць яго ж пэндзля выдатны абраз Маці Божай, якая трымае на руках дзіцятка Езуса. Каля ўвахода ў касцёл стаяць статуі ў натуральную велічыню св. апосталаў Пятра і Паўла.

Гэтыя статуі ў старым касцёле стаялі ў галоўным алтары, а потым яны 34 гады захоўваліся ў складзе. Над ганкам, які абапіраецца на 4 калоны, бачым гіпсавую фігуру Пана Езуса, які дабраслаўляе дзяцей. Над касцельным фасадам ёсць дастаткова сімпатычная драўляная вежа, а над вялікім алтаром вежачка-сігнатурка[10]. Будаўніком жалудоцкага касцёла быў вядомы ў нашай старане, надворны радца граф Урускі, архітэктарам і тэхнікам - знакаміты чалавек - Муравінскі.

Сучасная жалудоцкая святыня стаіць недалёка ад месца ранейшага Кармеліцкага касцёла, закон гэты быў знішчаны, і на месцы былога касцёла зараз растуць сады. Стары касцёл быў драўляны і стаяў каля вёскі Фарны Канец, можа за 1/3 вярсты ад новага касцёла. З касцёла кармелітаў пабудавалі плябанію. Гэтай старой драўлянай плябаніі было як найменей 150 гадоў, пра што сведчыць яе старажытная архітэктура і іншыя прыкметы. Яшчэ 20 гадоў таму яна выглядала моцнай, а можа яшчэ і сёння стаіць, але я пра гэта не ведаю.

Могілкі каля старога касцёла, дзе спачываюць парэшткі маіх дзядоў і аднаго са стрыяў (стрый - дзядзька па-бацьку - *Л. Л.*), сталі пашай для цялят і нерагацізны каля дома доктара К. Крыжы і помнікі на гэтых могілках ужо амаль што ўсе знішчаны. 25 гадоў, як я адтуль з'ехаў, але памятаю камень - сведак былых дзіцячых гадоў, на якім меўся памятны яшчэ мне знак-компас, зроблены былым пробашчам кс. Шукевічам. Парафільныя могілкі, якія месцяцца за 2 вярсты ад касцёла, вядомы ўсім як Вялікасельскія магілы, бо там недалёка ёсць вёска з назвай Вялікае Сяло.

Ад веку Жалудком валодалі Тызенгаўзы[11]. Дачка Рудольфа Тызенгаўза (апошняга ўладальніка з гэтага роду) выйшла замуж за галічаніна графа Урускага. Мелі яны сына і дзве дачкі. Іх сын, маючы 13 гадоў, плаваў, ці вучыўся плаваць і … утапіўся. Яго парэшткі былі прывезены ў Жалудок, і труна з целам пастаўлена ў касцельным склепе каля акна, праз якое яе заўсёды можна было ўбачыць. Праз два гады труну паставілі ў глыбіню склепа. Бацькі графіні Урускай з Тызенгаўзаў на пачатку былі пахаваны на парафіяльных могілках. Потым сакрэтна, уначы, іх парэшткі былі перанесены і перазахаваны ў падзямеллі касцёла.

Знакамітыя пробашчы ў Жалудку, якіх памятаю, гэта: кс. кс. Крукоўскі і Шукевіч. Як вядома, кс. Шукевіч быў мастаком і пры тым вельмі любіў розныя навукі, пераважна фізіку, хімію і астраномію. Усталяваў компасы і, расказвалі, што яго пакой быў завалены рознымі навуковымі прыборамі. Пры гэтым ксёндз з'яўляўся слаўным прапаведнікам. Кс. Крукоўскі таксама быў знакамітым прамоўцам і меў выдатны голас спевака. Ён казаў прыгожую прамову па памерлай графіні Тызенгаўз, пачаўшы са слоў: "Не памерла дзяўчына, але спіць", - а потым цытаваў словы з нейкага Евангелля. Казаў, што с. п. Генавэфа Тызенгаўз з Пуслоўкіх была ўзорнай жонкай, чалавекам чулым да слуг і падданых, і потым пералічыў усе яе цноты і сказаў, што яна не памерла, але пайшла ў новае жыццё і г. д., і г. д. А трэба ведаць, што яна памерла вельмі маладой, на 25-м годзе жыцця. На гэтай прамове ў касцёле быў мой бацька, які пра ўсё гэтак распавёў мне, і я па сёння ўсё памятаю.

Я ўжо і сам памятаю, як пробашчам быў таксама кс. Траскоўскі, які хутка пераехаў у Вільню. На яго месца заступіў прыемны і выхаваны кс. Наркевіч. У яго часы вікарыямі былі кс.кс. Зянкевіч і законнік Рыжы - ён вельмі добра прамаўляў казанні і прыгожа спяваў тэнарам. З'ехаў адсюль на Валынь. Кс. Наркевіч толькі некалькі гадоў быў у Жалудку і потым пераехаў у іншую парафію. Бадай, праз 3 гады пасля паўстання 1863 г. нешта за ім знайшлі і выслалі ў Сібір. Праз нейкі час ён вярнуўся ў край і хутка памёр.

Пасля яго ў Жалудок прыехаў агульнавядомы кс. Ясінскі, якога я добра памятаю, а з ім яго годны вікарый кс. Ліпко. Гэтыя слаўныя людзі былі вялікімі ворагамі алкаголю. Яны за 3 гады вырвалі сваіх парафіян з нявол, горшай за паганства - гарэлкі.

Св. касцёл, як наш бацька, хваляваўся за дабро для сваіх дзяцей і больш за 50 гадоў ваяваў з алкаголем. Пачаў у 1858 г. са стварэння "Брацтва цвярозасці". У добра мне знаёмай Жалудоцкай парафіі ў той час служылі шляхетныя і руплівыя ксяндзы: пробашч Ясінскі - слаўны прапаведнік і яго годны памочнік кс. Ліпко. Пачалі яны зацятую барацьбу з гарэлкай і перамаглі гэтага страшнага ворага - праз 3 гады піякаў у Жалудоцкай парафіі не было.

Гэтыя ксяндзы пры кожнай магчымасці заклікалі ўступаць у "Брацтва цвярозасці", гэтак было і на казаннях і на катэхізацыі дзяцей і г. д. Калі ксяндзы прыязджалі да хворага, ці па калядзе, яны збіралі вакол сябе людзей і распавядалі ім навуку цвярозасці. Кс. Ясінскі, займаючыся гаспадаркай, часамі падыдзе да жней ці касцоў і не шкадуючы часу ўгаворвае іх. І якое шчасце паміж людзей запанавала! Такі [не п'ючы] чалавек паедзе на рынак толькі па патрэбе, каб залатвіць свае справы і

[10] Да пачатку XX ст. над галоўным фасадам узвышалася 8-гранная шатровая званіца і такая ж па форме сігнатурка над алтарнай часткай.

[11] Пра гісторыі Жалудка гл: Шымялевіч Міхал. Збор твораў / укл. Л. Лаўрэш. Гродна, 2019. С. 57-72.

хутка вернецца дахаты. Ён не сядзіць недзе ў шынку з сябрамі да позняй ночы, а глядзіць за канём, і яго каня не скрадуць, дамоў прыязджае цвярозы, і не б'е сваю жонку, і не гоніць з хаты дзяцей. Кабеты ішлі да нашых ксяндзоў і за іх збавенчую працу кленчылі ім у ногі. Неяк у плябанію прыйшло 30 кабет. Да іх выйшаў ксёндз Ясінскі:

- Што трэба, дзеці мае?

- А ці кс. Ліпко ўдома?

- Так, удома.

- Найпакорліва просім, каб выйшаў да нас.

Выходзіць кс. Ліпко. Усе кабеты пападалі да ног святароў і са слязьмі падзякавалі ксяндзам за іх апостальскую працу.

Кс. Ясінскі у 1867 г. быў пераведзены з Жалудка ў Вільню. Жалудоцкія парафіяне, ідучы на Кальварыю, усёй грамадой заходзілі да Ясінскага, каб выказаць яму сваё шанаванне і ўдзячнасць за святарскую працу.

Кс. Ясінскі (экс-піяр) доўгі час служыў у беластоцкім жаночым інстытуце прафесарам рэлігіі. Потым быў пробашчам у Жалудку. Кс. Ясінскі варты быў быць біскупам, але яго панізілі да вікарыя віленскага касцёла св. Пятра, і на гэтай пасадзе ён памёр. Пахаваны на могілках св. Пятра з левага боку ад уваходу ў капліцу, жыў 91 год і, здаецца, памёр у 1892 г. Кс. Ліпко таксама даўно адышоў у вечнасць.

Гонар і вечная слава ім, бо былі яны найшляхетнейшымі капланамі і сапраўднымі Хрыстовымі слугамі (Мая сям'я вельмі, о, вельмі гэтым апосталам абавязана).

Недзе ў 1863 г. ксяндзам было забаронены ўтрымліваць “Брацтва цвярозасці”[12], але некаторыя ксяндзы не склалі зброі і рабілі справу, пераважна, на споведзі. Такім быў кс. Рыхлевіч з Ражанкі. Прыходзіць чалавек яму да споведзі:

- А ці ты п'еш водку?

- П'ю, ксёнжачку!

- Тады ідзі сабе з Богам, я цябе спавядаць не буду.

Пасля гэта чалавек кідаў піць і толькі тады ішоў да споведзі. І гэтак ксяндзы ваявалі за цярозасць.

Ведаў я гэтых ксяндзоў, і гэта мае даўнія, дзіцячыя ўспаміны. На выдатных казаннях кс. Ясінскага я бываў, можа, са 100 разоў, яго апостальскія навукі і сёння для мяне важныя. (Калі прынёс у рэдакцыю фотаздымак кс. Ясінскага і прасіў, каб зрабілі з яго партрэт, мяне накіравалі да сябра пана … і ён мне гэта зрабіў).

Пасля вялікай колькасці яго казанняў, уладальнік маёнтка Красулі Яноўскі зачыніў вінакурню. Дзеля добрага прыкладу разам з сям'ёй уступіў у брацтва. За ім пайшлі яго службовыя асобы і прыслуга, а потым і сяляне (тады яшчэ быў прыгон). Рух набіраў моцы: кожную нядзелю, кожную службу ў касцёле запісвалася ў брацтва і ратавалася ад гэтай пошасці па 50 - 80 чалавек.

Тыя, якія ў часы кс. Ясінскага заракліся не піць гарэлку, амаль што ўсе трымаліся ў гэтай добрай справе ажно да смерці, і яшчэ і сёння некаторыя з іх жывуць. Толькі ў 1864 г. ксяндзам было забаронена прапаведаваць цвярозасць, і вырасла новае пакаленне, якое не слухала навукі нашых ксяндзоў. І людзі зноў пачалі піць алкагольныя напоі.

Жалудоцкія парафіяне касцёла любілі і шанавалі свайго пробашча кс. Ясінскага.

Пасля кс. Ліпко Жалудоцкім вікарыем стаў кс. Станіслаў Ішора - маладзенькі ксёндз, які толькі 2 гады як быў высвечаны на каплана. Быў гэта вельмі прыгожы і прыстойны чалавек. Ён меў такое сэрца і душу, што яго вельмі любілі прыхаджане. Ён у памяць пакутнікаў 1863 г. прачытаў у касцёле маніфест з заклікам да паўстання і ў той жа дзень выехаў да кс. Рыхлевіча ў Ражанку. Заўтра ў Лідзе ўжо ўсё ведалі. Жандары, якія прыехалі яго арыштоўваць, не знайшлі кс. Ішору і забралі кс. Ясінскага. Кс. Ішора мог пайсці ў лес ці выехаць за мяжу, але яго арыштавалі, бо ён сам аддаў сябе ў рукі ўладаў, кажучы пры гэтым: "Я маніфест чытаў, бярыце мяне, пробашч не вінаваты …". Перад тым, як яго павезлі, кс. Ішора заклікаў людзей, каб тыя развіталіся з ім плачам і енкамі - ён сказаў людзям: "Мяне заб'юць".

Кажуць, што на пачатку, папярэднік Мураўёва, генерал-губернатар Назімаў пакараў яго пяццю гадамі ссылкі ў Сібір, але прыехаў сам Мураўёў, яшчэ раз

[12] Каталіцкім касцёлам у 1850-х гадах быў ініцыяваны рух за цвярозасць, які разглядаўся ўладамі як пагроза напаўненню бюджэту і небяспечная "польская" грамадская ініцыятыва. Аднак ураду давялося пайсці на пэўныя захады, каб зменшыць спажыванне алкаголю, у тым ліку даўшы палёгку півапарам, бо да гэтага часу падаткавая палітыка стымулявала перавагу гарэлкі над усімі іншымі алкагольнымі напоямі. На месцах былі створаны "Камітэты для назірання за правільным продажам алкагольных напояў". У Лідзе такі камітэт пад кіраўніцтвам павятовага маршалка шляхты (прадвадзіцеля дваранства) Рамуальда Казіміравіча Кастравіцкага (кавалер ордэна Св. Уладзіміра 4-й ступені) з'яўляецца ў 1846 г. Акрамя маршалка, камітэт утваралі 3 сябры камітэта і 13 дэпутатаў, папяровымі справамі камітэта займаўся "пісьмавадзіцель" павятовага маршалка шляхты. Мемуарыст Мірон Браніслаў Нарбут пісаў: *"З 1860 года, калі ў цэлым Краі пачаў абуджацца разумовы рух, актыўна клапаціліся пра заснаванне народных школ і лідзяне, а духавенства пашырала таварыства цвярозасці з даволі паспяховым вынікам, так што побыт лідзян значна палепшыўся, і ў 1862 годзе спаткаць п'янага лідзяніна было ўжо рэдкасцю"*. Неабходна заўважыць, што ідэя народнай цвярозасці прыйшла да нас з Еўропы, і асаблівы ўздым гэтага руху прыйшоўся на 1858-63 гг., г. зн. перад самым паўстаннем: *"У Царства Польскае цвярозасць прыйшла ў 1857 г. і адтуль у канцы 1858 г. распаўсюдзілася ў сумежных губернях: Ковенскай і Гарадзенскай. ...у снежні 1858 цвярозасць прыйшла і да нас ... і да 1 сакавіка 1859 г. цвярозасць распаўсюдзілася па паветах: Віленскім, ...збольшага па Ашмянскім і Лідскім"*, - паведамляла Памятная кніга Віленскай губерні за 1860 г. Да канца 1859 г. 39 408 чалавек на Лідчыне публічна, у храмах, прынялі на сябе абавязак устрымліваца ад ужывання алкаголю.

судзіў справу, і нашага дарагога кс. Ішору пакаралі смерцю ў Вільні на Лукішках - за веру, за касцёл, за Бацькаўшчыну. З рук ворагаў атрымаў ён смерць і карону пакутніка[13].

Жалудок, як быццам, не вельмі гістарычнае мястэчка. Не памятаю, калі і які шведскі кароль зімаваў у Жалудку[14].

У 1867 г. у Жалудоцкай парафіі пачалі адбывацца вялікія цуды.

Сялянка Язафата Казлоўская з вёскі Доўгай[15] пайшла капаць бульбу. Калі вечарам вярталася назад (а ўжо пачынала цямнець), перад сабой на дарозе яна ўбачыла нейкую асобу ў белым. Язафата зразумела, што бачыць нешта зверхчалавечае, моцна спужалася і адбегла ад дарогі на некалькі крокаў. Тады тая асоба кажа ёй: "Не бойся мяне, Язафата, падыдзі бліжэй да мяне, маю табе шмат што сказаць". Язафата з вялікім страхам падышла да яе, і тая асоба працягвала: "Я ёсць Маці Езуса Хрыстуса. Уся ваша вёска вельмі нягодная. Не раз над ёй вісела кара майго сына, але я прасіла за вас. Адзін толькі ў вашай вёсцы ёсць праведнік і богабаязны чалавек - Урбановіч. Прыходзьце да яго па вечарах і чытайце вось такія малітвы (якія - не памятаю). І ты таксама вялікая грэшніца. Таму ідзі заўтра на споведзь да кс. Ясінскага і май на ўвазе, што пасля найсвяцейшага сакраманту будзеш дзве гадзіны цяжка пакутаваць. Пасля гэтага прыходзь на гэтае месца, і я штодзень буду табе тут з'яўляцца". Язафата ўдома расказала пра ўсё свайму мужу і ўсёй сям'і. Падобна, яшчэ ў той вечар яны пайшлі маліцца да Урбановіча. На раніцы жанчына пайшла да кс. Ясінскага на споведзь і ўсё яму расказала. Пасля святога сакраманту ёй стала дрэнна, і ў такім стане яна прабыла дзве гадзіны. Кс. Ясінскі раіў ёй пакласці мшал пад галаву. Спыталі ў кс. Ясінскага, што ўсё гэта можа значыць? Як быццам ён коратка адказаў: "Убачыце, што тут сёння будзе". Усе гэта я пачуў ад жалудоцкага арганіста Вінцэнта Ліхвяровіча.

Чуткі пра цудоўнае з'яўленне Язафаце Маці Божай з хуткасцю птушкі разляцелася па парафіі і па цэлым Лідскім павеце, і потым, зразумела, што ў вёску Доўгую пайшлі пілігрымы. Штодзень тут збіралася дзве і болей тысячы людзей. Язафата кожны дзень хадзіла на тое месца, і заўсёды Маці Божая, як быццам, з'яўлялася ёй. Гэта было ў далінцы каля Тошачкі (?) і там, дзе яна з'яўлялася, павінна была з'явіцца крыніца. Потым, як быццам, Маці Божая сказала, што ад сёння яна будзе з'яўляцца пад крыжамі, і з гэтага часу народ пачаў збірацца каля гэтых крыжоў. Язафата заўсёды была ўкленчаная, у хустцы, накрыўцы, уся ў малітвах і казала, што і зараз бачыць Маці Божую. Але больш маўчала. Пілігрымы ішлі з Вільні і яе ваколіц, са Жмудзі і нават з Варшавы.

Хутка Язафату арыштавалі. Некалькі тыдняў яна сядзела ў Лідскай, а потым Віленскай турме. Яе дапытвалі паліцэйскія, з ёй размаўлялі дактары і ксяндзы. Некаторыя ксяндзы ёй верылі і лічылі Язафату святой асобай.

Дзе толькі ў чужой парафіі яна з'яўлялася на фэст, жанчыну запрашалі на абед у плябанію, дзе ксяндзы падрабязна распытвалі аб яе візіянерстве. Кс. Ялянеўскі[16], тагачасны жалудоцкі вікарый, казаў майму тату, што ўся гэта гісторыя праўда. Іншыя ксяндзы казалі, што простая кабета, якая нават і чытаць не ўмее, кажа пра такія рэчы, аб якіх можам ведаць толькі мы, святары.

Як жа выглядала Маці Божая? Язафата казала, што яна вылучалася прыгажосцю, большай за сярэдняю, мела распушчаныя валасы, была ў белым убранні, падпяразаная блакітнай стужкай і, вядома, босая.

Дактары лічылі, што ў Язафаты, падобна, хвароба кшалту меланхоліі (яна мела цалкам добрае здароўе). Паліцыя падазравала, што за ёй стаіць кс. Ясінскі, які даў ёй такую камунію, што яна дзве гадзіны была хворай. Па выніках справы, ксяндза перавялі ў Вільню. Два гады ён жыў у доме графа Тышкевіча, дзе яго і наведвалі жалудоцкія парафіяне, якія ішлі на Кальварыю, і выказвалі яму ўдзячнасць за апостальскую працу. Потым яго панізілі да вікарыя касцёла св. Пятра.

Я таксама ведаў гэтую Язафату і два разы зачапіў яе наконт цудаў. Мела яна вельмі невялікі дар слова. Яе цуды дапамагаў разгалошчваць раней згаданы Урбановіч, і ён жа разносіў ваду з крыніцы. Некаторыя лічылі тую ваду цудадзейнай і карысталіся ёй як лекам, напрыклад, ад зубнога болю. Другім памагатым у распаўсюджванні цуда Язафаты быў Міхал Сіпайла з Вялікага Сяла, ён казаў людзям невялікія гаворкі-казанні. На адным з такіх яго казанняў я таксама быў.

*(Працяг у наступным нумары.)*

[13] Кс. Станіслаў Ішора прачытаў у касцёле паўстанчы маніфест і сам здаўся ўладам. Ён быў асуджаны ў Вільні на 5 гадоў катаргі, нягледзячы на амністыю для тых, хто сам здасца ўладам. Генерал-губернатар Назімаў змякчыў пакаранне да 5 гадоў высылкі. На няшчасце, 26 траўня ў Вільню прыбыў новы генерал-губернатар Міхаіл Мураўёў і замяніў прыгавор карай смерці. 3 чэрвеня (22.05) 1863 года ксёндз Ішора быў расстраляны на Лукішках і стаўся першай ахвярай Мураўёва ў Вільні.

[14] У 1706 г. шведскі кароль Карл XII меў у Жалудоцкім кармеліцкім кляштары зімовую кватэру. Адсюль выязджаў у Орлю для агляду моста цераз Нёман і 8 сакавіка ледзь не загінуў з-за таго, што на рацэ пачаў ламацца лёд. А на наступны дзень ён сустрэў дэпутацыю горада Вільні. Тады ж шведы па загадзе караля абстралялі Маламажэйкаўскую царкву, якая здзівіла яго сваім незвычайным выглядам.

[15] У 1828 г. вёска Доўгае належала да Арлянскай грэка-каталіцкай парафіі, але Язафата Казлоўская, хоць і насіла імя ў гонар Язафата Кунцэвіча, была рыма-каталічкай.

[16] Кс. Яўстах Ялянеўскі, падобна яшчэ жыве і недзе ў Троцкім павеце служыць пробашчам. - *заўвага аўтара.*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*

У Менску ў выдавецтве “Беларусь” выйшла кніга Ігара Марзалюка “Сімвалы беларускай вечнасці. Гісторыя сімвалаў беларускай дзяржаўнасці”. 320 ст. Наклад 1000 асобнікаў.







У Менску ў выдавецтве "Беларусь", у серыі “Школьная бібліятэка” выйшла кніга "Вялікія і славутыя людзі беларускай зямлі” (Частка I), 248 ст. Наклад - 1500 асобнікаў.

У Менску ў выдавецтве "Беларуская навука" выйшла кніга Алеся Марціновіча "Гісторыя праз лёсы”, Т. 10. 322 ст. Наклад - 400 асобнікаў.







У Менску ў выдавецтве "Беларуская навука" выйшаў кніга В.М. Бароўскай "Беларусь у савецка-польскіх адносінахі, сакавік 1921 г. - люты 1939 г.". 304 ст. 300 асобнікаў.




У ЗАТ “Банк ВТБ (Беларусь)” выйшла кніга “Полководцы великой побелы. Операция “Багратион”. 422 ст. 1030 асобнікаў.




У Лідзе ў выдавецтве ПУП "Пружмень" выйшла 3-я кніга Сатырычнай гісторыі Беларусі Язэпа Палубяткі “Дуралесіца”, 88 ст., 150 асобнікаў.




*Лук'ян Віктар. Каштоўнасці Лідчыны, алей, палатно, 2013 г.*